 

## Наталля АРСЕННЕВА

У вершах паваеннае пары, паданых на матар'яле перажываньняў часоў канчатку вайны на эміграцыі ў Нямеччыне і ў заакіянскай эміграцыі, прасочваюцца ўсе "наскрозныя" лініі творчасьці Натальлі Арсеньневае, назначаныя намі, – лінія становішча ўступальнага ідэялізму-аптымізму, лініі мінорамажору й мажорамінору, лінія прыроды, лінія восені (лінія гэтая дасягае свайго кульмінацыйнага пункту ў цыклі "Узноў", асабліва ў вершы "Гэтак будзеш ты мной", дзе паэтка, што некалі раўнавала сябе да "Жоўтай восені", цяпер ужо ўтаесамляе сябе зь ёю), лінія вершаў пра паэтава пакліканьне", лінія "вершаў на выпадак" – лінія нацыянальна-патрыятычнае ваяўніча-аптымістычнае лірыкі (асабліва ў цыклях "Ня здрадзім" і "На слуцкія ўгодкі", лінія сялянскае ліра-эпікі <...>

Нарыс гэты меў на мэце даць толькі ўводзіны ў разуменьне паэзіі Натальлі Арсеньневай агульнаму чытачу, шырокаму чытацтву, не спэцыялістым. Дык аспэкты больш спэцыяльныя, аспэкты гісторыі й тэорыі літаратуры, паэтыкі й тэхнікі вершу, закраналіся адно ў канечнай патрэбе ды зусім агульна, не спэцыялізавана й не дэталізавана. Наапошку выдаецца ня лішнім дакінуць толькі адно, таксама вельмі агульнае, зазначэньне што да паэтыкі й тэхнікі вершу: у гэтым дачыненьні Арсеньнева заўсёды была традыцыяналісткаю, хоць на зломе ў разьвіцьці свае творчасьці, між даваенным і ваенным пэрыядамі яе, яна хай і не зламала, але зьмяніла тую традыцыю, на якой пачынала – традыцыю, сказаць-бы, чыста багдановіцкую на – у шырэйшым сэньсе таксама багдановіцкую, але, калі так сказаць, толькі *ад*багдановіцкую й *па*багдановіцкую – ад Максіма Багдановіча гістарычна паходную, у назначаным ім агульным і асноўным кірунку па ягонай сьмерці разьвіваную, але ў новым напаўненьні, новым часам вызначаным і паэтычна-тэхналягічнаму ўзроўню часу гэтага адпаведным. Да гэтае традыцыі, як адзначалася вышэй у сваім месцы, паказала была дарогу паэтыка й тэхніка заходня-беларускіх "маладых паэтаў" – сказаць-бы, "маладапаэтычная" заходня-беларуская паэтыка й тэхніка, што, як там-жа адзначалася, ішла ўзаплеч практыцы паэтычных аднагодкаў Арсеньневае ў Савецкай Беларусі і гэтым знаходзілася на гістарычна адным зь імі шляху – на шляху на той час ужо складзенае, адстоенае ў традыцыю паэтычнае практыкі, найшырэй і найагульней бяручы й называючы – практыкі маладнякоўска-ўзвышэнскае пары. Толькі эпізадычна, вельмі рэдка экспэрымэнтуючы – як-бы адно, каб паказаць, што й яна "гэтак можа" – Натальля Арсеньнева і ў гэтым фактычна выяўлялася традыцыяналісткаю – экспэрымэнты ейныя ніколі бо ня бывалі арыгінальна-наватарскімі, а заўсёды арыентаваліся на практыку іншых, якая няхай яшчэ й не заўсёды была ў сваім часе пераросшы ў традыцыю, дык усё-ж ня выключала тэндэнцыі да гэткага пераростаньня.

На гэтым і скончым, пажадаўшы зычліваму чытачу паплысьці шырокай ракой паэзіі Натальлі Арсеньневае, самой-жа паэтцы – плысьці а плысьці таею ракой жыцьця й творства свайго, ня сочачы гэнага "другога берагу шэрага"...

**Антон АДАМОВІЧ**

*1978*

---

**кестроўку і "музычны" змест лірыкі:**

*Мая душа ад скраю і да дна*
*наліта сьветлай нейкай сілай.*
*Мне ўсё здаецца ясным, мілым:*
*і неба сіняе, і хвалі тумана,*
*і ніў далячыня, і залатыя клёны,*
*і хвояў баравых убор чорназялёны.*
*Здаецца,*
*шчасьце дзесь каля мяне, так блізка,*
*здаецца, я магу узяць яго рукой.*
*Ды не сягну... Вось так, як над ракой*
*сыхінаюцца гальлём вярбіны нізка-нізка,*
*а ўсё ня здолеюць напіцца тэй вады,*
*што надзіць іх і дні, і тыдні, і гады.*

(Недасяжнае)

**Пачынаючы з 1922 года Наталля Арсеннева ўсё шчыльней замыкаецца ў сваіх чыста індывідуальных настроях і перажываннях. Яна ствараe свой уласны, прыгожы, чысты, вытанчаны свет лірычнай уявы – вельмі ж непадобны да паэтычнага свету ў дваццатых – трыццатых гадах, напрыклад, Максіма Танка, Міхася Машары, Уладзіміра Жылкі. Творчай пазіцыяй Наталлі Арсенневай таго часу стаецца адстароненае назіранне і эстэтызацыя жыццёвых з'яў і фактаў. Яе паэзія ў гэты, "польскі" (1922–1939), перыяд тэматычна звужаецца да сферы прыватнасці, камернага лірычнага "я", якое аднак штораз экстрапаліравала сябе ў план прыроды ды ў перспектыву вечнасці (гл.: "Родны край", "Пытанне", "Вячорная часіна", "Прывіды", "Незгаданае" і іншыя). Дзякуючы такому тэматычнаму звужэнню, паэтэса значна пашырыла і паглыбіла псіхалагічны партрэт сваёй лірычнай гераіні – багатай душэўным жыццём беларускай жанчыны. Праз гэты светлы вобраз Наталля Арсеннева пераадольвала заштампаваны ў літаратуры яе**



 

 



## *МІЖ БЕРАГАМІ*

**Няцямным немаўлём я пяты памачыла**
**упяршыню ў кіпень ракі майго жыцьця.**
**І вось — другі ўжо бераг шэры няўпрыцям**
**расьце перад вачмі...**
**Ён — прыйме на спачынак.**

**А я-б — яшчэ плыла,**
**няхай між берагамі**
**каменьне, і віры, і дна глыбінны жвір...**
**Ці раз параненая імі да крыві**
**не паддалася ўсё-ж, ня пала я ў змаганьні.**

**Рака, рака жыцьця!**
**У градаў гнеўнай пене,**
**у зернятах пяску на плёсах залатых,**
**барлі-ж павек між берагамі ты,**
**і ў грудзі — ўжо ня мне —**
**а зьмене бі па зьмене!**

Рочэстэр, 1971

***

**Сонца вясьнянае ў золаце косаў,**
**срэбныя вербы на плёсах бялёсых,**
**восені зырка-чырвонай пажары**
**ночныя зводы і ночныя чары,**

плачлівы або тыпова змагарны характар, а таксама комплекс нацыянальнай непаўнавартасці. Толькі праз такую "душэўную" прызму гераіня Арсеневай магла аптымістычна ўспрымаць многія грамадскія, нацыянальныя ды палітычныя тагачасныя беларускія праблемы. У плане фармальным дзеля стварэння новага вобразу жанчыны паэтэса карыстаецца метафарычнай іншасказальнасцю, карункавай вобразнасцю і мілагучным рытміка-інтанацыйным меласам вершаў, у якіх яна дасягае артыстычнага майстэрства[4].

Увядзенне ў беларускую літаратуру вобраза светла-лірычнай, *"жаночай"* жанчыны – супрацьлеглага дамінуючаму ў творах беларускіх пісьменнікаў вобразу жанчыны прыніжанай, запалоханай, прыгнечанай, забітай – і было найбольшай творчай заваёвай Наталлі Арсеневай яе першага, "польскага" перыяду.

Можна толькі пагадзіцца з Антонам Адамовічам, што ў адрозненне ад сваіх паэтычных аднагодкаў не толькі з Заходняй Беларусі, але і з Беларусі Савецкай, якія "стала й нязбочна йшлі тым шляхам і беларускае справы і беларускае літаратуры", Наталля Арсенева "шлях гэты проста як бы дэманстрацыйна ігнаравала". І, несумненна, насуперак літаратурнай традыцыі даваць загалоўкі зборнікам паэзіі цалкам бязрадасныя – сваю першую кнігу яна назвала "Пад сінім небам".

"1939 год палажыў канец майму спакойнаму, але аднастайнаму жыццю, – успамінала паэтка. – Муж пайшоў на вайну, і я доўгі час аб ім нічога не ведала. Я ж з сынамі , пасля рознае цяганіны, апынулася ў г. Вялейцы, адкуль мы і былі



 

**сэрца развагі, і сэрца парывы,**
**песьні, што ўлетку сплываюць на нівы,**
**плач лясуна, сінь вазёр лебядзіных,**
**жахі глухое паўночнай гадзіны,**

**долі пакора, і з доляй змаганьне,**
**роднай старонкі ціхое каханьне, —**
**ўсё, што у думках нясьцішных пяе, —**
**вершы мае.**

1925

## *НОЧЫ Й ДУМКІ*

**Ёсьць ночы белыя, ёсьць цёмныя, глухія.**
**Ёсьць гаманлівыя — і ёсьць зусім ціхія.**
**Іх — больш за ўсё люблю зь лядзяным зьзяньнем зор,**
**што на шаўкох нябёс празрысты ткуць вузор.**
**Люблю за супакой, хоць сонны, а чароўны,**
**люблю за сіні змрок, за смутак нявыслоўны,**
**што на душы ляжыць, калі сяджу адна**
**і ў глыбіню гляджу нябёсную бяз дна...**

**Ёсьць думкі сьветлыя, ёсьць чорныя, благія,**
**ёсьць думкі, як і ноч, зусім-зусім ціхія.**
**Іх — больш за ўсё люблю, з манлівасьцяй надзей,**
**з усім, што лекам тут зямной душы людзей.**
**Люблю за ціпіыню дзіўную ў сэрцы, тую**
**зь якою я нідзе й ніколі ня сумую,**
**за тое, што гарыць ізь імі дух, расьце**
**і кажа жыць ня так, як тут жывуць усе!**

Вільня, 1921

**вывезеныя бальшавікамі ў Казахстан на пачатку 1940 г. Аб Казахстане пісаць вельмі няма чаго. Кожны ведае, што гэта такое...”[5].**

**Значна пазней стала вядомым, з вуснаў самой Наталлі Арсенневай, што, дзякуючы “шчасліваму выпадку” (даведаўшыся, куды яе вывезлі, Янка Купала, Пятро Глебка і іншыя беларускія пісьменнікі, што займалі тады высокія пасады, зрабілі адпаведныя захады дзеля яе звароту), яна ў маі 1941 года, перад самай вайной, змагла вярнуцца на Бацькаўшчыну, на радзіму мужа, у Доры каля Вільні. У той самы час быў выпушчаны з маскоўскай Лубянкі і яе муж.**

**З пачаткам нямецка-савецкай вайны і гітлераўскай акупацыі Беларусі звязаны і пачатак найбольш цьмянага, “нямецкага” перыяду (1941–1944) у біяграфіі паэтэсы. Сваёй паэтычнай творчасці, як дапаможнага сродку, на службу акупантам яна ўсё-такі не аддала. Красамоўна сведчыць аб тагачаснай палітычнай пазіцыі паэтэсы зборнік вершаў *“Сягоньня”*, выдадзены ў 1944 годзе ў Менску. “Вайна, — як занатавала Наталля Арсеннева, — ледзьве не каштавала мне жыцця, але затое й штурхнула мяне да новае творчасці”.**

**У “нямецкі” перыяд талент Наталлі Арсенневай сапраўды расцвітае буйнай рознаколернай кветкаю. На працягу трох гадоў паэтэсай было створана каля дзевяноста новых лірычных вершаў (яны і складаюць зборнік *“Сягоньня”*), былі напісаны арыгінальныя лібрэта для трох згаданых напачатку артыкула беларускіх опер ды зроблена шмат перакладаў як паэтычных твораў Гётэ, Гаўптмана,**

## *ВОСЕНЬ*

**Як ня любіць мне восень залатую,**
**калі праз вопратку асін густую**
**тон прабіваецца чырвоны, слаўны тон,**
**і ў золаце стаіць маўклівы, пышны клён?**

**Як ня любіць мне восень залатую,**
**калі на ніву зжатую, пустую,**
**ліецца уначы, як малако, туман**
**і павучыньне скрозь на хмызьняку палян.**

**Як ня любіць мне восень залатую,**
**як ня любіць мне частку году тую,**
**калі я веру ўсім, калі душа гарыць,**
**і хочацца так век,**
**хоць сумаваць, а жыць...**

Вільня, верасень, 1921

## *ВОСЕНЬ У ВІЛЬНІ*

**Клёны апалі, і золата й хварбы**
**крыюць зямлю дарагім дыванам.**
**Поўныя жмені лістоў тых узяў-бы,**
**восенскім сплёў-бы іх, пышным вянком.**
**Таюць аблокі у небе высокім,**
**хвалі туману над Вільняй стаяць.**
**Места мярэсьціцца ўнізе, далёка,**
**вежы касьцёлаў у неба глядзяць,**
**цэркваў блішчаць залатыя галовы,**
**цёмнымі плямамі дрэвы ляглі,**

**Кляйста, так і тэкстаў лібрэта опер *"Вяселле Фігара"* і *"Чарадзейская флейта"* Моцарта, *"Зачараваны стралец"* Вебера ды *"Гэнзель і Грэтэль"* Гумпэрдынка. У ніводным з гэтых жанраў Наталля Арсеннева не стала найміткай палітыкі. Калі яна ў той час і хацела служыць некаму сваёй паэтычнаю працаю, дык толькі беларускаму народу і Айчыне. Аднак паэтэса ведала, што ў трагічную для народа пару аднаго памкнення яшчэ недастаткова, каб быць прынятым на тую службу, зразуметым ім ды ўхваленым. Таму невыпадкова ў згаданым зборніку скразной лініяй праходзіць тэма роздумаў пра існасць і сутнасць мастацтва і ролю творцы ў крывавым змаганні. Кім павінен "сягоння", у час "пажарышчаў дзікіх", быць паэт – мытарам, прарокам, лекарам, чараўнікам, валадаром, асілкам?..**

*Пажарышчаў дзікіх мой верш і так*
*ня згасіць,*
*ня змые з душ людзкіх пурпуравай крыві.*
*Дапраўды, што пісаць і заўтра і сягоньня?*
(Сягоньня)

**Замкнёны да гэтага часу ў прыватную сферу жыцця круг лірычных вершаў Наталлі Арсенневай у "нямецкі" перыяд выразна размыкаецца. Пашыраецца ягоны ўнутрыжанравы дыяпазон. Акрамя вытрыманых у ранейшым ключы, параўнальна нямногіх твораў прыродаапісальных і твораў інтэлектуальна-эмацыянальнага ахопу жыцця, паэтэса стварае цяпер і "вершы на выпадак", і вайскова-патрыятычныя песні, і малітвы-рэквіемы, і публіцыстычна-дэкларатыўныя прысягі.**

**Вайну паэтэса ўспрымала як**

сіняй палоскаю бор нат хваёвы
ледзь, а відаць за істужкай Вяльлі...

Чуюцца, чуюцца восені чары
ў хварбах, у тонах лісьця і нябёс,
лёгкім дрыжэньні кляноў у пагары,
сьвежасьці йльдзістай, што вецер прынёс...

1921

## КАБ КРЫЛЫ...

Злавілася сонца у сеці,
у сеці, сатканыя з хмар...
Каб крылы саколія мець мне
ды дзесь панад хмары ўзьляцець мне,
у сонца нясьцерпны пажар!

Хай вочы мае занявідзяць,
хай змоўкне навекі мой сьпеў,
хай людзі мяне зьненавідзяць, —
а дух мой да сонца ўзьляцеў!

Хэлмна, 1922

## ХАЦЕНЬНІ

Як калосьсе ў жытняй ніве —
цягне дух мяне ўгару.
Тут — нічога больш ня дзівіць,
тут — нічога не зьбяру.

**усеагульнае нялюдзкае няшчасце, выразна па-жаночаму, з увогуле нетрадыцыйным для беларускай літаратуры арыстакратызмам. У яе адносінах да поля вайны, змагання чуецца Яраслаўнін пачатак. Як і ў *"Слове аб палку Ігаравым"*, лірычная гераіня Наталлі Арсенневай таксама чакае ў сваёй крэпасці, у сваім "не занятым" ворагамі доме, калі ж вернуцца жаўнеры-воі. Складае пра іх песні. Узбройвае маршамі. Плача ды моліцца за іхняе вяртанне жывымі. І верыць у тую недалёкую светлую будучыню сама, па-народнаму чакаючы падмогі прыродных сіл, ды заахвочвае верыць, не падаць духам і ўсіх іншых беларускіх жанок, маладзіц, мацярок.**

***"Жаночая"* жанчына Наталлі Арсенневай "польскага" перыяду ў перыядзе "нямецкім" праявіла найперш свой не абы-які віталізм, тую жыццёва-жаночую сілу, устойлівасць, якая заўсёды была, ёсць і будзе здаровым фундаментам кожнай нацыі. Тут крыніца аптымізму паэтэсы. Менавіта праз той віталізм яна даходзіла да важнай, вядома, і для жанчын нацыянальна-патрыятычнай праблематыкі. І як вектар "жыццёвай сілы", жаночасці заўжды скіраваны ў прышласць, так у той час і Наталля Арсеннева была нацэлена выключна на будучыню, на тую пару, што мелася быць больш чалавечнай, чым апошнія дзесяцігоддзі для паасобных людзей і цэлай нацыі разам.**

*Хай кон сяньня ў вочы нам хлусіць,*
*хай сьцёбае,*
*нішчыць угрунь, —*
*а будзем*
*з крыніц Беларусі*
*мы жменяю*
*чэрпаць зару!*

(У дажынкі)

**Няжывой, зімовай ночай
сьніцца мне ліпнёвы змрок,
а ўвясну — пляла-б ахвоча
я ўжо восенскі вянок.
Цямрывою, бездарожжам
аднаго пайшла-б шукаць:
што ніколі мець ня можна,
што ніхто ня можа даць!**

Хэлмна

## *ЛЕБЯДЗІНАЯ ПЕСЬНЯ*

**Дзень пусты і крыклівы прылёг цішынёю на межах.
Трэскі смольныя вечар у хмарах сівых запаліў.
І над жоўтым натоўпам асін у рызманнай асеньняй адзежы
горкі дым смалякоў туманамі паплыў і паплыў.**

**Гэтак ціха й чароўна-прыгожа ўсё ў белых абыймах туманаў...
Дзіўным, казачным морам пад ногі плыве сенажаць...
Скуль бяруць вечары гэткі змрок і густы й серабраны,
і ці можна у словах іх чар нявыслоўны аддаць?**

**Але прыйдзе мой дзень, і знайду я патрэбныя словы,
тыя словы, якія цяпер не пачую ніколі й нідзе,
буду ўмець і чмялямі гусьці ў раззалочаным цьвеце ліповым
і шаўковай шасьцець асакой на зялёнай, зацьвілай вадзе.**

**Ўсё папраўдзе скажу я тады, для сябе не пакіну нічога,
ўсе памылкі, ўсе ўзьлёты зьлічу і расою рассыплю ў лагох.
Доўг жыцьцю заплачу, рэшту з добрага, рэшту з благога,
паспрабую аддаць яму, хай ня зьлічу, ці ня ўспомню ўсяго.**

**Аднак гісторыя павярнулася да многіх беларусаў яшчэ раз сваім благім бокам. Наталля Арсеннева, як шмат хто ў 1944 годзе з маладой інтэлігенцыі, выехала перад прыходам на Беларусь Савецкай арміі ў Нямеччыну, а праз шэсць гадоў – у Злучаныя Штаты Амерыкі. Так пачаўся яе трэці і апошні эміграцыйны этап творчасці. У параўнанні з ранейшымі перыядамі, на жаль, найменш стваральны і плённы.**

**У другой палове саракавых і пяцідзесятыя, а яшчэ і напачатку шасцідзесятых гадоў вершы Наталлі Арсеннявай з'яўляліся ў беларускім эміграцыйным друку амаль што сістэматычна. Але недзе ад 1962–1964 гадоў паэтэса амаль зусім не друкавалася. Праўда, зрэдзьчасу, несумненна, пад націскам эміграцыйных абставін, яна ў вершаванай форме стрымана аддавала і аддае па сённяшні дзень даніну гістарычна-палітычным ды царкоўнахрысціянскім традыцыям. Аднак сапраўды "арсеннеўскага" ўжо з-пад яе пяра нічога больш не выйшла. У эміграцыйны перыяд паэтэса не выдала ніводнага свайго асобнага зборніка. Таму том** *"Між берагамі. Выбар паэзіі Наталлі Арсенневай. 1920–1970"* **(твораў грунтоўна аўтаркай дапрацаваных, а нават перапрацаваных нанава), апублікаваны ў 1979 годзе Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку, успрымаецца як кніга своеасаблівага вялікага падрахунку творчага шляху выдатнай, самабытнай паэтэсы.**

**Знайшоўшыся "Між берагамі", паэтэса аднак не ўзлавалася, не ўзбунтавалася, не загарэлася помстай, не ўсчала "ходання з лёсам". Па-**

**Раскажу аб мяцеліцах ночных, няспаных да раньня гадзінах,
супакоі асеньніх зьмярканьняў у яснасьці сплаканых зор...
А ўсе словы у песьню злучу я прыпевам нязнаным, адзіным,
а ўсе песьні — ў вадзін, шчэ ня чуты, магутны акорд!**

**Зашумяць, запяюць у акордзе мядзяныя хвалі калосься,
пахінуцца зялёнай сьцяной, загалосяць вяршаліны дрэў,
туманамі заплача над жоўтымі пожнямі восень...
Лебядзінаю песьняю людзі ахрысьцяць мой сьпеў!**

Равіч, 1936

## *ПАЭТ*

**Сьвет гарыць...
Патайком і адкрыта
б'юцца людзі... Ня зьлічыш нязгод...
А над сьветам, маною спавітым,
восень жоўта цьвіце, як штогод.
Ты, паэт,
хоць і бачыш пажары
дзесь здалёк, хоць і ты барацьбіт,
але, ўпіўшыся восені чарам,
лічыш вершаў разбуджаны рытм.
Сочыш сьцень балачын над аўсяньнем,
сінім змрокам малюеш палі...
Для цябе сяньня
гнеў ці змаганьне —
паза межы жыцьця адплылі.**

Равіч, 1936

**жаночы, кіраваная вышэйшымі духоўнымі і эстэтычнымі каштоўнасцямі і ідэаламі, яна значна хутчэй, чым многія іншыя беларускія эміграцыйныя паэты, ішла на "скарэнне" перад доляю. Калі ў першых вершах з раздзелу *"Не астыць нам"* (1944–1949) прабіваўся яшчэ пратэст супраць "падступнага, куслівага, насмешлівага лёсу" ("нат ахвяраў сваіх ты не змусіш скарыцца"), то чым далей, тым скарга на "крывіцкі Кон" выразна слабела, і ўжо раздзел *"На ростанях"* адлюстроўвае не толькі поўнае прымірэнне паэтэсы ("такі наш кон", "добры кон", "Божы кон"), але і – што на першы погляд парадаксальна – удзячнасць такому наканаванню. У вершы "Мой скарб" Наталля Арсеннева гаворыць:**

*Мне лёс даў, можа, болей, як каму.
Жыцьцё мне дорыць сны блізу на кожным
кроку.*

**Сон тут трэба разумець як іншасказальнае вызначэнне паэтэсай і творчага працэсу і адначасова прадукту таго працэсу. Сніць сон значыла для яе тое самае, што займацца творчасцю, пісаць лірычныя вершы. Як і сненне ёсць нейкая квінтэсенцыя жыцця, нейкі зрэз самых найрозных планаў чалавечай экзістэнцыі, а не само жыццё, так і паэзія – паводле аўтаркі кнігі *"Пад сінім небам"* – таксама не жыццё, бо яна – над жыццём.**

**Такое разуменне мастацтва, паэзіі Наталляй Арсеннявай спалучае яе з еўрапейскім мадэрнізмам пачатку XX стагоддзя, калі моцны ўплыў, у тым ліку і на польскую літаратуру, рабілі філасофскія вучэнні Артура Шапэнгаўэра і Фрыдрыха Ніцшэ. Ці не праз**

Паэт.

Сьвет гарыць... Патаёмна й адкрыта
Ідзе змаганьне... Ня ўспакоіць нязгод.
А над сьветам маною спавітым
Восень жоўта цьвіце, як штогод.
Ты, паэце, ня відзіш пажару
Там, далёк... Ты – благі барацьбіт.
Ўсей душою у восенных чарах
Лічыш вершаў разбуджаны рытм.
Блескі сонца сачыш на асеньні,
Сінім змрокам малюеш цені.
Для цябе ненавісьці й змаганьні
Ідзесь за межы жыцьця адыйшлі!

1936 г.

Першая рэдакцыя верша "Паэт". *Аўтограф.*

**польскіх паэтаў – К.Пшэрва-Тэтмаер, Л. Стаф, Я. Каспровіч – успрыняла беларуская паэтэса шапэнгаўэрска-ніцшэанскую думку пра мастацтва як адзіны гаючы сродак супраць песімістычнай канцэпцыі чалавечай экзістэнцыі. Ці не адтуль таксама ідзе – выразны, хоць, праўда, прыглушаны ў яе – дыянісійскі культ жыцця ("Жыццё, цябе я пакахала яшчэ тады, калі не ўмела цябе назваць"), таго жыцця, якое праз сваю біялагічную сілу, праз жаночасць – выразна падкрэсленую ў Арсенневай – дамагаецца рэалізацыі сваіх абсалютных правоў. Лірычная гераіня Наталлі Арсенневай як двух папярэдніх перыядаў творчасці, так і эміграцыйнага заяўляе аб сабе як аб энтузіястцы "адвечнага жыцця". Яна смакуе яго ці не на кожным кроку.**

*А я люблю жыццё,*
*ягоны смак гаркавы*
*ніколі йшчэ ня здаўся мне благім.*
(Тут гэтага няма)

**– пісала яна і на амерыканскім кантыненце.**

**Ад палітычнай і сацыяльнай рэчаіснасці, якую мадэрністы называлі кашмарам, паэтэса давала "нырца" ў эстэтычныя адчуванні-перажыванні прыроды, у сузіранне прыгажосці. У адрозненне, аднак, ад мадэрнісцкіх еўрапейскіх паэтаў, якія ўспрымалі свет рэальны вельмі суб'ектыўна, што вяло да герметычнай паэтыкі выказвання і, такім чынам, разладу паміж аўтарам і чытачом, у Наталлі Арсенневай няма такой, як у іх, прорвы між светам рэальным, жорсткім і цяжкім, ды светам паэзіі – уяўленняў, мрояў. Але заўсёды да таго першага свету яна**

## *СЯГОНЬНЯ*

**Мне кажуць, што пісаць заўсёды, ўсюды можна.**
**Папера, алавік, натхненьне... верш гатоў.**
**Паэт, абы прысеў, а верш змайструе, зложыць,**
**з радкоў, як зь сена, ўміг патрапіць ськідаць стог.**
**Але пра што пісаць?**
**Пракорам быць па часе,**
**нізаць каралі рос, вянок асеньні віць?**
**Пажарышчаў дзікіх мой верш і так ня згасіць,**
**ня змые з душ людзкіх пурпуравай крыві.**
**Дапраўды, што пісаць і заўтра,**
**і сягоньня?**
**Трупоў не ўваскрасіш санэтам аб вясьне...**
**Сягоньня**
**кожны верш хаўтурным звонам звоніць,**
**найлепшай рыфмай рот галодны не заткнеш...**
**Пісаць аб салаўёх, аб сьнежнай белі вішняў?**
**Замоўклі салаўі пад медны рык гармат,**
**а белы вішняў сьнег таксама сьмешна лішні, —**
**сталёвы, гойстры штых напіша вершаў шмат...**
**Няхай-жа сьвет гарыць, хай плавіцца у горне**
**грымотных новых дзён, куецца, як нарог.**
**Нарэшце мо й паэт харэі, ямбы згорне,**
**і зноў пачне пісаць, гусьлярыць...**
**Даў-бы Бог!**

Менск, 1941

## *МАЛІТВА*

**Магутны Божа! Ўладар сусьветаў,**
**вялізных сонцаў і сэрц малых,**
**над Беларусяй ціхой і ветлай**

прыкладала эстэтычныя меркі і прыглядалася да яго з перспектывы "жалезнай логікі адвечнага жыцця".

Два гэтыя светы асабліва выразна "разышліся" ў эміграцыйным перыядзе. Адзін з іх ствараўся са сненняў, мрояў, уяўленняў, або – як называе сама Наталля Арсеннева – з "прывідаў Бацькаўшчыны". Праз усе вершы-прывіды Бацькаўшчыны праходзіць, спалучаючы іх у адзін непаўторны ў беларускай эміграцыйнай паэзіі эмацыянальна-любоўна-патрыятычны цыкл, высакавольтная дуга-апастрофа: "Мой край", "Мая айчына", "Маці", "Блакітная, далёкая Радзіма", "О, Бацькаўшчына, любая без меры", "мая Радзіма-Беларусь", "Беларусь, Беларусь зялёная, палымянны, балючы сон".

Другі свет быў рэальным светам уцекачоў – не выгнаннікаў[6]. Уваходзячы ў яго, аўтарская свядомасць Наталлі Арсеннева пераключалася з лірычнага, адасобленага "я", з "я-для-сябе" і "я-у-свеце" на "мы" – дзеля падкрэслення адзінства свайго лёсу з лёсам такіх жа ўцекачоў, як і сама яна. Гэтым самым Наталля Арсеннева-паэтэса трацiла свой арэол абранніцы нябёсаў, ставалася звычайнай нешчаслівай жанчынай, падобнай на тысячы іншых беларускіх жанок таго часу, пазбаўленых магчымасці пільнаваць роднае вогнішча.

Праз гэты па-свойму пануры свет нямецка-амерыканскай рэчаіснасці прайшла ці не ўся пасляваенная беларуская хваля ўцекачоў – людзей звычайных і тых, што ў айчыне альбо ўжо нешта друкавалі, альбо пачыналі друкаваць на чужыне. І амаль усе яны, з большай ці меншай аб'ектыўнасцю,

рассып праменьне Свае хвалы.
Дай спор у працы будзённай, шэрай,
на хлеб штадзённы, на родны край.
Павагу, сілу і веліч веры
у нашу праўду, у прышласьць — дай!
Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,
учынкам нашым пашлі ўмалот.
Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай
краіну нашу, і наш народ!

## *НАШЫМ ПАЭТАМ*

У кажнага з нас, песьняроў, свае мроі,
у кажнага з нас, песьняроў, свае вершы.
Ці варта
скрыжоўваць і словы і зброю,
ці варта спрачацца,
хто "першы ды зь першых"?
Паэту-ж адно абы ясна і сіня!
Зьбірае ён з роўнаю, пільнай уцехай
і белую наквець вясновых калінаў,
і восенскіх клёнаў зрудзелыя вехці,
патрапіць набрацца прыгожасьці дзіўнай
і з россыпаў зорных,
і з сонечных пасмаў,
і з чорна-крывавых рабрынаў руінаў,
абдзёртых са скуры жывое і мяса...
Не!
Зайздрасьці горкае знаць не павінна
дрыготнае, ўзьлётнае сэрца паэты.
Ніхто-ж яго ў лёце імклівым ня спыніць.
Айчынай ягонаю — сіні сусьветаў,
ён зь песьняю млечнай вандруе дарогай,

выказваліся пра нечаканую драматычнасць свайго эміграцкага становішча.

Варта, аднак, дадаць, што паэтычная творчасць большасці беларускіх эміграцыйных паэтаў, за выключэннем арыгінальных галасоў Янкі Юхнаўца, Масея Сяднёва і выдатнага лірычнага сапрана Наталлі Арсенневай ды, можа, яшчэ дзвюх-трох асоб, адно досыць умоўна можа быць названая мастацкай творчасцю. Здаецца, гэта была ўсё-такі сімуляцыя творчасці, рух назад, гэта "паэзія" людзей, якія не атрымалі належнай літаратурнай адукацыі і, адарваныя ад радзімы, пасля наогул цяжкай фізічнай працы знаходзілі ў вершаскладанні, у выкарыстанні *cliché*, у такой для сябе адзінай своеасаблівай "духоўнай" гульні-працы, нацыянальную самарэгенерацыю і самазадавальненне.

Аўтарка зборніка *"Пад сінім небам"* ведала пра свой неацэнны капітал, пра сваю ўражлівую "жывую душу", чулую на свет нерукатворнай прыгажосці. У вершы "Цвіці, вясна" паэтэса кінула на паперу, нібыта ў гэтым творы выпадкова, але як жа пры ўсім тым характэрныя для ўсёй сваёй, арсеннеўскай, творчасці адметныя два радкі:

*Люблю я сьвет красы,*
*але ня сьвет людзей...*[7]

Нічога дзіўнага, што яна, перахварэўшы і Нямеччыну ("як тварыць?") і асабліва Амерыку – тую індустрыяльную, бетонную, непрыветлівую не толькі для яе песняў ("Навошта я пішу, для каго?"), суадносіла сябе, адчувала роднасць не з кімсьці з людзей, але з магноліяй:

**парослаю росным, сівым малачаем,
ён – месяцу спрытна прыкручвае рогаў
і ў продань міжзорных прастораў лучае,
глядзіцца адважна і ў мглістую прышласьць,
і даўных падзеяў разблытвае шэрасьць,
захоча –
гэкзамэтр Гамэравы крышыць,
захоча –
йрве краскі граху із Бадлерам...
І сьвету
адны толькі вінны ён ласкі:
захоўваць памеры і рытм беззаганны,
у ладкі над горам народным ня пляскаць,
і сьмехам ня сыпаць на сьвежыя раны...
А ранаў тых шмат:
ад мячоў і ад словаў,
ад восенскіх бураў,
ад мрояў,
ад вершаў...
Зальлем-жа вадою гаючай, жывою
іх мы, песьняры,
ці апошні, ці першы!**

1943

## *MEMENTO MORI*

*("Памятай, што памрэш")*

**Я знаю – час плыве, па кроплі кропля, ў змрок.
У кволай чары рук яго ня утрымаеш.
Налета – у цішы́ разбураных муроў –
ён расьцьвіце мо зноў, але ўжо іншым маем.**

*Цьвіце магнолія...
мільёны матылёў,
бялейшыя за сьнег, трапечуць на галінах.
Замерла ў пешчах белых крыл гальлё,
салодкай млоснасьці на брук ня сыкіне.
Ён чорны і брыдкі, як побач, зрэшты, ўсё,
ды б'юць, бы ў бубна дно, ў яго людзкія ногі
па годзе год...
Аплёў, аблытаў, як драсён,
той гуд ня толькі брук,
але й хаценьні, змогу.
А ўсё-ткі, за сьнягі бялейшая, усьцяж,
ледзь красавік,
цьвіце магнолія пад мурам.*
(Магнолія)

**У канцы 50-х – пачатку 60-х гадоў у еўрапейскай культуры пачынаецца новая паэтычная эпоха. Стыль гэтай эпохі выказвалі ў Амерыцы і краінах Захаду "бітнікі" са сваёй праграмай сацыяльнай нязгоды і пратэсту, а ва ўсходніх славянскіх літаратурах – паэты-"эстраднікі". Публіцыстычнасцю, рэпартажнасцю, нацэленасцю на масавага слухача, спекуляцыяй слова яны ў многім былі падобныя на сваіх заходнееўрапейскіх контркультурнікаў.**

**Такіх "ціхіх" паэтаў, як Наталля Арсеннева, якая – стаўшы эміграткай – не мела таксама і "куды сказаць", новая эпоха пакідала без належнай увагі. "Я кужалем сівым няўзнак датку мой верш" – пісала яна ў вершы "Гадзіннік", прадчуваючы, што яе час і час эпохі "дыхаюць не ў тахт".**

**Ян ЧЫКВІН**

[1] Антон Адамовіч, *Наталля Арсеннева "Між берагамі". Біяграфічна-крытычны нарыс.* У кн.: Наталля Арсеннева. *Выбар паэзіі Наталлі Арсенневай.* 1920–1970, Нью-Ёрк – Таронта 1979.

[2] Тамсама. С. 328 – 329.

[3] Міхась Машара. *Плач над Гудзонам.* "Голас радзімы", 1960, № 28; Уладзімір

**Ды так сплялося, што — ці хочацца, ці не,**
**ісьці кудысь туды нам з часам падарозе.**
**Вось мы й брыдзём сабе, а ў плаўкім тумане**
**абапал — то цьвітуць, то адцьвітаюць лозы.**
**Парышвае, хрумсьціць падмоклы, гойстры жвір,**
**сабакам верным сьцень туляецца пры боку.**
**І добра... Толькі менш тых зораў у крыві**
**і зораў уваччу із кожным новым крокам...**
**"Memento mori", гуў калісь, загнаны ў кут**
**жудою нябыцьця, наш сьвет па цёмных норах.**
**Яшчэ й цяпер, парой на зблытаным утку**
**бярэ ён зноў снаваць сваё "Memento mori"!**
**Ды іншыя мы ўжо...**
**У вецер і зару**
**імкнуся я зь вясной зялёнаю у згодзе,**
**бо ведаю, што хоць калісьці — і памру,**
**"Жыцьцё — ніштто, як сьмерць,**
**а сьмерць — жыцьцё!"**
**і годзе!**

Менск, 1943

## *ВЕЧАР У ВІЛЬНІ*

**Расплёў, разьмёў віхор пярэстых хмараў дым...**
**Дзень адпаўзае ў зьмерк вузкіх завулкаў лазам...**
**І вее на мяне з кутоў, з муроў рудых**
**сівым, як даўніна, даўно забытым сказам.**
**Мне чуецца ці сьмех, ці плач, ці штось яшчэ**
**ў сымфоніі ціхой вячорных гукаў места.**
**Лязом мяча Вяльля спрабуе заблішчэць,**
**і полымя зары Пяркуна хорам песьціць.**
**Над дахамі, у выш узьняўшы бель крыльля,**

Калеснік. *Этапы і ростані волі*. У кн.: *Ростані волі. З заходнебеларускай паэзіі*. Мінск, 1990. С. 25 - 30; Барыс Сачанка. *Беларуская эміграцыя: факты і меркаванні*. У кн.: Барыс Сачанка. *Сняцца сны аб Беларусі... Літаратурна-крытычныя артыкулы, інтэрв'ю*. Мінск, 1990; Ала Сямёнава. *Лёс - і над лёсам*. "Голас Радзімы". 1993, № 39; Вацлава Вярбоўская. *Праз слёзы адчуваецца надзея*. "Культура", 1993, № 5; Мікола Мішчанчук. *"Між берагамі" (Лёс і творчасць Наталлі Арсенневай)*. У кн.: *Культура беларускага замежжа* 1. Мінск, 1993; Уладзімір Калеснік. *Наталля Арсеннева. Віленскія гады*. "Літаратура і мастацтва", 1994, № 49; Леанід Пранчак. *Беларуская Амерыка. "Я заўсёды любіла Беларусь..."*. *Інтэрв'ю з Наталляй Арсенневай*. "Літаратура і мастацтва", 1994, № 33.

4. Верш Наталлі Арсенневай у сугуччы з паэтычнай прыродазахапляльнасцю вызначаецца сваёй рытміка-інтанацыйнай гармоніяй: паэтычнай дакладнасцю, мілагучнасцю, свежасцю і прыгажосцю вобразаў, сэнсавай выразнасцю. Амаль усе лірычныя творы сілаба-танічнага складу. Перавагу аддае паэтэса, аднак, выразна памерам трохскладовым і асабліва, відавочна, улюбёнаму рытму анапестычнаму, які, так бы мовіць, гістарычна-фаналагічна зашыфраваўся для яе ў самай назве *Беларусь*, колькі разоў ёю ў вершах паўторанай.

5. Аб казахстанскай ссылцы гл.: Наталля Арсеннева. *У казахстанскай ссылцы*. "Бацькаўшчына". Мюнхен, 1952, №№ 94 - 95, 96; Наталля Арсеннева. *У казахстанскай ссылцы*. "Беларусь", 1993, № 6; Наталля Арсеннева. *У казахстанскай ссылцы*. У кн.: *З гісторыяй на "вы"*. Выпуск трэці. Мінск, 1994; Наталля Арсеннева. *"З майго жыццяпісу"*. У кн.: *На суд гісторыі. Успаміны. Дыялог*. Мінск, 1994.

6. Наталля Арсеннева паслядоўна карыстаецца ў паэтычных творах словам *уцекачы*.

7. Гэтае мадэрніцкае выказванне Наталлі Арсенневай можна разумець і ў тым духу, які выказала расейская паэтэса-эмігрантка Зінаіда Гіпіус у лісце да Г. Адамовіча: "Да, очень трудно "сообщаться" человеку с человеком. Святые, пожалуй, правы, что каждый из них сообщался с Богом, а с людьми молчал". (У кн.: Ростислав Плетнёв. *История русской литературы XX века*. Cambridge 1987. С. 26.)

 



стаіць, усё ў вагні, Трохкрыжжа на старожы,
і кленчыць перад ім лясоў лілёвых шлях
ды налітыя ймглой далечы бурых пожняў...
Як тут люблю я ўсё:
чырвоны вулак брук,
і залатым пяском асыпаныя дахі...
Манюся тут сваю апошнюю зару
я сустракаць,
адсюль —
пайсьці адвечным шляхам.
Але пакуль жыву — хоць дзе — цяжкім каўшом
хачу я піць жыцьця і мёд, і навет дзёгаць.
Хачу, каб лёс мяне на шумных кірмашох
вадзіў,
вадзіў,
вадзіў,
як лерніка сьляпога.

1943

## *СІВОЙ ВЯРБОЙ*

Слата і змрок...
Душа пустуе,
ў смузе маркотнай далячынь...
Сівой вярбой, хіба, пайду я
над плёсам цішу сьцерагчы.
Ўрасту карэньнем моцна ў гліну,
карой адзенуся рудой,
шырока рукі разгаліню
над шэрай, соннаю вадой.
І буду жыць,
як жыў спрадвеку

# “МАГУТНЫ БОЖА!..”

**Першае ўражанне ад прачытанага – самае моцнае, яркае, запамінальнае. Так было пры маёй сустрэчы з творчасцю Наталлі Арсеньневай. Тады мяне проста ашаламіла тая паэзія, што склала зборнік ваеннага часу “Сягоньня” (Менск, 1944).**

**З пазіцый савецкага патрыятызму, які патрабаваў гераічнай ахвярнасці і, па сутнасці, адмаўляў чалавечае жыццё як вышэйшую гуманістычную каштоўнасць (Анатоль Вялюгін, напрыклад, пісаў у саракавыя гады: “Ганьба тым, хто памрэ сваёй смерцю...”), нельга зразумець і ўспрыняць галоўнага ў творчасці Н. Арсенневай гэтага перыяду. У адрозненне ад сваіх сучаснікаў-пісьменнікаў, што аддалі даніну ідэалагічным стэрэатыпам сталінскай эпохі, паэтэса трывожылася якраз пра чалавечае. У вершы “Палеглым” (У рэдакцыі зборніка “Сягоньня” – ”Паўшым”) яна аплаквае ўсіх ахвяраў вайны – па абодва бакі жорсткага супрацьстаяння.**

*Зьмяшалася з пяском чупрына маладая,*
*Боль выпіў сінь вачэй і сьвежых вуснаў кроў.*
*Васковаю сьвячой над імі восень тае,*
*І сьніць адзін пра Рэйн, а іншы – пра Дняпро.*

**Паэзія Арсенневай не пазбаўленая змагарных матываў, публіцыстычнасці (“Песьня Каліноўцаў”, “Беларусь! Наша Маці-краіна!”, “Жыве Беларусь!”), ды эпіцэнтрам кнігі пазначылася слынная сёння “Малітва”, дзе растрывожанае і абражанае рэальнасцямі жыцця пачуццё ўзвышаецца да сакраментальнага: “Магутны Божа!..”**



 

**увесь вакольны, вольны сьвет:**
**піць туманоў надрэчных лекі,**
**пух белы сеяць на траве.**
**І браць, раськінуўшы галіны,**
**із прагай сонца і цяплінь,**
**у гуд услухвацца пчаліны**
**і ціха зерняты сьпяліць.**
**Ці раз вярбіну ўпесьціць лета,**
**ці раз да сну утуліць сьнег, —**
**і я забуду ўсё, што ў сьвеце**
**мяне змушала паланець.**
**І пад карой маёй,**
**на ветры,**
**ня будзе біцца ўжо й званіць**
**нямоўчны звон —**
**людзкое сэрца,**
**крыніца праўды і маны.**

Бэрлін, лістапада 1944

## *У ГАСПОДЗЕ ПАДУАНСКАЙ*

**Гудзе гаспода. Ў Падуі старой**
**такі ўжо звычай: жыць, пакуль жывецца**
**і цешыцца...**
**Ды тут — ледзь чутны песьняў строй.**
**Гуляе па сталe, заставе рэзвы рой**
**праменьняў...**
**У вакно чырвоны б'ецца вечар.**
**Кранецца чары ён —**
**і з чары залатой**

Цікавая гісторыя ўзнікнення гэтага верша, вядомая сёння па ўрыўкавых запісах і ўспамінах. Паэтэса згадвае: "Калі стварылася Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква, дя мяне звярнуўся архіепіскап Філафей з просьбай напісаць верш, які б мог стаць беларускай малітвай. Я напісала верш, які пачынаўся словамі: "Магутны Божа! Уладар сусьветаў..."[1]

Верш тады не быў зацверджаны Сінодам у якасці малітвы па той прычыне, што ён "замала рэлігійны і зашмат палітычны, занадта беларускі".

"Беларускасць" твора відавочная: гэта верш-малітва за Беларусь і яе народ. Выразны патрыятычны пафас і ёсць тая "палітычнасць", якая збянтэжыла святароў. Але паэтычна дасканалы сінтэз малітоўнасці і патрыятычна-грамадзянскага пачуцця стварае магутнае духоўнае поле, тое напружанне, якое ўзвышае чалавечы дух да яднання з Боскім пачаткам.

У вершы Арсенневай, як і ў малітве, захаваны канон звароту да вышэйшай духоўнай сілы, валадарнай над усім існым, вялікім і малым: "Магутны Божа! Уладар сусьветаў, //Вялізных сонцаў і сэрц малых..." Далей "вялікае" і "малое" нібы зліваюцца ў вобразе адзіна вартай шчырага літання Беларусі. Як і ў малітве, чалавечы дух ачышчаецца ад прыватнага, дробязнага, пераходнага, і застаецца адзіна сутнаснае, значнае. Прычым у вобліку Беларусі, "ціхой і ветлай", вылучаюцца якраз яе духоўна-хрысціянскія рысы, што надае ім значэнне святасці. У малітоўных просьбах да Бога чуецца водгалас пільнейшых патрэбаў чалавека, яго клопатаў пра хлеб надзённы; тут можна бачыць алюзію на вядомую малітву "Ойча наш" і яе словы "Хлеб наш штодзённы дай нам сёння":

італьскае віно пагарай праліецца.
Адно не да віна Франьцішку Скарыне.
Упіўся сяньня ён, ды ня віном, а славай!
Ён — доктар лекарскіх навук! Гадней
за іншых мо аб роднай старане
засьветчыў, аб сабе.
Ён — "Падую уславіў",
сказаў Мусаты.
Бач, із торбай на гарбе
ненадарма гады гібеў на чужыне,
пяскі чужых дарог таптаў
і... трызны правіў.
Але чамусьці ў сэрцы бы асьцюк
сядзіць аўсяны, колкі...
Не — і ўколе...
Засланы бела стол нагадвае Куцьцю
у Полацку, у хаце,
Палату
імклівую, а за мурамі поле,
дзе гэтаю парой сьнягамі ўжо цьвітуць
так бела
межы й дзічак гольле!
Хацелася-б ісьці, лящець, імкнуць туды,
Бадзёра друкаваць сьляды на чыстых, на харошых
балонках першае парошы,
піць густы
марозны вецер, срэбныя ляды,
бары мінаючы у шпаркіх палукошах,
і так сьпяваць, каб віўся сьнежны дым
над пожнямі
ды плыў зь сівых далечаў пошчак!
Што-ж, чараў тут няма:
і зьвер у гушчары

---

*Дай спор у працы штодзённай, шэрай,*
*На лусту хлеба, на родны край...*

З традыцыйнай плыні малітоўнасці начакана выбіваюцца радкі пра сілу і веліч веры "ў нашу праўду, у прышласць", скіраваныя сваім сэнсам да сцвярджэння Беларусі ў складаных перыпетыях яе лёсу. І нарэшце ўсе названыя матывы злучаюцца адзіным духоўным парывам у заключным літанні да Бога:

*Зрабі магутнай, зрабі шчаслівай*
*Краіну нашу і наш народ!*

Паэтычныя ідэі Арсенневай, сцверджаныя ў гэтым невялікім, на дванаццаць радкоў, вершы, атрымалі пазней развіццё ў "Малітве за Беларусь", што ўваходзіць у Беларускі Праваслаўны малітоўнік.

Малітоўнасць выяўляецца ў самім характары лірычнага перажывання ў паэзіі Арсеневай, гэта яго ўнутраная, глыбокая плынь, гэта ахоўны стан, які таймуе хваляванне, сцішае душэўны боль, не дазваляе яму перакінуцца за межы разбурэння.

Але найбольш уласцівыя гэтай паэзіі спавядальнасць, заглыбленасць у перажыванне, трывожны роздум аб чалавечым. У лірыцы Арсенневай гэтага часу пераважае адзін матыў: паэт і вайна, або, скажам так, паэт у рэаліях вайны. Рэаліі жахлівыя: руіны, спусташэнне, смерць ("сьвет гарыць незагаслым, крывавым агнём"). Адзіная музыка, якая гучыць не змаўкаючы, — гэта "фуга смерці" (вобраз аўстрыйскага паэта Паўля Цэлана). У вершы паэтэсы ёсць не менш уражальны вобраз:

*Замоўклі салаўі пад медны роў гармат.*

Ва ўсёй еўрапейскай літаратуры XX стагоддзя знойдзецца не так ужо шмат паэтаў, якія, апынуўшыся ў заложніках вайны, змаглі перадаць сваім словам

свой логаў знае,
птах — гняздо у гаі мае,
у рэках рыбы чуюць родныя віры,
руплівая пчала, што ў грэчках ад зары
гудзе, вульля свайго бароніць із адчаем.
Таксама й чалавек: малеча ці стары —
да роднага кутка дзіўною ласкай тае.
І ласкі гэтай смыль
патрапяць прысушыць
адно, хіба, вятры зялёнага Надзьвіньня...
Пара туды, пара!
Хай золата кашы
братом і ня прыдбаў ён тутка, на чужыне —
ад цела недужаў і недужаў душы
ён лек дзіўны знайшоў,
што гора й боль суніме.
Маўчыць гаспода ў Падуі старой,
і толькі ў Скарыны мігціць агенчык ніцы.
Там, разгарнуўшы кніжыцу ў рудой
цісьнёнай скуры,
зноў лацінскіх словаў рой
ён сочыць пільна.
А праз вакяніцы
ў камору ноч глядзіць,
і ў чары залатой
італьскае віно сузор'ямі іскрыцца.

Рэгенсбург, 1946

## *ЗЬНЯВАЖАНЫМ СЬЦЯГОМ*

Калі у туманы нязьведаных прастораў
Магутная Армада слала караблі, —

---

злавесныя рытмы рэальнага, а не біблейскага апакаліпсісу.

У мастацкім развіцці Арсеневай такі змест яе творчасці падаецца нечаканым. Ва ўсякім разе, адсутнічае папярэдняя матывацыя таго магутнага "ўварвання" ў страшную рэчаіснасць, што адрозніvae паэзію саракавых гадоў ад творчасці заходнебеларускага перыяду, калі паэтэса пазбягала грамадскай ангажаванасці. Нават перажытае ў казахстанскай ссылцы, куды Арсеннева трапіла ў 1940 годзе як жонка інтэрніраванага сталінскай уладай польскага афіцэра, не змагло азвацца ў паэзіі ні намёкам, ні згадкай-успамінам. А тут... Відаць, сапраўды вайна стала для паэтэсы найбольшым духоўным крызісам, вельмі глыбокім асабістым болем, што ўзварушыў усю істоту, усю свядомасць творцы. Прычым няма канкрэтызацыі гэтага стану нейкімі асабістымі падзеямі (гібель сына Яраслава ў Менскім гарадскім тэатры ад партызанскай міны летам 1943 года яшчэ не паспела азвацца ў падрыхтаванай да выдання кнізе, але, адзначым, гэты трагічны дысананс не закранае таксама наступнай творчасці паэтэсы). Духоўны крызіс лірычнага суб'екта ў кнізе Арсенневай мае экзістэнцыяльны характар.

Назва кнігі шматзначна-сімвалічная: "Сягоньня". Калі ў папярэднім зборніку ўвасоблена радасць абнаўлення жыцця, цякучай зменлівасці яго формаў, настрояў і летуценняў "пад сінім небам", пад небам вечнасці, то ў кнізе ваеннага часу трагедыйна завострана адчуванне часовасці, магчымасці канца, абарванасці ўсяго існага, зведзенага ў часе да кароткага, як страшны прысуд: "сягоння".

*Сягоньня кажны верш хаўтурным звонам*
*звоніць,*

**раськінуўшы крыльлё над імі і над морам,
па славу й родныя сьцягі плылі.**

**І кажны карабель нёс горда і пыпліва
свой сьцяг на машце найвышэйшай празь вятры.
Радзімай быў ён ім, у сінім морскім шкліве
загубленым здабыўцам,
юнгам ці старым.**

**І нас няветлы лёс ад Бацькаўшчыны мілай
разьмёў па сьвеце сяньня, як лісьцё.
Тут, на чужацкіх кручах і пахілах,
нам бел-чырвона-белы сьцяг –
усё.**

**Хай не на гордай машце ён, і не ў блакіце,
і не па славу тут із намі – ён
для ўсіх нас – Бацькаўшчына,
Нёман, апавіты
пясьлівай песьняю... аб родных сёлах сон...**

**Усё, што ў нас было, што ёсьць, усё, што будзе,
у бел-чырвона-белае ўваткана палатно.
І вось яно стаптанае у пыле й брудзе,
з узвышшаў ворагам нізрынена на дно...**

**Ды ці патрапіць хто арлом падрэзаць крылы,
прымусіць поўзаць тых, што створаны лунаць?
Шугайце-ж гэн, у сінь, сьцягі Радзімы мілай,
дарма, што топчуць вас, на славу
вам
і нам!**

Міхэльсдорф, травень 1948

---

*Найлепшай рыфмай ртоў галодных
не заткнеш...*
("Сягоньня")

**Агульны настрой – трагедыйна-песімістычны: "Трупоў не ўвасўкрасіш санэтам аб вясьне..."**

**Як бачым, асэнсаванне трагедыі быцця паэтэса спрабуе перавесці ў план літаратурна-эстэтычны (адсюль вобразы "верш", "рыфма", "санет"). Бо ў самым эпіцэнтры зла і руйнавання паўстае менавіта Паэт, і ён спрабуе неяк утаймаваць стыхію смерці, але разумее марнасць свайго занятку.**

*Слоў гэткіх сяньня няма...*

*Вось і ня хочацца кратаць
Рыфмамі шэрыя дні, сэрца тугою араць.*
("Ня хочацца")

**Уся паэзія Арсеневай ваеннага часу поўніцца трагічнымі супярэчнасцямі паміж імкненнямі паэта выказаць свой боль, сваё абражанае гуманістычнае пачуццё – і немагчымасцю вычарпаць бязмежжа людской бяды, трагедыі жыцця:**

*За ўвесь сьвет,
за ўсіх
і за ўсё –
не наплачацца нават паэт!*
("Хоць усюды руіны...")

**Гэтыя матывы набываюць трагедыйнае завяршэнне ў баладзе "Музыка", герой якой з адчаю разбівае сваю скрыпку, бо не ў стане прымірыць непрымірымыя, на яго погляд, з'явы – смерць і мастацтва. Стары палескі музыка вырашыў для сябе хутчэй маральную, агульначалавечую праблему, але не праблему творчасці. Разбіваючы скрыпку, ён разбівае душу, ён наогул знікае, міфалагічна раствараецца ў прыродзе. Але ж Паэт мусіць застацца сам-насам са словам і сумленнем, спрабуючы іх паяднаць і не здрадзіць чалавечнасці.**

# *КАБ ПАЭТЫ МАГЛІ*

**Срэбным каўшом ціпшыню**
**п‘е за аселіцай месяц.**
**Плача ў тумане канюх...**
**Вершы ты йрваць можа выйшаў?**
**Любы паэт!**
**Не растуць**
**вершы яшчэ па канавах,**
**на прытаптаным пяску**
**тропаў вузкіх і каравых.**
**Недзе ў глухім гушчары**
**папараць казачным птахам**
**крыльлем лапоча ў старых**
**елках...**
**Туды лепей плакаць**
**рыфмамі сяньня ідзі.**
**Гэнам твой плач зразумеюць**
**совы ці дзед-вадзянік,**
**дзівы ці гадзіны-зьмеі.**
**Іх, як калісьці Арфэй,**
**ты й зачароўваў песьняй.**
**Сьвету ня ты ў галаве,**
**іншыя песьні ён весьціць...**
**Вось, каб паэты маглі**
**дзіды ці полымя коўтаць,**
**конскія жарты смаліць**
**перад карчомным натоўпам,**
**сажай упэцкаўшы твар**
**з собскай душы скамарошыць —**
**мелі-б удосыць пітва,**
**ежы,**
**і славы,**
**і грошай...**

**Праблема, якая хвалюе паэтэсу Арсенневу, можа быць інтэрпрэтаваная і такім чынам: а наколькі маральна ўвогуле быць паэтам (мастаком, музыкам), улічваючы асаблівы статус творцы ў грамадстве? Ёсць гэтае пытанне і ў славутым “Апокрыфе” Максіма Багдановіча, але прыпадае яно ў гэтым творы на сітуацыю Жніва як апафеоза, свята працы. У паэзіі ж Арсенневай дамінуе сітуацыя вайны і смерці. Таму праблема місіі мастака набывае тут асаблівую вастрыню і трагедыйнасць.**

*Хто ён, паэт? Біблійны мытар,*
*Прарок натхнёны? Сьвету лекар?*
*Ці чалавек з душой, узрытай*
*Лязом хістаньняў, скрозь нясыты*
*Жыцьця і сьмерці, славы й зьдзекаў?*

**Здаецца, пераважае трагедыйна-песімістычнае адмаўленне мастаку ў яго праве тварыць у любых абставінах.**

*Не замалюеш лёсаў сьвету*
*Цяпер вішнёвай пеннай беляй,*
*Жыцьцё – зусім не акварэля*
*І ў час вайны не да санетаў,*
*Не да мадонаў Рафаэля.*
(“Хто ён, паэт?”)

**Палескі музыка спыніў сваё сэрца разам са скрыпкай. Гэта ягоны чын, варты ўслаўлення і гераізацыі.**

**І ёсць чын Арсенневай – быць паэтам.**

*І мімаволі мроі мроіш,*
*І ломіш рытм жыцця ў жаданнях...*

**І калі ў нас нічога ўжо не застаецца – ні радзімы, ні надзеі, ні слова, – нам застаецца памяццю гэтага слова пачаць: “Магутны Божа!..”**

**Люба ТАРАСЮК**

[1] Цыт. па кн.: Пранчак Л. Беларуская Амерыка. Мн., 1994. С. 265.

 



Блазнаў вясёлых зямля
мае ў пашане і сяньня.
А... каму ў сьвеце баляць
крыўды чужыя і раны?

## *О, ШЫПШЫНА МАЯ, БЕЛАРУСЬ!*

*– О, Беларусь, мая шыпшына...*

У. Дубоўка.

Грае люты на струнах завей
далікатнае, смутнае “scherzo”.
Пачакаю, аж зноў весялей
будзе трохі на сэрцы.
Аж затліцца ізноў у крыві
хваляваньняў блакітны вагенчык,
аж і сьцюжа, і дні без навін
шэры час свой ад‘енчаць.
Аж ізноў баразной пабрыдуць
дні вясны у вадзе па калені,
аж мы скарбы пачуцьцяў і дум
зноў на словы разьменім...
Цёплых слоў гэтых трэба усім
нашым часам суровым і збройным.
Што-ж ты сьвету сягоньня дасі,
як ня песьню, ня мрою?
Як прымусіш паверыць сваіх,
што яшчэ расьцьвіце наша доля,
што ніць шчасьця йшчэ будзем мы віць
пад крывіцкаю роднай столяй?

# СПАДАРЫНЯ НАТАЛЛЯ

*Некалькі прыватных згадак*

**Доўгія гады яна была для мяне своеасаблівай легендай, калі цяжка зразумець, дзе канкрэтны, рэальны чалавек, а дзе – рамантычны вымысел ці хітрая плётка. Адны гаварылі пра яе як пра выдатную паэтку, прыгожую, інтэлігентную жанчыну. Іншыя ж з адкрытай нянавісцю называлі яе прыслужніцай гітлераўскіх акупантаў і здрадніцай. І цяжка, амаль немагчыма было разабрацца, колькі праўды ў гэтых афіцыйна ці неафіцыйна прызнаных меркаваннях. Нават заўсёды дэмакратычны і шчыры Максім Танк і той толькі напусціў туману, аднойчы з мілаю сваёй усмешкаю і гарэзінкаю ў сініх вачах адказаўшы на мае роспыты: “О-о, Арсеннева – асоба няпростая...”.**

**І вось так здарылася, што мой службовы лёс, нечакана перакінуўшы мяне цераз акіян, даў магчымасць не толькі начытацца вершаў Наталлі Арсеннеавай, а і сустрэцца з ёю самою.**

**Першы раз я пабачыў яе ранняй восенню 1990 года на традыцыйнай сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі непадалёк ад Клііўленду, у толькі што пабудаваным культурным цэнтры “Полацак”. Быў цёплы сонечны дзень. Была святочная гамана даўніх знаёмцаў-эмігрантаў. Была радасная ўзрушанасць ад таго, што ўпершыню на сустрэчу прыехала вялікая маладая грамада з Беларусі. І было**



 

**Грае люты на струнах суччa**
**далікатнае, смутнае "scherzo"...**
**Не, ня буду чакаць, аж маўчаць**
**маё знудзіцца сэрца.**
**А удару па цяглiцах струн**
**із тугою, ізь сілай нячутай:**
**"О, шышшына мая, Беларусь,**
**маё шчасьце й пакута!"**

1945

## *У ГУШЧАРАХ*

**У гушчарах, затканых імглою,**
**шэрым змрокам, на золку, ў зару**
**ахвяруем Табе мы сабою**
**кожны дзень, кожны час, Беларусь.**

**І няма ў сэрцах жаху ні жалю,**
**мы адвагай змагарнай гарым:**
**ня чужыя жануць нас у далеч**
**але Ты нас вядзеш да зары.**

**І мы верым, яна разгарыцца,**
**ўстане зноў над краінаю дзень,**
**бо ня стане змагар, не скарыцца**
**прад нягодай ніколі, нідзе.**

**Хмараў дым над галовамі тае,**
**вецер дыхае мятай, быльлём.**
**Беларусь, Беларусь залатая,**
**За Цябе, за Цябе мы ідзём!**

---

агульнае прадчуванне блізкіх і жаданых перамен у выстылым ад доўгага ідэалагічнага супрацьстаяння свеце...

Як нядаўна прызначаны пастаянны прадстаўнік БССР пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый я з пэўнай асцярогай азіраўся па баках, каб не натрапіць на якога-небудзь вядомага паліцая ці запіснога варожага "прапагандыста", і заўважыў, як каля некаторых людзей цеснымі купкамі збіраліся своеасаблівыя "клубы". У цэнтры аднаго з іх была чарнявая, сярэдняга росту жанчына ў белай вышыванай блузцы з гордай, яшчэ даволі стройнай паставай. Па ўсім было відно, што яна тут – знакамітасць, славутасць і звыкла прымаць знакі ўвагі і захаплення.

"Ці не Арсеннева?" – падумалася адразу ж, і я ўжо не выпускаў яе постаць з поля зроку ў віратлівым бязладдзі і мітусні першых хвілін арганізацыйнага ўладкавання ў зале.

Да таго часу я ўважліва прачытаў салідны том яе вершаў у цвёрдай сіняй вокладцы, выдадзены ў 1979 годзе нью-йоркскім Беларускім інстытутам навукі і мастацтва, і, можна сказаць, няблага ведаў Арсенневу як паэта, паэта глыбокага і цэльнага. Аднак маё ўяўленне аб яе зямным "партрэце" было яшчэ залішне расплывістым, каб з ходу сцвярджаць, што ўгледжаная мною жанчына і ёсць славутая паэтка.

Але гэта была яна. Янка Запруднік і Вітаўт Кіпель, з якімі я паспеў скантактавацца ў першыя месяцы сваёй дыпламатычнай працы, пацвердзілі мне гэта і пазнаёмілі нас. Пагутарыць толкам тады так і не ўдалося, бо безупынку да яе падыходзілі даўнія прыяцелі, цягнулі ўбок журналісты, ды і асаблівай адкрытасці ў нораве Н. Арсенневай, як я пасля пераканаўся, не было. Доўгае і цяжкае жыццё навучыла яе

насцярожана ставіцца да новых людзей, тым больш калі яны маюць афіцыйны статус і прадстаўляюць дзяржаву, якая не хоча ведаць ні яе лёсу, ні яе твораў. Мы перакінуліся некалькімі ветлівымі словамі, усміхнуліся адзін аднаму і ціха разышліся без дамоўленасці аб будучых сустрэчах. Я паспеў разглядзець яе ўжо не малады твар, уважлівыя, разумныя вочы, сурова сцятыя вусны, дужыя, працавітыя рукі. І – адчуў моцную волю і па-мужчынску ўладарны характар. Такім было першае, абсалютна відавочнае ўражанне.

У многім пацвердзілі яго, хаця і тое-сёе папраўілі, удакладнілі, нашы наступныя сустрэчы, калі можна было, дзякуючы гасціннаму дому Бартулёў, няспешна пагаварыць, распытаць адзін аднаго, паразважаць. Зноў мяне ўразілі ясны, халодны розум Арсенневай, яе стрыманасць і пэўная дыпламатычнасць у ацэнках, што, на першы погляд, не надта паяднноўвалася з яе маляўнічымі, настраёвымі вершамі. Але ў поўнай меры адкрыліся і тонкае пачуццё гумару ды бязлітасная самаіронія. Спадарыня Наталля (так прасіла яна называць сябе) любіла вострае слова, ахвотна пакеплівала са свайго ўзросту і творчай неактыўнасці. Яна даволі добра ведала беларускую паэзію 60 – 70-х гадоў, прыгадвала некаторыя імёны, як кажуць крытыкі, маладых на той час паэтаў – Рыгора Барадуліна, Дануты Бічэль, Анатоля Вярцінскага... Найноўшых аўтараў яна ўжо амаль не называла і шкадавала, што не мае магчымасці ўважліва сачыць за літаратурным працэсам у Беларусі. Пра Танка гаварыла неахвотна, хаця з павагаю і прыязнасцю.

Я, безумоўна, пацікавіўся яе маладымі віленскімі гадамі, узаемаадносінамі з Максімам Гарэцкім. Вочы Арсенневай імгненна загарэліся, яна хораша, светла ўсміхнулася і глыбока ўздыхнула:

– Гэта быў выдатны чалавек ва ўсіх адносінах. Ён, можна сказаць, вызначыў маю паэтычную дарогу. Яго лічу сваім настаўнікам... А ўзаемаадносіны... Мы абодва былі маладыя, рамантычныя. Ён мне падабаўся. А я яму? Не ведаю. Я была залішне маладая і наіўная, каб асмеліцца на нешта большае, чым павага і сімпатыя. Ды і хлопцаў каля мяне круцілася многа...

Пра мужа свайго, Францішка Кушаля, прафесійнага вайскоўца і палітыка, пасады і выступленні якога непрымірымыя савецкія прапагандысты ахвотна прыпаміналі і ёй, Арсеннева старалася амаль не ўспамінаць. Магчыма, не сумнявалася, што тое-сёе са зласлівых публікацый пра яго было вядома і мне, а хоць неяк апраўдвацца – не ў яе характары. А магчыма, лічыла ўсё, звязанае з гэтым чалавекам, настолькі асабістым, інтымным, што не хацела дапускаць да яго мала знаёмага чалавека. Наогул, у мяне склалася ўражанне, што Арсеннева вельмі многае хавала ў сабе і не любіла выпускаць на людзі. Пра свайго абранніка яна сказала толькі, зноў жа памаладому ўсміхнуўшыся:

– Стройны быў, абыходлівы, у прыгожай вайсковай форме. Чаго ж болей хацець дзяўчыне?..

Пра высылку ў Казахстан не распавядала зусім, а пра жыццё ў акупаваным фашыстамі Мінску ўспамінала скупа і неахвотна. Гітлераўцаў не любіла і не пускала іх не толькі ў сваю душу, а і ў вершы. (Гэта я магу засведчыць: услаўлення захопнікаў, прыняцця іх рэпрэсій у творах яе я не знайшоў.) Пра адну трагедыю тых ваенных часоў яна ўспомніла літаральна некалькімі сказамі і пасля надоўга горка замоўкла.

Гаворка ішла пра гібель яе старэйшага сына Яраслава пры выбуху ў Мінскім тэатры 22 чэрвеня 1943 года. Міну заклалі партызаны, водгулле выбуху было гучным – і ніхто з нашых суровых летапісцаў народнага змагання з ворагам не захацеў хоць на хвілю ўбачыць жаночую, матчыну роспач. Сямейная бяда таксама была запісана ў чорны абвінаваўчы прысуд Арсенневай. Не хачу нікога папракаць – часы былі жорсткія, змаганне было смяротнае, – але зразумець гора маці магу і ацаніць тое, што яна ў сваіх вершах так і не паслала праклёнаў "лясным салдатам", – таксама.

Сам я, у свае шэсць гадоў, пабыў на роднай Расоншчыне ў акупацыю і малым заложнікам эсэсаўцаў, і галодным бежанцам, і напалоханым падлеткам з цёмнай сырой зямлянкі і нагледзеўся рознага... Былі мы тады воляю лёсу па розны бок "барыкад", але зразумець пачуццё няшчаснай маці я здольны...

Жыццё са сваёй сявенькі ўдосталь адсыпала Наталлі Арсенневай і чыстых зярнят радасці і ўдач, і сухой гірсы бяды і выпрабаванняў. Перажытага ёю хапіла б на дзесятак лёсаў – і дзіву даешся, як гэта ўсё не зламала, не сагнула яе, не патушыла ў вачах вясёлага агню надзеі і лагаднасці. Атожылак таленавітага лермантаўскага роду (бацька яе – з тых Арсенневых, што па жаноцкай лініі даў свету геніяльнага рускага паэта), яна праз гады захавала шляхетную годнасць і нават велічнасць. На жывапісных партрэтах у яе паставе нездарма ёсць нешта ад "царскасці" Ахматавай і "значнасці" вялікасвецкіх прыгажунь. Яна ніколі не дазваляла сабе быць ці выглядаць слабой, залежнай, разгубленай.

Калі на вечарыне, прысвечанай яе дзевяностагоддзю, яе запрасілі на сцэну і я паспрабаваў дапамагчы ёй узняцца з-за стала, яна горда адвяла маю руку і сказала нават пакрыўджана:

– Вы што, Генадзь? Я сама...

І пайшла пад воплескамі, прамая, элегантная і гордая. І бліскуча чытала на памяць свае даўнія вершы. І нізка кланялася бяседзе з падкрэсленым высакародствам і артыстызмам... А ўсяго за нейкі год перад тым яна перанесла цяжкую складаную аперацыю...

Я, безумоўна ж, запытаўся ў Арсенневай, ці збіраецца яна наведаць родную Беларусь, Валожыншчыну, вёску Доры, прырода і людзі якой на доўгія гады нашапталі ёй так многа выдатных паэтычных радкоў. Яна пахітала сумна галавою і спакойна, як даўно абдуманае, сказала:

– Хацела б. Вельмі. Ды не змагу. Фізічна... Позна...

На сваёй кніжцы "Між берагамі" яшчэ пры першай нашай сустрэчы яна напісала мне: "Хай жа ж нішто не дзеліць больш нашыя берагі!"

І я рады, што яна сёння стаіць на высокім беразе нашай літаратуры, знакамітая паэтэса Арсеннева, гожая і мужная спадарыня Наталля...

Генадзь БУРАЎКІН

# ЛЯТАВІЦА

*(Пад Арсенневу)*

**– Хто ты? – А дзяўчына з пералётаў сініх.
Згледзела вагеньчык, на яго й сышла.
У вятраным гудзе настудзіла грудзі,
спраглася драбочка людзкага цяпла.**

**– Просім, калі ласка, да бяседы наскай –
век такія краскі не зырчэлі тут!
... ці не чараўніца знічкай-лятавіцай
скочыла з-над хмары зводзіць Божы люд?..**

**– Хіба гэта зводы, ці якія шкоды,
што камусьці крылы праз мяне ўзраслі...
Хіба дзеля чмураў мкнуцца між віхураў,
прабіваюць яскі плецыва імглы...**

**... Кінула вачыма ў сутань аблачынаў –
разышлася клінам хмурная града...
а ў прагале вышы – ззяе азярына,
лебядзёў калыша лёгкая вада.**

**... Заміргалі свечкі – павіліся рэчкі
зыркага туману, растулілі дах,
абмінулі плынна елак вершаліны
і ўліліся хваляй у Птушыны Шлях.**

**... Дзесь падзелась госця... Доўга ягамосці
стромілі пагляды некуды туды,
дзе ў садох дасветных пахаджае ветах,
роніць кроплі мёду з вострай барады.**

**Галіна ДУБЯНЕЦКАЯ**

# АДВОЛЬНЫ ВЕРШ ДА НАТАЛЛІ АРСЕННЕВАЙ

**Пад шэрым айчынным небам
Мне хораша сёння ведаць,
Што недзе ў далёкай Амерыцы
Жыве сівая бабуля,
Ды кажуць, даволі жвавая –
Сочыць яшчэ за модай
І за сваёй паставаю...
Хапіла б, урэшце, й гэтага,
Каб увайсці ў хаўрус
Няўрымслівых летуценніц...**

**...Я з Вамі не сустракаўся
У гэтым выжытым веку,
Ды, пэўна, ўсё ж сутыкнуся
Хоць бы ў веку наступным –
Там, на яго прыступках,
Каля апостала Паўла...**

**Праўда, чытаў я жыццяпіс,
Даў Бог, яшчэ не завершаны,
Ваш
у савецкім друку
І ў нацдэмаўскіх ксераксах,
Адкуль зразумеў бясспрэчнае:
Што кожнае слова Паэта
Асвістана куляй свінцовай,
А Ваша – замоўчана немасцю
І рабскаю глухатой...
Да *"фені"* ім быў Ваш Феб.**

**Прабачце.
Таму і ўрозгалас –
Анафему і Алілуя –
Спявалі *"чырвоныя"* й *"белыя"*
Пакуль не змяшаліся колеры...
Цяпер – усім не да Вас.**

**Чытаю ПАД СІНІМ НЕБАМ
Я Ваш факсімільны зборнік,
І восеньскія матывы
надзённым мяне гнятуць...
Як трапна Вы апісалі
Пейзаж майго наваколля
І нават мае настроі
Яшчэ да майго нараджэння!..**

**Арсенневы – род прарочы.**

**Прачытваю Вас,
спадарыня
Наталля,
а мне ўсё чуецца
Радок ад Міхайлы Юр'евіча,
Ну, той, што з Вашым мяжуецца,
Але, на жаль, не рыфмуецца,
І Ваш радок прыгнятае,
Як Дэман Тамарын дух:**

**С ТЕХ ПОР КАК ВЕЧНЫЙ СУДИЯ...**

**Таму шкада мне, што ні Вы, ні я
Не пасыпаем попелам галовы...
З якой нагоды!?
Не прарокі мы,
Хоць ведаем свае вытокі
І прыстань мройную сваю
МІЖ БЕРАГАМІ...**

**МАГУТНЫ БОЖА! УЛАДАР СУСВЕТАЎ
Ды не асудзіць Вас,
Бо дастаткова мы асудзілі тут...
Прабачце нам
за наш смяротны клопат.**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# ЁН | Станіслаў ЛЕМ



*Трэба гэта нарэшце сказаць. Лёс (цяпер званы генамі) мне прызначыў... уменне прадбачыць будучыню.*

*Пра Яго*

## Са Станіславам ЛЕМАМ размаўляе Станіслаў БЭРЭСЬ

*ЦЫТАТНІК*

## СТВАРЭННЕ СВЕТУ. СПРОБА ДРУГАЯ
## СІЛЬВІЧНЫЯ РАЗВАЖАННІ XL
## ФЕНАМЕНАЛАГІЧНАЯ ТЭОРЫЯ ТВОРА

 



# Са Станіславам ЛЕМАМ размаўляе Станіслаў БЭРЭСЬ

**Станіслаў БЭРЭСЬ:** Скажыце, калі ласка, у якіх галінах навукі вы адчуваеце сваю кампетэнтнасць?

**Станіслаў ЛЕМ:** Перадусім я мог бы сказаць так: у мяне не найгоршыя веды з галіны біялогіі, уключаючы сюды і медыцыну. Але гэтыя веды досыць агульныя, бо калі б вы пачалі задаваць мне пытанні з абсягу заалагічнай сістэматыкі, то адразу б выявілася, што яны распадаюцца на таксаноміі, бо я не памятаю ўсіх жгуцікавых і пазванковых. У агульных абрысах, аднак, я ведаю ўсё як трэба. Я досыць добра арыентуюся ў натуральнай эвалюцыі, паколькі маю ўяўленне аб генетычным кодзе, аб арганічнай і неарганічнай хіміі, а таксама аб біяхіміі. Я шмат ведаю аб фізіцы, хоць і мушу падкрэсліць, што пакінуў займацца ёй з таго часу, калі яе канцэпцыі сталі лішне герметычнымі і супярэчнымі, а таксама калі наступіла рэакцыя фізікаў на "нялюдскасць матэрыі", бо яны нарэшце зразумелі, што тут нельга гаварыць аб нечым відавочным, што нельга пабудаваць ніякіх механічных мадэляў, а наменклатура становіцца ўсё больш умоўнай <...>

Я досыць шмат чытаў з галіны касмалогіі, астрафізікі, астраноміі і планеталогіі. Што датычыць іншых дысцыплін, то я троху арыентуюся ў кібернетыцы, тэорыі інфармацыі, логіцы, тэорыі рашэнняў, а таксама спасярод шматлікіх навуковых "дзяцей" кібернетыкі. Але каля дзесяці гадоў таму я перастаў займацца імі сістэматычна. Мяне вельмі цікавіць філасофія, але тое, што ёсць нейкі Феерабэнд і нейкі дадаісцкі анархізм у тэорыі пазнання, я мушу даведвацца ад сваіх кампетэнтных знаёмых, якія часам падсоўваюць мне нейкія кнігі. Тое самае датычыць і

## *ЦЫТАТНІК*

***Франц РОТЭНШТАЙНЭР***

*Тэарэтык Лем несупынна стварае пісьменніку Лему новыя перашкоды, у сваю чаргу пісьменнік Лем спрабуе аспрэчыць тэорыі тэарэтыка Лема; у выніку мы становімся сведкамі своеасаблівай дыялектычнай гульні супрацьлегласцяў, сведкамі ваганняў паміж жартам і павагай, узнёсласцю і смехаццём, сведкамі багатага на адценні і выслоўі спосабу пісання, якія прыводзяць да таго, што чытанне Лема заўжды цяжкае, але непаўторнае і прыемнае. Які ж плодны і ўрадлівы гэты Лем.*

*Яго творы, перадусім гратэскі, ажно кіпяць ад ідэяў, здаецца, без асаблівых намаганняў ён са старонкі на старонку рассыпвае свае ідэі. Тым часам як шмат іншых пісьменнікаў, асабліва з абсягу Science Fiction, імкнуцца як мага доўга жыць са свайго сціплага мыслійнага капіталу, Лем абыходзіцца з думкамі недаравальна марнатраўна, уводзячы ўсё новыя варыяцыі, што яшчэ ніколі не паўтараліся (напрыклад, у адносінах да ідэі эвалюцыі). Багацце ідэй і падумак, якім вызначаюцца яго кнігі, выяўляецца і ў Леме-чалавеку... Калі не зважаць на нешматлікія выняткі і своеасаблівасць манеры пісання, кнігі Лема надзвычай*

## *Пра Яго*

**Кампілятарскі жанр біяграфічнай даведкі з элементамі рэтраспектыўнага агляду, інтрадукцыі ў вялікшы тэкставы масіў, да якога мы прыступаем, мае жорстка дэтэрмінаваную структуру. Як правіла, ён вызначаецца спалучэннем агульных звестак аб жыцці таго ці іншага аўтара з вядомым элементам уласна літаратуразнаўчай рэфлексіі. Было б смешна спрабаваць тут нешта змяніць.**

**Вядомы польскі пісьменнік Станіслаў Лем нарадзіўся 12 лістапада 1921 г. у Львове, у сям'і Самуэля Лема і Сабіны з Вольнэраў, прадстаўнікоў інтэлігенцкага асяроддзя. Тут, у Галіччыне, праходзіць усё маленства будучага пісьменніка, тут жа ён канчае і сярэднюю школу (1939 г.). Пасля далучэння Заходняй Украіны да СССР у 1940 г. Лем становіцца студэнтам тамтэйшага медыцынскага інстытута, – але ненадоўга, бо неўзабаве ўжо нямецкія войскі ўваходзяць у Львоў. Змрочны перыяд нямецкай акупацыі азначыўся для Лема працай у якасці аўтамабільнага механіка. У 1944 г., пасля акта вызвалення Львова ад нямецкафашысцкіх захопнікаў, Лем працягвае навучанне ў медыцынскім інстытуце. Аднак гэта былі апошнія гады жыцця пісьменніка на сваёй малой радзіме – акцыя рэпатрыяцыі польскага насельніцтва ў 1946 г. змушае**



 

*чытэльныя. Бо Лем у пэўным сэнсе старасвецкі пісьменнік, яго літаратурны метад паходзіць з XVIII стагоддзя. Яго творчасць нельга залічыць у літаратурны авангард. Творы Лема не змяшчаюць няясных маналогаў ці моўных эксперыментаў, значэнне якіх чытачу даводзілася б расшыфроўваць у пакутлівых актах успрымання. Думкі Лема заўсёды ясныя і рытмічныя, яго досціп – гэта слоўны досціп, які адразу выяўляе чытачу прынамсі адзін сэнс. Лема з прыемнасцю можна чытаць нават тады, сказ за сказам, калі ўвогуле не маеш панятку аб глыбейшых пластах і прорвах, якія крыюцца ў яго фацэцыях і чыстым фантазаванні. З другога боку, чытаць кнігі Лема цяжка, паколькі пад бліскучай, свавольнай паверхняй тэксту (часта паверхняй досыць цвёрдай) хаваюцца філасофскія рыфы, аб якія разбілася шмат чытачоў.*

***Курт ВОНЕГУТ***

*Такім чынам, можна спадзявацца на з'яўленне многіх надзвычай забаўных пісьменнікаў, як Станіслаў Лем. Нямногія, аднак, могуць параўнацца з ім у паэтычнай экспазіцыі, гульні словаў і ўяўлення, а таксама у вытанчанасці разумення, з якім ён падыходзіць да сваіх машын.*

*Тут належыць згадаць і аб пісьменніцкім майстэрстве Лема. Абсалютна немагчыма напісаць добрае апавяданне, у якім няма*

іншых дысцыплін, напрыклад, псіхіятрыі, дзе адбылася вялікая рэвалюцыя, падобная да сейсмічнага зруху. Я няблага арыентуюся ў тэорыі літаратуры, але знаёмства з ёй адбывалася дзякуючы структуралізму. Калі я наважыўся напісаць "Філасофію выпадку", я недзе год разбіраўся ў структуралісцкіх канцэпцыях. Па сваёй наіўнасці я меншую ўвагу звярнуў на старых структуралістаў Пражскай школы і чытаў толькі навейшых. Ну і аказалася, што Пражская школа структуралізму мела троху іншы кірунак і іншую тэрміналогію, аб чым я меў цьмянае ўяўленне – што ўсвядоміў падчас дыскусіі ў Інстытуце Літаратурных Даследаванняў, шмат з гэтага мне было невядома, за выняткам, можа, Якабсона. Зрэшты, пазней я забыўся на бальшыню тых рэчаў. І сёння не памятаю дзесятай часткі тых мудрасцяў, якія я тады ўбіў сабе ў галаву. На шчасце, у мяне ёсць мілая здольнасць забывацца...

**С.Б.** Ці выпрацавалі вы на працягу свайго шматгадовага эксперыментавання з мовай нейкую агульную філасофію слова або сукупнасць поглядаў на моўную прыроду фантастычна-гратэскавых жанраў?

**С.Л.** Паколькі мову можна даследаваць толькі мовай і найперш матэматычнай (але гэта таксама *sui generis* мова), паўстае праблема самазваротнасці, толькі ў тэхнічны абсяг гэтых справаў я не хачу цяпер удавацца. Агульна кажучы, мой погляд на прыроду мовы роднасны з тым, што выклаў у сваёй кнізе Налімаў ("Вероятностная модель языка", Масква 1974, выд. "Наука"). На жаль, я не магу сфармуляваць галоўнага тэзіса, бо ён выходзіць з абсягу яго спецыяльнасці: гэта матэматык, які звярнуўся да лінгвістыкі, і трактуе яе ў рэчышчы тэорыі імавернасці, пры дапамозе функцыі, якая называецца функцыяй Бэйса (Bayes'a). Мова, кажучы спрошчана і сцісла, не складаецца са словаў, хаця з іх і складаецца. Элементы, якія яе ўтвараюць, маюць вышэйшы статус і адпавядаюць пэўным дачыненням (рэляцыям). Адчуваны пры дапамозе органаў пачуццяў свет адбіваецца ў мове. Дзеясловы паходзяць стуль, адкуль і з'явы "ў руху", "у змяненні", а назоўнікі стуль, адкуль і пэўныя "рэчы".

Калі размаўляеш з людзьмі са здаровым розумам і

**яго перабрацца ў Кракаў, дзе ён і асядае настала. У Кракаве Лем аднаўляе свае навуковыя студыі – у 1946–1948 гг. ён актыўна займаецца ў Ягелонскім універсітэце, – якія заканамерна канчаюцца атрыманнем дыплома. Разам з тым, менавіта тут пачынаецца новая старонка жыцця Лема – у яго абуджаецца прага да літаратурнай творчасці. Зваротным пунктам быў 1946 г. – якраз гэтым годам датуюцца яго першыя публікацыі. Маецца на ўвазе дэбют Лема ў катавіцкім тыднёвіку "Nowy Świat Przygod" з раманам "Чалавек з Марса". Адначасова ён займаецца напісаннем артыкулаў у прафесійнай медыцынскай прэсе, піша рэцэнзіі і фельетоны, апавяданні і вершы, супрацоўнічае з часопісам "Życie Literackie". А ўжо на пачатку пяцідзесятых гадоў Лем, па сутнасці, становіцца прафесійным літаратарам. Яго творчасць знаходзіць шырокі розгалас і прызнанне – пералічым толькі асноўныя моманты: у 1957 г. Лем атрымлівае прэмію г. Кракава за раман "Нястрачаны час", у 1965 г. літаратурную прэмію II ступені Міністэрства культуры і мастацтва за творчыя здабыткі, у 1973 г. літаратурную прэмію Міністэрства культуры і мастацтва I ступені за кнігі "Голас Госпада" і "Поўны вакуум", і нарэшце ў 1976 г. дзяржаўную прэмію I ступені. Сваімі прэміямі яго ўзнагароджваюць і польскія часопісы "Problemy" (1968) і "Miesęcznik Literacki" (1971). У 1972 годзе Лем уваходзіць у камісію Польскай акадэміі навук "Польшча 2000", а таксама становіцца сябрам амерыканскіх таварыстваў "Science Fiction Research Association" і "Science Fiction Writers of America".**

**У апошнія часы Станіслаў Лем жыве ў Вене.**

сярэдняй адукацыяй, можна заўважыць, што на ўзроўні асабістага жыццёвага досведу яны выдатна ва ўсім разбіраюцца, а калі размова з імі выходзіць за гэтыя межы, яны часам кажуць лухту. Хатняя гаспадыня не паверыць, што гаршчок, пакінуты ў свіране, можа абярнуцца ў голуба, але лёгка верыць уплыву зорак на чалавечы кон. Абсяг асвоеных паняццяў пераходзіць у абсяг "нявысваеных" паступова і вельмі індывідуальна. Не так даўно я чытаў выдадзенага ў нас Арыстоцеля. У ім цяжка разабрацца, бо за відавочнае ён мае пытанні, якія кожны сучасны чалавек павінен мецъ за цалкам адвольныя выдумкі. Таму калі рушыць не ў мінуўшчыну, а ў будучыню, і нейкім цудам стварыць мову, якая будзе паўсядзённай і агульнаўжывальнай праз сто гадоў, напісаныя на ёй кнігі ніхто б не змог прачытаць цяпер з задавальненнем. Але калі звярнуцца не да будучыні людзей, а неяк у бок – "да іншых разумовых істот", ступень адсутнасці зразумеласці будзе ў незлічоныя разы большай. Таму я не ў стане сур`ёзна напісаць кнігу, у якой размаўляюць паміж сабой такія "іншыя істоты". Гэта будзе шыта белымі ніткамі. Можна або ўжыць гратэск, або паказаць міжцывілізацыйныя бар`еры, як я паспрабаваў у "Эдэне". Нельга ў рэалістычным рамане сцвярджаць, што герой здольны апладніць жанчыну на другім баку акіяна пры дапамозе тэлефона, або што блохі – гэта здэгенераваны ад кенгуру. Аднак калі паказваецца "іншы свет, іншая планета", сярэдні чытач пазбаўляецца крытэрыяў верагоднасці. Ім можна маніпуляваць як заўгодна. На гэтым факце паразітуе дзевяноста дзевяць працэнтаў *Science Fiction.* Супольнымі намаганнямі аўтары стварылі сістэмы "рэальных" суадносінаў, абылгалі ўвесь космас, яго асноўныя фізічныя законы, знявечылі асноўныя прынцыпы эвалюцыйнай біялогіі, і "дзякуючы" гэтым працам набралася скарбонка лухты, з якой цяпер можа карыстаць кожны тыповы *science-fictioner.* А хто выпадае з гэтага парадку, мае тым меншыя шанцы на прызнанне ў чытачоў, чым болей яны зазіраюць у гэтую скарбонку. У ЗША ўва мне найбольш• цэняць *eggheads,* пачынаючы з навукоўцаў, прыродазнаўцаў, а для тыповых заўзятараў тамашняй SF я перадусім незразумелы, бо яны ж "ужо наперад добра ведаюць", ЯК і АБ ЧЫМ павінна быць напісана кожная такая *прынамсі аднаго станоўчага і годнага павагі персанажа, некага, каму б чытач мог давяраць. Лему ж удаецца з поспехам унікаць стварэння такіх персанажаў. Але хіба толькі на першы погляд яны не існуюць у Лема, бо ў сапраўднасці станоўчы герой заўсёды навідавоку, Лем сам такі герой, на якога мы можам пакласціся і прысутнасць якога схіляе нас чытаць яго кнігі.*

***Міхаэль ШПРЫНГЕР***

*У суме гэта стварае вобраз пісьменніка, што, як падаецца, не толькі без намаганняў пераадольвае традыцыйную бездань паміж "масавай" і "кніжнай" літаратурай, але і пераскоквае, як бы гуляючы, адлегласць паміж дыскурсіўным і наратыўным пісьмом, творачы пры гэтым змешаныя формы з эсэ і апавядання, трактата і эпікі.*

*За гэтымі перасяганнямі межаў жанру і іх вынікамі (разнароднасць формаў, насычанасць зместу, шырокі абсяг апісання) крыецца, аднак, пераадоленне яшчэ глыбокай і магутна ў нашай культуры ўкарэненай бездані. Як "навуковы фантаст", Лем злучае дзве галіны, якія раздзяліліся падчас Рэнесансу і ўжо ад пачатку індустрыяльнай рэвалюцыі не хацелі ісці на змірэнне: літаратуру і тэхнічныя прыродазнаўчыя навукі. Лем паказвае чалавека на*

**Уплыў творчасці гэтага пісьменніка надзвычай магутны. Даходзіць да таго, што касманаўты заяўляюць, што сталі імі дзякуючы кнігам Лема. Яго мова, бліскучае майстэрства слова аказалі ўздзеянне на ўсю польскую публіцыстыку.**

**У чым адметнасць творчасці Лема? Рэч у тым, што гэты пісьменнік, па сутнасці, выступае песняром постіндустрыяльнага грамадства. Яго творы з усёй вастрынёй адбіваюць заняпад дагэтулешняй этыкі, паталагічныя з'явы на целе сучаснай культуры. Якраз дзякуючы гэтаму Лем імкнецца адсочваць магчымыя грамадскія сітуацыі і біялагічныя мадэлі. Да таго ж тэхналагічная ўсёмагутнасць прыводзіць да поўнага пераасэнсавання чалавечага наканавання. – Гэта неблагая нагода, каб паспрабаваць даць рэтраспектыўны аналіз творчасці Лема.**

**Калі не браць у разлік ужо згаданыя артыкулы, вершы і "Чалавека з Марса", то першая кніга Лема не была фантастыкай. "Нястрачаны час" быў напісаны напрыканцы 40-х гадоў і апісваў медыцынскае асяроддзе ў апошнія два гады вайны і пасляваенны час. Нягледзячы на гэта, кніга пабачыла свет толькі ў 1955 г., бо змяшчала ў сабе шэраг невыгодных для ўладаў момантаў.**

**Але сапраўдным дэбютам стала кніга "Астранаўты" (1951), якая прынесла Лему славу нават у тыя непрыхільныя для фантастыкі часы. "Астранаўты" апавядаюць аб падарожжы на Венеру, якая пагражае Зямлі. Але жыхары Венеры ўрэшце знішчаюць саміх сябе. На Зямлі пануе татальны камунізм, усё складваецца проста выдатна. Пазней былі апублікаваны "Сезам і іншыя апавяданні"**

*фоне змагання з прыродай, а таксама сродкі, ужытыя для гэтай мэты: навуку і тэхніку. Велічыня гэтай эпахальнай тэмы надае яго творчасці універсальны вымер, а яго самога робіць найвялікшым дагэтуль пісьменнікам навукова-тэхнічнай рэвалюцыі.*

__*Міхаэль КАНДЭЛЬ*__

*Лема цікавяць не толькі стварэнні натуральнага свету або творы навукі – генетычнай біяінжынерыі, кібернетыкі; ён перадусім займаецца аспектамі творчасці – таксама і разумовай, тварэннем ідэй (праблема "генія"), тварэннем мастацтва, літаратуры, нават пакрыёмым тварэннем сноў. А сны ў Лема не такія ўжо і пакрыёмыя; у яго творах яны вызначаюцца непакоячай дозай рэальнасці. Гэта можа часткова вынікаць з кібернетычнага пастулата, што важная сістэма, а не матэрыял, а гэтаксама, што ў такой складанай сістэме, як розум, уяўленая істота можа валодаць "кібернетычнай" аўтаноміяй, і таму быць "роўнай" з усімі іншымі істотамі.*

__*Дамініка СІЛА (Dominique SILA)*__

*У той падазронай і здрадлівай сапраўднасці, у якой мы перабываем, Лем, дзякуючы сваім персанажам, не толькі стварае*

кніга. Таму на бацькаўшчыне SF у мяне менш сімпатыкаў, чым у Еўропе, бо на яе амерыканскія ўзоры ўплывалі не так доўга, і так паўсюдна не замацаваліся. Тут, зрэшты, пануе абавязковая сіметрыя, бо я, у сваю чаргу, не ў стане чытаць амерыканскую SF.

Што да неалагізмаў, то я мяркую, што абмяжоўваюся немінучым мінімумам. Калі б я сапраўды заняўся выдумваннем мовы нейкай іншай эпохі, я б змарнаваў паўжыцця, каб стварыць зусім незразумелую кнігу, да якой далучыў бы слоўнік з, натуральна, таксама мной прыдуманай энцыклапедыяй. Дадам яшчэ, што я міжволі стараюся ўнікаць гумарыстыкі і звяртаюся да адпаведнай лексікі толькі ў творах, напісаных у гратэскавым ключы.

**С.Б.** У адной са сваіх кніг вы напісалі, што "метафізіка – гэта сукупнасць аб`ядноўчых фактараў, сукупнасць правілаў, што надаюць сэнс і дазваляюць яго зразумець". Нічога лепш не сее метафізічны дэфетызм, чым ваша любая навука, якая добра далася ў знакі ўсім рэлігіям і метафізічным сістэмам.

**С.Л.** Я пісаў аб гэтых рэчах значна больш рафінаваным, лепш аргументаваным і стылістычна прыгажэйшым чынам, чым тое магу зрабіць тут. Метафізічны дэфетызм? Мне здаецца, што ў маштабе міжземнаморскай, секулярызаванай культуры галоўнай вартасцю ёсць праўда. І гэта безадносна да тых наступстваў, якія яна выклікае. Таксама факт, і як факт мусіць быць прынята да ведама, што існуе культурны рэлятывізм, абумоўлены самім фактам існавання мноства культур, многіх рэлігій і нятоеснасці аксіялагічных сістэм, якія вызнаваліся асобнымі гістарычнымі фармацыямі. З гэтага рэлятывізму зусім не вынікае, што культуры можна мяняць як пальчаткі. Дзякуючы рэлятывізму мы ведаем, што ніводная рэч не ёсць ні немінучай, ні адзінай, таму што людзі заўсёды патрабуюць нейкага культурнага гібрыду. Культура – гэта інструмент, які тым лепш функцыянуе, чым менш людзі, якія яго "скультуралізавалі", усведамляюць, што яны стварылі. Санкцыя культуры павінна змяшчацца не ў свядомасці, а ў трансцэндэнцыі. Тут няма супярэчнасці. Мы ж не кажам, што калі чалавек ведае, што памрэ, то няварта жыць. Мы ведаем, што абавязкова памрэм, але, тым не менш, не хочам пераставаць жыць.

**(1954), якія вызначаліся маўклівай прысутнасцю асноўных прынцыпаў сацрэалізму. Да месца тут будзе падкрэсліць, што Лем у тыя часы актыўна ангажаваўся ў палітыку, і зацята граміў капіталістаў ды імперыялістаў. Пазней яго неабыякавасць да палітыкі выявілася пад іншым ракурсам – у перакананні, што перадумовай грамадскіх дэфармацыяў з'яўляецца маніпуляцыя інфармацыяй.**

**Далёка за межамі Польшчы стала вядомай наступная кніга Лема "Воблака Магелана" (1955), досыць узнёслая аповесць аб розных падарожжах. Дарэчы, сам Лем выказваецца аб гэтай сваёй рэчы досыць суха. Кніга нарысаў "Дыялогі" (1957) ужо рыхтавала глебу пад будучыя эсэ Лема, а "Зорныя дзённікі" (1957) уводзілі элемент гратэску і знакамітую постаць Іона Тыхага. Гэтыя дзённікі пазней шматразова памнажаліся, змянялі праблематыку, узбагачаліся. Што да апавяданняў, то Лем выкарыстоўвае карысную для аўтара, але невыгодную для чытача тактыку: шматлікія перавыданні ў значнай частцы адных і тых жа твораў: "Уварванне з Альдэбарана" (1959), "Кніга робатаў" (1961), "Месяцовая ноч" (1963), "Ратуйма космас" (1966). Таму мы засяродзімся на адназначна арыгінальных творах.**

**Важнае значэнне для разумення ўсёй творчасці Лема мае "Эдэн" (1959), раман па матывах касмічнай рабінзанады. Касманаўты з Зямлі рамантуюць сваю разбітую ракету і адначасова знаёмяцца з таталітарным грамадствам "дубэльтаў", дзе быў няўдала праведзены біялагічны эксперымент, дадзеныя аб якім мясцовыя ўлады хаваюць. У тым жа годзе выходзіць кніга**

**С.Б.** Калі б я запытаўся ў вас – надзвычай сур`ёзна і без іранічных падтэкстаў – аб ступені Вашага ўкладу ў польскую літаратуру, то як бы вы адказалі на гэтае пытанне?

**С.Л.** Цяпер ён бадай што нулявы. Уклад бывае такім, якім ён вызначаны кампетэнтнымі спецыялістамі. Эксперты, абмяркоўваючы літаратурныя падзеі апошніх трыццаці, сарака гадоў, не згадвалі майго прозвішча. У гэтага дзве прычыны. Па-першае, да мяне цяжка знайсці слушны падыход. Я кот, што ходзіць сам па сабе. Для крытыкаў я з такім жа поспехам мог бы нарадзіцца – на шчасце, гэтага мне яшчэ ніхто не сказаў – у Бразіліі, Новай Зеландыі, на Вогненнай Зямлі або быць эскімосам. У часы Сталіна аб такіх гаварылі: *безродный космополит.* Гэтае пытанне, безумоўна, прынцыповае, бо з пункту гледжання навукоўца, што піша гісторыю літаратуры, разлічаную на замежжа, – тады ўсё відаць больш выразна, – неабходна паслугоўвацца пэўнымі адзінкамі, якія заўсёды шырэйшыя, чым прозвішчы. Існуюць эпохі, фазы, кірункі, згуртаванні, плыні і школы. Я ні да чога не належу, бо я ніадкуль.

Я мяркую, што інтэгральна належу да польскай літаратуры, але ўся парадыгма маёй творчасці зыходзіць ні з рамантызму, ні з пазітывізму, а з таго, што з`яўляецца дваццацістагоднім інтэлектуальным здабыткам чалавецтва. Гэта было несупыннае імкненне, калі нас залівалі ўсё большыя хвалі сусветныхператварэнняў, захаваць вызначальнае становішча для літаратуры, не патапіць і не загубіць літаратуру <...>

Я нядаўна размаўляў з "патрыярхам польскай літаратурнай крытыкі" Янам Блоньскім, які напісаў вялікі агляд літаратурнай творчасці апошніх дзесяцігоддзяў і які шчыра сказаў мне, што не змясціў мяне ў гэтым аглядзе, бо я нідзе не пасаваў яму. Ён заявіў: "Не бачу для цябе месца". "Як аб чалавеку – магу, як аб пісьменніку – не", – дадаў потым. Крытык папросту павінен мець нейкую сістэму, ён павінен уводзіць таксаномію. Там не можа з`явіцца персанаж, які напалову шафа, напалову аўтамабіль і ў дадатак мае прыкметы шыйнай машыны і разам з тым жывёлы. Што тут крытыку рабіць? Але, нягледзячы на гэта, Блоньскі вельмі прыстойны крытык.

*сусвет, але і забяспечвае яго насельнікамі. Калі ўсё ж такі мастак з'яўляецца творцам, то з'яўляецца ім у анталагічным сэнсе, у сэнсе Тварэння.*

*Якраз дзеля гэтага ў творах Лема безліч вучоных, дэміургаў, канструктараў, маніпулятараў матэрыі – вычварных і карыкатурных сімвалаў чалавека-вынаходніка.*

***Station Станіслаў БЭРЭСЬ***

*Станіслаў Лем не столькі ўдзячны, колькі турботны суразмоўца. Яго няўрымслівы тэмперамент звездара і палеміста, і перадусім неймаверна вялізны гарызонт веды, скіраванай на найбольш высунутыя накірункі сучаснай навукі, а нярэдка і перасягаючай яе актуальныя дасягненні, не дазволілі абраць яму нейкую аднастайную думальную лінію і трымацца ў канвенцыянальных рамках дыскурсу. Аўтар "Summy technologiae" несупынна ламаў усе ўзгодненыя a priori тэматычныя і праблемныя гіпотэзы, ведучы як бы размовы з самім сабой, з разнастайнымі тэорыямі і канцэпцыямі, якія спарадзіла прыродазнаўчая і антрапалагічная рэфлексія.*

***Рышард ХАНДКЕ***

*Якраз Станіслаў Лем – аўтар, які па-майстэрску валодае амаль усімі жанрамі літаратуры SF, і*

**"Следства", аповесць, па словах самога Лема, аб непазнавальнасці свету, аб выпадку і статыстыцы. Далей з'яўляецца "Вяртанне з зорак" (1961), троху сентыментальная кніга аб тым, як касманаўты вяртаюцца на пераўтвораную Зямлю, дзе з моманту іх старту мінулася больш як сто гадоў. Найважнейшай зменай з'яўляецца ўсеагульная "бетызацыя", мерапрыемства, скіраванае супраць гвалтоўных актаў у дычыненні да каго б там ні было.**

**"Дзённік, знойдзены ў ванне" (1961), – вельмі своеасаблівы раман, нарацыя з нейкага пад-польнага "Трэцяга Пентагону", шпіёнскай установы, якая змагаецца сама з сабой, і дзе кожны з'яўляецца "шматузроўневым" шпіёнам. А неўзабаве пабачыў свет і архітвор Лема – "Салярыс" (1961) – кніга аб спробах кантактаў людзей з "думаючым" акіянам, які выконвае іх самыя прыхаваныя жаданні, выклікаючы тым самым немагчымыя і трагічныя сітуацыі. Па матывах гэтай кнігі зняў свой фільм расійскі рэжысёр Андрэй Таркоўскі (1973).**

**У сваю чаргу "Summa technologiae" (1964) з перспектывы часу ўспрымаецца як адна з найлепшых кніг Лема, якая апавядае аб перспектывах тэхналагічнай омніпатэнцыі, якая адначасова і ўзбагачае, і нішчыць чалавечую істоту. "Казкі робатаў" (1964) уяўляюць сабой прэтэкст да слыннай "Кіберыяды" (1965), казкі, якую робаты апавядаюць робатам. Робаты маюць антрапаморфны выгляд, іх свет нагадвае Сярэднявечча, бо яны закутыя ў бляху, як у рыцарскую зброю. Характэрна, што пры дапамозе іроніі і гратэска Лем тут спрабуе закрануць фундаментальныя**

 



*адначасова іх крытык і даследчык, незвычайна зацікаўлены лёсамі цывілізацыі, а таксама выдатны эсэіст – сваёй творчасцю можа нам дапамагчы зразумець або лепш зразумець, як "зроблены творы SF, як яны функцыянуюць, уздзейнічаюць, для чаго яны могуць служыць". Творы гэтага тыпу, а таксама ўсе іншыя (бо навуковая фантастыка, зробленая нават не так добра, як можа Лем, або зробленая цалкам каструбавата і тэндэнтна), ніколі, тым не менш, не перастаюць быць літаратурай...*

***Дарка СУВІН***

*Ключавыя раманы Лема ў сваёй пазнавальнай падаснове змяшчаюць тую простую і вымоўную ідэю, што гісторыя не знае канца: любая замкнёная сістэма, нават і панадная для знядужаных і ўбогіх духам, не можа панаваць у эпоху тэорыі адноснасці і посткібернетычных навук. Больш таго, навукі дваццатага стагоддзя полівалентныя і могуць быць выкарыстаны для зусім розных мэтаў. Адно толькі пэўнае можна сказаць аб іх метадалогіі – яны вядуць да велізарных, яшчэ не даследаваных абсягаў новых адкрыццяў, тэхналогіяў і поглядаў – да новага пазнання, якое прапануе чалавецтву на выбар новыя канфігурацыі магчымасцяў. Сучасныя навукі вызначаюцца адкрытасцю, і кожны позірк у*

Калі ён перабываў у Францыі і выйшла ў свет "Summa technologiae", ён тады з энтузіязмам пракаментараваў яе ў нейкім часопісе – што не мела, безумоўна, ніякага значэння – і напісаў: гэта, бясспрэчна, літаратура sui *generis*, але літаратура. Адначасова ён падкрэсліў, што не здолеў змясціць мяне ў які-небудзь шэраг. Падобныя закіды, зрэшты, высунуў і Калакоўскі, які раскрытыкаваў "Summu" у "Twórczości", а потым даслаў да мяне прыватны ліст, у якім пісаў, што бачыць "бляск першароднай інтэлектуальнасці", але гэта чужое яго ментальнасці, і нашыя ўяўленні аб галактыцы такія адлеглыя і непераадольныя, што няма да мяне падыходу і крытэрыяў.

Асобныя кнігі часам атрымлівалі дадатныя рэцэнзіі, толькі трактаваліся яны так, нібыта нехта прынёс вазон для кветак, але тут невядома гэта начны гаршчок, каструля з гарохавым супам, плюйніца або прыгожая скульптура. Невядома што! Выклікала клопат тое, што я быў няўлоўным і нелакалізаваным. Цяжка было зразумець, аб чым у кнізе гаворка. Сёння, калі аб "Масцы" піша нейкі заходні прафесар, то ён адразу заўважае, што гэта кніга аб вольнай волі. Ён папросту ўваходзіць у сапраўдную праблематыку, а не блукае сярод рэмарак, у якіх сам твор адыходзіць на задні план. Якраз аб гэтым і ідзе гаворка.

Але тут ёсць яшчэ прычына. Каб дакапацца да тых рэчаў, аб якіх я пісаў, трэба быць абазнаным у гэтых пытаннях. Кожны пісьменнік прыцягвае пэўны тып крытыкі: або на грунце духоўнай роднасці, або падобнага погляду на свет, або тоесных культурных фармацый. А ў маім выпадку зусім не так. Усе крытыкі, якія ў нашай краіне надаюць тон літаратурнаму жыццю, з'яўляюцца паланістамі. Прынамсі пераважная бальшыня. Тым часам я з іншай парафіі. Вы самі мне нядаўна прыносілі апублікаваныя ў часопісах закіды аб незразумеласці. Так, гэта праўда, і гэта таксама выразна выяўляецца ў тым, што мае даўнейшыя кнігі, у якіх было менш інтэлектуальнага элемента, мелі значна большыя тыражы. Крытык таксама аказваецца некампетэнтным. Я ўяўляю сабе, напрыклад, што аб маёй творчасці можна напісаць кнігу, якая была б зусім адчужанай ад асноўнага

**праблемы анталогіі. У 1964 г. быў апублікаваны "Непераможны", невялікі раман аб "некрарэвалюцыі" робатаў, зрэдукаваных да мікрачастак, якія аб'ядноўваюцца ў вялікія думаючыя сістэмы, і з якімі людзі вядуць беспаспяховую вайну.**

**Зусім іншую танальнасць мае "Высокі замак" (1966), успаміны аб вельмі нетыповым львоўскім маленстве, у якіх акрэсленыя абрысы набывае прывід "гратэскавага грамадства". "Голас Госпада" (1968) адкрывае новы этап у творчасці Лема: дзеянне тут вельмі павольнае, апісваецца змадэляваная сітуацыя, інакш кажучы, на змену дзеянню тут прыходзіць мысленне. У тым жа 1968 г. з'яўляецца зборнік "Аповесці пра пілота Піркса", аб галоўным персанажы якога мы пагаворым асобна.**

**Канец шасцідзесятых – пачатак сямідзесятых гадоў азначаецца выхадам вельмі канцэптуальных, але часам і "цьмяных" кніг Лема: гэта найперш праца аб тэорыі літаратурнага твору "Філасофія выпадку" (1968), якая стваралася як спроба новага прачытання фенаменалогіі Р. Інгардэна. "Фантастыка і футуралогія" (1970) апавядае аб літаратуры *Science Fiction* і перспектывах футуралагічнага мыслення, а ў "Поўным вакууме" (1972) змешчаны рэцэнзіі на неіснуючыя кнігі, дзякуючы якім, відавочна, гэты твор карыстаўся пэўнай папулярнасцю.**

**Прыкладна ў гэты час выходзяць яшчэ два ўласна літаратурныя творы Лема: "Футуралагічны кангрэс" і "Прафесар А. Доньда", з серыі прыгодаў Іона Тыхага, якія, так сказаць, кідаюць цень на**



 

масіву літаратуры, і прэзентавала б маю ролю як антэны, што з апярэджаннем выхоплівае адкрыцці або вынаходы навуковай думкі ў галіне фундаментальных праблем. Возьмем, напрыклад, мой тэзіс з "Голема" аб узаемадачыненнях спадчыннай субстанцыі і арганізмаў. Калі б нехта захацеў за гэта ўзяцца, то такая праца вымагала б ад яго каласальнай эрудыцыі, якая б поўніцай выходзіла за абсяг літаратуры. Між тым у маіх кнігах ёсць мноства падобных рэчаў і з розных сфер навуковага пазнання. Гэта б не была праца, якую можна назваць літаратурна-крытычнай. Я стаю наводдалі ад усіх. Таму мяне выгналі з усіх сусветаў, бо я не змог укараніцца ў ніводным. З гэтага я і мусіў адысці ад фантастыкі, бо яна ўступіла ў выразную супярэчнасць з мысленнем і навукай.

**С.Б.** Ці ваш такі рашуча скептычны погляд на цывілізацыйную сапраўднасць дваццатага стагоддзя дазваляе сцвярджаць, што ўжо назіраецца паталогія культуры?

**С.Л.** Ізноў цяжкая рэч. Паталогія культуры прадугледжвае, што існуе нейкая надкультурная норма. Калі меркаваць, што мы належым да міжземнаморскай культуры ў яе сучаснай фазе, то трэба сказаць, што паталогія культуры пануе паўсюль. Можа, гэта прыкра і дзіўна, але для нас *tertium comparationis* з'яўляецца мінулым часам <...>

Вердыкт, у якім месцы назіраецца паталогія культуры, вельмі цяжкі і рызыкоўны. Скуль ведаць, ці назіраліся ў адзінаццатым стагоддзі ў Кітаі паталагічныя з'явы? Якая будзе ацэнка рацыяналіста і атэіста эпохі, у якой добры Бог асуджаў на пакуты мёртванароджанае і неахрышчанае дзіцё? Дзе тыя іманентныя і ўведзеныя звонку крытэрыі, паводле якіх можна было б гэта ацаніць? Цяпер у нас культура, якая нагадвае жудаснае чэрава, што паглынула парэшткі раней існых культур і ўтварыла з іх кашу. Гэта відаць у масавай культуры, калі людзям не стае іх уласнай рэлігіі, і яны шукаюць сабе нейкага гуру <...> Гэта цяжкая справа, і на яе немагчыма даць кароткі адказ. Тут трэба было б напісаць кнігу.

**З польскай пераклаў Валерка БУЛГАКАЎ.**

*мінуўшчыну будзе тым больш плённым, чым больш рашуча ён адкіне як класічныя ўтопіі тыпу Маруса-Платона, так і некалі модныя антыўтопіі ў духу Хакслі-Оруэла. Абедзве яны з'яўляюцца статычнымі і замкнёнымі; аніводная з іх не аддае належнага бязмежным магчымасцям сучаснай Science Fiction у эпоху, палярызаваную паміж законамі вялікіх лічбаў і этычным выбарам. Безумоўна, SF ужо ад часоў Уэлса прыняла шырока зразуметую матэрыялістычную філасофію гісторыі, але без дыялектыкі гэта можа прывесці да старой супярэчнасці паміж танным аптымізмам і цынічнай роспаччу. Якраз таму ўлюбёнай фігурай Лема, пісьменніка дыялектычнага, і ёсць эсхаталогія – наданне сабе права на канчатковую нязменную дасканаласць; няважна, ці будзе гэта рэлігійны міф у хрысціянскім сэнсе, ці свецкі міф псеўдамарксісцкага тыпу, ці міф ліберальны.*

***Карлгайнц ШТАЙНМЮЛЕР***

*Безумоўна, навуковая фантастыка ўтрымлівае шмат фактаў, якія сведчаць адно аб убогім уяўленні або разумовай бязладзіцы ў пісьменніка. Але гэта не пра Лема. Матэрыял, узяты з кнігаў гэтага слыннага польскага пісьменніка, не можа, безумоўна, служыць доказам у дыскусіях матэматычных або прыродазнаўчых навук. Тым не менш ён*

**будучыню нашай цывілізацыі. Канец жа 70-х гг. азначаецца з'яўленнем зборнікаў апавяданняў "Маска" (1976) і "Насмарк" (1976).**

**На пачатку наступнага дзесяцігоддзя выходзяць кнігі "Голем XIV" (1981) і "Бібліятэка XXI стагоддзя" (1986), якія па сутнасці, з'яўляюцца своеасаблівымі, вельмі змрочнымі эсэ. Іон Тыхі зноў фігуруе ў якасці героя двух раманаў – "Лакальнага погляду" (1982) і "Міру на Зямлі" (1987), што таксама ў прынцыпе можна класіфікаваць не як эпіку, а хутчэй як эсэ. А вышэйзгаданы пілот Піркс з'яўляецца ў новым аповедзе аб няўдалай спробе кантакту – маецца на ўвазе кніга "Фіяска" (1987).**

**Такім чынам, творчы дар Лема рэалізоўваўся ў абсягу літаратуры, эсэістыкі, філасофіі тэхнікі і тэхналогіі, і філасофіі ўвогуле, а таксама – праўда, у меншай ступені – у публіцыстыцы і драматургіі. Аднак найбольшых поспехаў Лем дасягнуў у галіне прозы, размешчанай паміж фабульным раманам і эсэ. Суадносіны гэтых двух пачаткаў увесь час змяняліся – першая фаза творчасці Лема мае перадусім прыгодніцкі і казачны характар, і доўжыцца недзе да шасцідзесятых гадоў. Пазней надыходзіць перыяд гратэску і адначасова эсэ. А недзе з сярэдзіны сямідзесятых гадоў Лем пачынае пісаць у першую чаргу раманы з акрэсленай фабулай. Варта адзначыць, што на працягу гэтага этапу адбывалася і эвалюцыя ідэалагічных асноў светабачання Лема – ён усё больш схіляецца да пазнавальнага песімізму (як прыватную праяву гэтага можна**

 



*прыдатны як ілюстрацыя і сродак эўрыстычнай дзейнасці. Асноўныя фантастычныя творы Лема (калі не зважаць на магчымасць або немагчымасць іх рэалізацыі) уяўляюць сабой выдатныя інтэлектуальныя эксперыменты (Gedankenexperimente), з якіх абавязкова будуць зроблены высновы.*

***Манфрэд ГАЕР***

*Адной з уласцівасцяў прозы Лема ёсць стварэнне кагерэнцыі* ***пры дапамозе наўмыснага паяднання адлеглых сэнсаў,*** *якія сінтаксічна злучаюцца паміж сабой у выказванні. Яе фантастычныя аб'екты паўстаюць шляхам кантамінацыі моўных знакаў, якіх у "нармальнай", акрэсленай пры дапамозе крытэрыя праўдзівасці, мове так папросту нельга спалучыць. Вобразна гэты феномен можна выявіць такім чынам: тэкст SF падобны на непраглядны вітраж, які, у адрозненне ад празрыстага акна, што адбівае свет, валодае незалежнай структурай, якая належыць толькі яму.*

***Іштван ЧЫЧЭРЫ-РОНЭЙ (CSICSERY-RONAI)***

*Лем адначасова акцэнтуе і дэфармуе гэтую Кафкаўскую двухзначнасць пры дапамозе версіі другой са сваіх "сістэмаў недаакрэслівання", якая суад-*

# СТВАРЭННЕ СВЕТУ. СПРОБА ДРУГАЯ

Неяк караля Хіпаліпа Сармандскага наведалі два місіянеры, каб гаварыць пра веру ісцінную. Хіпаліп не быў падобны да іншых каралёў. Ва ўсёй галактыцы не знайсці хоць аднаго караля, які б думаў столькі, колькі ён. Яшчэ калі быў немаўлём, то гуляў з залатымі платамі мазгавымі і будаваў вальнадумныя самадумкі. Ды так прыслухоўваўся да мудрацоў, што, калі збіраліся яго каранаваць, хацеў уцячы з троннае залы праз вакно, і пераканалі яго толькі з дапамогай таго аргументу, што іншы кароль можа стацца горшым. Лічыў, што добрыя ўрады не тыя, якія ўхваляюць або ганяць, а тыя, якіх ніхто не заўважае. Пакланяўся перад эксперыментальнай філасофіяй, у якой залічваецца тое, што зроблена, а не тое, што сказана. Таму без усялякага страху маглі айцы-канвертысты стаць перад вачыма Хіпаліпа. І не было мяжы іх радасці, калі зразумелі яны, што кароль не тое што пра Бога –ён і пра рэлігію ўвогуле нічога не чуў. Ведалі яны, што будуць сеяць слова божае *in partibus infidelium,* але каб на такую спрыяльную глебу! У пытаннях веры Хіпаліп меў розум такі самы чысты, як белы аркуш, таму сумленныя нашы місіянеры аж нагамі сучылі, так хацелася ім павярнуць авечку блудную да веры. Адразу ж расказалі яны пра Усёмагутнага Творцу, які за шэсць дзён стварыў свет, каб адпачыць у дзень сёмы; пра дух, што насіўся над водамі; пра прабацькоў, іх падзенне і выгнанне з раю; пра другое

**ўважаць яго рашучае змаганне з прызнаннем, напрыклад, парапсіхалагічных з'яваў).**

**Што датычыць тэматычнай парадыгмы творчасці Лема, то ў ёй таксама можна вылучыць некалькі пластоў, своеасаблівых аўтарскіх мікрасусветаў. Першы з іх – гэта свет пілота, назіральніка, пасіўнага аб'екта. Гэта пласт першай фазы творчасці Лема, якая вядомая па постаці пілота Піркса, найбольш папулярнага персанажа гэтага пісьменніка. Але сам Лем, здаецца, больш цэніць Іона Тыхага, гратэскавага, амаль мюнхаўзенскага героя, прайдзісвета ўсіх магчымых галактык. Недалёка ад яго знаходзяцца і троху менш знакамітыя Трурль і Кляпаўцюш, робаты-канструктары. Падчас гэтай фазы адбываецца вялікая праца з мовай, стварающа неалагізмы, базісныя паняцці. Таму ў тэматычнае кола заканамерна ўваходзяць Установа, Паліцыя, Следства, міжчалавечы Лабірынт.**

**Тэма лабірынту прысутнічае і ў наступнай фазе творчасці Лема, інтэрпрэтацыя якой, на нашу думку, будзе больш адэкватнай на ўзроўні ключавых архетыпаў. Гэта, як мы ўжо казалі, лабірынт, які ляжыць у аснове ўсяго напісанага Лемам, а таксама выпадак. Выпадак (тут цяжка не ўбачыць уплыву філасофскай сістэмы Райхенбаха) у рэшце рэшт вытлумачвае ўсё, нават тое, што выглядае як разумнае дзеянне. Сюды ж стасуецца і тэма кантакту. Ужо з самага пачатку Лем скептычна ставіўся да гэтай справы. У "Астранаўтах" цывілізацыя Венеры паказана як замкнёная ў самой сабе і варожая любым кантактам. У "Воблаку**



 

прышэсце Збавіцеля, пра каханне і дабрыню – тады кароль правёў іх з залы для аўдыенцый у прыватныя апартаменты і дапякаў там пытаннямі, а яны з цярплівым разуменнем адказвалі яму, бо ведалі, што пытанні гэтыя ідуць не ад ерасі, а ад няведання. Ашаломлены тымі рэвеляцыямі, якія давялося яму пачуць упершыню, кароль некалькі разоў прасіў паўтарыць аповед пра стварэнне свету, бо проста ачмурэў ад гэтай навіны. Пастаянна пытаў, ці ўпэўненыя айцы святыя, што Бог стварыў свет, каб насяліць яго? Ці не магло быць так, што мэтай стварэння было нешта іншае, а жыхары боскага гмаху пасяліліся там самахоць і жывуць паўз Боскае ідэі? Ці меў Бог іх на ўвазе, калі браўся за гэтую справу? А місіянеры, стрымліваючы абурэнне, якое выклікалася бязмежнай, а таму і бязгрэшнай наіўнасцю, запэўнівалі яго, што Бог стварыў свет для сваіх жа стварэнняў, бо сам ёсць чыстай любоўю і нічога акрамя шчасця іхняга не меў у думках. Інфармацыя пра такія моцныя пачуцці Творцы да Створаных мела вялізны ўплыў на Хіпаліпа. Пэўныя цяжкасці паўсталі з пытаннем пра Д'ябла, бо тут кароль праявіў сябе вельмі неартадаксальным навасхіленым. Дзівіўся не таму, што Бог цярпеў Д'ябла, а таму, што царква Д'ябла не любіць.

– Але ж гэта – як каналізацыя, – сказаў ён. – Рэч непрыемная, але неабходная. Калі не было б Д'ябла, то Богу самому давялося б займацца пеклам, а гэта кепска стасавалася б з яго бязмежнай дабрынёй. Заўсёды лепей даручыць каму іншаму займацца такімі далікатнымі справамі. А інакш не атрымаецца, без пекла ўсё зруйнуецца або давядзецца новы свет ствараць: стары ж праектаваўся з пеклам. Так што павінна царква афіцыяльна прызнаць неабходнасць існавання Д'ябла.

Аднак нейкім чынам перамаглі златавусныя місіянеры каралеўскія забабоны, вывелі думкі ягоныя на чыстыя воды і на дваццаць дзевяты дзень прыняў Хіпаліп веру, – нават паплакаў, узрушаны гэтым, – а двое таксама ўзрушаных місіянераў падарылі яму Біблію ў цвёрдай вокладцы і рушылі далей здзяйсняць подзвігі ў славу Божую. Кароль жа зачыніўся на тры тыдні ў сваіх апартаментах, раду не склікаў, нікога не прымаў, аднаго

*носіцца з літаратурным мадэрнізмам. Гаворка тут ідзе аб узаемапранікненні нарацыйных структур, якія па-за тэкстам здаюцца яўна рознымі, і нават неспалучальнымі паміж сабой. Гэты метад крэацыі выклікае адваротны эфект ад ужо згаданага і недаследаванага сакрэту "структурнага адпаведніка экзістэнцыяльнай таямніцы". Чытач адчувае, што элементы нарацыі не чужыя яму, што яны "маюць магутныя культурныя карані" і паведамляюць "прымальны для яго пералік магчымых падзеяў".*

***Джон РОСФАРК (ROTHFORK)***

*Такім чынам, навідавоку відавочнае зацікаўленне Лема будызмам, ці, прынамсі, яго ход мыслення супадае з будызмам, паколькі адной з улюбёных тэмаў пісьменніка, да якой ён звяртаецца ў сувязі з кібернетычнай алхіміяй, што стварае свядомасць машын, ёсць праблема тоеснасці. Лему як матэрыялісту не даюць спакою душы і духі. Не можа ён таксама даць веры і пастаянству космасу, які, па сутнасці, ёсць працэс абмену энергіі. Урэшце яго вельмі цікавіць і асноўная праблема чалавека: прага пастаянства або абсалюту ў сусвеце, у якім гэтага няма. Гэтыя тры тэзы – што ўсё можна зрэдукаваць да пазбаўленай формы энергіі (anatta), што працэс змянення з'яўляецца*

**Магелана" кантакт не ўдаецца, а ў "Эдэне" ён увогуле немагчымы. У "Салярысе" спроба кантакту таксама не дае памысных вынікаў, і зноў дарэмнымі будуць спробы "выйсця з сябе" ў "Непераможным", "Голасе Госпада", "Фіяску". Тут, здавалася б, за малазначнымі фактамі адсутнасці кантакту крыецца квінтэсенцыя духоўнага досведу XX стагоддзя: немагчымасць завязаць кантакт з нечым іншым, немагчымасць паразумення з уласным лёсам, з трансцэндэнцыяй, з Богам. Лем заяўляе пра свой атэізм, але нягледзячы на гэта якраз яму можна прыпісаць надзвычай інтэнсіўны пошук Бога – нават калі апошні і не існуе.**

**Можа ўзнікнуць ураженне, што творчасць Лема адбывалася ў разрыве з польскай літаратурнай традыцыяй, і нават больш таго, што паміж імі існуюць антаганістычныя дачыненні. Гэта слушна толькі часткова, паколькі ў Лема ў польскай літаратуры існавалі папярэднікі (назавём прозвішчы Жулаўскага і Грабіньскага). Па-другое, з ёй Лема лучаць і некаторыя выяўленчыя фігуры – гратэск, які вельмі часта прысутнічае ў яго творчасці, і які мае багатую перадгісторыю ў польскай літаратуры (прыгадаем, як непаўторна рэалізавалася гэтая фігура ў творах Станіслава Віткевіча), а таксама структура апавядання або, кажучы сухой навуковай мовай, дыгрэсіўная прырода нарацыі. Але разам з гэтым нацыянальны вымер занадта цесны для Лема, паколькі ён універсальны пісьменнік, які творыць у маштабе чалавецтва, жыцця, свядомасці ці, увогуле,**

 



*асноўным працэсам (anicca), а таксама што чалавечая псіхіка кіруецца прагай таго, чаго няма ў ёй самой (dukka) – гэта тры асноўныя вераванні будызму.*

*Ежы ЯЖЭМБСКІ*

*Розум, досціп, шырыня гарызонтаў Лема здаецца некаторым проста несумяшчальным са стэрэатыпам прымітыўнай, аўсяна-бульбянай Польшчы. У рэцэнзіі на "Поўны вакуум" Энтані Бургес (Burgess) наўпрост пытаецца: ці магчыма гэта, што Лем жыве ў Польшчы?*

*Пакінем гэтае пытанне ўбаку і здзівімся таму, што нарэшце польскі пісьменнік быў заўважаны на Захадзе і стаў там папулярным. Дагэтуль усё-такі нават найвялікшым: Віткацы, Шульцу, Гамбровічу ці Мілашу даводзілася змагацца за папулярнасць з трэціраднымі мясцовымі аўтарамі, і сапраўды вядомымі яны былі толькі спецыялістам. Папулярны слоўнік пісьменнікаў XX стагоддзя выдавецтва Лонгман (Longman) з Вялікабрытаніі не ўтрымлівае, апрача Конрада,* ***ніводнага*** *польскага прозвішча. Толькі на гэтым фоне становяцца зразумелымі сапраўдныя вымеры поспеху Лема.*

толькі разу паслаў па цесляра, бо зламалася прыступка ў драбін бібліятэчных. А калі аднаго ранку выйшаў да саду, то глядзеў ужо на найдрабнейшую травінку як на стварэнне Божае; вярнуўшыся ж да палацу, загадаў як найхутчэй даслаць самога Анталога Каралеўскага ў якасці пасланніка да славутых канструктараў омнігенэрыкаў Трурля і Клапаўцюша, каб тэрмінова сталі перад каралеўскімі вачыма!

З'явіліся канструктары моцна задыханыя, бо так гнаў іх паважны пасланнік, і схіліліся перад тронам у чаканні каралеўскіх словаў. Клапаўцюш ткнуў Трурлю пад рабро, яшчэ нагадваючы, колькі, пакуль дабіраліся да палацу, убіваў таму ў галаву: каб не выскокваў, як Піліп з канаплі, а кожнае слова разы з тры пракручваў у галаве, перад тым як рот адкрыць. Але лепш за ўсё сядзеў бы ціха. Ён, Клапаўцюш, возьме аўдыенцыю цалкам на сябе.

– Вітаю вас, даражэнькія мае, і дзякую, што не затрымаліся, – пачаў Хіпаліп, запрашаючы сесці. – Слухайце ўважліва, бо нешта вялікае хачу паведаць і здзяйсненне гэтага вялікага ад вас залежыць! Нядаўна былі ў мяне два іншагалактычнікі, ад якіх даведаўся я, што космас не безгаспадарная рэч, бо мае Аўтара. Ёсць гэтым аўтарам Бог, асоба, як мне паведамілі, вельмі добрая, у якую я паверыў без ваганняў, чаго і вам жадаю. Заўтра выдам эдыкт каралеўскі, згодна з якім кожны мой падданы атрымае Святое Пісьмо на аўдыёкасеце, аднак выклікаў вас я не па гэтай справе. Ведаю, што свет не рэч у сабе, і не рэч у чым іншым, бо быў створаны асабіста Творцам нашым як дом для істот, якія ён жа сам стварыў. Так што Бог сваё зрабіў, і, думаю, цяпер мая чарга сваё зрабіць. Тыя двое, якім я ўдзячны за тое, што прывялі мяне да веры, казалі горача, што з гэтага часу павінен я ў першую чаргу клапаціцца пра ўласнае выратаванне. Выслухаў гэта, не перапыняючы, аднак ведаю, што рабіць. Я не такі, каб у першую чаргу пра сябе думаць. Бо існаванне ўсіх нашмат важнейшае за маё! Гэтаму і хачу прысвяціць рэштку свайго жыцця. Ведаю, пане Трурль, тваю працу "*De Impossibilitate Felicitationis Satiandae Entium Sapientium*", але не ўзрушыла яна мяне асабліва, бо чаму, думаў я, павінны мы някепска існаваць у кепскім свеце? Апошняй рэччу, якую я гатовы быў

**экзістэнцыі. Таму ў Лема адсутнічае польскацэнтрычнасць, а яго праблематыка блізкая кожнаму, хто разважаў над такімі агульнымі пытаннямі, як прырода і межы свету, чалавечая кандыцыя, праблема розуму, пазнання, існавання і атрыбутаў Бога (можа, якраз дзякуючы гэтаму прадуктыўным будзе прачытанне яго творчасці ў кантэксце сусветнай літаратуры: вытокі праглядаюцца ў "Эпасе аб Гільгамешу", у творах Лукіяна, Г. Уэлса, у *romans scientifiques* Жуля Верна і г.д., апрача таго, творчыя канцэпцыі Лема паражылі пэўны ўплыў французскага структуралізму і *nouveau roman*).**

**Станіслаў Лем у сваіх творах як правіла не выходзіць за межы традыцыйнай паэтыкі *Science Fiction*, якая рэалізуецца ў двух кірунках: перадусім шляхам праектавання будучага, чужога і фантастычнага свету, змянення парадку свету, падзеі ў якім могуць развівацца розным чынам: як сукрытыя прагненні або як трывіяльныя, ідэалагічныя ці зашыфраваныя памкненні. Адначасна паэтыка SF прадугледжвае крытыку і дэканструкцыю мовы, якая вызначаецца праз часавы і лагічны прыярытэт азначанага.**

**Дэканструкцыя праводзіцца так, што значэнне галактычных прастораў выяўляецца як эфект функцыянальна-фантастычнага тэксту. Не непасрэдная сапраўднасць, якая пачуццёва з'яўляецца пры сузіранні, ёсць прадметам свядомасці, а сапраўднасць ужо ўяўленая, выдуманая, моўна рэпрэзентаваная або сканструяваная. Тым не менш**



 

прызнаць да таго, як паверыў у Бога, была дасканаласць касмічнае пабудовы! Думаў, што калі ўсё гэта само па сабе раскруцілася, зайграла і паразляталася, то нельга да нікога і прэтэнзіі выстаўляць за пэўныя недахопы, а таму няма ў дэфектах існавання нашага ніякіх праблем. Цяпер жа, так як веру ма́ю, не магу думаць таксама! Змяніўся парадак рэчаў! Веру і не сумняваюся, што Творца ёсць бясконца добры, бязмежна спрыяе нам ва ўсім, што Ён хацеў зрабіць усё як найлепш, быўшы перфекцыяністам, аднак не веру, што немагчыма было тое зрабіць лепш!

– Ці давёў тое да разумення айцоў духоўных, Твая Каралеўская Вялікасць? – спытаўся пасля дыпламатычнае паўзы Клапаўцюш.

– Што? Не. Перш за ўсё не хацеў іх абразіць, а па-другое, не бачыў сэнсу ў тым, каб апавядаць ім пра падобнае. Бо яны добра знаюцца на тэалогіі, а не на тэхналогіі, а я цяпер думаю менавіта пра гэты бок справы. Нічога ім не сказаў, бо не хацеў захраснуць у няплённым крытыканстве, аднак, як прыхільнік эксперыментальнае філасофіі, жадаю ўзяцца за працу. Павінен прызнаць, што найперш захацелася мне падрамантаваць Створаных, бо і з пункту гледжання матэрыялу не вельмі яны прыстойныя і з пункту гледжання функцыянавання, не кажучы ўжо пра стан разумовы, – аднак прыгадаў тваю працу, пане Трурль. Ты таксама не кранаў свет, а толькі жыхароў ягоных хацеў падправіць. Прабач, шаноўны, аднак ты ўсё перакуліў дагары нагамі. Падганяць жыхароў пад іх жыллё! Хто ж пра такое чуў? Трэба зрабіць наадварот! Жадаю вырабіць альтэрнатыўны свет.

– Кароль хоча зрабіцца неакасмічным інвестарам, а нас прызначыць генеральнымі падрадчыкамі?

– Добра то сфармуляваў, пане Клапаўцюш. Ведаю, што пабудаваць новы свет – не тое самае, што вырабіць новую арфу, аднак не палохаюць мяне аб'ектыўныя цяжкасці. Калі б стварыць Сусвет было гэтаксама лёгка, як вылепіць гладыш, то сам бы ўзяўся за гэтую справу і не адрываў вас ад працы.

– Прабач, Твая Каралеўская Вялікасць, – сказаў Клапаўцюш, – аднак незразумела мне, як, выдаючы, што верыш у Бога, хочаш зрабіць свет, які супярэчыць дагматам тваёй веры?

– Чаму супярэчыць? – здзівіўся Хіпаліп. – Іншы, але не такі, які супярэчыць. А ты бачыш у маім плане супярэчнасць?

– Падаецца мне, што так.

– Памыляешся, і зараз пакажу табе на тваю памылку. Ці верыш у існаванне апаратаў лятальных?

– Веру, бо яны існуюць.

– А ў алгебру верыш?

– І яна існуе. Веру. Таму што пераканацца ў існаванні таго і другога магчыма праз дотык або матэматычнае абгрунтаванне.

– Вой, вой, – усміхнуўся кароль, – бачу, на чым хочаш мяне злавіць, аднак нічога ў цябе не атрымаецца. Верыш таксама і ў тое, чаго не правяраў эксперыментальна і ніколі не праверыш. Напрыклад, у існаванне лічбаў настолькі вялікіх, якіх напэўна не зможаш палічыць, у існаванне сонцаў, якіх ніколі не ўбачыш. Ці праўда?

– Абсалютна.

– Бачыш. Дык што, калі ты ў гэта верыш, то не зможаш збудаваць нейкую новую

---

**свядомасць у кожным выпадку застаецца інтэнцыянальнай. Гэта свядомасць Чагосьці.**

**Таму нядзіўна, што творчасць Лема дзякуючы сваёй усёабсяжнасці і шматаблічнасці прыцягнула ўвагу структуральна-семантычнай, псіха-і-шызааналітычнай крытыкі; яна таксама разглядаецца ў кантэксце філасофіі Дзэн, фенаменалогіі і моўна-аналітычнай філасофіі, адметнай рысай якой выступае строгае размежаванне значэння і сэнсу, прычым азначаны моўным знакам рэпрэзентацыйны аб'ект уяўляе значэнне, а выказаны сэнс – гэта толькі спосаб існавання моўных зместаў.**

**І ўсё ж, у чым складнікі поспеху Лема?**

**Наш адказ на гэтае пытанне будзе такім: даступнасць яго кніг, якія выдаюцца вялікімі тыражамі і перакладзены на дзесяткі моваў, існаванне вялікай крытычнай літаратуры аб ім, факт прыналежнасці Лема да ліку тых пісьменнікаў, якія абавязкова згадваюцца ва ўсіх выданнях, прысвечаных SF як жанру, універсальнасць разглядаемых ім пытанняў, што робіць Лема не толькі цікавым, але і зразумелым для чытачоў з розных краін свету і, нарэшце, авалоданне Лемам амаль усімі жанрамі "вялікай" апавядальнай літаратуры: аўтабіяграфіяй, навуковай эсэістыкай, тэарэтычна-літаратуразнаўчым нарысам, дэтэктыўным раманам. Якраз гэта і робіць магчымым шлях у кірунку да Лема.**

**Валерка БУЛГАКАЎ**

 



машыну лятальную, або стварыць канцэпцыю новае алгебры? Хіба існуючая алгебра робіць для цябе немагчымым стварэнне іншае?

– Не, пане. Аднак сам жа казаў, што Бог стварыў свет праз міласць сваю да стварэння. Так што, будуючы іншы свет, гэтым самым адкідаеш міласць божую.

– *Nego consequentiam!* Нічога падобнага! Скажам, напрыклад, бацька пабудаваў табе дом. Хіба з таго, што побач ты хочаш паставіць іншы, вынікае, што не шануеш болей бацьку, або пагарджаеш ягонай любоўю? Не бачу аніякай супярэчнасці паміж маім жаданнем пабудаваць новы свет і любоўю Найвышэйшага. Пераканаў цябе?

– Адмаўляешся ад дарунка, згодна тваёй веры – дасканалага. Або не так?

– Чаму адразу ж адмаўляюся? Хіба казаў, што хачу пайсці з гэтага свету? Прагну зрабіць пэўную спробу і толькі. Да таго ж не забывайся, што я таксама з'яўляюся часткай Стварэння, і адмаўляцца ад сябе самога не збіраюся.

Клапаўцюш моўчкі пакланіўся і, бачачы, што Трурль адкрывае рот, моцна таўкануў яго ў бок. Кароль, не заўважыўшы гэтага, працягваў:

– Пяройдзем цяпер да дырэктываў! Яшчэ калі быў я інфантам, казалі мне настаўнікі, што свет існуе сам па сабе, а мы, хаця і знаходзімся ў ім, таксама самі па сабе. Свет ані дбае пра нас, ані шкодзіць нам знарок, бо не быў створаны спецыяльна для нас. Калі то і каморка, то не для мышэй пастаўленая, каб тыя ў ёй жыравалі. А калі не для іх пастаўленая, то і не дзіва, што паліцы вісяць высока, што магчыма патануць у збанку з малаком і што трапляюцца па кутках субстанцыі неядомыя.

– А як наконт пасткі на мышэй, ТКВялікасць? – не вытрымаў Трурль.

Хіпаліп усміхнуўся.

– Думаеш пра д'ябла? Гэта, пане Трурль, экстрэміст, без якога не абысціся! Д'ябал у Божай справе ёсць тым самым, чым рэгулятар у паравой машыне: без яго ўсё разляцелася б! Разумееш? У пэўным вышэйшым сэнсе плюс працуе разам з мінусам, а рух да таго часу раўнамерны, да якога імпульсы супрацьлеглыя ўраўнаважваюцца. Аднак пагамонім пра гэта калі пазней. Пераканалі мяне, што ёсць Нехта бясконца добры, які прадаставіў нам касмічныя кватэры, наглядаючы, каб тыя былі як мага болей дакладна павёрнутыя перадам да жыхароў. Усё ў боскай справе ёсць для жыхароў ягонага свету, усё пасуе проста выдатна, усё адмерана дакладна, бо мэтазгодна, а калі што і душыць, пячэ, катуе або нават лупіць са скуры, гэта таксама праява дабрыні бясконцай боскай, бо мізэрны жыхар не адразу можа ва ўсім разабрацца. Тэолагі яму дапамогуць: існаванне, уплеценае ў матэрыю, ёсць сегрэгатар дыдактычны, або тая самая рэч, якая аддзяляе зерне ад пустазелля. Так як люблю простую навуку, то ўбачыў стварэнне свету ў вобразе універсітэту з іспытамі конкурснымі. Аднак, як толькі паехалі ад мяне айцы добрыя, заўважыў з трывогай, што не толькі гэты свет, але і кожны іншы можна лічыць дарункам бясконцае міласці. Уявіце сабе свет, у якім ад усяго баліць. Хто ў ім вымысліць літарынку, то адразу стогне, а хто цэлы алфавіт – амаль канае. Нават калі пра Бога падумае, быццам са спіны пасы рэжуць. Няхай сабе скуголяць там, хай з-за пякучага сонца ва ўсе бакі ляціць ад іх гарачая луска. І што? Хіба нельга ўхваляць такі свет, кажучы, што гэты боль добры, бо вядзе да раю, а жахлівыя непрыемнасці перасцерагаюць ад здзяйснення граху? І хіба магчыма ўвогуле вымысліць свет такі жахлівы, каб ніхто, абсалютна ніхто не мог назваць яго прыкладам бязмежнае дабрыні Творцы? А калі б то было сапраўднае пекла, то і тады можна суцешыцца, кажучы сабе, што гэта толькі макет, а сапраўднае пекла знаходзіцца ў іншым месцы, і там нашмат горш. Давядзіце мне, калі ласка, што гэта не так! Атрымліваецца, тэадыцэю магчыма паставіць у кожны тып свету і казаць, што той, хто верыць у Бога нават тады, калі ад такое веры пер'е ляціць, зарабляе пэўнае месца сярод святых. Такім чынам, ухвалы, якія пасуюць да ўсяго, няшмат чаго вартыя...

– А кароль і гэта расказаў сваім айцам духоўным?

– Да словаў каралеўскіх трэба прыслухоўвацца ўважліва, шаноўны пане. Сказаў, што прыйшло гэта да мяне, калі айцы ўжо з'ехалі. Думаю, што наш свет не ёсць адзіны. Пэўнае пацверджанне гэтаму магчыма знайсці ў Святым Пісьме. Возьмем, напрыклад, страшны суд. Пасля якога нічога цікавага ані радыкальна новага ўжо не адбудзецца. Дык што ж, пасля апошняе справаздачы Бог не будзе болей нічым займацца? Цяжка даць веры.



 

Сапраўдны творца не задаволіўся б толькі адным стварэннем. Вядома, светы не вельмі ўдалыя з'яўляюцца для яго цяжкай дылемай. Захаваць кепска і знішчыць нядобра, бо якое на гэта права? Падаецца, што спрабаваў адразу ж нешта паправіць з дапамогай так званых цудаў, але потым вырашыў не турбавацца...

– А чуў ТКВялікасць пра ерась і блюзнерства?

– І што гэта ты прыліп да мяне са сваімі пытаннямі? Можна падумаць, што стаю перад судом епіскапскім. Так, чуў я пра вераадступніцтва, аднак ідзе яно заўсёды ад нелюбові да Творцы, я ж, наадварот, хачу дапамагчы яму.

– Пане, – пачаў, пакашляўшы, Клапаўцюш, – знаходзімся мы цяпер перад вельмі далікатнай эгзэгезай тэалагічнай. Баюся, што кароль для выканання сваёй ідэі паклікаў не тых...

– Памыляешся. Бо я не адступаю ад веры і не збіраюся рэфармаваць яе. Рухаюся не ў напрамку вераадступніцтва, а ў напрамку генезісу.

– Але ж..., – пачаў быў Трурль, аднак Клапаўцюш наступіў яму на нагу і пакланіўся каралю, мовячы:

– Добра! Які сусвет хоча пабудаваць ТКВялікасць?

– А вось гэта патрэбна абмеркаваць! Згодна інфармацыі тэолагаў, Бог у сваім творы змясціў два абмежавальнікі. Адзін звонку Створаных, другі – усярэдзіне. Бог усё чуе, хаця не адказвае. Раней даволі шмат гаварыў, аднак потым чамусьці змоўк. Так што прамая сувязь з Богам у нас аднабаковая. Другі абмежавальнік мае больш складаныя клапаны. Бог гэта такі інжынер, які, ствараючы іншых інжынераў, ужо на чарцёжнай дошцы так іх абмежаваў, каб яны не маглі займацца творчай працай з ім як роўныя. Так казалі мне мае настаўнікі, аднак падалося мне такое абмежаванне настолькі дзіўным, што я спрабаваў збіць іх з гэтага сцвярджэння, аднак стаялі яны на сваім моцна. А супрацоўніцтва не павінна пачынацца ад нізкіх намераў. Вынаходнік новага леку не ставарае яго, каб адсунуць убок вынаходніка існуючага леку, а каб больш эфектыўна змагацца з хваробай. Так што навошта стваральніку новага свету рабіць змову супраць стваральніка ўжо існуючага свету? Згодна місіянерам, Бог падазрае кожнага, хто хоча ўвайсці з ім у долю пры стварэнні свету, у брудных намерах. Быццам хоча той не тварыць дасканалы свет, а захапіць трон нябесны; думаю, аднак, што Бог – асоба болей сціплая і таму значна болей абаяльная, чым мяркуюць тэолагі. Як вядома, справа кажа пра чалавека болей, чым словы. Калі ўважліва паглядзець на свет, то бачна, што створаны ён вельмі дыскрэтна і амаль ананімна. А хіба немагчыма было змясціць на кожнай травінцы фірменны знак? Не ўсялякія там агульныя значкі, не каментарыі (бо Пісанне – каментарый да Стварэння), а менавіта арыгінальныя знакі, якія б наўпрост указвалі на аўтэнтычнасць боскага аўтарства! Спрабую я тлумачыць божай сціпласцю ананімнасць касмічную, што прыносіць тэолагам амаль няспынны галаўны боль. Бог настолькі добра схаваў сваё аўтарства, што падаецца, быццам яго ўвогуле не існавала. Нават выпадкова ананімнасць ніколі не раскрывалася. А схаваўся, бо хацеў зрабіць так. І гэта мне падабаецца! Добра разумею падобную далікатнасць. Але мне місіянеры заткнулі рот. Згодна ім, Бог даў нам свет з міласці сваёй, а схаваўся, каб адчувалі мы сябе абсалютна вольна. Пакуль садоўніка бачна, то ніхто не пхаецца на яблыню. Але таго, хто карыстаецца гэтай вольнасцю і палезе на яблыню, чэрці схопяць. Аднак як на мой розум, то нейкая тут сумніцельная выхаваўчая мэта. Даваць для таго, каб не бралі, то навошта даваць? А калі бяруць па інерцыі, а не праз нявыхаванасць? Калі мы не такія вольныя, як стыхія, то будзем хаця б як выбітая вось, што ляціць куды заўгодна, бо такі ўжо ў яе вясёлы характар. Пытаўся пра гэта ў айцоў, а яны адказвалі, што той, хто задае такія пытанні, шалее або грашыць, або балван ці ерэтык, які лічыць, што лепей ведае боскія справы. Магчыма і так. Бога не кранаю, але ад вас такога адказу прыняць не магу. Кажу гэта адразу, каб потым не было непаразуменняў. Даю вам поўную свабоду, стварайце смела, толькі не абы-як! Усё павінна быць выканана грунтоўна, з аптымізацыйнай, а не хібнай бесперапыннасцю... Спадзяюся, разумееце, што маю на ўвазе? Хібным аптымізатарам з'яўляецца Д'ябал – рэгулятар-інстыгатар – бо перш за ўсё схіляе нас да кепскага, а потым штурхае ў бездань. Папрасіў бы пазбегнуць падобнага экстрэмізму.

– Калі сабраць усе парады ТКВялікасці,

то магчыма прыйсці да наступнага, – сказаў Клапаўцюш... – Калі Бог заблакаваў двубочную сувязь, то мы яе разблакуем. Так як Ён быў аўтарытарным цэнтралізатарам, то нам патрэбнае стварэнне дэмакратычнае і дэцэнтралізаванае. Дэмакратыя ж азначае роўнасць. Кожны жыхар нашага Сусвету будзе мець магчымасць ствараць па жаданні ўласны свет, які яму спадабаецца. Правільна?

– Барані Божа! – запярэчыў Хіпаліп. – Зусім не так! Як жа можна пачынаць дэмакратычнае стварэнне ад выдання рэгламентуючых загадаў? Ці не будзе гэта *contradictio in adiecto?* Проста дзіўлюся, пане Клапаўцюш, што мог ты так пра мяне падумаць. Не лічу таксама, што Бог мог абсалютна закрыць для нас шлях светастварэння, бо інакш не было б сэнсу брацца за працу. Не налягаю таксама і на зваротную сувязь, бо вы мне перш стварыце той свет ды засяліце яго, а ўжо потым пабачым, ці ёсць там з кім размаўляць. Дух духу не роўны, і вы, панове, самі колькі іх навыраблялі, таму добра пра гэта ведаеце. Не цяжка стварыць пэўную істоту з недахопамі, а потым атрымліваць тузіны рэкламацый і прэтэнзій. Больш цяжка стварыць яе без недахопаў!

– Тады нічога не разумею, – прамармытаў Клапаўцюш. – ТКВялікасць дае нам поўную свабоду праектавання? Павінны мы самі стварыць ідэальнае існаванне паводле нашага разумення? Кхм, як бы гэта сказаць... не абразіўшы тваю пасаду ды вушы, значыць гэта будзе дуумвірат, а не трыумвірат, калі мы двое павінны зрабіць усё, а найяснейшы пан нічога.

– Ну што ты там кажаш? Як гэта нічога? – засмяяўся кароль. – Я ж буду ацэньваць, ці атрымалася ў вас стварэнне. Толькі я яшчэ не скончыў. У дэталі ўдавацца не буду, але на вашым месцы я пераправерыў бы самыя розныя прататыпы і толькі потым звязаў бы ўсё ў адзіны вузел, хаця гэта ўжо вашая турбота. А вось чаго патрабую перш-наперш: каб вы зрабілі справядлівасць заўсёднай! Цяпер яе непазбежнасць, шчыра кажучы, мае скандальны характар. Калі штосьці хаця раз адбылося, тое ўжо не адчэпіцца. Каму бліжні зруйнаваў зямное жыццё, дык той у якасці кампенсацыі атрымлівае вечную святасць. Аднак жа заўтрашняя каўбаса не наталіць учарашні голад, нават калі яна бясконцае даўжыні. Не такое прагну я арыфметыкі, бо не бачу аніякага сэнсу ў тым, што будучая ідэальнасць анулюе мінулае паскудства. Няўхільнасць часу – вось у чым галоўная нелаяльнасць існавання! Паўсюдна вядома, што калі хто пачынае жыць, то сам па сабе і шкодзіць няведаннем правільнага існавання, а той, хто жыць ужо заканчвае, той напэўна ведае, што да чаго і як што рабіць, аднак веды гэтыя прыходзяць да яго запозна. Замагільны свет, створаны Богам, гэта такая станцыя апошняга абслугоўвання, на якой нішто не рамантуецца, а толькі сегрэгуецца: даслаць да анёлаў або варыць у смале. Але той бок справы, што зло можа быць вынікам няўмольнае прыроды часу, чамусьці пад увагу не бярэцца. Таму і кажу вам, каб узяліся вы за час. Хто саграшыць, той зможа грэхануляваць, а калі не паправіць усё пасля першае правіннасці, то пасля дваццатай або сотай стоміцца, а, магчыма, і зробіцца-такі лепшым.

– Так! Можна зрабіць анізатропны сусвет! – выкрыкнуў Трурль, які не мог ужо надалей маўчаць. – Анізатропны свет з часам, што бяжыць назад, ён пераключаецца ў пэўных месцах, якія завуцца спецыяльнымі пунктамі кантыныуму!

– А чаму менавіта так? – пацікавіўся кароль.

– Бо такім спосабам кіраванне часам будзе залежаць ад узроўню тэхнічнага развіцця, – патлумачыў Трурль, які ажно свяціўся з радасці, што такое прыйшло яму да галавы. – Гэта будзе такой самай звычайнай уласцівасцю таго свету, як уласцівасцю нашага з'яўляецца прыцягненне. А што такое "звычайнае"? Дэмакратычнае!

– Разумею. Някепска выглядае. Калі пакажаце мне прататып?

– Магчыма, тыдні праз два. Ну? Як лічыш? – глянуў Трурль на калегу. Клапаўцюшу не да смаку было такое раптоўнае рашэнне, аднак аўдыенцыя яго ўжо стаміла, таму ён толькі згодна кіўнуў галавой.

Вяртаючыся, заўзята спрачаліся. Да хрыпаты спрачаліся і падчас працы, аднак тэрмін вытрымалі. У абумоўлены дзень прыбылі на пляц каралеўскі, цягнучы двухколавы вазок, завалены апаратамі і прыстасаваннямі. На самым версе стаялі скрыні, злучаныя кабелем. Кароль адразу ж прыбег да залы аўдыенцый, дзе пасярод пазалочаных упрыгожванняў, напаў-

спарахнелых штандараў ды гербаў дынастычных расстаўлены былі на падлозе апараты. Клапаўцюш падкручваў шрубы, а Трурль апавядаў, як наняты:

– У той, большай скрыні, знаходзіцца сілкаванне, а ў маленькай – свет! Такусенькі, пра які гаварыў найяснейшаму пану: анізатропны, са спецыяльнымі пунктамі, у якіх магчыма перастаўляць час, а пункты гэтыя адчыненыя ўсім... Вырашылі мы таксама стварыць некалькі асобаў, якія ў будучым паслугуюць нам для выпрабавання наступных сусветаў... Свабоду маюць яны поўную, і кожны робіць тое, што яму звычайна падабаецца, не зычым ім аніякіх парад, нічым іх не абмяжоўваем, каб магчыма было захаваць поўную аўтэнтычнасць паводзін... Вядома, ніводны з тых асобнікаў-пробнікаў не можа быць ідэальна такім самым у кожным іншым свеце, бо радыкальнае перарабленне анталогіі парушае таксама фізіялогію, таму дбаем мы пра як мага поўнае захаванне ў інварыянцыях індывідуальнасці, бо іначай немагчыма было б параўнаць эсенцыю з экзістэнцыяй ва ўсіх тых розных светах...

– А як магчыма туды зазірнуць? – спытаўся кароль, гледзячы на стараннае завіханне Клапаўцюша, які ніяк не мог скончыць працы, бо ногі яго пастаянна траплялі у параскіданыя паўсюль правады.

– Пакуль што ўжываем часовае прыстасаванне. Кладзем на экзістаскоп псеўдакрышталь, лазерны сігнал каскадна ўзмацняецца на выхадзе, а далей проста праектарам пераводзім выяву... ну, хоць бы на гэтую сцяну...

– Можна пачынаць! – сказаў, устаючы, Клапаўцюш. Трурль трымаў у руцэ вілку, якая слаба іскрыла, бо не было пад рукой ізаляцыйнае стужкі. Праектар запрацаваў. Алебастравыя пліты паміж пілястрамі паружавелі, і з'явіўся на іх вобраз, спачатку крыху размазаны і няўстойлівы, але амаль адразу ён зрабіўся выразным. Усе бачылі, як феадал, нейкі Марліпонт, ад'язджаючы ў крыжовы паход, казаў жонцы пра захаванне вернасці; ён нікому не даваў веры, а таму зачыніў жонку ў вуглавой вежцы замка, а за акаванымі дзвярыма пасадзіў яшчэ і вернага слугу з мячом. Для большае пэўнасці загадаў слугу прыкаваць за нагу да мура, каб той не мог нават на хвіліну адысціся. Ключ Марліпонт паклаў пад панцыр за пазуху, а маленне слугі, які прасіў хаця б бочачку соладавага піва, абмінуў увагай, сеў на каня і паскакаў за крыжакамі. Яшчэ пыл не асеў, як Крэнслін Шчодры, ягоны сусед, які быў распуснікам і таму ў паход не паехаў, пачаў лезці па плюшчы, што рос на сцяне вежы, у якой Марліпонтава жонка, прыгажуня Севіна, прала ніткі, цярэбячы сваё футра, бо лён у яе скончыўся, а па новую партыю паслаць не магла, седзячы пад ключом.

Недзе на вышыні другога паверху плюшч, які не надта моцна зачапіўся за мур, абарваўся, і разам з ім Крэнслін абрынуўся на каменны падворак, праз што няўдалы каханак зламаў абедзве нагі. З вялікімі цяжкасцямі, аднак спехам папоўз Крэнслін, енчачы ад болю і лаючы чортава каменне, да рову, дзе чакалі яго верныя слугі з коньмі. Загадаў ім уладкаваць сябе паміж дзвюма паклажамі ды гнаць як мага хутчэй да сядзібы Тшэшчыпала Сувы, старога, які трымаў у пячы вясковую тэмпорню для запавольвання ці прыспешвання часу. Прыбыўшы на месца, несумленны юнак перш спрабаваў просьбай схіліць Суву да таго, каб павярнуць час назад, а калі стары адмовіў, спасылаючыся на загад Марліпонцкі, Крэнслін паклаў перад ім тугі мяшэчак, набіты дукатамі, назапашанымі менавіта дзеля такой аказіі. Ад гэтага Сува палагаднеў, і Крэнслін, якога падтрымлівалі з бакоў, змог увайсці пад дах над каплічкай часу, дзе тырчалі рычагі. Крануў галоўны, і адразу зрасліся ў яго ногі, бо з цяперашняга панядзелка з дапамогай адваротнае шасцярні трапіў у пазамінулую нядзелю. Крыху перавёў рычаг наперад, але не надта рэзка, а паволі, каб плюшч найперш больш густа вырас; а каб прыспешыць чаканне, глядзеў у вакно, выбіраючы дзень, калі дождж ішоў, бо дажджы вельмі пазітыўна ўплываюць на карнявую сістэму раслін.

За шэсць хвілін прадбачліва перачакаўшы два тыдні, перавёў час на звычайную хаду, што той конь, паляцеў да вежы. Акрэплы плюшч проста выдатна трымаўся за шчыліны паміж камянямі, у вакне нікога не было, і Крэнслін хутка па расліне дапоўз да верху. Скокнуў у вакно. Севіна якраз зачэсвалася перад срэбраным туалетам. Ён падышоў ззаду і ўзяў яе ў абдымкі. Задрыжэла яна, але не надта. Калі зліліся яны ў моцных абдымках, загрукаталі па каменных сходах жалезныя мужавы крокі, які нечакана вярнуўся, бо забыў папрасіць жонку павязаць яму на пасе шалік на шчасце ваеннае, – усе іншыя такія шалікі мелі. Не паспеў Крэнслін

дабегчы да вакна – слугі перашкодзілі, – як увайшоў муж узброены і настолькі спрытны, што ўжо нахіляючыся ў дзвярах, каб не стукнуцца лобам аб вушак, выхапіў шаблю з похваў. Бяззбройны Крэнслін паказаў яму тыл, схапіўся за плюшч і як мага хутка папоўз уніз. А муж Севіны, рыкаючы што той мядзведзь, выпхнуў з вялікай цяжкасцю і грукатам закаваныя ў браню грудзі праз вакно і давай сячы, рэзаць ды рваць пераплецены плюшч. Абарвалася расліна, і Крэнслін абрынуўся ўніз, як камень. Падаючы, меў яшчэ розум, хоць і быў надзвычай няўдалым каханкам, крыкам нагадаць, няхай Севіна наступным разам памятае пра шалік!

Цяпер Крэнсліну пашанцавала менш, бо ў падзенні перакуліла яго, і на брук ён ляпнуўся галавой, праз што пашкодзіў розум. Але дыхаў яшчэ, таму слугі пацягнулі яго да падрыхтаванага каня і спачатку рыссю, а потым галопам паімчалі да старога Тшэшчыпала. І пакуль Марліпонт, руйнуючы ўнутранасці вежы, як млынарскі камень, што коціцца з гары, вылецеў на двор, рыкаючы: “Каня!!! Царства за каня!”, Крэнслін у тэмпорні пацягнуў мярцвеючай правай рукой патрэбны рычаг, але так неабачліва, што трапіў з красавіка ў снежань. Халадна было чакаць у неатапляльнай тэмпорні на крыжовы паход, таму крыху пасунуў рычаг наперад да самых сакавіцкіх ідаў, а тады ізноў да плюшчу.

Магчыма, Севіна пачула, што крычаў каханак, падаючы з вежы галавой у каменне, а магчыма, Марліпонт адмовіўся тым разам ад шаліка, гэта не істотна, але калі стаяў Крэнслін насупраць сваёй золатавалосай, ціха было на сходах, а стары слуга, можа, знепрытомнеў ад голаду. Аднак разважны Крэнслін, перад тым як раскрыць абдымкі, закрыў дзверы на засаўку. Гарачае каханне прымусіла абодвух забыцца на свет вакол іх, не чулі яны нават ні набліжэння, ні самое буры, што прагрукатала каля паўночы. Крэнслін узняўся на самым ранку, моўчкі перакінуў ногі праз парапет, зляцеў уніз па плюшчы на падворак, скочыў у сядло і галопам да тэмпорні. Пакружыў вакол яе, у сярэдзіне было ціха, аднак хлопец выказаў асцярожнасць: прытрымліваючы адной рукой не прыхвачаныя пасам нагавіцы, на карачках папоўзаў каля ўваходу, і слушна, бо грымнуў над вухам самапал, які паставіў нехта невядомы. Толькі тады адчыніў хлопец дзверы і хутчэй да рычага. Перавёў яго на прамінулы дзень, на самую яго сярэдзіну. Ды давай спора працаваць.

Завязаў вузлом вяроўку на бліскучай ручцы рычагу, другі канец перакінуў цераз бэльку пад столлю, адтуль праз дзірку ў даху на вільчак, з вільчака пад страху, там прывязаў канец вяроўкі да пустога вядра, вядро схаваў пад дзіравы латак, ды яшчэ смецця наваліў, прыкрыўшы ім вяроўку, папляваў на далоні, скочыў у сядло і галопам да вежы.

Болей за ўсіх здзівіла гэта яго каралеўскую вялікасць.

– Што ж гэта ён? Хіба яму наступны дзень з наступнай ноччу горшыя?

– Заўваж, міласцівы пан, што ён, як і ўсе мы, прызвычаены да прамінулага часу, – па-простаму патлумачыў Трурль. – Да таго ж ён ведае, што вярнуць мілыя сэрцу хвіліны нічога яму не каштуе, а нявыпрабаваная будучыня можа хаваць у сабе невядомыя клопаты!

– А навошта тое вядро?

– Забыўся, ясны пан, што раніцой ішоў дождж! Калі дождж ізноў пачнецца ранкам, вядро напоўніцца, пацягне вяроўку, вяроўка – рычаг, і зноў паўторыцца тое самае...

– Відаць, што вопытны тэмпорнік! – уставіў свае два грошы Клапаўцюш. – Замаскіраваў шнур! Калі нават туды хто і ўвойдзе, дык можа і не заўважыць...

А тым часам ноч кахання зноў набліжалася да канца, збіраўся дождж, і раптам грукат капытаў, ляскатанне даспехаў вырвалі каханкаў з абдымкаў сну. Падскочыў Крэнслін да вакна і бачыць, што справа дрэнь: унізе купа ўзброеных людзей, – шасцёра Марліпонтавых швагроў, якія павінны былі наглядаць за маёнткам і за Севінай; а прыцягнуліся яны сюды, бо былі ў сферы дзейнасці тэмпорні суседняга павету. Што ж рабіць? Хіба толькі вужакай схавацца ў роў...

Вырваўся Крэнслін з рук спалоханае Севіны, схапіўся за вецце плюшчу і папоўз наніз, ды раптам ажно завішчаў ад болю, бо на двары ўжо не ноч, а дзень, ён не на муры вежавым, а на каменным падворку з паламанымі нагамі, і над ім стаіць Марліпонт у брані ды рыкае:

– А нягоднік, а здраднік і ашуканец! Лічыў, што перахітрыў мяне, што мне да тэмпорні таксама далёка, як і табе, пралюбадзей! Пачакай, зараз я цябе папястую! – І па ягоным знаку нясуць жалезную, каваную скрыню, ставяць,

адкрываюць, а ўнутры ўся яна цвікамі панатыканая – вой як кепска! Крэнслін добра гэты інструмент ведае! Моцна прагне дажджу – падаюць першыя кроплі, але што гэта за дождж, быццам кот наплакаў... Ужо яго ўзялі за карак, пхаюць слугі да жалезнае скрыні, а там цвікі, як брытвы, вось зараз яго закрыюць... Грымнуў гром і лье, як з вядра.

– Не спыняцца! Цягніце яго! Хутчэй, не вагацца, запіхвайце! – камандуе Марліпонт, і зубы ажно свецяцца праз краты забрала.

Залева! Каб толькі вяроўка не абарвалася! Крэнслін удаў непрытомнасць, валіцца на зямлю, аднак цягнуць яго. Вось ужо першыя цвікі пачуў плячыма, закрычаў – і выцягнуўся на зямлі.

Цемра і цішыня. Падае дождж. Абмацаў сябе: цэлы. Ногі – ані драпіны. Калі б не вядро, то ўжо і не было б мяне, падумаў ён. Ну і дурны той Марліпонт! Не пацікавіўся, што за вяроўка, адкуль; дзякуй Богу, што розуму ў яго не стае... А што цяпер? Дзе я? Там роў. Мур. Вежа. Севіна? Не да яе пакуль! Ашалелы ад злосці Марліпонт пэўна паляцеў да тэмпорні, так што і мне туды трэба – выпярэдзіць яго.

Як мага хутчэй пабег Крэнслін, але неўзабаве адчуў, што з кожным крокам нейак усё больш павольна бяжыць. Што такое!? Крокі нейкія малыя. Божа ж ты мой – ногі карацей зрабіліся! Памацаў твар – вусоў няма! Несумненна, Марліпонт ужо ў тэмпорні і не тое каб на тыдзень, або нават на год назад яго перанёс – добры тузін гадоў адкруціў, малако яшчэ не абсохла. Цяпер і будзе мяне шукаць, каб напэўна забіць.

І што ж далей рабіць? У вёску, змяшацца з іншымі дзецьмі, удаць немаўля або дурня? А ці не запозна, ці не вылавіць яго мужраўнівец? Стары ён, бадай яму гадоў з трыццаць будзе! Аднак Крэнслін бег у бок тэмпорні, пакуль не ўбачыў зарыва. Вёска гарэла. Палічыў на пальцах, колькі ж гадкоў цяпер Севіне, не, яшчэ Севінцы. Дванаццаць?.. Тады яна ў бацькі, маркграфа Хамстэрбандскага, лялькам сукенкі шые... Але ж і зарыва! Каб толькі тэмпорня не... Быў ужо ля плоту. Гарыць халупа Тшэшчыпалава. А гэта кметы цягнуць дабро на вуліцу? Вой, то не дабро, то забітыя, а галота з іх боты сцягвае... Рабуе, як то звычайна пасля бою... Покатам ляжаць. А гэта хто там? Божа, колеры Марліпонтавы, а там з агню выбягае сам Марліпонт, бяззбройны, пешы, без барміцы, бяжыць, ажно браня звініць, бо за ім конны швагер з мячом у руцэ! Вось як... відаць, ім маёнтку захацелася, і замест апекавання ўчынілі напад... аднак такім чынам толькі дурань фартуну выпраўляе, а не рыцар Хронаса...

Сцягнуў Крэнслін з плоту споднікі халопскія і да студні, абліў іх з вядра, абвязаў мокрымі яшчэ галаву ды да тэмпорні, якая ўжо палала. Асмаліла яму бровы, жарам павеяла, а тут яшчэ дзверы быццам з сярэдзіны нечым падпёртыя. Нядобра гэта! Шмыгнуў да плота, хлопчык заўсёды такія рэчы робіць хутчэй за дарослага, вырваў у першага ж забітага з-за пасу пістоля, ёсць порах на палічцы? Ёсць! Падскочыў да вакенца, з таго боку толькі дыміла крыху, аднак па страсе ўжо першыя блакітныя праменьчыкі лётаюць, падняўся на дыбкі, зазірнуў у сярэдзіну: там Сува з перарэзаным горлам ляжыць, нагамі дзверы трымае, таму і не адчыніліся...

Нічога іншага зрабіць ужо не мог. Таму прыцэліўся ў рычаг, які пачаў палаць. Толькі б як след патрапіць, бо калі рычаг назад ападзе, то знікну я, не будзе мяне на свеце, а, чорт з ім усім! Націснуў на курок. Гуку не пачуў. Ляжаў дагары, гледзячы ў неабдымнае, пакрытае хмарамі неба. Шумеў вецер, але іншых гукаў не было. Баяўся паварушыцца. Калі зусім немаўля, то як далезу да тэмпорні? Такая была яго першая думка. Дакрануўся да твару. Яшчэ больш маленькі зрабіўся, але зубы ў роце ёсць. І тое добра. Карэнных зубоў языком намацаць не мог.

– Саперліпапет! – голасна вымавіў. Атрымалася, а значыць не зусім смаркач яшчэ!

Ускочыў на ногі і да тэмпорні. Пра яе думаў, не пра сябе. Не ведаў нават, ці яму восем гадоў, ці чатырнаццаць! Да рычагу мусіў лезці па століку (пацэліла аднак куля!), учапіўся аберуч за дзяржак – не крануўся той, налёг на яго ўсім целам – і ажно страсянуўся ад здзіўлення, бо ляпнуў цемечкам у бэльку, не паспеўшы саскочыць са століка, калі пачаў расці... Памацаў гузак на галаве, потым рот, няма лепшага часамеру! Добра, вусы растуць!

Затрымаў час пасярод ночы. Вось калі б можна было час гадоў на дваццаць пяць назад перавесці, туды, дзе Марліпонт са шваграмі яшчэ па калысках ляжаць, вось было б цудоўна... Аднак тады і сам нават не ў калысцы б апынуўся, а ўвогуле мяне не было б. Вой, як шкада, я б іх тады голымі рукамі ўзяў. Наперад таксама нельга лішне

пасунуць, бо Севіна пастарэе, дый невядома, ці не стаіць там хто ў будучыні ля рычагу з мячом узнятым – здаралася і такое!

Не ведаў, што ж далей рабіць, але тут хтосьці стаў ламацца ў дзверы. Яны былі закрытыя бервяном, таму закрычаў нехта басам сваім слугам, каб таран як найхутчэй неслі! Перасунуў хуценька Крэнслін час на тыдзень, і зноў нікога няма. Я паную над часам, але не магу адсюль адысці ані на крок, бо тады ўсё гэтае панаванне скончыцца. Злавіў казак татарына... Атрымліваецца, што тэмпорня – астрог, у якім туд-сюд скачаш з *plusquamperfectum у futurum? Impossibile est!* Дый з голаду тут усохнеш і вечкам накрыешся! Але вось зноў хтосьці мацае засаўку з вуліцы і шэпча: "Пусці, мілы, то я, Севіна!" Прывязаў асцярожны Крэнслін вяроўку да дзяржака, і пільна глядзіць у шчэлку. Калі то не яна, дык пацягне раней, як у яго выпаляць са стрэльбы, дый нават калі і выпаляць, то, падаючы трупам, пацягне вяроўку, назад скочыць час, і ўваскрэсне ён! Па-рознаму бывае. Неаднойчы, калі бяда прыціскала і стаяў ён цягнучы рычаг на сябе, і час ажно шумеў, мільгаючы пад нагамі, – дык па кутках ля сцен з'яўляліся трупы скурчаныя, што ажывалі ў адваротнай агоніі, драпаючы кіпцюрамі бэлькі акрываўленыя, і знікалі, як дым. А аднаго разу двое смерцю счэпленыя вываліліся з часу ды так выткнулі яго ў бок, што мала не выпусціў дзяржак. Не, то і сапраўды Севіна. Упусціў яе, а яна адразу кінулася яму на грудзі: "Ратуй мяне! Зрабі нешта, каб ён не нарадзіўся! Пагледзі, як ён мяне б'е!" Паказвае сінякі на руках, шнары... Перш папрасіў яе, каб прынесла яму крыху ежы, хаця б праснак ячменны, прыдалася б і невялічкая галоўка сыру... Не паспела яна выйсці, пачуўся гоман, нехта каня спыняе. Няўжо зноўку? Раззлаваўся, пачуўшы голас Марліпонта, які быў на чале пагоні за збеглай Севінай, пасунуў час назад на год – бо што паробіш! І зноўку ані ежы, ані піцця. Манеўраваў і так, і гэтак, пакуль не апынуўся ў аблозе. Бо тут і шваргы, і Марліпонт са сваёй зграяй, і сам бургграф, і жабракі, і даносчыкі каралеўскія, і афіцэры гарнізону (абознікі ўжо гарматы настаўляюць!), і нейкія гараджане з халопамі, якія хацелі ануляваць пэўны інтарэс са збожжам, і разбойнікі. Карацей, цэлы натоўп сноўдае вакол тэмпорні, бярэ яго ў аблогу, нават старых ды малых на ўсялякі выпадак прыцягнулі, зброю ўсім параздавалі, муштруюць штодня, каб з абодвух бакоў часу яго ўзяць, гаротніка Крэнсліна! Ад старых назад не збегчы, ад смаркачоў – наперад. І кажуць яму: "Слова гонару, вашмосць, акружаны ты, выходзь пад рыцарскае слова", бо баяцца, каб не ўчыніў чагосьці з рычагом – і такое здаралася. На самой жа справе маючы да выбару толькі дыбу (а тыя, што яго абкружылі, ужо спрачаліся, ці завесці яго на дыбу гарадскую, ці бургграфскую, ці ў Марліпонтавы лёхі, а можа, і да швграў) або небыццё, ганьбу або ганаровы канец, выбраў недапешчаны каханак Севіны больш страшнае, аднак узнёслае выйсце. Рвануў моцна назад, але перад гэтым прывязаў рычаг да бэлькі ў кутку: згіне, але ж час надалей будзе ляцець назад і ўсіх за сабой у небыццё возьме!

Знік хутчэй за воблачка на моцным ветры, а з ім і ўсе астатнія. Толькі калі ў стагоддзях дагістарычных вяроўка спарахнела, рычаг сам вярнуўся ў першапачатковы стан. А ўжо пушча разраслася вакол тэмпорні, вокамгненна стаў непраходны лес, зубры часаліся аб вуглы, мінаў час, валасаты насарог, што адбіўся ад статку, вываліў спарахнелыя дзверы і ўлез у тэмпорню, але знік, як дым, баднуўшы рычаг рогам – замест дубовага лесу з'явіліся джунглі рададэндронавыя ды папаратнікавыя, а была то эпоха, што звалася каменна-вугальным перыядам: ані людзей, ані самое тэмпорні, нічога, толькі канцавы прыпынак, над якім дрыжэла паветра весялковых колераў...

Трурль выключыў праектар, зматаў правады, а кароль, нічога не кажучы, сеў на троне, але было бачна, што не вельмі ўзрадаваны ён гэткай праекцыяй. Клапаўцюш адкашляўся.

– Не жадаючы нудзіць ТКВялікасць, у тры словы патлумачу справу. Працэс, што ТКВялікасць бачыў, працэс тыповы. Інтрыга была дробязная, але падобная да яе ці іншая – заўсёды фінал аднолькавы. Дзеянні антаганістаў рана ці позна згортваюцца ля цэнтра, якім з'яўляецца або канцавы пункт, або месца, з якога магчыма кіраваць бегам часу. Калі радыус дзеяння аднае тэмпорні зрабіць вялікім, і праз гэта іх мала будзе на планеце, то мала будзе таксама і асяродкаў барацьбы. Калі радыус малы, то цэнтраў шмат і адпаведна боек болей. Аднак гэта нічога не мяняе з пункту гледжання прыроды рэчаў. Можна зрабіць так, каб таго, хто

кіруе часам, гэтыя змены не краналі. Толькі і гэта нічога новага не дадае. Бо тады чалавек, які застаўся ў тэмпорні апошнім, вымушаны ўцякаць у вельмі далёкае мінулае, а паколькі валоданне часам не пакідае абыякавым нікога, логіка канфлікту прымушае яго выправіцца ў эру абсалютнага бязлюддзя. Тым самым ён выкрэсліваецца з гісторыі і не бярэ больш удзелу ў бітвах за тэмпорні. Калі ёсць толькі адна тэмпорня, то на планеце паўстае адна дзяржава, якую страсаюць рухі цэнтрабежныя, ад змагання за валоданне рычагом часу, пры гэтым рэкамендацыі наймудрэйшых асобаў хутка зводзяцца да таго, каб зрабіць канцавы пункт недасягальным для ўсіх, напрыклад, праз уцісканне яго выбухамі ўглыб планеты. Калі ж замест канцавых пунктаў паставіць часаўніцы ў выглядзе хранамоцый, пачынаюцца хронаклізмы, эскапады, рабаванні, з'яўляецца тэмпаральнае канквістадорства і хранікальны гангстэрызм. Дарэчы, спробы манапалізавання хронамацыйных прыёмаў і тэхналогій заўсёды бызвыніковыя, бо тое, што вынайшлі адныя, іншыя рана ці позна здолеюць паўтарыць. Калі ж пачынаецца бязладдзе ў сучаснасці, то прыводзіць гэта да войнаў у часе. Стратэгія ў тым, каб адрэзаць праціўніка з боку будучыні і спіхнуць яго на дно развіцця – у мінулае; інакш кажучы, зноў пачынаецца рэгрэс. Хто мае ў руках час, той мае ўладу, таму і ідзе за яе барацьба, якая характарызуецца вынаходніцтвам новае тактыкі нападу і абароны ў часавым вымярэнні...

– Як бачна, час, што можна вяртаць назад, – гэта крыніца новых бедаў, а не карысці, – змрочна сказаў Хіпаліп. – І няма на гэта рады?

– Спрабавалі мы абмяжоўваць рух у часе акселератарнымі дроселямі і іншымі прыстасаваннямі, – сказаў Трурль, – але тады найпершай мэтай людзей робіцца ліквідацыя гэтых абмежаванняў.

– Ну, добра. А калі ўзяць цывілізацыю з багатай духоўнай культурай, з высокім узроўнем этычным, ліберальным, гуманітарным і плюралітарным?

– Такую можам запраграмаваць вельмі проста, міласцівы пане, – сказаў Клапаўцюш. – Не рабілі мы гэтага, бо лічылі, што і такое нічога не дасць, аднак, калі такая ёсць воля каралеўская, то запрашаем да агляду... Трурль?

Той панаціскаў патрэбныя клавішы, шчоўкнуў некалькімі рычажкамі, падкруціў ампліфікатар і ўздыхнуў.

– Гатова.

– Якая матрыца?

– Час як функцыя змяненняў пастаяннай гравітацыйнай.

На алебастравых сценах заблішчэла святло. Трурль зрабіў відарыс выразным.

Крэслін нахіліўся над сталом.

– І гэта яна? – спытаўся ён, гледзячы на серыю фотаздымкаў.

– Так.

Генерал звыкла паправіў каўнерык.

– Цэвіна Марыбонд. Не пазнаеш яе?

– Не. Тады ёй было дзесяць гадоў.

– Мусіш памятаць, што яна не дасць табе ніякіх тэхнічных дэталяў. Ты павінен атрымаць ад яе толькі інфармацыю пра тое, маюць яны ўжо хронду або не. І ці знаходзіцца яна ў працоўным стане.

– А яна будзе гэта ведаць? Пан упэўнены?

– Марыбонд не балбатун, але ад яе сакрэтаў не мае. Для яго кожная рэч добрая, калі толькі дапаможа затрымаць Цэвіну. Амаль трыццаць гадоў розніцы!

– Яна кахае яго?

– Не думаю. Хутчэй ён ёй падабаецца. Ты паходзіш з таго самага краю, што і яна, і гэта добра. Успаміны дзяцінства. Аднак моцна не налягай. Параіў бы стрыманасць, мужчынскія чары. Ты гэта можаш.

Крэслін маўчаў. Ягоны твар сваёй сканцэнтраванасцю нагадваў твар хірурга ля аперацыйнага стала.

– Скіданне сёння?

– Сёння. Кожная гадзіна каштоўная.

– А мы маем працоўную хронду?

Генерал нецярпліва кашлянуў.

– Гэтага не магу табе сказаць, і ты добра пра гэта ведаеш. Пакуль што трымаецца раўнавага: яны не ведаюць, ці маем мы хронду, а мы – ці яны яе маюць. Калі б атрымалі...

– Выпусцяць з мяне кішкі, каб дазнацца?

– Сам разумееш.

Крэслін выпрастаўся, быццам ужо на памяць ведаў твар жанчыны з фотаздымкаў.

– Я гатовы.

– Памятай пра шкляначку!

Але Крэслін нават не адказаў.

Ён не чуў ужо словаў генерала. З-пад металічных варонак на зялёнае сукно стала лілося святло лямпаў дзённага святла. Дзверы рэзка расчыніліся, увайшоў

ад'ютант са стужкай у руцэ, запінаючы апошнія гузікі на мундзіры.

– Пан генерал, канцэнтрацыя вакол Хасы і Дэпінгу! Закрытыя ўсе дарогі.

– Хвіліну. Крэслін, ведаеш ужо ўсё. Так?

– Так.

– Поспеху.

Ліфт спыніўся. Мур адсунуўся і вярнуўся на месца. Да водару мокрага лісця падмешваўся раздражняльны, хаця і прыемны, пах нітрыдаў. Разаграюць першую ступень, падумаў Крэслін. Ліхтарыкі ў руках тых, хто стаяў далёка, выхоплівалі з мроку вочкі маскавальнае сеці.

– Анакалуф?

– Авакада.

– Папрашу за мной.

Ішоў за каржакаватым афіцэрам без фуражкі. Чорны цень верталёту паказаўся з цемры, быццам пашча звера.

– Дарога далёкая?

– Сем хвілін.

Спалохана ўзляцеў бугай, верталёт спланіраваў, вінт яшчэ круціўся, але дзверы расчыніліся. Нябачная трава, перакручаная моцным ветрам, біла па нагах.

– Да ракеты.

– Да ракеты? Нічога не бачу. Асляпіла мяне.

– Правяду пана за руку (жаночы голас!). Тут смокінг. Папрашу пераапранулца. Потым накрыю пана гэтым чахлом.

– На ногі таксама?

– Так. Шкарпэткі і лакеркі ў гэтым футарале.

– Што ж мне – басанож скакаць?

– Не басанож. У сваіх шкарпэтках. Потым трэба схаваць іх разам з парашутам. Запомніць пан?

– Так.

Адпусціў маленькую, але моцную далонь кабеты. Пераапрануўся ў цемры. Залаты квадрат. Партабак? Не, запальнічка. Вузкая лінія святла.

– Крэслін!

– Слухаю!

– Гатовы?

– Гатовы.

– Да ракеты за мной!

– Ёсць да ракеты!

Адзін вузкі прамень асвятляў алюмініевыя сходы, што адлівалі срэбрам. Самы верх сходаў тануў у цемры. Быццам ішоў пеша да зорак. Адкрытая кабіна. Лёг дагары. Ягоны бліскучы пластыкавы кокан шамацеў. Прыляпіўся да вопраткі, да рук.

– 30, 29, 28, 27, 26, 25, 24, 23, 22, 21, 20. Увага: 20 да нуля, 16, 15, 14, 13, 12, 11. Увага: праз сем секунд старт. Чатыры, тры, два, адзін, нуль.

Так як чакаў моцнага шуму, той, які пачуў, падаўся яму слабым. Бліскучы пластык расцёкся на ім як жывы. Халера, закрывае рот! З цяжкасцю адвярнуў шчыльны матэр'ял, глыбока ўздыхнуў.

– Увага, пасажыр. 45 секунд да балістычнае хуткасці. Пачаць адлік?

– Не. Папрашу ад дзесяці.

– Добра.

– Увага, пасажыр. Балістычны апагей. Чатыры слаі хмар, цырастратус і цыракумулюс. Пад апошнім слоем бачнасць 600. На чырвоны ўключаю эджэктар. Парашут пасажыра?

– У парадку. Дзякуй.

– Увага, пасажыр. Другі стопень балістычны, першы слой хмар, цырастратус. Другі слой хмар. Тэмпература мінус 44. Унізе плюс 18. Увага, пятнаццаць да скідвання. Наезд на цэль, нуль на сто, бакавое адхіленне ў норме, вецер норднорд 2, 6 метраў у секунду, бачнасць 600, добрая. Шчасліва! Скідванне!

– Да пабачэння, – сказаў Крэслін, адчуваючы гратэскнасць гэтых словаў, сказаных чалавеку, якога ніколі не бачыў і ніколі не ўбачыць.

Выпаў у цемру, у цвёрдае ад хуткасці паветра. Свісцела вакол галавы, куляўся ў паветры. Раптам з лёгкім трэскам яго разгарнула, рэзка ўгару торгнулася галава, быццам яго нехта пачаў цягнуць з цемры вялікай вудай. Паглядзеў наверх – чашы парашута не было відаць.

Добрая праца.

Падаў, не ведаючы як хутка. Нешта мільгацела пад нагамі. Так светла? А, чорт! Толькі б не возера. Адзіны шанец з тысячы, але што можна... Пачуў мерны, лёгкі шум, калі нагамі крануў паверхню хваляў. То было збожжа. Схаваўся ў ім. Накрыла яго чаша парашуту. Адшпіліў шлейкі, пачаў скручваць палотнішча – дзіўная тканіна, на дотык падобная да павуціння. Скручваў і скручваў – праца была цяжкая. Амаль паўгадзіны заняла. Пакуль што ўтрымліваўся ў хранаграме. Цяпер апрануць лакеркі або потым?

Лепш ужо цяпер апрануць. На пластыку адбіваецца святло.

Пачаў рваць на сабе ўпакоўку, мяккую, як тамафан, быццам распакоўваў сябе. Начны ўспамінак. Падарунак. Лакеркі, хустачка, сцізорык, візітоўкі.

Дзе шклянка?

Сэрца загрукала, але пальцы ўжо знайшлі яе. Не бачыў яе, хмары пакрывалі ўсё неба. Аднак патрос шклянку і пачуў плёскат. Унутры быў вермут. Не зняў з яе герметычнае абалонкі. Для гэтага час яшчэ будзе, а спатыкнуўшыся, можна разліць. Паклаў шклянку ў кішэнь, упіхнуў скручаны парашут у футарал, засунуў туды ж тоўстыя шкарпэткі, у якіх скакаў з парашутам, падраны пластыкавы кокан. Быццам нішто ад гэтага не загарыцца. А калі загарыцца? Ці не лепей вылезці з гэтага збожжа?

Інструкцыя ведае лепш.

Знайшоў на патаўсцелым дне футаралу кальцо, засунуў туды палец, рвануў, быццам адкрываў бляшанку піва, кінуў футарал у прымятае пасля падзення месца ў збожжы і чакаў.

Нічога, толькі крыху дыму. Ані полымя, ані іскры, нават бляску. Не загарэлася?

Навослеп памацаў рукой і амаль крыкнуў, бо там не было ўжо туга набітага футаралу, поўнага тканіны – купка цёплых, але не гарачых рэшткаў, падобных на абгарэлую паперу.

Добрая праца.

Паправіў на сабе смокінг, гальштук-матыль і выйшаў на дарогу. Даволі хутка ішоў па абочыне, аднак не так хутка, каб спацець. Дрэва, але якое? Ліпа? Хіба яшчэ не. Явар. Напэўна? Не бачна. Каплічка павінна быць за чацвёртым. Верставы слуп. Усё правільна.

Каплічка з'явілася з цемры пабеленай сцяной. Навобмацак адшукаў дзверы. Адчыніліся лёгка. Ці не занадта лёгка? А калі вокны не зацемненыя?

Паставіў на каменную падлогу запальнічку і крутануў колца. Чыстае белае святло напоўніла замкнёную прастору, яго бляск адбіўся ў састарэлай пазалоце алтара, у шыбе, заклеенай звонку нечым цёмным. Агледзеў сваё адлюстраванне ў шыбе вельмі ўважліва, пакруціўся, па чарзе праверыў плечы, рукавы, крысы смокінгу, прыглядаўся з бакоў, ці не прыстаў дзе кавалак пластыкавага покрыва. Паправіў насоўку ў нагруднай кішэні, падняўся на дыбачках, як актор перад выступленнем. Дыхаў спакойна, адчуваючы слабы пах свечак, быццам тыя нядаўна гарэлі. Пагасіў запальнічку, зноў апынуўся ў цемры. Выйшаў, асцярожна ступаючы па каменных сходах, і агледзеўся. Было пуста. Краі хмар месцамі бялелі, але месяц, не здолеўшы прарваць хмары, практычна не даваў святла. Ужо калі ішоў па асфальце, дакрануўся кончыкам языка да пломбы на зубе мудрасці. Цікава, што там? Безумоўна, не хронда і нават не дыстанцыйнае кіраванне. Але атруты там таксама не можа быць: з секунду бачыў тое, што "дантыст" паклаў пінцэтам у залатую скрыначку пломбы, перад тым як заліў яе цэментам. Шарык меншы за гарошынку, быццам вылеплены з каляровага цукру. Перадатчык? Але ён не меў мікрафону. Нічога. Чаму не далі атруты? Відавочна, не было патрэбы.

Дом з'явіўся з-за дрэваў. Асветлены, шумны, музыка неслася ў цёмны парк. На газонах дрыжэў водбліск шыбаў. На другім паверсе сапраўдныя свечы, у жырандолях з падсвечнікамі. Пачаў лічыць слупкі агароджы, ля адзінаццатага запаволіў крокі, спыніўся ў ценю дрэва, дакрануўся сеткі, тая, спружынячы, адсунулася. Ён лёгка пераступіў ніжні край і апынуўся ў садзе. Пераходзіў ад ценю да ценю, ля высахлага фантана выняў з кішэні шклянку, пазногцем сарваў цэлафан, які яе закрываў, змяў і паклаў у рот, зрабіў дробны глыток вермуту. Са шклянкай аперытыву ў руках спакойна пайшоў па сцежцы ў бок дому, без спеху, як госць, што вяртаецца з кароткага шпацыру на прахалодзе, бо разагрэўся танцам і хацеў астудзіцца. Выцер насоўкай нос, перакладаючы шклянку з рукі ў руку. Ішоў між ценяў тых, што стаялі абапал дзвярэй. Твараў не бачыў, адчуваў толькі няўважлівыя позіркі, скіраваныя на яго.

На першых сходах святло было амаль блакітнае, далей – цёпла-жоўтае, аркестр граў вальс. Гладка ідзе, падумаў ён. А ці не загладка? У зале быў тлум. Не адразу да Цэвіны змог падысці. Стаяў у двух кроках ад яе, абкружанай мужчынамі з ордэнскімі стужкамі на штрыфлях, калі на другім канцы залы пачуўся шум – нехта ўпаў, то быў лёкай у ліўрэі. Зваліўся так нязграбна, што паднос, пазастаўлены кілішкамі, вылецеў з рукі, усё навокал было пазапырскана белым і чырвоным віном. Які няўклюда! Эскорт Цэвіны як па камандзе павярнуў галовы ў той бок. Толькі Крэслін глядзеў на яе. Здзівіў яе гэты позірк, хаця ледзьве даходзіў да яе.

– Пані мяне не пазнае. Праўда?

– Не.

Сказала так, каб не чапляўся і пайшоў. Ён спакойна ўсміхнуўся.

– А пані памятае варанога поні? З

белай зоркай. І хлопца, які напалохаў яго шарыкам?

Міргнула.

– Гэта пан?

– Так.

Не трэба было знаёміцца, бо ведалі адзін аднога ў дзяцінстве. Толькі раз танчыў з ёй. Пазней трымаўся здалёку. Потым выйшлі ў парк. Праз дзверы, пра якія ведала толькі яна. Калі хадзілі з ёй па алеях, заўважыў людзей, што стаялі то тут, то там у ценю дрэваў. Так шмат. І не напароўся на іх, калі пералазіў праз сетку? Дзіўна.

Цэвіна глядзела на яго. Яе твар быў белы ў святле месяца, які перамог-такі хмары ў другой палове ночы – як і павінна было быць.

– Не пазнала б пана. Аднак некага пан мне нагадвае. Не таго хлопца. Кагосьці іншага. Магчыма, дарослага?

– Вашага мужа, – флегматычна адказаў ён. – Калі таму было дваццаць шэсць. Пані павінна ведаць яго па фатаздымку... з тых часоў.

Заміргала.

– І праўда. Адкуль вы гэта ведаеце?

Усміхнуўся.

– Праца такая. Прэса. Часова працую... ваенным карэспандэнтам. Аднак маю і цывільнае мінулае.

Не звярнула ўвагі на яго словы.

– Пан з тых самых мясцін, што і я. Дзіўна.

– Чаму?

– Нейк... нават нядобра. Не ведаю, як гэта выказаць. Нават баюся.

– Мяне?

Быў шчыры, наіўны, здзіўлены.

– Не, не гэта. Але то быццам... быццам дотык лёсу. Тое, што пан падобны... і тое, што мы ведалі адзін аднаго ў дзяцінстве.

– Што ж у гэтым нязвыклага?

– Не магу пану растлумачыць. То як бы алюзія. Да гэтае ночы. Як бы тое нешта азначала.

– Пані прымхлівая?

– Вяртаемся. Робіцца халадна.

– Ніколі не трэба ўцякаць.

– Што пан кажа?

– Не трэба ўхіляцца лёсу. Гэта немагчыма.

– Быццам пан ведае.

– А дзе ваш поні?

– А ваш шарык?

– Там, дзе мы будзем праз сто гадоў. Усе рэчы распушчаюцца ў часе. Няма больш моцнага распушчальніка.

– Кажаце так, быццам мы ўжо старыя.

– Для старых час – забойца. А для ўсіх – незразумела што.

– Вы так думаеце?

– Ведаю.

– А калі б?

– Калі б што?

– Не, нічога.

– Пані хацела нешта сказаць.

– Вам падалося.

– Не падалося, бо ведаю, што гэта было за слова.

– Га?

– Адно слова.

– Якое?

– Хронда.

Здрыганулася. То быў страх.

– Што пан...

– Прашу, не палохайцеся. Мы – пара аутсайдэраў, якія пра гэта ведаюць (акрамя вашага мужа і спецыялістаў доктара Сувы). Тых, у аколіцах Негенеў.

– Што пан ведае? Адкуль?

– Тое самае, што і пані.

– Немагчыма. Гэта таямніца.

– Таму і не сказаў бы гэтага слова нікому, акрамя вас. Ведаў, што і пані гэта ведае.

– Як можаце гэта ведаць? Пан... вельмі рызыкуе. Ведаеце пра гэта?

– Нічым не рызыкую, бо мая інфармацыя ані менш, ані больш легальная, чым вашая. З той толькі розніцай, што я ведаю, ад каго пані пачула яе, а пані не ведае – ад каго інфармацыю атрымаў я.

– Гэтая розніца не на вашую карысць. Адкуль вы ведаеце?

– А сказаць, адкуль ведае пані?..

– А вы ведаеце таксама... *калі?*

– Нядаўна.

– Нядаўна! Дык вы нічога не ведаеце!

Але яна дрыжэла.

– Не магу пані сказаць. Не маю права.

– А тое?

– Тое сказаў, бо менавіта столькі расказаў вам муж.

– Ці хто... адкуль пан ведае, што гэта ён?

– Ніхто з ураду, акрамя прэм'ера, не ведае гэтага. А прэм'ер – Марыбонд. Хіба не проста?

– Не. Якім чынам? Га! Падслухалі?!

– Не. Прынамсі, не думаю. То залішне. Ён павінен быў сказаць вам.

– Чаму? Пан лічыць, што я...

– Не. Менавіта таму, што пані ніколі

гэтага не пажадала б. Павінен быў сказаць, бо хацеў даць вам нешта, што мела для яго найбольшую вартасць.

– А, так не падслухалі, а прыйшлі да гэтага з дапамогай псіхалогіі?

– Так.

– Якая гадзіна?

– За шэсць хвілін дзве.

– Не ведаю, што будзе з гэтым усім.

Глядзела ў навакольную цемру. Цені галін, плоскія і выразныя, дрыжэлі на сцежцы, пасыпанай жвірам, і часам здавалася, што гэта дрыжыць зямля. Музыка даходзіла да іх як бы з іншага часу.

– Мы тут да скандальнага доўга. Пан яшчэ не здагадаўся, чаму?

– Пачынаю.

– Таямніца, якая... зробіць тое са светам, не будзе ўжо аніякай таямніцай за хвіліну перад... гадзінай зэра. Магчыма, не будзем болей існаваць. Аб гэтым пан таксама ведае?

– Ведаю. Але тое не павінна было здарыцца гэтай ноччу.

– Павінна было.

– Яшчэ заставаліся пэўныя... складанасці. Але іх ужо няма?

Амаль краналася яго грудзямі. Гаварыла да яго, але не бачыла.

– Ён будзе малады. Поўнасцю ў гэтым упэўненыя?

– Гэта праўда.

– Калі ласка, нічога не кажыце. Не веру, не магу, хаця ведаю, то было б быццам дарам, так не бывае. Але цяпер ужо ўсё роўна. Нішто не можа гэтага адмяніць. Ніхто. Альбо ўбачу яго такім, як вы цяпер выглядаеце, альбо... Рэмер казаў... магчымы зрух, у дэпрэсіі... і я зрабілася б дзіцём. Вы – апошні, з кім я размаўляю перад гэтым.

Яна дрыжэла. Абняў яе за плячо і падтрымаў. Быццам не ведаючы, што кажа, праблеяў:

– Колькі часу... засталося?

– Некалькі хвілін... у пяць хвілін па другой... – шапнула яна. Вочы яе былі заплюшчаныя.

Нахіліўся над яе тварам, адначасова так моцна націскаючы языком на запламбаваны зуб, як толькі мог. Пачуў у галаве лёгкі трэск і ўпаў у нішто.

Генерал машынальна дакрануўся да нагавіц.

– Хронда – тэмпаральная бомба. Яе выбух выклікае ўзнікненне лакальнае дэпрэсіі ў часе. Вобразна кажучы, як звычайная бомба ўтварае ў грунце варонку, прасторавую дэпрэсію, так хронда паглыбляецца ў цяперашні час і ўцягвае або выпіхвае ўсё, што знаходзіцца навокал, у мінулае. Памер скачка назад у часе, так званы рэтраінтэрвал, залежыць ад велічыні набою. Тэорыя хронапрэсіі вельмі складаная, таму не магу яе вам пераказаць. Аднак правілы зразумець проста. Уцечка часу залежыць ад агульнага прыцягнення. Не ад лакальных палёў цяжару, а ад сусветнае гравітацыйнае пастаяннае. Гравітацыя змяншаецца ва ўсім Космасе, і гэта з'яўляецца крыху іншым бокам уцечкі часу. Калі б гравітацыя не змянялася, то час спыніўся б. Яго не было б увогуле. Гэта як з ветрам. Дзе знаходзіцца вецер, калі ён не дзьме? Нідзе яго няма, бо вецер – гэта рух паветра. Так сёння тлумачыцца ўзнікненне Космасу. Ён не ўзнік, бо існаваў па-за часам, пакуль гравітацыя была нязменная і пакуль не пачалося яе змяншэнне. З таго часу Космас пашыраецца, зоркі круцяцца, а час цячэ. Існуе сувязь гравітонаў з хранонамі, і сувязь гэтая была выкарыстана для стварэння хронды. Пакуль што можам маніпуляваць часам толькі гвалтоўна. Гэта калапс, або выбух у сабе, а не звонку, я б сказаў, імплозія. Найбольшы рух часу назад адбываецца у пункце зэра. А першай пяцьдзесят дзевяць Крэслін націснуў языком на кнопку пуску. Праз дванаццаць секунд былі задзейнічаны ўсе нашыя дзеючыя хронды стратэгічнае гатоўнасці. Імплозія была кумулятыўная. Таму ачаг паражэння хронапрэсіяй мае форму амаль правільнага круга. У пункце зэра дэпрэсія складае амаль 26–27 гадоў. Гэтая велічыня паступова змяншаецца далей ад цэнтру. У ачагу паражэння вораг меў лабараторыю, склады, майстэрні, а таксама падземныя хронапрэсійныя палігоны. Так як праца была распачатая каля 9–10 гадоў таму, то цяпер там ужо няма нічога, што б мела для нас небяспеку. Паверхня ачагу паражэння мае, як панове могуць бачыць на мапе, каля 190 міляў у дыяметры...

– Генерал!

– Слухаю.

– Згодна гэтым фактам атрымліваецца, што дзякуючы Крэсліну мы папярэдзілі хранальны ўдар ворага?

– Загад быў наступны: калі да атакі ворага застаецца болей за 24 гадзіны, то ён не меў права націскаць кнопку пуску.

 



Калі ж даведаецца пра пэўныя дэталі акцыі, што датычаць яе тэрмінаў, велічыні набояў, колькасці хрондаў, то павінен быў перадаць інфармацыю праз спецыяльных агентаў нашае разведкі. Калі б вораг меў намер заатакаваць нас на працягу сутак, а Крэслін не здолеў бы ўвайсці ў кантакт з агентамі, павінен быў уключыць аўтаматычны перадатчык, закапаны ў лесе пад Хасамі. І толькі ў выпадку, калі не меў бы часу, каб дабрацца да сігналізатара, а напад напэўна меў адбыцца ў самы бліжэйшы час, дазволена было яму націснуць кнопку. Падкрэслю – Крэслін не ведаў механізму хронапрэсійнае імплозіі, нічога не ведаў аб нашых хрондах, не ведаў нават, што мае кнопку пуску. Ці пан міністр лічыць маё тлумачэнне задавальняючым?

– Не. Таму што вы наважыліся абцяжарыць аднаго чалавека, агента, адказнасцю за лёс цэлага свету. Хаця агента або не агента, тут няма розніцы. Як мог адзін чалавек усё вырашаць сам?!

– Дазвольце выказаць далейшыя тлумачэнні. Перад акцыяй Крэсліна нашая інфармацыя не раўнялася нулю. Відавочнай мэтай непрыяцеля павінен быў быць наш хранальны пункт. Абодва бакі не ведалі, як далёка прасунуўся іншы бок. Месца знаходжання нашага комплексу "С" было ім вядома таксама, як і мы ведалі размяшчэнне іх хранаторыя. Немагчыма схаваць такія вялізныя комплексы.

– Пан не адказаў на маё пытанне.

– Якраз пачынаю. Калі рабіць вакол нашага комплексу "С" канцэнтрычныя кругі, якія змяншаюцца, то Хасы знаходзяцца ў паласе памяншэння на дзесяцігоддзе, а Лейло, якое знаходзіцца бліжэй да "С", у паласе дваццацігадовае дэпрэсіі. Учора раніцай мы атрымалі інфармацыю, што Марыбонда не будзе на прыёме, які даваў канцлер у сваёй рэзідэнцыі ў Хасах. Мы ведалі, што Марыбонд выязджае на інспекцыю войскаў, якія размешчаныя ўздоўж мяжы з намі. А восьмай вечара прыйшла інфармацыя, што замест таго, каб паехаць да гарнізону ў Арэтоне, ён затрымаўся ў Лейла.

– Пачакайце, пан генерал! Ці не хоча пан праз гэта сказаць, што Марыбонд збіраўся выкарыстаць гэты хранальны ўдар, які павінен быў абрынуцца на нас, каб пры аказіі амаладзіцца?

– Ну... так. Гэта выснова нашых экспертаў. Марыбонду... было шэсцьдзесят гадоў, ягонай жонцы – дваццаць дзевяць. Мінус дваццаць гадоў для яго і мінус дзесяць для яе: саракагадовы мужчына і дзевятнаццацігадовая дзяўчына. Да таго ж мела тут не апошняе значэнне і тая акалічнасць, што Марыбонд хворы на цяжкую форму рака. Лекары давалі яму два, самае большае тры гады жыцця.

– Ці гэта напэўна?

– Так. Амаль напэўна. Істотную ролю адыгрывала, на мой погляд, яго, кхм, спецыфічнае пачуццё гумару. Кодавая назва аперацыі была "Балкон".

– Не разумею.

– Як не разумееце? Рамэа і Джульета. Сцэна на балконе... а адначасова павінен быў знікнуць увесь наш хранальны патэнцыял.

– Але атрымалася наадварот?

– У вялікай ступені, бо падлікі ягоныя рабіліся, зважаючы, што цэнтрам імплозіі будзе, згодна з іх стратэгічным планам, наш комплекс "С". Таму ён адаслаў жонку ў Хасы, а сам паехаў у Лейла, які знаходзіцца амаль на мяжы з намі. Мы ў генеральным штабе, палічыўшы, што сітуацыя крытычная, адразу ж паслалі Крэсліна так хутка, як толькі змаглі. Каля паўночы ён прызямліўся недалёка ад Хассаў. Так як мы атакавалі першымі, ізахроны дэпрэсіі мелі адваротны кірунак дзеяння ад таго, які планаваў непрыяцель. Адваротны таму, што гэта мы зруйнавалі іх хранальны комплекс.

– Ну і што з таго? Марыбонд зрабіўся не такі малады, як хацеў, а ягоная жонка болей маладой, чым жадала... і якое стратэгічнае значэнне гэта мае? Прапаную пакінуць гэтае пытанне.

– Гэта мае не толькі стратэгічнае, але і палітычнае значэнне, пан падсакратар, бо цяпер павінна адбыцца змена прэм'ера варожага ўраду. Імплозія, выклікаючы дэпрэсію, на самай мяжы радыуса дзеяння ўтварае невялікую канцэнтрычную пукатасць вакол пункту зэра. Гэта аналогія з эфектам звычайнае бомбы: цэнтр выбуху – паглыбленне, а вакол яго з'яўляецца насып. Хронда руйнуе цяперашні час, абарачаючы яго ў мінулы, а на мяжы імплозіі час бяжыць наперад. Гэта так званы кампенсацыйны эфект. І менавіта Лейла знаходзілася ў зоне яго дзеяння. Гэта азначае, што час там зрушыўся наперад на 9–10 гадоў.

– Марыбонду семдзесят гадоў? Выдатна! – засмяяўся хтосьці з седзячых за зялёным сталом.



 

– Не. Згодна з тым, што я расказаў пра яго хваробу, Марыбонд памёр. Ёсць яшчэ пытанні?

– Хацеў бы ведаць, у якім выглядзе з'яўляецца мінулае пасля імплозіі хронды. Фізікі сцвярджаюць, што мінулае, як час ідэальна ўзнаўляемы, куды можна вярнуцца, не існуе.

– Гэта праўда. Імплозія не выклікае ідэальнага вяртання мінулага. Не аднаўляе канкрэтны стан, які меў месца ў канкрэтны дзень, год, гадзіну і хвіліну. Кожны матэрыяльны аб'ект проста робіцца маладзейшым: мінулае ж як збег абставінаў і здарэнняў, што калісьці адбыліся, не паўтараецца. Аднак, ці гэта напэўна немагчыма, нашыя эксперты не хочуць казаць. Мадэллю дзеяння хронды можа быць сітуацыя на футбольным полі, калі адзін ігрок б'е па мячы, а другі адбівае яго назад да першага. Мяч не вернецца дакладна ў тое самае месца. Прыклад гэты таму добры, што мяч трэба менавіта адбіць, а не акуратна перанесці ды ўжыць дакладна і пакласці назад да мікраметраў. Імплозія таксама з'яўляецца інтэрвенцыяй у часе, гвалтоўнай і непрадказальнай у дэталях.

– Аднак вы ж самі казалі, генерал, што шасцідзесяцігадовы чалавек становіцца саракагадовым!

– Гэта справа іншая. Ягоны арганізм робіцца на пэўную колькасць гадоў маладзейшым фізіялагічна. Гэтаксама робіцца з кожнай рэччу. Старое дрэва памаладзее і стане флянсам. Але, калі, напрыклад, узяць шкілет, які праляжаў у зямлі сто гадоў і з якога за год да імплозіі вынялі некалькі костак, то пасля імплозіі мы будзем мець шкілет, які, як пакажуць даследаванні, праляжаў у зямлі толькі восемдзесят гадоў, аднак тыя косткі, што мы вынялі, не з'явяцца ў ім. Калі хтосьці страціў нядаўна нагу, то нават пасля імплозіі з дваццаціпяцігадовым рэтраінтэрвалам нага не адрасце. Таму хронда не мае дачынення да так званых прычынных парадоксаў, што ў сваю чаргу спарадзілі ідэю падарожніцтва ў часе. Арганізм пры ўздзеянні імплозіі аднаўляе сваю жыццяздольнасць у межах, вызначаных яго фізіялагічнымі магчымасцямі.

– А машыны? Кнігі? Будынкі? Праекты?

– Будынак, узведзены сто гадоў таму, зменіцца нязначна. А вось дом з бетону, які зацвярдзеў восем гадоў назад, ператворыцца ў гару пяску, цэменту, бэлек, бо бетон старэе і адпаведна не можа быць бетонам да таго, як яго змяшалі з патрэбных складнікаў. Тое самае тычыцца, як я казаў, усіх аб'ектаў, у тым ліку машын.

– Ці абсалютна пэўна, што непрыяцель не мае ўжо патэнцыялу для ўдару ў адказ?

– Такое пэўнасці мы не маем на сто працэнтаў. Згодна песімістычным ацэнкам, знішчылі мы 80% іх хронапатэнцыялу, згодна ж аптымістычным – 98%.

– Ці хронды нельга выкарыстаць якім іншым чынам, акрамя знішчэння хрондаў ворага?

– Можна, пан прэзідэнт, але знішчэнне хрондаў ворага і іх вытворчай базы было прыярытэтным. Захаваўшы наш патэнцыял у цэласці, мы атрымалі стратэгічную і тактычную перавагу. Прашу зразумець, чаму не магу цяпер паведаміць, як будзем ужываць гэты патэнцыял. Пытанняў больш няма? Дзякуй усім. Што там? Гучнагаварыльнік? Папрашу цішыні!

– Увага. Увага. Трывога першае ступені. Лакатары апазналі чатыры варожыя спадарожнікі. Супрацьспадарожнікавыя сістэмы знішчаныя ворагам. Аднак адзін спадарожнік удалося збіць. Тры спадарожнікі ўжо набралі першую касмічную хуткасць. Працы лакатараў перашкодзіла маскавальная іонавая хмара, выкінутая першым спадарожнікам непасрэдна перад яго знішчэннем. Увага. Увага! Наземныя індыкатары навядзення будуць кожную хвіліну перадаваць інфармацыю аб магчымых цэлях, вызначаных ворагам. Увага, цэль першая: комплекс "С" з максімальным адхіленнем ад 20 да 25 міляў ад пункта зэра. Увага, цэль другая: галоўны штаб, паўтараю, галоўны штаб, максімальнае адхіленне ад 7 да 9 міляў ад пункта зэра.

– Дваццаць працэнтаў іхняе хронамоцы ляціць на нашыя галовы! – крыкнуў хтосьці. Тыя, хто сядзеў за зялёным сталом, кінуліся з месцаў. Затрашчалі крэслы, адно ўпала, паблізу жалосна завыла сірэна.

– Панове! Прашу заставацца на месцах! Імплозія не з'яўляецца небяспечнай для жыцця! Няма магчымасці пазбегнуць яе або схавацца! Прашу захоўваць спакой! – енчыў генерал.

– Увага. Увага. У іонасферы ракетным залпам знішчаны другі спадарожнік. Два астатнія ўвайшлі ў мёртвую зону для супрацьракетнае абароны. Згодна інфармацыі лакатараў, яны змяняюць курс, набліжаюцца з сямідзесяцікратным

прыцягненнем і адстрэльваюць парашуты. Увага. Два варожыя спадарожнікі знаходзяцца на восі цэляў нумар адзін і нумар два. Уваходзяць у перыметр бачнасці. Увага. Абвяшчаецца трывога найвышэйшае пагрозы. Восем секунд да нуля. Сем да нуля. Шэсць. Пяць. Чатыры. Тры. Два. Увага, ну...

Карцінка згасла, і запанавала цішыня.

– Не вельмі гэта прывабна! – змрочна сказаў Хіпаліп. – А калі б час мог разгаліноўвацца? Не адвольна, як рака. Калі б яго можна было рэгуляваць, як сістэму каналаў? Га?

– Спрабавалі мы і гэта, – сказаў Трурль. – Вынік – пандэмоніум. Узнікаюць прыватныя часы, пабочныя, кшталту заток і абалонаў, што бяруць пачатак з экстэрналізацыі сноў. Фармуецца дыверсійная хранаўтыка, якая пагражае распадам грамадства, і таму ўлады забараняюць яе. З'яўляюцца асабістыя пасведчанні сучаснасці, рэтрахранальныя падаткі, храніцыя, інтэрхрон, пахронная варта, кантрабанда ў паміжчассе, банды, што ўваскрашаюць пакараных крымінальнікаў, часакружакі і корпусы каляндарнае бяспекі. З'яўляецца масавая тэмпаральная эміграцыя, перанаселенасць, пхаюцца натоўпамі ў модныя эпохі, прыхільнікі роўначасовасці спрабуюць знішчыць дзікіх часакружакаў, і ўсім падаецца, адзін Бог ведае чаму, што ў іншым часе жыццё напэўна лепшае. Даходзіць да ўтойвання, ашчаджання і выкрадання каштоўных момантаў, узнікае біржа часу, вырабляюцца часы фальшывыя, або тыя, што ідуць замкнутым колам, паўстаюць хранікальныя астрогі і лёхі. Будуюцца містычныя, эратычныя і палітычныя перпетуатары, а таксама выцягальнікі чароўных хвілін. Натоўпы эмігрантаў, рээмігрантаў і контрэмігрантаў сноўдаюцца ва ўсе бакі праз стагоддзі, стукаючыся ілбамі. Даходзіць да так званых ваенных сутараг і нерэгулярнага кульгання гісторыі, а, здараецца, часазабойцы, пераможаныя якойсьці дзяржавай, ліквідуюць цара гэтае дзяржавы яшчэ ў матчыным чэраве. Той не расце, не робіцца царом, не мае перамогі, і праз гэта знікае патрэбнасць забіваць яго ў калысцы. Аднак у іншым часе ён вырастае і вядзе пераможныя войны, таму зноў высылаюць часазабойцаў да яго зыбкі, і гэтак раз за разам. Выкрылі мы васемсот відаў так званага *circulus temporalis vitiosus,* але лічым, што можа іх быць бясконца многа. А хронаперверсіі?! Футурафілія, гадзіннікавы фетышызм, *delectatio temporosa*, аўтапедафілія, або каханне шчадралюбнымі старымі саміх сябе, як нявінных дзетак з гадоў вясковага дзяцінства, а хронанізм? А дэмпінгавы імпарт будучых тэхналогіяў, які выклікае эканамічны крызіс? А выкраданне ў часе? Я, міласцівы кароль, мог бы гадзінамі пералічваць гэтыя брыдкія з'явы. Таму я вельмі моцна не раю...

– Добра! Пераканалі мяне, што час абарачальны і падзяляльны – гэта няўдзячная ўласнасць стварэння, – сказаў відавочна раздражнёны кароль. – Тады кіньце гэтую канцэпцыю. Дзейнічайце смялей! Хаця б раз падумайце над наступным: цяперашні свет паводзіць сябе адносна нейтральна. Ані спрыяе моцна сваім жыхарам, ані прыгнятае іх занадта. Праўда, гэтая абыякавасць лёгка параджае раздражненне. Як вядома, халодная абыякавасць бацькоў дэмаралізуе дзяцей, дык што ж казаць пра абыякавасць свету! Ці не павінен ён быць пяшчотны, дбаць пра сваіх жыхароў, апекавацца імі на кожным кроку, апярэджваючы іх жаданні? Карацей кажучы, не яны да яго, а ён павінен прыстасоўвацца да іх! Дапусцім, што стомлены вандроўнік падае з грэбеня ў прорву, бо паслізнуўся. Ён ушчэнт разаб'ецца. А ў нашым свеце магчымае месца падзення хуценька памякчэе, як пух. Вандроўнік атрасецца і далей у дарогу. Што? (Кароль усё болей напаляўся). Хіба гэта нядобра? Чаму нічога не кажаце?

– Бо добразычлівасць рэч няпэўная, – сказаў Клапаўцюш. – Вернемся да таго вандроўніка. Хто ён? Можа, пажыў дастаткова доўга і сам кінуўся ў прорву. Ці павінна каменне застацца цвёрдым у гэтым выпадку? Ды і ўвогуле, падобнае патрабуе чытання думак.

– Ну і што з таго? Нас як творцаў нічога не абмяжоўвае, – парыраваў кароль.

– Што з таго? Гэты вандроўнік нясе, напрыклад, важную інфармацыю. Калі данясе яе, то Аўрыды пераможуць Бенідаў, а калі не данясе, то вайну выйграюць Беніды. Як для Аўрыдаў, то каменне павінна памякчэць, але як для Бенідаў, то павінна зрабіцца яшчэ больш цвёрдае. Аднак гэта яшчэ не ўсё. Гэты вандроўнік пяройдзе бесперашкодна цераз горы, спаткае дзяўчыну, і тая народзіць яму сына. Сын апіша бацькаву місію подлай і ганебнай. Назаве яго здраднікам, бо

 



забыў сказаць, што вандроўнік той сам быў Бенідам. Абвінавачванне з боку сына так страсяне бацькава сумленне, што ён, акружаны паўсюднай пагардай, павесіцца. Калі добразычлівая галіна зломіцца, то скочыць у ваду. Калі міласэрная вада выкіне яго на бераг, вып'е атруту. І так далей. Як доўга добразычлівы свет павінен павялічваць ягоныя згрызоты сумлення, робячы немагчымым фізічнае знішчэнне? Дык, можа, няхай сабе лепш вісіць? Ды і ўвогуле, што будзе лепей: загінуць бяздзетным у прорве або павесіцца праз учынак сына? Твая Вялікасць прабачыць, што не даю каралю слова. Ведаю, што Твая Вялікасць хоча сказаць: уся рэч у тым, ці сапраўды гэты вандроўнік быў здраднікам, а таксама ў тым, які бок заслугоўваў перамогі. Дапусцім, што справядлівы чалавек жадаў бы перамогі Бенідам, як больш слабым у зброі, але больш шляхетным па духу. Так што здрада вандроўніка прывядзе да кепскіх наступстваў праз перамогу Аўрыдаў. Аднак на гэтым справа не скончыцца, бо справы звычайныя практычна не маюць канца. Запанаваўшы над Бенідамі, Аўрыды праз сто гадоў апынуліся пэўным чынам пад уплывам пераможаных. Зразумелі ўсю заганнасць узброенага гвалту і стварылі з Бенідамі саюз роўных з роўнымі, у якім абодвум народам добра жылося. Значыць, каменне не павінна было мякчэць. Аднак можам дапусціць і адваротнае і паглядзець, што адбудзецца, калі вандроўнік загіне. Тады пераможуць Беніды. Перамога гэтая ператворыць народ дагэтуль мірны і высокакультурны ў ваяўнічы. Культура пойдзе на сметнік, пачнуцца заваяванні, і праз сто гадоў са справядлівых некалі людзей атрымаюцца рабаўнікі, супраць якіх паўстане ўся планета. І што маем? Калі ўзяць такі фатальны збег абставін, каменне павінна памякчэць, хаця і ляцеў на яго здраднік. Таму ўсе дзеянні павінны будуць пралічвацца наперад на пяць, дзесяць або пяцьдзесят гадоў, і каменне павінна ў адным выпадку мякчэць, а ў другім рабіцца больш цвёрдым. А праз гэта свет, які абавязаны заўсёды спрыяць сваім жыхарам, мусіць, на жаль, звар'яцець, спрабуючы рабіць рэчы несумяшчальныя.

– Ах, гэтак? Ну тады самі змысліце што лепшае! – кароль Хіпаліп разлаваўся не на жарт. – Дзеля чаго я выклікаў вас? Навошта істоты, якімі засяляеце пробныя сусветы, зусім як мы?!

– Кароль хоча нам сказаць, што здзейснілі мы злачынства плагіяту, – стрымліваючы раздражненне, прамовіў Клапаўцюш. – Кароль мае рацыю. Аднак павінен ён ведаць, што робім мы гэта не ад нястачы, а ад збытку ведаў. Нічым не абцяжаранае існаванне ёсць толькі ў простых супольнасцях, гэта значыць тых, што не маюць розуму. Круцяцца сабе, як у вуллі, без прэтэнзій на няроўнасць існавання. Ніякіх табе спрэчак ды лаянак, ніякіх зрухаў да горшага – гармонія і лад. Не робім нашых светаў з механічнай гармоніяй, бо кароль заявіў, што падобная гармонія ідзе ад бяздумнасці. Каралю патрэбныя сусветы, поўныя розуму. Прагне падобнага кожны творца, і толькі Бог ведае, чаму. Кожны розум нікому не падуладны, бо стварае магчымасць для мноства ўчынкаў, якія выключаюць адно аднаго. Арлом розуму ёсць геніяльнасць, а рэшкай – пачварнасць, паколькі з'яўляецца ён вольным у сабе самім і ў абодва бакі не мае межаў. Ясна, што немагчыма запраграмаваць поўную гармонію розуму. Можна ўвесці праграму ў падсвядомасць, якая дастаўляла б у гэтую самую падсвядомасць толькі самыя ўзнёслыя жаданні. Усе ж, аднак, пагарджаюць падобнай гармоніяй, бо яна, кажуць, прымусовая, ненатуральная, падробленая, паколькі з'явілася са стужкі, а не спантанна. Натуральна, дух у такім выпадку ўсё больш святлее, бо асвятляюць яго ідэалы, што бяруцца невядома адкуль. Але падобна гэта да тэлефоннае службы дакладнага часу, а не вольнага існавання! Што ж, можам стварыць і праграмы, якія будуць дзейнічаць у адваротным кірунку. Адну, што ўсё выпраўляе, другую, што ўсё псуе. Каб розум ствараўся ў барацьбе супрацьлегласцяў. Аднак хутка пачуем, што і гэта няправільна, бо хоць дзейнічаюць праграмы адваротна, але канцы іх зададзены наперад. Так што свабоды выбару і самазацвярджэння тут столькі ж, колькі ў нагавіцах, якія шлейкамі цягнуцца ўгару, а сілай гравітацыі ў дол. З прац філасофскіх можна даведацца, што дух перадусім павінен быць вольны. Чым жа з'яўляецца вольнасць? Бясконцай колькасцю шанцаў. А дзе ж іх будзе болей, чым у бясконцасці, там, дзе магчыма ўсё, бо нічога наперад не запраграмавана? Вядома, магчыма і гэта сканструяваць. Тады замест цудоўных здзяйсненняў



 

будзем цэлы час мець марнае таптанне на месцы. Бо маем заданнем падрыхтаваць суіснаванне абсалютных супярэчнасцяў. Трэба нам стварыць шырокую вузкасць, сыты голад, святы грэх, вяршыню, з якое немагчыма ўпасці, путы, якія б нікога не стрымлівалі. Адным словам, трэба надзяліць створаных вольнасцю, але каб яны карысталіся ёй па кроплі. А так як ніхто дагэтуль не ствараў новага сусвету, то асмелюся заўважыць, што кліентаў у нас было, як таго бруду, але надта ўжо капрызных, бо ўсе яны мелі завысокія патрабаванні да нашага прадукту, нават больш высокія, чым да стварэнняў прыроды. Таму і вісіць у нашай працоўні надпіс для падобных кліентаў: "Шаноўны кліент! Перад тым, як усіх сабак вешаць на нашыя стварэнні, прыгледзься больш уважліва да стварэнняў прыроды! Паглядзі на сябе і падобных да сябе істот. Чаму не аблайваеш іх таксама, як тое, што замовіў у нас? У іх кожны дэфект апраўдваеш як выпадковы; тое, што там бачыш за памылку, адразу адносіш на вырок нябесны, на трагічнасць або тлумачыш таямніцай, магчыма й ганебнай, але бязмежнай, і праз гэта, пэўным чынам, цудоўнай. Тое, што існуе, шануеш без меры, нават, калі яно толькі д'ябла вартае, а тое, што прапануем мы, не вартае для цябе ані якога шанавання, бо не выйшла яно з невядомае бездані, а толькі з нашага працоўнага стала!"

– Пагавары яшчэ! – абрынуўся на яго нецярплівы кароль. – За дыятрыбу сябе выдаеш! Выбачай, даражэнькі мой, але патрэбныя мне канструктары, а не самаахоўнікі! Пакажыце мне тыя вашыя новаістоты! Давайце доказы, тады і пагаворым прадметна!

– Не дзейнічаем на пустым месцы, – цярпліва працягваў Клапаўцюш. – Той, хто чакае, пакуль з саматвораў, што знаходзяцца ў звычайным хаосе, вылепіцца свядомая істота, нічым не рызыкуе, аднак не мае і аніякіх заслуг. Але існавалі канструктары, якія верылі ў салідарнасць і стваралі супольныя істоты. Такія, якія супольна валодаюць агульным целам. Застаўся аб гэтым след у байках, якія апавядаюць нам пра шматгаловых цмокаў. Пра цмокавасць там няшмат. Можа, таму шматгалоўцы адразу ж увязваюцца ў бойкі. Мырмександэр Дэстрытыт, каб пазбегнуць канфліктаў, прапаноўваў агульны код для індывідуальнага думання. Аб'яднаў глыбіню духоўнага жыцця і на гэтай базе стварыў індывідуальныя свядомасці. Паяднанне было няблізкае і таму нябачнае, а на вока істоты выглядалі абсалютна розна. Паколькі асоба жывіцца з уласнай глыбіні, а ў глыбіні яны мелі адно і тое самае, то пагаджаліся між сабой ва ўсім. Выдатна ім жылося! Аднак як толькі яны даведаліся пра штучнае яднанне (а ў рэшце рэшт павінны былі зрабіць гэта, бо захапіліся навукай), то гэтыя веды абярнуліся супраць іх. Зразумелі яны, што спазнаць падсвядомасць каго заўгодна, нават апошняга прыбіральшчыка, тое самае, што спазнаць падсвядомасць усіх з аднаго разу. Каму гэта было патрэбна? Прасцей будзе сказаць, каму гэта НЕ БЫЛО ПАТРЭБНА! Гэты выпадак не адзінкавы, але ён вынікае з агульнае праблемы. Была супольнасць душ або не, пенетрацыя духу заўсёды пераходзіць у маніпуляцыю, якая пачынаецца з самых добрых намераў. Так што ТКВялікасць, які дзіцём граў ужо на кібербразготках ды ўяўляў сябе мазгаўнічым, павінен ведаць, як лёгка змяніць аўтамат у гвалтамат, або нават у самагвалтамат, што і робяць рухавікі інтэлектуальныя, калі атрымліваюць інфармацыю пра саміх сябе, як яны кідаюцца тады на ўласнага духа ў машыне, каб яго падбухторыць, падштурхнуць і перайначыць яшчэ больш вычварна зубіламі цэрэбралістыкі мысліцельнай, – і гэта заўсёды заканчваецца або размнажэннем асобы, або яе згортваннем. Сапраўды, навошта раскалупваць зоркі, рызыкуючы атрымаць апёкі трэцяе ступені, навошта падарожнічаць на другі канец света, навошта нават пальцам варушыць, калі невялічкі дроцік, ўваткнуты дзе трэба, зробіць усё беспамылкова? Відавочна, гісторыю цэрэбралістыкі трэба аднесці на карысць сучаснае тэорыі перасцярогі! Уся гэтая прамысловасць па вырабу шчасця, усе гэтыя узмацняльнікі пачуццяў...

– Не, гэта ўжо вытрымаць немагчыма! Што ты тут вярзеш? Навошта? Кароль і сам гэта ведае! Не трэба нам гэтае элементаршчыны! – не вытрымаў Трурль.

– Да чаго вяду? Кароль і сам гэта ведае? Аднак ставіць пад сумненне кансерватызм нашых праектаў! Таму

тлумачу, што не трэба рабіць тую самую памылку, якую ты дапусціў, ужыўшы сваю шчасцедайную інжынерыю...

– Маўчы! Не прыніжай мяне перад тронам! Я табе зараз...

Убачыўшы, як шчырыя сябры глядзяць адзін на аднаго з нянавісцю, кароль выступіў у ролі прыміральніка, што ў зародку зліквідавала сварку і адначасова паклала канец маналогу Клапаўцюша.

– Не падайце духам! – прыязна сказаў ім кароль. – Ведаў, што выбраў самую цяжкую задачу, аднак і даверыў яе не абы-каму! Ідзіце ўжо, ідзіце, каханыя мае, трымайцеся згоды і вяртайцеся, калі будзеце мець для дэманстрацыі лепшы свет!

І пайшлі яны, лаючыся па дарозе, кідаючы адзін на аднаго злосныя позіркі і размахваючы рукамі. Прайшлі праз каралеўскую аранжарэю, праз сады, цераз пяць мастоў на пяці гарадскіх каналах і нават не заўважылі гэтага.

– Не ў тым справа, – казаў Трурль, – каб стварыць свет, зашпілены на ўсе гузікі, свет, дзе няма спрэчак, у якім ніхто не можа нічога ў нікога ані забраць ані даць. Гэта непатрэбнае лакіраванне Божае справы. Не ў тым справа, каб атрымаць рэч, якая ажно блішчыць, а ў тым, каб пераўзысці першага аўтара ў канцэпцыі выхаду са складаных становішчаў!

– Не трэба казаць прапісныя ісціны. Не перад каралём стаіш, – пакпіў з яго Клапаўцюш.

– Хопіць. Складнікі дасканаласці ў Боскім варыянце вылучаюцца тым, што не выконваюць у адзін і той час прагі экзістэнцыі. Калі па чымсьці сумую або пра нешта мару, то не маю гэтага, а калі маю, то ўжо ані сумую, ані мару. Не магу цешыцца надзеяй, калі яна ўжо ажыццявіцца, бо надзея гэта іншая асалода, чым радасць валодання! Таму існаванне штурхае нас да пастаяннага адмаўлення ад чаго-небудзь. Калі чакаю ўціску, гэта не значыць, што мяне абавязкова нехта будзе ціснуць, а калі сцісне, то не маю ўжо на што чакаць, хіба толькі фантазія не ўтаймуецца. Нельга адначасова сціскаць і не сціскаць, мець і не мець; што для мяне пэўнае, то для мяне кепскае, а што заўсёды бясцэннае, тое заўсёды недасягальнае. Вось так існаванне і хістаецца паміж завершанай пэўнасцю і авантурнай рызыкай, або паміж нудой і страхам. Ад недаеду да перанасычэння адзін крок. Мала таго! Тое, пра што мысліцца, заўсёды ёсць пэўным, аднак усё памысленае нейкае залежнае ды безапорнае, а тое, што ёсць матэрыяльным, існуе незалежна, але мне непадлеглае. Дух ад мяне залежыць замоцна, а матэрыя – замала!

– Ну што ты вярзеш, – скрывіўся Клапаўцюш, але Трурль не даў збіць сябе з панталыку.

– Перакладаючы гэтыя фатальнасці Стварэння на мову практыкі будаўніцтва, мы ўбачым тры рэстрыкцыі свабод у быцці: матэрыяльная, часовая і прасторавая. Штосьці з'яўляецца або рэччу, або думкай – гэта першая рэстрыкцыя. Другая звязаная з месцазнаходжаннем – калі штосьці знаходзіцца ў пэўным месцы, то там ужо нішто іншае не можа быць. Трэцяя – гэта гвалт, які ўчыняе нам час, бо мы ў ім зняволены: калі серада нас адпусціць, то чацвер схопіць, пасля чацвярга затрымае пятніца – такое зачараванае кола, вечная муштра, сапраўдная бездань, ле-е-вай, ані наперад, ані назад; хіба хто зведаў таксама, як я, гэтую ваенную дыктатуру часу? Ні на міліметр нельга адысці ад цяперашняга часу! Лічу, што мусім ліквідаваць усе гэтыя абмежаванні. Як ты мысліш?

– Хочаш ліквідаваць час, прастору і матэрыю?

– Менавіта так!

Клапаўцюш яшчэ вагаўся, бо ідэі Трурля закранулі яго ўласны радыкалізм. Агледзеўся і, убачыўшы, што знаходзяцца яны ў дзіцячай пясочніцы, – менавіта туды занеслі іх ногі, – пачаў крэсліць пальцам па пяску першыя накіды новага свету, а Трурль увесь час дадаваў нешта да яго чарцяжу, але дзеці бесперапынна замінялі, таму ўсталі яны абодва і хутка пайшлі да майстэрні. Мінуў тыдзень, другі, трэці, але яны не давалі ніякіх знакаў жыцця. Знерваваны Хіпаліп паслаў да іх працаўніка аддзелу вынаходак, потым самога міністра вынаходніцкае прамысловасці, а калі нават міністра не пусцілі далей ганка, сам пайшоў да канструктараў. Заспеў іх моцна ўзбуджаных у пакоі, начыненым прыладамі: апараты стаялі абы-як, паўсюль былі паскручаныя правады. Калі ж канструктары не паспяшаліся да караля з тлумачэннямі, нагадаў ім, хто іх манарх, і настояў-такі на сваім – даверылі яму свае таямніцы.

– Тое, што ёсць, мы цалкам адкінулі! –

патлумачыў яму Трурль. – Што б там ні было, але свет быў навязаны Створаным без усялякае з імі кансультацыі, бо Творца вырашыў ашчасліваць іх гэтым светам раз і назаўсёды. А што, калі яны не хочуць быць ашчасліўленымі, як ён гэтага хоча, а хочуць нечага іншага, або ўвогуле прагнуць адмовіцца ад канчатковага шчасця? А можа, цяпер жадаюць, а праз імгненне – не? А можа, вось гэты так разумее нейкую праблему, а вунь той – іначай? Што тады? Катэгарычна навязваць канфармізм? Па лінейцы вызначаць шлях да раю і да пекла? Караць свавольных арыгіналаў і ўзнагароджваць апартуністаў? Зрабілі мы зусім іначай. Перш за ўсё выкінулі мы з Сусвету матэрыю, прастору і час!

– Не можа быць! – кароль быў уражаны. – Навошта? І што далі ўзамен?

– Навошта? – патрос галавой Трурль. – Бо дух хоча, але не можа, матэрыя ж можа, аднак не хоча. Найяснейшы пан уражаны гэтым? Але ж гэта адразу кідаецца ў вочы. Хіба магчыма ўвогуле ўявіць сабе нешта больш марнатраўнае, чымсьці космас? Мільярды мільярдаў агнёў, што гараць і гараць вечна... і што з таго? Што гэта дае? Чаму яно служыць? Богу? Але ж святло вечнае не вымяраецца люменамі і ўвогуле свеціць у іншым месцы! Нам? Ды навошта ж нам такая служба? Матэрыя, напэўна, можа шмат, бо калі б не магла, дык і нас не было б, аднак такое вулканічнае марнатраўства сыравіны, такая колькасць памылковых, ні на што не прыдатных землятрусаў эпілептычных, каб нарэшце нарадзілася каліва здаровага сэнсу? Навошта ж такі размах?! Для дасягнення драматычнага эфекту? Але ж стварэнне – гэта не спектакль. Да таго ж дух, што загруз у матэрыі, заблытаўся ў ёй, – трагакамічны смяротнік. Рвецца з цела, якое яго катуе, пакутуе, пакуль не спляжыцца ўшчэнт. З этычнага пункту погляду гэта нядобра, а з эстэтычнага – агідна. Таму і выкінулі мы матэрыю-ідыётку і духа-зняволенага, вырашыўшы такім чынам зруйнаваць скраяні паміж імі. Нашым творам з'яўляецца аматэрыя. *Nomen omen! Amo, amas, amat* ці няпраўда, *ars amandi* ці не там знаходзіцца прана, тао, нірвана, кіселяпадобны боскі стан, – гэта пасіўнае няробства і самалюбства, чуйнасць у чыстым стане, а свет – сентыментальная атракцыя для малекул, і ўсё гэта разам звязана ўжо ў пялюшках! Так, электроны ды пратоны круцяцца адзін вакол аднаго, але не таму, што існуюць сілы, кванты і палі, а таму, што любяць сябе! Праз гэта зразумела, што рухае аматэрыяльнай істотай: не фізіка, а сімпатыя. Замест трох законаў Ньютана тут мы маем чуласць, клопат і каханне. Замест правіла захавання імпульсу – правіла захавання вернасці, а што да тэорыі рэлятыўнасці, дык пачуцці таксама з'ява адносная, таму ў нас аналізатара замяняе каханак... Паколькі адмовіліся мы ад непрывабных целаў, няма болей фізікі ў эротыцы, няма ніякага трэння, цікання, шаравання, таму каханне ў нашым Сусвеце мусіць заўсёды быць ідэальнае.

– А час? А прастора? – дапытваўся разгарачаны кароль.

– Часу надалі мы падатлівасць і эластычнасць, каб слухаўся тых, каму ён патрэбны. Эластычнасць уяўляе сабой так званае ляла. Замест параду гадзін, хвілін, секунд у ненажэрным каляндарным статуце пад чвырканне гадзіннікаў цяпер кожны можа нацадзіць сабе столькі часу, колькі яму спатрэбіцца. Хто спяшаецца, можа скочыць з серады адразу ў суботу, каму падабаецца чацвер, будзе сабе там сядзець ажно да канца свету. А прастору зліквідавалі мы цалкам, бо яе безальтэрнатыўная катэгарычнасць хавае ў сабе сур'ёзную пагрозу для нашых жыхароў.

– Ну? Неяк я не заўважыў.

– Няўжо? Па-першае, ёсць у ёй месца толькі для адной рэчы, а калі пхаюцца туды іншыя, здараюцца няшчасці. Калі, напрыклад, алавяная куля пхаецца туды, дзе ўжо нехта ёсць, або калі два транспартныя сродкі спрабуюць заняць адно і тое ж месца. А вялізныя адлегласці, якія трэба пераадольваць? А дэмаграфічны, інфармацыйны і парнаграфічны ціск? Дух не мае прасторы. Яго прыніжае працягласць целаў, бо з гэтага ён вымушаны хапаць, абдымаць, соўваць, хацяў наперад вядома, што калісьці матэрыял мусіць яго адпусціць!

– Ну добра. І як жа вы гэта ўсё зрабілі?

– Прастору замянілі мы кантынуумам, дзякуючы чаму кожны можа быць паўсюль адначасова і супольна з тымі, хто ў гэтых месцах ужо знаходзіцца. Што да істот, дык – між іншым, добра, што прыгадаў, – мы стварылі адразу толькі адну, узяўшы сабе дэвізам індывідуалізм без эгацэнтрызму, лібералізм без анархіі, ідэалізм без перабольшванняў. Менавіта індывідуалізм, інакш кажучы, асоба, а не

якая-небудзь там камякаватая агульнасць, уціснутая ў безасабовую свядомасць, немаведама чыю. Канкрэтная асоба, а не адзінка, засяроджаная толькі на сабе, таму і не зусім асоба. Хутчэй ўсеасоба, асабліва калі распаўсюдзіцца бязмерна. Кожнага патроху ёсць паўсюль – зразумела, ТКМосць? Хаця не павінна быць паўсюль аднолькава: тут яго менш, а там, дзе яму больш цікава, будзе яго больш, такім чынам, з'яўляюцца палі канцэнтрацыі, якая, адпаведна, фармуецца прагай або звычайным уласным рашэннем. Інакш кажучы, канцэнтрацыя духоўная цягне за сабой канцэнтрацыю фізічную. Самы вялікі геній месцамі не такі ўжо і геніяльны. Між іншым, гэта вырашае і транспартную праблему, бо не трэба ўжо нікуды ехаць. Проста падумаў пра пэўную мэту, і там цябе ўжо шмат і збіраецца гэтае гушчы, пакуль не насыціцца яна да поўнае задаволенасці.

– Як я зразумеў, то свет гэты ў вас ужо гатовы. Дык чаму замыкаецеся і не пускаеце маіх вестуноў? Ну? Зноў нейкія аб'ектыўныя цяжкасці? Гаварыце, або раззлуюся!

Паглядзеў Трурль на Клапаўцюша, Клапаўцюш на Трурля, і маўчаць. Бачачы, што нікому не хочацца пачынаць, тыцнуў Хіпаліп пальцам у Клапаўцюша:

– Ты гавары!

– Ясны пане, ёсць пэўныя цяжкасці...

– Якія? Ну! Што, па адным слове павінен з вас выцягваць?

– Нечаканыя цяжкасці... Стварэнне ў цэлым удалося нам, і можам паказаць яго нават зараз, аднак чым далей, тым менш вядома, што і як...

– Не разумею. Штосьці псуецца?

– У тым і рэч, што мы не ведаем, ці псуецца, і не ведаем таксама, як пра гэта даведацца, вашая вялікасць. А ўвогуле... лёгка самому ў тым пераканацца. Трурль, уключы праектар...

Трурль нахіліўся над самым вялікім апаратам, які быў пастаўлены на двух кульгавых століках, штосьці там націснуў, і на пабеленую сцяну ўпаў сноп святла. Убачыў кароль вусеня ўсіх колераў вясёлкі на поплаве, а можа, яйкі паўліна, залітыя святлом ранішняга сонца, але даволі хутка зарыентаваўся, што гэта – Крэнтлін Шчодры, крыху надзьмутая, паўсюдна прысутная істота, ані цялесная, ані духоўная – нешта няпэўнае. Рос, як на дражджах, бо разважаў пра сябе, і чым болей думаў, тым больш яго рабілася. Калі спрабаваў сканцэнтравацца, то праз брак практыкі часта разжыжваўся, а так як Прырода не трывае пустаты, то пустыя месцы ў ім адразу ж запаўняліся афектам. Ажно пыхаў адданасцю ды чуласцю, кожнай думкай рухаючы свае каляровыя плямы, бо ўсё псіхічнае было там лічы атмасферычным. Даймалі яго, аднак, памылковыя аморы – закаханні фатамарганныя, калі адны хвалі ягоных пачуццяў перасякаліся з іншымі, выклікаючы непаразуменні. І так, увесь час сустракаючыся толькі сам з сабой, месцамі да смерці быў закаханы ў сябе. Потым перажываў цяжкія расчараванні, раптам зразумеўшы, што ўсё гэта толькі ён сам, бо не быў самалюбцам і прагнуў кахаць кагосьці іншага, праз што ўвесь далягляд пазацягнуты быў сумам. Пастаянна быў сам-насам з сабой, і адзінота гэтая вызначыла яго пол, аказаўся самцом, з чаго вельмі хутка мужнеў. А паколькі ўсё індуцыруецца з адваротным знакам, то мэтанакіравана сумаваў па істоце-іншоце полу жаночага. Выдумляў сабе чароўных каханак-заранак у няпэўных, а праз гэта спакуслівых дзеваформах, і хадзіла па ім тое каханне да невядомых найпрыгажунь, як тая стыхія – асабліва там, дзе амаль спыняў рост. Гэтак, прынамсі, можна было зразумець тыя кліматычна-псіхічныя, мысліўна-тайфунныя з'явы. Думкі ягоныя рабіліся ўсё больш цьмяныя, ажно ўчорніваліся і асядалі ў збалелай псіхіцы, калі дасягалі памераў камянёў філасофскіх. Так выглядалі плады безнадзейных медытацый – быццам скамянелы друз на дне душы. А калі гэта сапраўды так, дык чаму выштурхнуў гэты друз, ціхенька лупаючы зараным бляскам на пашчы, потым закурэў і з яўнай палёгкай праясніўся? Ці не спосаб гэта пазбыцца баласту духоўнага? Так ён сам з сабою гуляўся, выдумляў сабе іншоты ў розных фазах чароўнае кансалідацыі, але яго проста трэсла ад нерэалізаваных пачуццяў, і таму ён дарваўся да перыферыі і нарадзіў з сябе штосьці, што нагадвала кумулюс, абаронены віхурнай сцяной ад тайфунавага фронту. Асобнасць гэтая нейкі час валачылася за Крэнтлінам, пакуль не пачала самастойна разважаць. Тады высветлілася, што праз свой імпэт ён нарадзіў не тую адзіную іншоту, пра якую марыў, а нешта, што складалася з трох іншот: Цэву або Цэвіну, іншоту жаночую, і яшчэ нешта падобнае на яе – мужа-спарыша. Было гэта нешта ніякага роду, аднак жаноцкасць

Цэвіны сталася для яго падставай зрабіцца двумужам. Папраўдзе, не было іх двое, дый аднаго не было, а нешта раздвоенае пераходнае – і атрымалася нешта з імем Марлін Перамычка Понцій або Понскі, бо чырванеў без дай прычыны.

А вось далей усё проста жахліва перамяшалася. Крэнтлін, бадай, і не ведаў, што сам стварыў сабе бяду, бо пакуль да двузамужняе заляцаўся, не заўважыў, як яго разрывае на кавалкі ад рэўнасці падчас гонкі мыслїўнай за Цэвінай, і з гэтага ён спараджае новыя істоты, тоесныя калібрам і фарматам гвалтоўнасці яго пачуццёвых высілкаў. Гэтак пастулова насяляўся той свет ад яго любоўнае шарпаніны. Ніхто ў тым свеце нікому не перашкаджаў, бо лёгка ўсе праплывалі адзін скрозь аднаго, затрымліваючыся хіба толькі над надзвычай цікавай часткай канцэпцыі, але апошняе не ўплывала на агульны стан. Аднак штосьці ім драпалы душы, бо мала хто не губляў тых цёмных, як атрамант, канкрэментаў – ці былі то скамянелыя чорныя думкі? а можа надта халодныя рэфлексіі? – ды так, што ўсю прастору поўнасцю пакрыла чорнае рэчыва – звалка светапоглядная. А тое, што рабілася над ёй, было цяжкім для ўразумення. Крэнтлін падчас быццам выпадковых сустрэч прасочваўся праз Цэвіну, хуткі, як вецер, робячы выгляд, што не заўважае яе. Ён адчуваў трымценне пры выхадзе, калі то там, то сям Цэвіна выказвала да яго прыязнасць, калі разумеў, што асобнымі месцамі выклікае ў яе нешта большае за абыякавасць. Пачынаў тады ў тых месцах салодка загусаць, на што яна ад яго, няшчаснага, абыякава адсоўвалася, зводзячы на нішто яго намаганні. А аднаго разу Крэнтлін, сыходзячы, куды яго думка панесла пасля падобнае дыфузіі, што перарасла ў канфузію, згубіў нейкую кволую частку думкі, якая пэўны час круцілася, быццам у няведанні, ці здольная яна пры такой слабасці да персаналізацыі. Іншота гэтая так і не вырасла, а толькі неяк выцягнулася і, як змяя, раз-пораз уваходзіла ў Крэнтліна, але невядома, ці каб напаскудзіць, ці проста каб пабыць унутры кагосьці больш вялікага. А потым дрот гэты вылятаў вонкі і завітваў на кароткі час да Цэвіны – марадзёр? госць незапрошаны? вераломны агрэсар? самотнік? – невядома. У кожным разе, наведваючы абоіх, карыстаў і яго, і яе, бо пасля такіх адведак яны доўга яшчэ атрасалі з сябе сапсаваныя кавалкі. А вось Марліна Перамычку Понція пазбягаў гэты дзіўны паўзмей – як кручанага сабакі. Тым часам у паводзінах Крэнтліна адбылася змена. Без дай прычыны ён увапхнуўся ў двумужа, ды так таго працяў, быццам хацеў выпхнуць за межы існавання. Але Марлін Перамычка Понскі з гэтага нават не пачырванеў. А вось змеяпадобная істотка, ну сапраўдная шкодніца, завіхалася то тут, то там, прыхапіла была некалькі камянёў філасофскіх, але адразу ж кінула і пакрылася крапінкамі, падобнымі на вочы. Выглядала каго, ці што? Падавалася, што нават падміргвае не без змыслу. Між тым, патроху ўсе неяк разам нерухомелі. Чаму ніхто не ўздымаўся духам? Чаму толькі зыркалі? Былі то ўпадніцтвы светлавыя або духоўныя? Невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, але тут кароль Хіпаліп пачаў тупаць нагамі, і трэба было перапыніць дэманстрацыю. Кароль патрабаваў тлумачэнняў.

– Шкада, ясны пане, але мы таксама гэтага не разумеем! – адразу прызнаўся Трурль.

– Гэта і ёсць наша галоўная праблема! Не ведаем: дзеянні Цэвы і Крэнтліна – нявінныя забавы, ці то чорны вырок нашага Генезісу. Што яшчэ горш, не ведаем нават, як пра ўсё гэта даведацца. Неаднаразова паўтаралі мы стварэнне, змяняючы ўмовы пачатковыя, але нічога з гэтага не атрымалі. Часам замест двумужа робіцца паўтарачны, аднаго разу Цэвіна мела перамычку, але гэта натуральныя адхіленні пры кожным стварэнні свету.

– А той змеядрот?

– Гэты вужака? Разумею, што ТКМосць мае на ўвазе. З'яўляецца ён заўсёды, аднаго разу большы, іншы раз меншы, часам крыху раздвоены, быццам змяіны язык, што адразу ж выклікае розныя падазрэнні, аднак трэба ўзяць пад увагу, Твая Вялікасць, што ў кожнай вытворчасці ёсць адкіды, а там, дзе ўсё не столькі матэрыяльнае, колькі ідэальнае, смецце таксама павінна быць адухоўленае. Так што з тэхнічнага боку феномен гэты здаецца цнатлівым маргінэсам стварэння.

– Хіба так? Але чаму ён такі хуліган? Навошта ў іх лезе? Хіба ён не падбухторшчык?

– На першы погляд так яно і выглядае, – прызнаўся Трурль. – Аднак мы ж не ведаем: бунтуе або не бунтуе? Яны ж усе адзін у аднаго там улазяць, а вось ці проста шпацыруючы, ці са злачыннымі

мэтамі – не ўдаецца выявіць, бо як можна зматэрыялізаваць думкі? Рэч у тым, што наш свет знаходзіцца ў адной кропцы, паколькі мы выйшлі за класічны варыянт Генезісу. Гэты духоўны салітэр уецца, як змяя, і праз тое, што худы, – вельмі хуткі. Згодна з тэалогіяй, д'ябал не можа мець залішняе вагі, аднак, развважаючы рацыянальна, ці абавязкова зло павінна быць хударлявым? Вялікай вагой таксама можна спакушаць. Не паўтарылі мы нічога і нікога не прыцягвалі да стварэння... І вось вам вынік. Стварылі мы свет не падобны да нашага, таму і не разумеем яго.

– Глупства! А пан Бог? Ці хочаш мяне пераканаць, што ён браў з кагосьці прыклад? Адкуль і як, калі агульнавядома, што стварaў з НІЧОГА?

– Свет, міласцівы пане, але не жыхароў раю! "Па сваім вобразе і падабенстве". Так запісана. Так іх і змадэляваў. І невыпадкова! Падобнасць Ствараемых да Творцы – умова паспяховае крэацыі! І чым больш непадобны Створаны да Творцы, тым меней будзе Творца арыентавацца ў тым, каго ж ён такі стварыў, як яго твор мысліць, што чуе, чаго прагне і да чаго здольны. ТКМосць і сам гэта літаральна хвіліну таму прызнаў. Калі ліквідуецца падабенства, то знікае і аснова паразумення. Калі нічым не нагадваем створаных, то і не можам зразумець: хто, як, навошта, дзеля каго і што робіць – а перадусім, навошта робяць так, а не іначай. Мова таксама нічым не дапаможа, бо яна заснаваная цалкам на прыпадабненні, а гэтага якраз і няма.

Калі не маем аніякіх агульных органаў са створаным, калі яго цялеснасць нічым не адпавядае нашай, калі ягоны час не з'яўляецца нашым часам, а яго прастора – нашай прасторай, дык і быццё нашае не тое што не супадае, нават не мяжуе з яго быццём. Можам стварыць свет найжахлівейшых істот, невядомых нам ані знешне, ані духоўна, але тады не будзем мець нават самага слабога ўяўлення пра тое, што мы стварылі. Істоты, што цалкам адрозніваюцца ад Стваральніка, з'яўляюцца абсалютна незразумелымі, з якога б боку мы іх ні разглядалі. Лічу, што ёсць гэта найпершае правіла светастварэння, яго непазбыўная антыномія. Альбо стварае зразумелых, і тады павінны яны быць богападобныя, альбо стварае нешта незразумелае, і лёсу гэтых істот нават паспачуваць не можам, бо яны для нас герметычная таямніца.

– Брава! О! Фундаментальную ісціну ты паведаміў, Трурль! – ускочыў з фатэля Хіпаліп. – Так! Цяпер зразумеў і бачу ўсё! Дапушчэнне, што гэты вяроўкавуж траціў прытомнасць, бо так калярова зіхацеў, такая самая праўда, як сказаць, што той, хто прыгожа згарае, мае з гэтага прыемнасць! Цяпер разумею! Паставіць створанае да нас тварам – адна рэч, а разумець, як ім там жывецца, – рэч ужо іншая! Панове, выказваю вам асаблівую ўдзячнасць за вашыя прасвятленні, бо ўмацавалі мяне ў веры. З гэтага моманту буду яшчэ больш верыць у Бога, чым дагэтуль.

– Не бачу сувязі, – прамовіў Трурль.

– Не бачыш? А *credo quia absurdum est?* Новае, больш глыбокае значэнне зразумеў я з тваёй прамовы... Недароблены стварыў нешта завершанае, вечны – самаразбуральнае, наймагутны – таго, хто амаль нічога не можа, найдобры, для якога цнота не ёсць праблемай, – разбэшчаных сквапнікаў... Дык чаму яны не будуць яго моцна расчароўваць сваімі паводзінамі? "Па сваім вобразе і падабенстве" кроіў свае спадзяванні, але быў няздольны змініятурызаваць іх да памераў створанага! Спадзяваўся на вечны пажар пасля іскаркі ад уласнага бляску! Адтуль і яго ўзорная эксцэнтрычнасць, вядомыя дзівацтвы боскія, уражанне, што ён буркун, нудотнік, дзівак, рамантык, зваднік, які цягне Створаных на пакуты, парахункі і вырокі пасля ўсіх бадзянняў па даліне смерці...

Ах, цяпер я зразумеў, што так захапляла айцоў царквы, і асабліва святога Аўгустына: гэтая ўразлівая недаробленасць не тое што здаровым розумам – сэрцам не можа быць зразуметая. Таму яны і схавалі сваё аслупяненне ў догматах, адмовіліся ад уласнага розуму, не ведаючы, што так праявілася антыномія, якая паходзіла з тэхнікі, не – этыкі Стварэння! І гэта натуральна. Цяпер ужо без усялякіх разваг веру і спачуваю ім, – спакойна скончыў кароль.

Клапаўцюш, аднак, зусім яго не слухаў. Быццам штосьці перажываў, усміхаўся нейкім думкам, якія неспадзявана прыйшлі да яго. Устаў са створанага свету, на якім сядзеў дагэтуль так ганарыста, быццам павінен быў адляцець у вырай.

– Найяснейшы пане! – урачыста пачаў ён уголас. – Прыйшла да мяне іншая, цалкам новая канцэпцыя. Не люблю хваліць сам сябе, але мушу сказаць: гэтая думка – абсалютна геніяльная. Ужо ведаю, што трэба зрабіць, каб стварыць свет, блізкі да ідэальнасці; такі, у якім яго жыхары знойдуць і назаўсёды зацвердзяць уласнае шчасце, нягледзячы на тое, што не будуць ні ў чым (абсалютна ні ў чым!) падобныя да таго, хто іх стварыў.

– Ну? Ну??!! – у адзін голас крыкнулі Трурль і Хіпаліп.

Тут, аднак, Клапаўцюш змоўк. Запэўніў, што праз чатыры дні створыць новы свет і праз эксперымент давядзе яго бездакорнасць. Дарма налягаў на яго манарх і злаваўся Трурль. З усмешлівай паблажлівасцю таго, хто заслужыў сабе вечную славу і не зважае на хітрыкі зайздроснікаў, пачаў Клапаўцюш збіраць з падлогі інструменты. Тады Трурль абвясціў, што адсланяецца ад наступнага акту стварэння, пойдзе да сябе і сам пачне працу ў іншым накірунку. Манарх умовіўся з абодвума сустрэцца ў зале для аўдыенцый на бліжэйшую сераду. На тым і разышліся.

Абодва з'явіліся ў прызначаны час: Трурль – з пустымі рукамі, Клапаўцюш – цягнучы вазок аб два колы, што ажно трашчаў пад цяжарам апаратаў. Адразу ж і прыступіў да дэманстрацыі.

– Пане кароль, у мяне атрымалася, – абвясціў ён. – Каб усё было ясна, мушу перад паказам майго Генезісу сказаць некалькі ўступных словаў... Мой... ээ... калега Трурль сфармуляваў антыномію крэацыі ў класічным варыянце наступным чынам: чым больш непадобны Стваральнік да Ствараемых, тым больш цяжка зразумець яму іхні лёс. Калі ж межы падабенства набліжаюцца да нуля, дык Творца не разумее ў сваіх створаных нічога. Адсюль маем быццам невырашальную дылему: альбо ўпадабняем створаных да сябе, але тады чым лепш разумеем ствараемых, тым большыя абмежаванні Крэатара, які страчвае свабоду дзеянняў, і наадварот, чым больш свабодна будзе ён працаваць, тым больш будуць створаныя выпадаць з яго эсенцыі ды экзістэнцыі. Што тычыцца мяне, то я вырашыў гэтую дылему творча і некласічна. Не адзінкавы свет стварыў, а іх патэнцыяльную бясконцасць. Не сусвет, а полісвет маем у гэтай вось скрыні. Сам не ведаю, як там жывецца маім істотам, аднак нічым ім маё няведанне не шкодзіць, бо змясціў іх у быцці шматвяртальным, якi можна мяняць на абсалютна новыя быцці. Каму не адпавядае яго цяперашні свет, хто мае яго ўжо па дзіркі ў носе, каму лёс нямілы, той бяжыць у пункт здачы і адным рухам рычага ўсё ставіць на абсалютна новы шлях быцця. Так што кожнае быццё месціцца на скрыжаванні, яно – перамежкавая станцыя да безлічы быццяў іншых, якія адкрытыя кожнаму. Мае створаныя мяняюць быцці як пальчаткі, прымяраюць на сябе як капелюшы, кіруючыся ўласным, а не маім жаданнем, адным словам, у гэтым свеце якасці існавання змяняюцца выключна згодна пажаданням яго жыхароў. Як Творца я даў ім найвышэйшую свабоду. Не выбіраю за іх, нічога не раю, ніякіх інструкцый ці загадаў, не сяку з пляча або з якога іншага месца, нічога ім не навязваю і не забараняю, быццам ведаю болей ці лепей, чым яны самі, у чым іх шчасце, што іх выратуе, а што згубіць. Могуць рабіць памылкі, але ніводная памылка не будзе апошняй, бо паправіць яе можна зменай бегу падзей. Таму не з'яўляецца мой свет дыдактычным, аўтарытарным, вучнёўскім, судовым – які катэгарычна закладзены раз і назаўсёды без усялякіх кансультацый і дыскусій. Не з'яўляецца ён і папраўчай калоніяй з карамі і ўзнагародамі, якія зноў жа ўстаноўленыя мной, і дзе пяшчота ды ласка – выключэнне. Не з'яўляецца гэты свет і папругай, якую я адзін магу нейкім цудоўным чынам зацягваць ці паслабляць. Гэты свет будзе пастаянна змяняцца і жыць рознымі жыццямі да таго часу, пакуль застанецца ў ім хаця б адна істота, незадаволеная сваім існаваннем, будзе ён вандраваць з месца на месца, пагружацца ў розныя лёсы, пакуль не знойдзецца такое быццё, якое ўсіх жыхароў задаволіць. Вось тады ніхто больш не дакранецца да рычага пераключэнняў і запануе вечная гармонія. Так што свет мой не пачынаецца з раю, каб пазней адхіляцца ў бок пекла, а наадварот, нараджаецца ў пакутах і рухаецца да раю. Не ўмешваюся ў справы майго свету! То, выбачаюся перад панам, усё.

– Ага, – сказаў Хіпаліп, які ажно засвяціўся, слухаючы прамову Клапаўцюша. – О! Вось мы якія! У самую... Вось... Ну, ну... Здаецца мне, дарагі мой светатворца, што трапіў ты ў дзесятку! Кажаш, што даў ім свабоду выбару, га? Паўправадніковае дэмакратычна-

анталагічнае галасаванне: роўнае, агульнае, вольнае, тайнае ды яшчэ зменнае... што ж, гэта мне і папраўдзе падаецца паўнейшым эгалітарызмам! І кажаш, што не можаш нічога зразумець з іхніх матываў, учынкаў? Шчыра кажучы, трошкі шкада...

– Менавіта так! – урачыстым жэстам Клапаўцюш падняў дагары палец. – "Трошкі шкада", праўда? Шкада, што немагчыма ўваходзіць і выходзіць, мудрыць, жадаць, лаяць, песціць, выраблящь, бадаць рагамі, паліваць серай... а таксама раздаваць сабе камплiменты вуснамі створаных. Вядома, тое-сёе можна зразумець і ў такім свеце, як гэты мой змяняльны, аднак веданне гэтае нічога вам не дае, застаецца нейкім прыватным веданнем, *votum separatum* Творцы на мяжы генезісу.

– Ну што ж, пакажы нам нарэшце гэты свет, пакажы, мілы пане, – прасіў кароль, які ўладкаваўся найвыгадней, калі Клапаўцюш пусціў сноп святла на алебастравую сцяну. Трурль жа пахмурна маўчаў.

Зноў убачылі Крэнтліна-заранiна, ягоныя духоўныя патрэбы і дзеянні, што скончыліся выданнем на свет вядомае нам ужо суполкі – Цэвіна ні ў чым не змянілася, праўда, муж яе гэтым разам аказаўся паўтаракам, бо засталося для яго менш матэрыі, чым было раней, а з рэштак яе выйшаў ужо толькі часткова прызмеяны Марлін Падпонскі. А паколькі працэс гэты ўсе ўжо бачылі, то і падаўся ён ім амаль прыгожым, а месцамі нават ясным. Кожны быў там патроху паўсюдна, кожны, аддаючы частку сябе іншым для карыстання, самахоць удзельнічаў у брацкіх ды сястрынскіх справах, наведваючы ўнутраны свет блізкіх, аднак паводзіў сябе там памяркоўна, што ішло ад добрых манер. Можа, жадаючы паказаць марнасць (для ўразумення) мовы артыкуляцыйнае, уключыў Клапаўцюш гук, і свет той, дагэтуль нямы, адазваўся шматгалоссем. Адразу ж пачулі яны гоман узаемазліцця. Гэта муж Марлін выгледзеў сабе праясненую мясцінку ў Цэвіне, бадзяючыся па яе кантэмпляцыях. Потым штосьці паміж імі не заладзілася. Падпонціюш аддаліўся, зацемнены ззаду, а Крэнтлін давай на яго месца ўціскацца. Цэвіна ж яго зусім не прапускала, быццам забраніраваная.

– Дай жа мне хаця б на адзін зуб! Злучымся ў адно! Зробім усхмарнасць! Сам сабе усхмарнасць рабі! Прашу не блытацца тут ува мне! То мая частка! Васьматлустка мая, заранка ясная! Выпхнем Панцяка ў клейстар! Што пан сабе дазваляе! – даносілася да гледачоў. – Што, хочаш паўтарака? Я цябе ўмыю, патрою, замстру! – а вось тут не зусім было ясна, хто, што і каму збіраецца зрабіць. Уверсе над каменнем філасофскім візіі паўставалі няпэўнымі, быццём прыціснутыя, але побач знаходзіліся схованкі, хацінкі-бытавінкі. Цэвіна ў адну такую пацякла ад пераўзбуджанага Крэнтліна, а ён лунаў вакол непранікальнай, як бы закрытай бяльмом, колеру малочнага. Дайшло паміж імі да абмену думкамі.

– Дай мне ўвайсці, дай залезці хаця б на цалю, бо інакш засохну! – Быццам быў ёй патрэбны гэты малочнік? – Дай мне шанец... бо мушу! Не катуй мяне!

– Адчапіся, бо ападамі цябе завалю! Не цэпайся ды не натурся, ну!

Уцякаючы з гэтага бардака, Цэвіна рушылася да рычагоў змены быцця, а Крэнтлін, выходзячы з сябе, абкружаў яе сабою і, выціскаючы малочнік, павіс на ёй і пачаў яе нахабна кахаць:

– Адсвяткуем тут, проста тут!!!

А ўжо Марлін імкнуўся да іх; муж з адасобленым пабочным Падпонскім увайшлі ў Крэнтліна з мысліўнага боку, выдралі Кавалак, зрабілі дзірку, Цэвіна выпіхнулася праз яе расшарпаная і пачала іншаць. Кожную хвіліну яна рабілася іншай: з'явіцца, дэматэрыялізуецца, спахмурнее: ці гэта хвароба якая, ці від мімікрыі? Можа, ад страху, ці што? Паводле аднае думкі яна пааленілася, але зрабілася хутчэй Алендай, а не Аленай, можа, ад блытаніны, а можа, ад спеху... Тым часам над хацінкай-бытавінкай Марлін і Падпонціўш барукаліся з Крэнтлінам, – выглядала на кісель, што кіпіць. Намагаліся абодва (ці абодва з паловай?) распушыць адзін аднаго ва ўзаемных турбуленцыях, адначасова спрабуючы засярэдзіцца на сабе, каб набрыняць дадатковай моцай.

– Развальвайся, дыфузія адзюлтэрская, – у адзін голас рыкаў паўтарачны муж.

– Сам развальвайся! Упадайце ў клеевае здранцвенне, а не то я ўласнаруч вас туды скіну! – адказваў каханак, праўда, яшчэ недаспелы, але выспяваючы на вачах.

– Распуснік! Ты, ганебная з'ява! Вон, у небыццё!

Тут Крэнтлін у імгненне вока вымысліўся над хацінкай-бытавінкай і хутка быў ля Цэвіны, а неўзабаве напоўніў яе цалкам,

хаця і ў фазе Аленды. Тады муж памкнуўся адразу ў два бакі – быццам разарвацца хацеў, – да жонкі і да рычага.

– Змяню быццё, каб ты, Крэнсляч, згінуў! Ці тады Цэва застанецца з табой? Я цябе змушу падпарадкавацца!

А той, збляклы, толькі сапеў:

– Глянцаваны шаленец! Альбо нічога, альбо трансфіналія. Не прымаю кампрамісу. Гэта ніякае не зліццё!

– Растлумач! Хто з кім зліваецца?

– Гу? Можа, твая чвэртка, а можа, Понская. А можа, абое. Я не прарок, толькі авантуршчык!

– Авантуру табе ў бок! Націскаю! Перараблюся!

Дацягнуўся Марлін да рычага, Падпонскі разам з ім цягне... Знікла ўсё на якісьці момант, але праз секунду зноўку ўсе з'явіліся – вось толькі не тыя самыя, бо ўжо анталогія зусім іншая. Понція ані следу не засталося, Крэнтлін ужо не Крэнтлін, а Грэнсліч, да таго ж падфарбаваны, можа, яго такім Цэвіна заіндыфікавала, якая сама не змянілася – прынамсі, на першы погляд. Змена быцця выклікала паўсюдную паніку. Хто застаўся жывым, скакаў ад тых, хто побач, абы схавацца, а можа, гэта рэфлекс які пладовы – невядома. Кожны хацеў быць як бы ў самай сярэдзіне. Цэвіна таксама хацела. Рушыла ў бакавую няясніцу, але трапіла настолькі дакладна ў патрэбнае месца, што тут яе практычна не было, бо праяснілася наскрозь і завісла над марэнай. Яшчэ дрыжэла, калі на яе – што за пастаянства пачуццяў? – Марлін напалову з Грэнслічам кінуліся, яна змяшалася, і яны з ёй таксама. Хацела скінуць непатрэбшчыну, пазбыцца ўсяго гэтага месіва, але ўжо ніхто ўласныя думкі не пазнаваў, цягнулі ў суцэльнай блытаніне як сваё, так і чужое. Цэвіна звілася ў скрутак як мага тужэй, і тыя двое не без складанасцяў павыляталі з яе, поўныя чужых пачуццяў, адпачылі крышачку і да рычагоў у хацінке-быцінке. Гэтым разам Марлін задаў іншае існаванне. З хаатычнае мешаніны можна было зразумець толькі тое, што ўжо ніхто нічога не разумее. Дыміла як ад ста пажараў без агню. Здавалася, што кожны, зноў выглядаючы, як напачатку, выпускаў з сябе істоцінкі, або недасканалыя яшчэ інтэнцыі, як праекты на будучыню, тым болей неверагодныя, чым болей спрабаваў сканцэнтравацца. А магчыма, была гэта толькі спроба экстэрналізацыі думкі – пакуль нарэшце не дайшло (як потым меркаваў Трурль) да панпсіхічнага вынішчэння, і агучаныя думкі былі духоўнымі барабанамі навыварат.

Глядзяць, а Грэнсліч пырскае на ўсе бакі не марэны светапоглядныя, а нейкія тумбы, па самы далягляд забівае свет думкаснасцю, свет робіцца як бы моцна адухоўленым, аднак і абафіцыяленым, бо паўсюдна ляжаць радзімы з радзімкамі ды фашыны.

Муж ужо і не муж, а немаўля, і немаўляціцца каля Цэвіны з даволі моцнымі прэтэнзіямі. Сілы цэнтрыфугальныя Карыёліса Маўперціўша або кружэнне галавы – невядома. Да ўсяго яшчэ зніклі полавыя прызнакі. Невядома, з чаго пачынаць, бо знік сэнс канфлікту. Секс – гэта ўжо забытае мінулае, таму і не секс, а толькі экс. Немаўля не заўважыў гэтага праз сваю немаўлятасць і, прыцягнуты моцным пачуццём, хацеў быў ушчыніцца ўглыб Некарола Грэнсліцкага, піскаючы: "Я цябе заказытаю, я табе пакажу, быт этрускі!" – але ажно змярцвіла яго, калі ўбачыў, што гэта не каханак, а коханка ці каханко, а можа, і кахонка: зрабіла Крэнсліча ніякім гэтая анталогія! А тут той малочнік аднекуль з'явіўся і хуценька да бытоўні, адштурхнуў немаўля ды давай рычаг назад цягнуць, каб вярнуць хоць якую папярэднасць, аднак трапіў ён на зліццё нейкае, а можа, і на онтаіснасць. Змяшаліся ўсе каардынаты, кантынуум моцна страсянула, быццам гара абрынулася, пасыпаўся град камення філасофскага і бліснуў новы свет – але які!

З мужа-немаўляці атрымалася скрыжаванне, відавочна жаночага роду, відаць, роду гэтага жаночага яшчэ заставалася трохі на самым дне, малочнік ператварыўся праз змену быцця ў зіхаткую папараць-кветку – чыста табе ноч Купальская! – а дзе ж Цэвіна? Нешта вялізна-тоўстае, балоніста-мангальф'е-рыстае, шматкупальнае са стужачкамі недзе ў паднябессі боўтаецца, няўжо то яна?.. Скрыжаванне на подзе немаўляці ўбілася ў суседніка, дзе пельгрыб з адэлетазам языком нагу чэша, а са ста бакоў адначасова правыя ручаняты, дрыгаючы ад напругі, цягнуцца па онтаіснасць...

Кароль даўно ўжо патрабаваў, каб перапынілі дэманстрацыю. Клапаўцюш неахвотна пагадзіўся, выключыў апарат, мармычучы, што можна было перачакаць яшчэ з пару пераменаў быцця, што ўсё

гэта нарэшце павінна выдэстыляваца, выясніцца, а пакуль ўсе яны проста нічога не ведаюць і не разумеюць ды бракуе ім цярплівасці, – аднак ніхто яго не слухаў. Кароль засунуў руку ў кішэню, выцягнуў яблык, пашараваў яго аб рукаў, а Трурль, апусціўшыся на карачкі, абыходзіў з трох бакоў скрыню светлавую, прыплюшчваў то адно вока, то другое, заглядаў праз шчылінкі, стукаў па донцы, потым рашуча падняўся і, абтрасаючы калені, сказаў:

– Ну так. Выйшаўшы з класічнае антыноміі, шаноўны калега ўляпаўся ў некласічную. Паўправадніковыя карткі анталогіі, га? Смешныя рэчы! Яны ў гэтай скрыні нічога сабе не выбіраюць, а толькі кідаюцца, недалэнгі, усляпую, як рыбы на патэльні. Вынаходка аказалася наступная: паданка шматбыццёвая, вялікі невялік альбо анталепсія *progresiva,* новы від пакут экзістэнцыяльных, бо што іншае яны там робяць? Ад халеры ўцякаюць да чумы, ад чумы да праказы, ці можна тады сказаць, што той, хто ад аднае заразы ўцякае да другое, паступова набліжаецца да ідэалу?

Тут пачаў Клапаўцюш крычаць, ды нават, забыўшыся на прысутнасць манарха, тупаць нагамі на Трурля, які сеў сабе на ягоную светабудову і, матляючы нагамі, правакацыйна пасміхаўся. Магчыма, дайшло б да бойкі, калі б не ўмяшаўся Хіпаліп, прыпамінаючы ім, што гаворка ідзе не пра абы-што, а пра стварэнне свету. Супакоіўшыся трошкі, Клапаўцюш пачаў хутка і ўрачыста тлумачыць, чаму калекцыя быццёвых альтэрнатываў павінна быць абавязкова: тады не трэба выбіраць паміж быццём і небыццём. Хаця і ў гэткім варыянце рызыка існуе ў кожнай змене, бо наперадзе няма пэўнасці, але кошт гэтае рызыкі не большы за кошт уласных учынкаў. У Клапаўцюшавым варыянце гэты кошт нават меншы, чым у класічным, і ён гатовы давесці апошняе ў агульным падрахунку. Папярэдні выбар – проста фікцыя, бо той, хто пераходзіць з аднае онтыкі ў іншую, змяняе не толькі асяроддзе, змяняе і самога сябе – а вынікаў матамарфозы немагчыма прадбачыць! Рызыку не трэба абыходзіць, спробы патрабуюць часу – бо што тыя некалькі хвілін абсервацыі ў параўнанні з бясконцасцю магчымых эонаў? Ідэальны стан можа быць дасягнуты як праз гадзіну, так і праз двесце гадоў – гэта праўда, але іншае дарогі няма. Далей Клапаўцюш казаў, што трэба кіраваць туды, бяручы з кожным разам усё больш доўгія тэрміны, ён спасылаўся на тапалогію духу і на геаметрыю вытлумачэнняў ды растлумачэнняў, выкладаў элементы антаграфіі эндаскапічнай, кліматызацыі эмацыянальнага жыцця, а асабліва яго выбрыкаў, рэгуляцый, натхненняў, упадкаў духу... Клапаўцюш гаварыў так, што ажно ў яго ў горле зарыпела, а ў караля забалела галава. Трурль устаў тады са светабудовы, на якой сядзеў, выняў з-пад пахі невялікі аркушык паперы і сказаў:

– Я таксама цяжка працаваў апошнія дні. Ці магу паказаць вынікі сваёй працы?

– Пачакай, – сказаў кароль. – Адзін з маіх дарадцаў учора сказаў мне наступнае: калі б свет атрымаўся ў нас лепшы, чым свет пана Бога, то азначала б гэта, што пераўзысці Яго немагчыма, інакш кажучы – аказалася б, што надзяліў Ён нас неабмежаванай патэнцыяй крэацыйнай. Калі б нам гэтага НЕ ЎДАЛОСЯ, то азначала б гэта, што не даў Ён нам тае патэнцыі, бо не захацеў. Адсюль вынікае: калі выйграем, то на самой справе прайграем, а калі прайграем, то менавіта тады і выйграем! Выйграць жа можам толькі на боскі, а не на свой рахунак. А прайграўшы, прадэманструем немач, якой Ён нас надзяліў, і тую немач накіруем на Яго, як абвінавачванне, што ёсць мы ахвярамі дыскрымінацыі светастварэння! Што на гэта скажаце?

– Звычайны сафізм, – сказаў Трурль і сунуў каралю проста пад нос сваю паперку, пры гэтым забыўся да такое меры, што, жадаючы як мага хутчэй прынізіць Клапаўцюша ў вачох манаршых, цягнуў таго за абшыты гарнастаем рукаў. – Тут вось, глядзі, ТКМосць! Тут адкрыты мной і сфармуляваны згодна найдакладнейшых формулаў, а таму бясспрэчны доказ НЕМАГЧЫМАСЦІ стварэння свету!!

– Га? – здзівіўся манарх. – Я добра пачуў? Доказ, што немагчыма?...

– Так, ясны пане. Без усялякіх падманаў. Шкада працы! Вось мой доказ гэтаму!

Кароль вырачыў вочы.

– Як жа... тут жа... а гэта... а гэта ўсё...? – раскінуў ён рукі. – Гэты ж свет існуе нейкім чынам...

– Эээ, – паціснуў плячыма Трурль. – Які гэта свет... я ж казаў пра ідэальны...

**З польскай мовы пераклаў**
**Алесь КУДРАЎЦАЎ.**

**Станіслаў ЛЕМ**

# СІЛЬВІЧНЫЯ РАЗВАЖАННІ XL*

1. Трэба гэта нарэшце сказаць. Лёс (цяпер званы генамі) мне прызначыў (надаў?) уменне прадбачыць будучыню. Гэта не здольнасць, што вымагае адмысловага акту волі, напружання ці папросту жадання прагназаваць. Так было б няблага. Але я прадбачу МІЖВОЛІ. Вось я напісаў нешта пару дзесяткаў гадоў таму, і цяпер гэта спраўджваецца. Я ніколі не ведаю, ці спраўдзіцца нешта, і калі гэта наступіць,– але факт, што так дзеецца. Усю "Тэхналагічную суму" я прысвяціў па сутнасці адной канцэпцыі: увасобленыя ў эвалюцыі жыццёвыя працэсы стануць прыкладам і ўзорам, якім людзі часта будуць паслугавацца жудасным чынам. І я дажыў да таго, што "Artificial Life" і яго дэрываты цяпер модныя, абмяркоўваюцца і сінтэзуюцца ў сотнях універсітэтаў. Ніхто аднак не ведае, што 33 гады таму гэта абвясціў я, але і гэта нармальна, і з такой мізэрнай прычыны не варта злаваць. Наогул я ніколі не ўваходзіў у ніякія плыні, і розныя Ф'ючэрэбул (Futurible) і Каны (Kanny) нічога аб маім падкракаўскім існаванні не ведалі і сышлі ў нябыт з гэтай няведай, але хіба ад гэтага некаму стала блага?

Я, безумоўна, не кажу пра нязначную ўвагу, нейкія там экстрапаляцыі, канечне, якраз наадварот. Я заўважыў, што калі што-небудзь з прагназаванага мной неспадзеўкі станавілася сапраўднасцю, то раней ці пазней нехта, не маючы абсалютна ніякага аўтарытэту, адзначаў гэта і пісаў аб гэтым, але так, што большыня гэтага не заўважала. Таму ўсё тое, што я таксама прадбачыў, але што яшчэ не спраўдзілася, было паўсюль (я не маю на ўвазе толькі Польшчу) трактавана так, нібыта яно не існавала і ніколі не было выказана, паколькі ў такіх выпадках я ніколі нават не аспрэчваў падобныя закіды. Гэта было нормай, а ў апошні час змены зайшлі яшчэ далей: я не ўмею прадбачыць нават у грубым прыбліжэнні, калі нейкая інавацыя, асабліва вялікага калібру, наступіць. Аб тэрмінах, аб *calendarium* я не ведаю НІЧОГА. Але ўсё ж ГЭТА надыдзе, тады, калі некалькі расцярушаных па свеце асобаў прачытае і зразумее, што акурат я аб гэтым некалі напісаў.

2. Але ў такім выпадку нельга быць галаслоўным. Паколькі ўжо гэтулькі разоў спраўджвалася маё "першынства" ў дачыненні да "віртуальнай рэальнасці", мяне запрашаюць на розныя вучоныя сімпозіумы ў Нямеччыне (ніколі не ездзіў і не паеду), але іншыя закранутыя мной прафетычныя тэмы застаюцца закрытымі для ўсіх як плод каштану ў шкарлупіне, пакуль гэтая шкарлупіна не трэсне пад нейкай навукова-тэхнічнай нагой. А таму, пераходзячы да канкрэтыкі, паўсюдны трыумфальны лямант, які суправаджаў народзіны такіх сетак сувязі, як Інтэрнэт і іншыя Нэты, я неўзабаве пракаментаваў тут і там запэўненнем, што гэта будзе вялікі правал, паколькі адкрыўся каласальны прасцяг для новага тыпу COMPUTER CRIME, што гэта будзе тэрыторыя ашукаў, крадзяжоў, падрабленняў, удаванняў, перахопаў, рабаванняў ІНФАРМАЦЫІ, але хоры, што пяялі ў гонар гэтай Суперсеткі і маланкавасці ўсіх магчымых аперацый, майго мышынага піску, натуральна, не заўважалі і не заўважаюць, бо, як я адзначыў у першай сільве, надрукаванай у часопісе "Одра", я буду пісаць праўду, якую ніхто не ўцяміць. А тут множацца артыкулы накшталт "International Herald Tribune" ад 17 кастрычніка: "New Flaws undermine Security of Internet".

Можна сказаць, што гэтыя злачынствы, плагіяты і ашукі, глабальнай тэрыторыяй якіх стаў эмбрыянальна пачаты Інтэрнэт, можна было б так жа лёгка прадугледзіць, як і тое, што поўная долараў валізка, пакінутая на лаўцы ў парку, хутка знікне. Я з такім дыягназам (відавочнасці таго, што збіла з тропу і шакавала тых, хто ўжо

---

* У апошнія часы Станіслаў Лем звярнуўся да своеасаблівай формы рэфлексіі, прыдуманай аўтарам адмыслова для часопіса "Одра" і якой ён надаў назву "сільва". Карані гэтага слова сягаюць лацінскай мовы, у якой "silva" азначае як і "лес", так і "парк", як "расліны", так і "множнасць", як "матэрыю", так і "чарнавыя запісы". Ад чытача ж патрабуецца актуалізаваць "слушнае" на ягоны погляд значэнне гэтага слова.

павыкупляў акцыі разнастайных адгалінаванняў Інтэрнэту) у цэлым згаджаюся, застаецца толькі пытанне, чаму перад выпускам на рынак гэтых акцый і прадказаннем імгненнай, маланкавай выгады, а таксама перад працягваннем e-mail (электроннай пошты) ніхто аўтарытэтна не перасцярог аб гэтым... Але куды там: меркаванне аб тым, што кадаваннем і шыфраваннем можна прадухіліць любое злоўжыванне, адразу падалося мне папросту дзіцячым, паколькі Інтэрнэт яшчэ не функцыянуе ў небе сярод анёлаў, якія, як вядома, не схільныя да парушэння сёмай запаведзі.

3. 9 верасня 1995 г. у "New Scientist" (старонка 42) у артыкуле пад назвай "Losing yourself in the Net" нейкі Jon Wozencroft апісвае (і часткова рэцэнзуе) кнігу спадарыні Allacquere Stone "War of the Desire and Technology at the Close of the Mechanical Age". Я, рэч ясная, не магу скарочана пераказаць артыкула, што як рэцэнзія сам ЁСЦЬ скарачэннем кнігі, якой я не ведаю, але цэнтральны тэзіс аўтар падае ў двукоссі, і ён гучыць так: "Існуючы ўзор суверэннага індывіда (sovereign subject) будзе поўніцай падарваны дзякуючы нашай узрастаючай здольнасці да прыстасавання (to adopt) разнастайных індывідуальнасцяў у віртуальных грамадствах". Ну а пасля аўтар кажа, што такія тэзы – гэта шрапнель, якая трапляе ў чытача. Хто мог бы падумаць, што гэтая "шрапнель" была выстралена 33 гады таму ў вёсачцы ля кракаўскага прадгор'я, што я меў гэты гонар: вось цытата з першага выдання "Тэхналагічнай сумы" (С. 224): *"Там, дзе здзяйсняецца трансфармацыя індывідуальнасці, асобасная тоеснасць са з'явай, прызначанай для даследавання, ператвараецца ў з'яву, прызначаную для вызначэння".* Пасля ляціць цэлы раздзел *"Індывідуальнасць і інфармацыя"*. Урэшце шрапнель даляцела. Гаворка ідзе аб тым, што адным хутчэй з парадаксальных наследкаў, убачаных мной у 1963 годзе, мела быць знікненне індывідуальнай тоеснасці на карысць "вызначэння", г.зн. умоўнага ўстанаўлення, *хто і дзе з'яўляецца той ці іншай асобай.*

Вы, праўдападобна, мяркуеце, што пытанне, прыведзенае як цытата з "Сумы", з'яўляецца адным з дэрыватаў "фантаматыкі". Гэта азначае, што віртуальная рэальнасць пачынае пагражаць пэўным своеасаблівым – апісаным мной – чынам індывідуальнай тоеснасці пасля адпаведнай фазы станаўлення тэхнічнай базы. Паколькі я не збіраюся перарабляць гэтую пару заўвагаў у нешта накшталт хрэстаматыйных выказванняў з неіснуючага тому пад назвай "Прароцтвы Ст. Лема", я не буду бавіцца і прывядзеннем цытат на іншыя тэмы. Мяне заўсёды найбольш цікавілі *анталагічныя* праблемы, да якіх, безумоўна, належыць і індывідуальная тоеснасць, таму што калі нехта – гэта нехта, ён таксама можа заняцца філасаваннем; а калі не вядома, хто ёсць кім, чаго можа быць вартая створаная "дзеля яго" анталогія. Гэта *не* эпістэмалагічная праблема, паколькі эпістэма засноўвае (хутчэй *implicite*, чым *explicite*) індывідуальнае чалавечае мысленне (кожны філосаф заўсёды Нехта, ён не можа, як Паліфем, быць "нікім"). З гэтай прычыны мяне захаплялі *такія* наследкі чыста тэхналагічнага развіцця, якія атакавалі нібыта адвечна нязменную сферу тыпова герменеўтычна-анталагічных з'яваў, што ўтвараюць цэнтр, наўкола якога кружацца думкі філосафаў. Аднак так глыбока, як у "Summa technologiae", ні зацытаваная кніга, ні іншыя артыкулы з безлічы кампутарна-інфармацыйных выданняў НЕ здагадваюцца і аб тым, што ўзнікае патэнцыяльнае судакрананне, і нават перацінанне "па гарызанталі" фантаматыкі з дактрынай, прапанаванай біскупам Берклі, – аб гэтым у арыентаваных хутчэй пазафіласафічна тэкстах няма і гаворкі.

4. Як мне падаецца, я апісаў характэрны ўзор маіх прыватных клопатаў, звязаных з асабістым дарам "прадбачання". Не трэба лічыць, нібыта я сцвярджаю, што ўсё, што я скажу, адразу (альбо пасля 30 гадоў) зматэрыялізуецца, таксама як не варта ўважаць, нібыта я мяркую, што мае прагнозы беспамылковыя. Гэта далёка не так, паколькі як праз паасобныя пункты, эксперыментальна вызначаныя каардынатамі (на восі ардынат і абцыс) графічна можна правесці *несупынную лінію,* якая будзе мець выгляд *нейкай* крывой (простая – гэта адмысловы варыянт "крывой", бо яна ёсць простай), так праз мае розныя прагнозы можна правесці арыентаваную ў часе і прасторы "крывую", якая не што іншае, як толькі вектар неспадзяваных прагрэсій, перанятых ад біятэхналогій жыцця. Заўсёды бывае так, што НЕХТА думае, г.зн. індывідуальнасць ужо дадзеная і залучана ва ўсім гэтым думальным малоху, які

асімптомна імкнецца авалодаць эвалюцыйна ўзніклымі ведамі (і ў нас таксама зрэалізаванымі).

Можа, некалі некаму захочацца вылучыць з маіх тэкстаў гэтую дзіўную з`яву, якая палягае ў мультыправідэнцыялізме; я напэўна не буду выконваць гэтага задання, паколькі шмат што засталося б па-за ўвагай, як і ўсе паасобныя, рассыпаныя ў маіх тэкстах элементы. У Расіі некалькі гадоў таму выходзіла малатыражнае, неперыядычнае выданне "Тарантога", і там было досыць шмат абгрунтаванняў маіх прагнозаў, але гэта было змешчана з эфектамі SF, якія варта было б адцадзіць. Аднак сам я заняцца адцэджваннем не збіраюся: зазначу толькі, што дар, які наканавала мне Прырода, можа злёгку раздражняць, паколькі надзвычай часта пры чытанні навуковых выданняў я перажываю пачуццё, якое называецца "le sentiment du déja vu" і якое, бывае, злёгку цвяліць.

*Кастрычнік 1995*
*Odra II (408) 1995*

# ФЕНАМЕНАЛАГІЧНАЯ ТЭОРЫЯ ТВОРА*

Цверджанне, паводле якога суверэннасць моўнага тэксту, што прэтэндуе на ранг твора, не з'яўляецца яго іманентнай уласцівасцю, а залежыць ад адносінаў, якія разгортваюцца на, так сказаць, вонкавай перыферыі тэксту ў выглядзе дачыненняў паміж ім і культурнымі ўзорамі, не дазваляе нам ставіцца да фенаменалагічнай тэорыі твора прыхільна. Згодна з гэтай тэорыяй, якую, як ніхто, распрацоўваў Роман Інгардэн, літаратурны твор заўсёды існуе ў адным выглядзе і яго нельга атаясамліваць з паасобнымі выкладамі як яго канкрэтызацыямі. Мы згаджаемся з тэзамі Інгардэна ў іх антыпсіхалагізме. Бо мы не лічым, што твор тое ж самае, што і ментальныя аперацыі падчас яго прачытання. Мы нават не ўважаем, што псіхалагічны падыход увогуле слушны. Згодна з ім, твор – гэта сукупнасць супольных рысаў усяго пласта прачытанняў, ажыццёўленых у пэўным грамадстве. А калі сто тысяч людзей прачытаюць пэўны твор, сукупнасць рысаў гэтых прачытанняў зусім не павінна супадаць нават часткова – калі гэты твор вызначаецца выключнай арыгінальнасцю. Ён можа ўяўляць сабой у прачытанні асобныя і адлеглыя адна ад адной сукупнасці сукупнасцяў.

Дыскусія аб фенаменалагічным падыходзе не будзе мець філасофскага характару, а толькі такі, *si parva magnis comparare licet*, які паўстаў тады, калі з апрыёрнымі кантаўскімі катэгорыямі прасторы і часу сутыкнулася тэорыя адноснасці. Раней не філасофія вызначала філасофію: гэта рабіла фізіка.

Калі мы ўсё ж згадалі аб ёй, заўважым, што фенаменалагічная канцэпцыя можа быць выкарыстана і ў абсягу дэтэрмінісцкага механіцызму. Гэта, аднак, адмысловы механіцызм – таму што частку раскрывальных у з'явах параметраў ён перасоўвае за межы вывучанага свету. Канкрэтызацыі твора пачынаюцца "тут" і могуць адрозніваца паміж сабой. Сам твор, нязменна адзін, з'яўляецца недасяжна складаным і перабывае ў сваёй дасканаласці "там". Таму твор – гэта надзвычай жорсткая структура, такая ж самая, як і сусвет Laplase. Космас Laplase надзвычай жорсткі і для дэмана, які пазнаў усе яго ўзроўні да апошняга атама і з гэтага авалодаў поўнай ведай аб усёй яго будучыні.

---

* Раздзел з кнігі "Філасофія выпадку. Літаратура ў святле эмпірыі".

Але вось "тут", як мы ўжо ведаем, канцэпцыя Laplase не вытрымлівае. Аднак можна сцвердзіць, што нявызначанасць матэрыяльных з'яваў лёгка прадухіліць і што яны валодаюць "утоенымі параметрамі", такімі, якія ўжо выявіліся ва ўсіх сваіх вартасцях назіральніку, што стаіць "на тым баку". Для такога назіральніка свет зноў аказваецца цалкам жорстка дэтэрмінаваны ў сваім руху. Гэта, безумоўна, бяздоказная канцэпцыя, і таму яна не падтрымліваецца навукай.

Галоўнай асаблівасцю фенаменалагічнага падыходу ёсць ідэальнасць таго тэксту, які і ўяўляе сабой твор. Асноўная тэза, што гаворка пра *адзіны* тэкст, прымушае зрабіць выснову, што адзінкі сказаў, элементарныя цаглінкі тэксту, з'яўляюцца элементамі акурат такімі ж самымі нязменнымі і несціскальнымі, як і атамы ў класічнай фізіцы. Дасканалая ў сваёй аб'ектыўнасці структура твора ў гэтай паралелі адпавядае дасканала арганізаванаму ньютонаўскаму свету. Недасканаласць, уласцівая любым чалавечым дзеянням, спыняецца, як відаць з дадзенай гіпотэзы, на тэрыторыі мовы. Недасканалыя вырабы нашых рук, нашы вынаходы, машыны, дамы, храмы, але не сэнсы нашых словаў, фразаў, якія мы выказваем: іх ідэальна стабілізуе і фіксуе пакрыёмы край адноснай вечнасці пазачасавых значэнняў <...>

З таго, што мы штодзённа сустракаемся з жорсткімі целамі, не вынікае, што мы маглі б, адвольна падаўжаючы метрычныя меркі, правесці ідэальна простую, утвораную з гэтых мераў лінію ў касмічную прастору. Немагчымасць вынікае з прычын не тэхнічнага, а прынцыповага характару. І дарма што сустракаюцца сказы, якія мы можам зрабіць у іх сэнсах адназначнымі, мы не патрапім, на жаль, пабудаваць дзе-небудзь па-за матэматыкай, з паасобных сказаў дасканала інварыянтны збор сукупнасцяў.

Другім пытаннем, што ўтрымліваецца ў фенаменалагічным падыходзе, якому мы прысвяцілі ўвагу, з'яўляецца справа так званай схематычнасці літаратурнага твора. Пад "схемай" можна разумець разнастайныя рэчы. Найперш схему можна разглядаць як пэўную структуру, якая ўяўляе сабой *інварыянт* усяго класа элементаў (схема кровазвароту, схема радыёапарата, схема электронна-вылічальнай машыны). Можна, далей, палічыць за схему пэўны дасканалы ўзор ("ідэйная схема", "ідэальная"), а пасля атаясамліваць яго з падобнай з'явай, хай сабе досыць аддаленай і больш прымітыўнай (асабліва ў прыметнікавай форме: "схематычнае апісанне" – гэта апісанне фрагментарнае, няпоўнае, яно ўтрымлівае прабелы). Пры такім дыяпазоне магчымых *значэнняў* толькі кантэкст вырашае, якое канкрэтна з іх імплікавана аўтарам.

У сваёй фундаментальнай працы Інгардэн займаўся ў тым ліку і праблемамі пачуццёвага сузірання вонкавага свету, але гэтую справу мы абмінём. Найперш дзеля таго, што пераклад фенаменалагічнай артыкуляцыі на мову адпаведнай строгай навукі, якая займаецца анталагічнымі пытаннямі, выкліча значныя цяжкасці. І звыш таго таму, што гэтая праблема не асабліва істотная для літаратуразнаўства.

Ацэньваючы твор, фенаменолаг заяўляе, што ён схематычны як цэлае, так і ў сваіх пэўных "слаях". Тое, што тычыцца слаёў, якія мы ўважаем за гіпастаз, будзе разгледжана праз пэўны час – пазней. Абмяжуемся пастулаванымі Інгардэнам "выяўленымі схемамі" або "схематызаванымі выявамі" як рэальных аб'ектаў, так і ўнутрана псіхічных станаў. З "схемамі" (чаго заўгодна, а не толькі прадметных, уяўленых або псіхічных станаў) можна было б пагадзіцца як з тэрмінам, што датычыць парадыгматычнай культурнай сістэматыкі. Тады можна было б гаварыць, напрыклад, аб схеме любоўнай гульні паводле ўзору японскага сярэднявечча ці аб схеме прывітання на Барнеа, ці аб фабулярнай схеме раманаў Вальтэра Скота. Але будзем мець на ўвазе, што катэгарыяльна гэта былі б схемы розных узроўняў (дзве першыя з'яўляюцца ў адносінах да літаратуры "вонкавымі", а трэцяя з'яўляецца "ўнутранай" характарыстыкай пэўнага адгалінавання раманічнай нарацыі).

**З польскай мовы пераклаў**
**Валерка БУЛГАКАЎ.**

 

ЯНЫ | Моніка МАРОН

# Я БЫЛА АНТЫФАШЫСЦКАЕ ДЗІЦЯ

Я была дзіця камуніста. Мяне навучылі, што свет дзеліцца не на нацыі, а на класы, і што радзіма ўсіх пралетарыяў – Савецкі Саюз: ва ўсё гэта я верыла, пакуль была малая. І прычынай таго, што я перастала верыць, была не барацьба нацый, быў не фатум нямецкай нацыі, якая кіравала маімі пошукамі ў маладосці паміж правам і бяспраўем, сілай і бяссіллем. Я падрастала ў свеце ідэалогій, не нацый, Германія толькі спакваля паўстала перада мною як праблема. Яшчэ некалькі гадоў таму назад я не паверыла б, што яна можа стацца ў мяне тэмай. І нават сёння я ўсё яшчэ не ведаю, ці сапраўды я гавару пра Германію, калі гавару пра Германію.

Шэсць гадоў таму назад я пабывала ў доме, дзе нарадзілася. Ён у Берліне, у Нойкёльне, у сённяшнім Заходнім Берліне. Цэлых трыццаць з нечым гадоў я не бачыла маёй старой вуліцы, і ўсё было ў мяне так, як заўсёды бывае, калі дарослы азірае свет свайго дзяцінства. Несамавітая злавеснасць нашых успамінаў падвышаецца да таямнічасці спаткання. Подых самаспагадлівасці абвявае нас тады: якімі ж малымі павінны былі мы быць, каб гэтая вуліца магла здавацца такой шырокай, гэты дом такім высокім і гэтая дарога такою далёкаю. І пытанне, ці праўда, што дзіця, якое ў нас успамінае, сапраўды было тым самым чалавекам, і адчуванне, быццам нашае Я было Мы.

---

*Раман Монікі Марон «Вуліца Ціхая шэсць» друкаваўся ў №№ 24 – 25.*

Два імя ў дамовым спісе жыхароў я яшчэ памятала. Гэта былі два рэдкія нямецкія імёны, якія можна было яшчэ знайсці сярод турэцкіх і славянскіх, і я падумала, што гісторыя дома доўжыцца далей, як яна і пачалася, без мяне, бо першыя, хто здымаў гэты дом у 1907 годзе, былі палякі. Іх звалі Юзэфа і Павал Ігляж, і яны былі мае баба і дзед.

Юзэфа паходзіла з прававернай каталіцкай сям'і з мястэчка непадалёк ад Лодзі. Павал – з артадаксальнай яўрэйскай сям'і ў Галіцыі. Абое вырваліся з-пад рэлігійнага заціску сваіх бацькоў і ўступілі ў баптысцкую абшчыну, дзе, зрэшты, і пазнаёміліся. Абое былі выгнанцамі з бацькоўскага дома.

Амаль праз восемдзесят гадоў успамін пра гэты фамільны вопыт падштурхнуў маю маці, яўрэйскае дзіця Юзэфы і Павала, памірыцца са мною пасля таго, як яна на доўгі час абарвала была са мною ўсе стасункі з прычыны таго, што я апублікавала кнігу ў "фальшывым" горадзе. Яна ляжала ўначы і не спала, расказвала яна, і раптам ёй зрабілася ясна, што яна робіць тое самае, што рабілі яе дзяды, якія зачынілі дзверы дома перад сваімі дзецьмі за тое, што тыя вызнавалі "фальшывую" веру.

Мае дзяды пераехалі ў Берлін. Чатыром сваім дзецям яны далі нямецкія імёны: Бруна, Паўль, Марта, Гэлена, інакш – Гэля. Каб прыкупіць усёй сям'і яшчэ і германскае грамадзянства, што было цалкам магчыма, Павал зарабляў у краўцоў Пэка і Клопэнбурга занадта мала.



 

Юзэфа, якая за ўсё сваё жыццё толькі і змагла навучыцца пісаць сваё імя, і нічога больш апрача яго, выхоўвала дзяцей ў строгай пабожнасці. Павал стаў камуністам.

Пазней у Нойкёльнскі дом перасялілася сям'я Ф., з якою Павал і Юзэфа падружыліся. Па нядзелях мужчыны сыходзіліся разам і гутарылі пра палітыку. Калі Ханхен, дачка Ф., заручылася са сталяром Густавам, ён стаў трэцім удзельнікам нядзельных дыскусій. Гэта быў час інфляцыі і сусветнага эканамічнага крызісу. З трох мужчын сям'і Ігляжаў – Павалавы сыны тым часам таксама сталі краўцамі – часам каторы знаходзіў працу, часам жа і ніхто. Тым не меней у маміных успамінах з тае пары галеча праступала, бадай што, найменш, а больш баявіты дух выжывання і зразумелай усім салідарнасці, якую яна называла класавай барацьбой.

Калі Ханхен і Густаў пабраліся і ў іх нарадзілася дачка Крыста, яны перабраліся ў Нойнкёльнскі дом у глыбіні двара. Бацькі Ханхен пабудавалі сабе невялічкі дамок у зялёным прыгарадзе. Тым не меней мужчыны яшчэ доўга па нядзелях збіраліся разам, пакуль аднаго разу Густаў не сказаў свайму камуністычна-яўрэйскаму айчыму Павалу Ігляжу, што вось цяпер ужо ён ведае, як яму і на што рашацца. Калі ў той дзень Павал вярнуўся дахаты, ён сказаў сям'і, што ўжо ўсё, ужо і нядзелям іхнім канец настаў. А незабаўным часам Густаў, да нядаўняга сам камуніст, вярнуўся з працы дамоў ужо з іншай партыйнай кніжкай і ў новенькай з-пад іголкі уніформе. Густаў стаў нацы.

Пабываўшы ў нашым старым доме, я вычытала там у надомным спісе жыхароў імёны Ханхен і Густава. Я пазваніла на другі паверх. Адчыніла мне жанчына гадоў пад шэсцьдзесят, дачка Ханхен Крыста. Я назвала ёй сваё імя, што я Моніка Марон, сказала я, і яна крыкнула ўглыбіню калідора: мама, адгадай, а і хто да нас прыйшоў. Моніка Ігляж прыйшла. Монікай Ігляж я нарадзілася, няшлюбным дзіцём Гэлены Ігляж, якой расавыя законы забаранялі выходзіць за арыйца.

Мы сядзелі ў пакоі за вялікім сталом, пілі вішнёвы лікёр і гаварылі пра далёкія часы, калі ўсе мы яшчэ жылі ў гэтым доме. Густаў некалькі гадоў таму назад памёр. Ці ўспамінаю я пра яго, пыталіся, і ці яшчэ ведаю, як часта я бывала ў іх, вось тут па суседстве, на кухні. Я ўсё яшчэ памятала. Тады, адразу ж, Крыста сказала, што яны ўсё гэта бачылі, на свае жывыя вочы.

Я не зразумела, пра што гэта яна, і перапытала, што яны такога бачылі.

І яна сказала. Ну, гэта... Мы бачылі, як яны забралі твайго дзеда.

Не ведаю, можа, яны падумалі, што я прыйшла распытацца ў іх. Але я не распытвала. Крыста сказала, што яны тады, так яно неяк само выпала, якраз вытраслі настольніцу. Не мама, а мы якраз вытраслі настольніцу? І да мяне: Не таму, што ты думаеш, быццам мы з цікаўнасці схаваліся за штораю. Гэта сапраўды было выпадкова.

Дзень, пра які яна гаварыла, быў за 45 гадоў да гэтага.

Я не знайшла нічога благога ў тым, што яны проста стаялі за шторай і глядзелі, як тыя вывелі Павала. Нават Юзэфа з дзецьмі не магла зрабіць нічога іншага, як стаяць і глядзець.

Усе польскія яўрэі ў тым лістападзе 1938 года былі высланы з краіны. Іх адправілі транспартам на германа-польскую граніцу, дзе яны правялі дзевяць месяцаў у металічных вагонах і таму падобных прыстанішчах, бо польскі ўрад забараніў уезд у іхнюю ж краіну польскім яўрэям.

У ліпені 1939 года Павал яшчэ раз два тыдні прабыў у нойнкёльнскім доме. Каб залатвіць свае датыхчасовыя справы, лічылася. Юзэфа мела выбіраць, ці ехаць з мужам ці развесціся з ім. Яна паехала з ім. Сёстры Марта і Гэля засталіся ў бацькоўскай кватэры. Старэйшы брат Бруна памёр за два гады да таго. Паўль з жонкай жыў непадалёк, за некалькі хвілін пешай хады.

Ён працаваў краўцом у Хэрпіга, у славутым атэлье на Ляйпцыгерштрасэ, дзе, як расказвала мама, абшываўся сам Герынг. Аднаго разу Паўль нават ездзіў па загадзе Хэрпіга у Карынхол. Калі выбухнула вайна, Паўль на кароткі час быў інтэрніраваны, а пасля адбываў прымус на нейкім берлінскім ваенным заводзе.

Мае дзед і баба вярнуліся назад у старую Юзэфіну вёску, дзе амаль усе зваліся Пшыбыльскімі, як, зрэшты, і Юзэфа ў дзявоцтве. Там яны яшчэ каторы нядоўгі час пабылі разам, пакуль нейкі паляк не данёс на яго і немцы не заключылі яго ў гэта Лодзі. Якраз жа немцы і былі

тымі, хто яго і іншых яўрэяў вывезлі з гета ў лес, дзе і расстралялі. Так, прынамсі, расказала нам адна неяўрэйская польская сваячка, якая патайна насіла дзеду ў гета, пакуль ён яшчэ жыў, прадукты. Густаву ягонае членства ў СА не дужа ўпасобіла. Ён быў адным з першых, каго змабілізавалі. Ханхен дакладна памятала, як ён аднаго разу, вярнуўшыся з кнайпы, сказаў: вось-вось вайна. Вайны Густаў не хацеў, вайны і ніхто не хацеў, сказала Ханхен.

Жанчыны засталіся ў доме. Калі і як яны перапынілі моўчадзь паміж сем'ямі, яны і самыя не ведалі.

Відаць, усё-такі ў бамбасховішчы, сказалі Ханхен і Крыста, так лічыла і мама.

Густава з прычыны ягонага ўзросту і скалечанага пальца на правай руцэ неўзабаве зноў паставілі перад камісіяй, праверылі і прызначылі на супрацьпаветраную службу ў нашым доме. Апрача ўсяго ён меўся таксама сачыць, каб ні Геля, ні Марта, ні я не карысталіся гэтым падвалам, як тое і прадпісвалася расавымі законамі. Але гэтага ён ніколі не рабіў, сказала Ханхен. Ён не мог дапусціцца, каб дзве жанчыны з грудным дзіцем не мелі схову ад бомбаў, так ён сказаў, і пускаў у падвал на сваю адказнасць і рызыку.

Ханхен была радая расказаць мне гэтую гісторыю пра свайго мужа. І я была радая пачуць такое пра Густава. Мне не хацелася, каб Ханхен саромелася перада мною.

Дзеці Юзэфы і Павала перажылі вайну. Густаву давялося прайсці дэнацыфікацыю. Тыднямі яны жылі на куфрах і чамаданах, расказвала Ханхен, бо ў нацыста Густава і ягонай сям'і хацелі адабраць кватэру. Нехта з суседняга дома дужа меціў на тую кватэру. Калі Ханхен і Густаў пакавалі свае манаткі, Гэля якраз магла распакаваць мае. З дня майго нараджэння стаяў гатовы чамадан на той выпадак, калі аднаго такі дня Марту і Гэлю забяруць і тады мяне будзе гадаваць маміна сяброўка Лізхен.

Яна ніколі не забудзецца, як аднаго разу, расказвала Ханхен, Гэля вярнулася са сходу, пазваніла ёй у дзверы і сказала, што ім дазволена заставацца ў кватэры. Твая маці заступілася за нас, сказала Ханхен мне. Сама Гэля не ўспамінала пра гэта. Калі я спыталася ў яе, чаму яна абараняла абедзвюх, яна сказала: з дружбы. Яны былі сяброўкі ў гады вайны, Ханхен, Марта і яна. Ды і Густаў не быў сапраўдны нацы, толькі такі, які, калі ўсё заварылася, хацеў, зрэшты, толькі быць на баку пераможцаў, дзе яго і без таго не дужа доўга трывалі. Але ніколі Густаў не быў пагрозай нашай сям'і. І Ханхен не магла б кахаць яго, будзь ён сапраўдным нацы.

Так дочкі польскай сям'і Ігляж і нямецкай сям'і Ф. уратавалі дружбу, якая пасля першай сусветнай паяднала іх бацькоў, а яны пранеслі яе праз другую вайну.

Так яно было, сказала Крыста, мой дзед быў бальшавік, а тата нацыст.

І Ханхен не без выкліку ў вачах, спыталася: А ты ведаеш, хто мы цяпер? – Сведкі Еговы.

З вайною закончылася польска-яўрэйская гісторыя сям'і Ігляж. Маім дзядам гэта каштавала жыцця. Юзэфа памерла за год да таго, як забілі яе мужа, таму што ёй, жонцы яўрэя, у акупаванай Польшчы адмовілі ў медыцынскай дапамозе. Дзеці Павала і Юзэфы перажылі вайну і ўсё-такі прапалі. У гісторыі, у якой яны больш не былі ахвярамі.

З маладосці ўсе трое былі камуністамі. Адразу пасля вайны Гэля працавала на камуністычную фракцыю ў Берліне, пазней ва ўсходнеберлінскім магістраце. Паўль стаў фотарэпарцёрам новых антыфашысцкіх і камуністычных газет на Усходзе. Мы ўсё яшчэ ўсе жылі ў Нойнкёльне, які ўваходзіў у амерыканскі сектар.

На Гэлю, калі яна аднаго разу ў нядзелю разносіла "Нойес Дойчланд" і ўлёткі, данеслі, яе арыштавалі, амерыканскі ваенны суд засудзіў яе на трыццаць дзён турмы або тысячу марак штрафу. Улічваючы пару года – было гэта ў лістападзе – і халодныя турмы, партыя рашыла сабраць грошы і вызваліць сваю таварышку з-пад адсідкі.

У 1951 годзе Гэля, Марта і я перабраліся ва Усходні Берлін, які тады называўся дэмакратычным сектарам Вялікага Берліна. Гэтае перасяленне звязана ў мяне з прыемнымі ўспамінамі. У Заходнім Берліне я была адзінай у класе піянеркай, можа, нават ва ўсёй школе. А ў новай школе я была адна з многіх. А як што мая мама атрымлівала толькі заходнімі грашыма, а нам трэба

было арандаваць кватэру і аплачваць энергію, дык наш заўсёдны недахоп сродкаў пры перапоўненых крамах быў амаль нязносны. Цяпер я была, як і ўсе, думала я. Я жыла на баку праўды і гістарычных пераможцаў. Мне было дзесяць гадоў, і слова "камуніст" было ў мяне сімвалам добрага чалавека. Усе людзі, якія былі блізка каля мяне і якіх я любіла, былі камуністы.

Год таму назад Марцін Вальзэр сказаў, што, каб расказаць пра свае дзіцячыя ўражанні з ранніх саракавых гадоў, яму трэба было б ператварыцца ў антыфашысцкае дзіця.

Я была антыфашысцкае дзіця.

Няўжо я павінна, каб расказаць пра свае пяцідзесятыя гады, ператварыцца ў антыкамуністычнае дзіця?

Я чую галасы, мяне перасцярагаюць, мною абураюцца – нельга параўноўваць розныя часы, і ніякае іншае злачынства не пераважыць злачынства нямецкага нацыянал-сацыялізму. У наступныя гады і дзесяцігоддзі непазбежна выявіцца, што можна параўноўваць і што ў выніку пераважыць: мільёны забітых нацыянал-сацыялізмам ці мільёны забітых сталінізмам. У тое дзесяцігоддзе ў Еўропе панавалі два варварскія рэжымы. Нярэдка ахвяры аднаго былі спраўцамі другога. Сталінізм у ГДР быў менш забойчы, чым у Савецкім Саюзе, але ён быў той самай пароды, таго самага духу. Ён заключаўся ў геаграфічных і палітычных умовах, а не ў перакананнях кіраўніцтва, калі нямецкі сталінізм імкнуўся да таго знешняга блізіру, якому ён да сёння заўдзячаецца пазнейшым перакананнем, што нібыта ён быў бяскроўны.

Тое, што ў сорак пятым мне было не васемнаццаць, як Марціну Вальзэру, а толькі чатыры, што я ў адрозненне ад яго паходзіла з антыфашысцкага дома, вызваліла мяне, як і Вальзэра, ад неабходнасці шукаць трупы у паграбах бацькоў.

Калі я камуністычную будучыню лічыла гэтакай самай натуральнай і жаданай, як і ўзыход сонца, дык камуністы кідалі сваіх сацыял-дэмакратычных таварышаў, з якімі яны разам сядзелі ў гітлераўскіх канцлагерах, у свае ўласныя турмы; яны забаранялі, як дэкадэнцкія, творы мастацтва, якія нацысты дэфамавалі як звыраднелыя; яны адмаўлялі хрысціянам у праве вучыцца ў інстытутах; за бяскрыўдны палітычны анекдот асуджалі людзей на гады турэмнага зняволення; арганізавалі па ўсёй краіне шырокую сетку даносаў. Нейкім неверагодным чынам яны пераймалі метады сваіх жорсткіх папярэднікаў аж да факельных шэсцяў і уніформаў.

Тым самым часам я расла ў групе камуністычных жанчын, якія выхоўвалі мяне ў духу сваіх чалавечых уяўленняў: у духу шчырасці, сацыяльнай адкрытасці і гатоўнасці да супрацівлення. У духу ахвяравання дзеля сваёй годнасці й веры. Яны вярнуліся з турмаў, з эміграцыі, яны змагаліся ў падполлі. Яны былі антыфашысты і камуністы.

Чаму яны прымалі тое, што чынілася і ад іхняга імя, чаму яны дзейнічалі ў рэчаіснасці, якая мела агульнае з іхнім ідэалам толькі ў назве, – гэта здаецца мне, чым больш я пра тое думаю, пытаннем пра чалавечую натуру, на якое адказаць немагчыма.

Я ведала адну сямейную пару, якая ратавалася ад нацыянал-сацыялізму эміграцыяй у Савецкі Саюз, дзе яна страціла свайго адзінага сына. І толькі пасля хрушчоўскага выкрыцця сталінскага тэрору ў 1956 годзе абое прызналі, што і іхні сын стаўся ахвярай Сталіна. Я ведала іх дастаткова добра, і сэрцам чула, што маўчалі яны не з баязлівасці і маладушнасці. Яны хацелі абараніць свой ідэал ад шальмавання, якое магло быць не менш жудасным, чым была сама праўда. Вусцішнае замарачэнне і ілюзія, быццам прызнанне злачынства шкодзіць ідэі больш, чым само злачынства.

Ідэя камунізму зжэрла занадта шмат ахвяраў, каб можна было вось так проста пагадзіцца з яе крахам. Смерць сотняў тысяч павінна была пазней напоўніцца хоць якім ілюзорным сэнсам праз перамогу ідэі. Жывыя ахвяраваліся мёртвым у імя ідэальнай будучыні. Так новы парадак паддаўся прымусу легітымізаваць сваю яўнасць.

Ішоў 1956 год, калі дзеці Павала і Юзэфы адзін за адным паўміралі, перажыўшы фашызм і вайну.

Пасля таго як былі выкрытыя сталінскія злачынствы, Паўль пакінуў партыю. Сёстры прымірыліся з тым, што здарылася. Яны адгарадзіліся ад непамернасці злачынстваў, яны апраўдвалі зараджэнне жорсткасці, яны ратавалі сваю веру ў ідэю.

 



Паўль памёр у 1982 годзе ў берлінскім Нойнкёльне. Марта памерла ў 1983 годзе ў берлінскім Панкаве. Яны больш ніколі не пабачыліся, не сустрэліся. Гэля толькі пасля смерці іх абаіх зразумела трагізм свайго рашэння ў 1956 годзе.

У 1953 годзе мы – Гэля, Марта і я – з палякаў сталі немцамі. Гэта быў проста бюракратычны акт, які быў мне растлумачаны толькі пасля таго, як адбыўся. Лепей бы тады я засталася полькай, хоць гэтая акалічнасць мела б значэнне толькі ў маёй свядомасці. Мы не гаварылі па-польску, палякаў я ніколі не бачыла, у мяне было толька два пісьмы з адной невялікай вёсачкі з-пад Лодзі да "дарагой маленькай Монікі ад яе дзеда і бабы".

Як што я была выхавана камуністамі, мне не давялося завучваць слова "немка" як слова лаянкі і абразы. А брыдкімі словамі былі: нацы, фашыст, капіталіст. Не нямецкі народ учыніў ваенныя злачынствы, а германскі імперыялізм. А яго якраз і не было ў той частцы Германіі, у якой жыла я.

Маё польскае паходжанне тым часам давала мне пэўную дыстанцыю з несамавітай нямецкай гісторыяй, спадчыннiцай якое я сябе не адчувала. Калі я спрабавала ўспомніць, што ў дзяцінстве звязвала са словам "Германія", мне прыгадвалася змрочлівасць нямецкіх казак, журботлівасць нямецкіх песняў, жудасна цёмнае мінулае, якое называлася сярэднявеччам.

Сучаснасць ніколі Германіяй не называлася. Яна называлася сацыялізмам і капіталізмам, Фэ-эр-гэ і Германскай Дэмакратычнай Рэспублікай, Усходнім Берлінам і Заходнім Берлінам. Мая ўласная спазнавальная сучаснасць насіла імёны і назвы канкрэтных людзей і вуліц. Што імёны і назвы нямецкія – было жыццёвай самасабойзразумеласцю. Калі ў 1968 годзе студэнцкі бунт змяніў адну частку Германіі, у другой частцы моладзь клала свае надзеі на Пражскую вясну, на сацыялізм з чалавечым абліччам.

Калі адны патрабавалі ад сваіх бацькоў адказу за Асвенцым і Бухенвальд, да нас ужо падступіліся пытанні пра архіпелаг Гулаг і Баўцэн. Адказы мы мусілі шукаць самі.

Ці гавару я сапраўды пра Германію, калі я гавару пра Германію?

Дзеці Павала і Юзэфы ніколі не дзяліліся па Германіі, а па вазе, якую яны надавалі ідэі рэчаіснасці. Яны падзяляліся па параўнанні: лес сякуць, трэскі ляцяць; альбо па тэзісе: часам трэба змусіць чалавека быць шчаслівым.

Як толькі я чую, што недзе там той ці іншы ведае, што ёсць шчасце чалавеку; як толькі я пачую, што нехта там у імя ідэі распараджаецца мільёнамі людзей, хай нават у думках; як толькі я бачу на свае жывыя вочы, што той ці іншы падмалёўвае свежай і моднай шмінкай старую ідэалогію, каб падмакіяжыць яе смерць, мяне забірае вусцішная жудасць. І на дзесяцігоддзі – шал.

Германія з гістарычнай абстракцыі ператварылася для мяне ў цалкам успрымальную рэальную сучаснасць у кастрычніку 1983 года. Упершыню атрымаўшы пашпарт, які даваў мне права пакінуць ГДР у заходнім кірунку, я паехала цягніком з Франкфурта ў Вуперталь. Балела галава – вынік кніжнага кірмашу, – заплюшчыўшы вочы, я чакала выніку дзеяння таблеткі. Прыкладна праз гадзіну расплюшчыла вочы і ўбачыла нешта такое, што вырвала з мяне дурны вокліч: Што гэта? І нехта ў вагоне сказаў: Гэта Рэйн.

Цяжка і патрыярхальна сплываў ён сярод вінаграднікаў, нібы сілком раздзяляў іх. У восеньскім сонцы разлёгся ён перада мною, быццам нейкі краявід з прадаўняй казкі, якую я перачытвала зноў і зноў, пакуль не завучыла яе на памяць. Магчыма, у мяне гэта ўзалежнілася ад любові да Гейнэ, што гэтая карціна аж засланіла мне паўнату іншай, аж гэтая сталася як бы заканчэннем, якога якраз не хапала раней, каб перад вачыма ўпершыню ўявілася Германія не як пачварына, не як гістарычнае няшчасце, а далася ўспрыняць сябе ў вобразе ландшафту.

Я доўга маўчала пра сваё ўражанне. Я не давярала свайму адчуванню, падазравала ў сабе раптоўны прыліў крыві і ахмялеласць радзімай, што датуль мне было неўласціва і варожа. І нават у тым выпадку, калі пачуццё шчырае, я мусіла спытацца ў сябе, ці дазволенае яно. Тым часам і раз, і другі, і потым часцей і часцей праязджала я гэтую мясціну і навучылася моўчкі трываць і затойваць у сабе падазронае адчуванне. Я ўжо пачала дапускаць пытанне, ці не ёсць усё-такі сучаснасцю тое, што называецца Германіяй.



 

 



І само маё жыццё, разадранае паміж домам на Усходзе і прафесійнымі заняткамі выключна на Захадзе, ці не сталася яно жыццём Германіі?

Ці былі людзі, перад якімі я чытала лекцыі ва ўсходнегерманскіх кірхах і ў заходнегерманскіх кнігарнях, не больш падобныя адзін да аднаго, чым яны думалі, і нават чым больш ім таго хацелася? Іхнія бацькі альбо ж дзяды выраслі ў адной яшчэ Германіі, дзе Захад і Усход азначалі не больш чым поўнач і поўдзень. Яны былі выхаваныя паводле аднолькавых правілаў і законаў, яны спявалі адны і тыя самыя калядныя песні. І хто параўнае шрэбэраўскія садкі абапал трамвайных ліній на ўсходзе і на захадзе, зазірне ў агульнанямецкую душу, той дасца забыць пра ўсякую палітычную геаграфію. Таксама і схільнасць у пэўнай дапушчальнай меры ўнурваць галаву перад пагрозлівай варожасцю, у той час, калі чалавеку супроцьпастаўлена цвёрдая вера ў яго перавагу і вышэйшасць, знаходзіла я і там абапал граніцы. Калі тут гэта датычылася туркаў, дык там – палякаў. І калі заходнія немцы падкормлівалі сваю гордасць германскім эканамічным цудам, дык усходнія шукалі суцяшэння ў перакананасці, што іхняя эканоміка была не так растрэсена, як ва ўсіх астатніх краінах, з якімі яны падзялялі лёс сталінізму.

Аднаго разу я чула пра братоўблізнюкоў, якія былі разлучаны ў раннім дзяцінстве і пазней ніколі не бачыліся. Дарослых іх узялі ў абарот даследчыкі. Выявілася, што адзін брат дастаўся да багацця, другі жыў сціпла. Іхнія дзеці насілі аднолькавыя імёны, і наогул у братоў, наколькі іхняе жыццё можна было параўнаць, вельмі многае супадала. Нават аднолькавыя лавачкі вакол дрэва ўпрыгожвалі іхнія садкі. Толькі ў багатага брата лаўка была больш адмысловая і куплена ў моднай краме, а лаўка ў беднага была грубая, самаробная.

Часта, калі я ездзіла паміж Усходам і Захадам Германіі, мне згадвалася гэтая гісторыя. І даволі здзіўляла, як мала адзін блізнюк быў гатовы пазнаць сябе ў другім.

Гэта быў досвед з абедзвюма часткамі, маім досведам Германіі, праблемай Германіі. Праблема была ў бяссіласці ўсходніх немцаў, якія, дабітыя пасля вайны сталінскім Савецкім Саюзам, тупа пруцянелі ў сваёй безабароннасці і самапагардзе; праблема была ў адчуванні сваёй справядлівасці заходнімі немцамі, якіх, як мне здавалася, я разумела па іх пагардзе да бедных, баязлівых, самапрыніжаных сваякоў, так разумела, што аж пачала пытацца самая ў сябе, чаму яны, заходнія, не былі, зрэшты, хоць бы ўдзячныя за тое, што меншая частка народу таксама ж аплачвала сваю частку віны з агульнага мінулага. Чаму яны, заходнікі, глядзелі на сваю вальготу толькі як на заслужаны вынік сумленнай працы, а не як на шчаслівы геаграфічны выпадак. Будзь Швабія на Одэры, будзь Ляйпцыг на Рэйне... Тады калонкі газет, магчыма, сёння крычалі б: "Зноў сотні тысяч дэманстрантаў у Штутгарце". Пакуль жыццё маё было падзелена паміж працай на Захадзе і пражываннем на Усходзе, я адвыкла разумець, чаму абедзве часткі Германіі не разам.

Летась пасля маёй лекцыі ў Берліне да мяне падышла адна жанчына і сказала, што яна Сільвія. Я задумалася, ці ведаю я гэтую жанчыну, а яна тым часам сказала: Я Сільвія Ігляж.

Мая маленькая, мая адзіная сястранка Сільвія, Паўлева дачка, якую я ведала, калі ёй было шэсць, а мне чатырнаццаць. Калі дзеці Юзэфы і Павала пасля смерці бацькоў раздзяліліся, яны і разышліся, кожны ў сваім кірунку, адно ў Берлін-Нойкёльн, другое ў Берлін-Панкаў. І вось мы зноў сышліся, апазналіся, апыталіся – Сільвія і я.

У першы ж вечар нашага зноў адроджанага радства Сільвія сказала, што яна заўсёды цікавілася маімі кнігамі, асабліва тым, што я пісала пра нашага дзеда. З гэтага я зразумела, як моцна я забыла Сільвію з часоў нашага дзяцінства. Ніколі мне не прыходзіла ў галаву, што на гэтага дзеда, якога я дзіцем выбрала сабе адзіным продкам, можа прэтэндаваць яшчэ нехта апрача мяне. Сільвія сказала пра *майго* дзеда: *наш* дзед, і, прызнаюся, нейкую хвіліну я яшчэ павагалася, перш чым прызнала гэтае права і за ёю. Ён быў *наш* дзед, і гэта была гісторыя *нашай* сям'і.

Пакуль я пісала сваю прамову, прадмет майго роздуму мяняўся з хуткасцю, якая магла ператварыць у макулатуру любыя прагнозы. Але самае дзівоснае, у што яшчэ хапала адвагі верыць, было ператварэнне прыніжанай, скаржлівай масы людзей у рашучы народ. Сябры, якіх я ведала з маладосці, з якімі я



 

 



дваццаць гадоў вяла аднолькавыя ўмоўныя размовы: Трэба было б... было б, калі б тое, тады б..., занепад духу, паныласць нарасталі з той пад'юджвальнай надзеяй, што яны з цягам жыцця, якога заставалася кожнаму ўсё менш і менш, яны яшчэ стануцца сведкамі і саўдзельнікамі пералому, выбуху, гэтыя сябры пачалі раптам успамінаць уявы сваёй маладосці. Сваёй мужнасцю яны зноў адкрылі, чаго не хапае гэтай краіне для псіхозу: прагу жыць.

Ні слова, ні сказа, якія не ўпасавалі б да гэтай тэмы, да "Германіі". Мне застаецца толькі гаварыць пра шчасце, якое я адчувала, калі я 4-га лістапада разам з іншымі ішла па Берліне, калі мы нарэшце рабілі тое, пра што заўсёды марылі: ішлі па вуліцы і ўголас патрабавалі, чаго мы хацелі. Праз пяць дзён адчыніліся брамы ў берлінскай сцяне.

Дастаткова было толькі вузенькага праходу праз Венгрыю, каб народ і эліта памяняліся ролямі, а ўрад – упершыню з часоў пабудовы сцяны – прызнаў за сабою ролю бяссілага. Мы не павінны былі забывацца, што адвага ўцекачоў і венгерскага ўрада былі рашаючым фактарам усяго, што адбылося пасля.

Нарэшце немцы зрабілі як трэба, чытаю і чую паўсюль, нарэшце немцам удалася іхняя рэвалюцыя. У 1848 годзе ім давялося задаволіцца крыкам "Шапкі далоў" перад дзвярыма. У 1918 годзе яны прагналі кайзера і больш нікога. А гэтым разам... а чаго ж немцы дабіліся гэтым разам? Ці не замянілі гэтым разам высокае кіраўніцтва яго намеснікамі, ці не запознены быў той знос сцяны, ці не чуем мы новыя прамовы старых партый – гэта вам пераможная рэвалюцыя? Альбо, можа, гэта зноў толькі пачатак?

Я жадаю сабе, каб народ у ГДР, які ў апошнія месяцы сваёй улады так падкрэслена ўспрыняў добрую навуку, каб ён не забыўся пра боль і ганьбу сагнёнасці і прыніжанасці, а не толькі жыў выбаўленчым пачуццём, што вось ужо ён расправіў плечы і можа адкрыта падняць вочы. Нікому не павінна быць дазволена адолець, перабароць гэтае імгненне. Ні ваўкам, якія наеліся вапны; ні ваярам халоднай вайны мінулага, якія цяпер хочуць адсвяткаваць сваю перамогу; ні заходнегерманскім левым з іх запозненай жалобай па ўтопіі ГДР, якую яны хочуць захаваць у сабе спасылкамі на слепату і глухату. І трэба бараніцца ад новых ідэолагаў з уласных шэрагаў, якія вось ужо зноў гатовыя накінуць народу палітычную і духоўную шворку недавыспеленасці.

Я жадаю сабе, каб жыхары Ляйпцыга, Дрэздэна, Усходняга Берліна і Плаўэна не забылі той прыгожы вобраз, які яны самі з сябе стварылі і паказалі свету, каб не забылі за сваімі адлюстраваннямі, якія яны бачаць у вітрынах банкаў і універмагаў, пакуль стаяць у чэргах па "віншавальныя грошы" і бананы.

У 1982 годзе Гэля рашылася, пасля таго як мы год не бачыліся, на кантакт са мною, падпарадкаваўшы яму запаведзі сваёй партыі. Жаданне заставацца вернай сваёй ідэі, нават пасля страты дачкі, у выніку прывяло яе да хваробы. Магчыма, гэта быў досвед з разбуральным дапасаваннем ідэалогіі, і ён прымусіў яе жыць з палітычным пераканаңнем, якое яна ўспадкавала ад Павала і ад якога яна з Юзэфінай пабожнасцю залежала ўсё сваё жыццё, – усё гэта яна паставіла пад пытанне.

Калі дэманстранты ў ГДР дамагаліся рэформаў, яна адчувала сябе звязанай з імі ўспамінамі пра сваю барацьбу ў часы Веймарскай рэспублікі, і яна ў той самы час ведала, што было жыццёва неабходна змагацца на вуліцах і што яе ўдзел у гэтым ужо быў больш не патрэбны ёй самой.

Застаецца пытанне, як ідэя, якая была прыдумана дзеля шчасця іншых, магла пераўтварыцца ў няшчасце для ўсіх, нават для самых верных яе паборцаў і прыхільнікаў.

Застаецца пытанне, чаму людзі, якія ў маладосці змагаліся супроць несправядлівасці і прыгнёту і паклалі на алтар перамогі ўсё сваё жыццё, у гады сваёй поўнай улады ашуквалі і тыранілі свой народ метадамі гангстэраў. А іншыя гэта трывалі.

Яна цяпер не ведае, дзе яна і на чым стаіць, кажа Гэля, магчыма, упершыню ў сваім жыцці. Засталася ў ёй толькі агіда да ўсякай ідэалогіі, кажа яна, а слова "будучыня" страціла для яе ўвесь свой сэнс. А пасля, ужо з сумненнем і надзеяй: Але ж павінен быў быць нейкі сацыялізм, не гэты, гэты, вядома, не, а нейкі іншы. Ну што мне было адказаць ёй на гэта?

*1989*



 

# МАЯ МАМА ШМАРАВАЛА МІЛЬКЕ* БУЛАЧКІ

*Гутарка з Монікай Марон*
*пра яе кантакты з Галоўным упраўленнем разведкі службы дзяржаўнай бяспекі ГДР*

***Моніка Марон у сямідзесятыя гады мела кароткачасовы кантакт з службай дзяржаўнай бяспекі (штазі) ГДР. У гэтай гутарцы яна расказвае пра сваё сённяшняе бачанне тагачасных працэсаў. Разам з тым мы задакументавалі і арыгінал данясення, якое пісьменніца ў снежні 1976 года зрабіла для Галоўнага ўпраўлення разведкі.***

"Франкфуртэр Альгемайнэ Цайтунг"

**Фраў Марон, ці былі вы супрацоўніцай ГУР?**

Я мела кантакт, я гутарыла з імі. Я напісала два рапарты, якія ў той час мне вельмі хацелася б пабачыць у газетах. Ці была гэта праца на штазі, кожны можа рабіць свае высновы.

**Як у вас дайшло да кантакту?**

Я жыла з мамай у доме, які належаў Міністэрству ўнутраных спраў, і калі ў доме псавалася ацяпленне альбо вадаправод, тады да нас прыходзіў чыноўнік з міністэрскага савета. Аднаго разу так з'явіўся нейкі чыноўнік з савета і, будучы ў нас, прадставіўся супрацоўнікам ГУР.

**Якім часам датуецца гэты кантакт?**

Як мне цяпер здаецца, доўжылася гэта з паўгода. Значыцца, з кастрычніка 76-га па чэрвень 77-га. Гэта, думаю, правільна. Ён лічыць, што да 78-га, але тады яго я ўжо больш не бачыла.

**У сваім рапарце маёр ГУР паведамляе, што вы былі гатовыя пастаўляць Міністэрству бяспекі інфармацыю пра грамадзян заходніх краін. Што ж вы паведамлялі?**

Я, напрыклад, расказала пра адну заходнегерманскую знаёмую, што яна любіць ГДР. І што я не магу даносіць ні на кога са сваіх знаёмых, з кім я вечарамі выпіваю па шклянцы віна.

**Як адбываліся тыя сустрэчы?**

З аглядкаю і назіркам па баках. Я яму сказала, што з вялікай ахвотай раскажу яму пра сваё бачанне рэчаў. Зрэшты, мы нават даволі бурна спрачаліся. Мне нават тады гэта здавалася даволі пацешным, сёння пра гэта, бадай што, і не раскажаш каму-небудзь. Адчуванне было такое – вось скажаш дзяржаўнай уладзе нешта ў твар і тым самым нечагась дасягнеш. Што, натуральна, ёсць чыстая дурасць, бо так нічога я і не дабілася.

**Ці штазі правільна пратакаліравала вашыя выказванні?**

Я ўвогуле больш не пазнаю сябе ў тым, што запісана, і гэта жахліва. Спрабую ўявіць сабе: што я магла сказаць замест запісанага? І тады ўяўляю, што вось тут, скажам, я зрабіла іранічную заўвагу. Натуральна, я ніколі не казала, што лічу правільнай культурную палітыку ГДР. Не пазнаю таксама формы гутаркі. Натуральна, што той пісаў пратакол не для "Шпігеля", а для свайго начальства.

**Ці знаёмая вам мянушка "Міцу"?**

Не. Я ведаю толькі шлягер: "Міцу, Міцу, Міцу, ты шчасце ўсё маё".

---

*** Мількe – шэф службы дзяржаўнай бяспекі ГДР** *(рэд.)*.

 



**Увесь час усплывае нейкая канспіратыўная кватэра. Ці трымаліся вы пры сустрэчах правілаў канспірацыі?**

Не, трэба было толькі пайсці туды і пазваніць у дзверы. Гэта была нармальная кватэра.

**Магчыма, ГУР хацела завербаваць вас у шпіёнкі. Ці ведалі вы пра такія намеры?**

Планавалася нешта іншае. Я сказала, што ахвотна паехала б у Паўднёвую Амерыку, але дзеля таго трэба было вывучыць іспанскую мову. Мы ўвесь час дабіваліся курсаў іспанскай мовы. Дзіўна, але пра гэта ў запісах няма аніякай згадкі. Калі я скеміла, што ўвогуле не будзе нічога таго, што я выношвала ў галаве – што, зрэшты, было чыстым ідыятызмам, – як раптам усплыла Федэратыўная рэспубліка; я падумала, што было б пераацэнкай сябе верыць у тое, быццам я магла б прабіцца праз іх.

**Ці, апрача маці, вы расказвалі каму-небудзь пра тыя кантакты?**

Расказала аднаму сябру, а пазней і ў коле сваіх сяброў.

**Што вам абяцалі?**

Яны ўвесь час мне прапаноўвалі, і ўвесь час я адмаўлялася – пісаць для іх кнігі і за гэта падарожнічаць.

**Для штазі?**

Па іх заказах і даручэннях. І тады ён яшчэ мне сказаў, што, калі б я ведала, колькі маіх калег гэта робяць, дык вялікаму дзіву далася б. Тады я не паверыла, а цяпер ведаю, што ён меў рацыю.

**Ён цікавіўся вашымі творамі?**

Так, цікавіўся, і я нават дала яму прачытаць палавіну “Баваўнянага попелу”.

**Чаму менавіта яму?**

А чаму б і не? Я хацела, каб яны ведалі гэта, я хацела, каб усе ведалі, інакш навошта ж мне і пісаць тую кнігу. Ад свайго рэдактара ў Рудольфштаце я ведала, што ў яго былі кантакты са штазі і, паколькі я лічыла ГУР у Берліне дасведчаным больш за штазі ў Рудольфштаце, дык, думала сабе, што гэта, прынамсі, неблагі шанец.

**І што ён вам сказаў на гэта?**

Вельма мала, наколькі магу згадаць. Нічога грунтоўнага.

**Пасля вы атрымалі візу ва Упраўленні дзяржаўнай бяспекі?**

Я дабівалася ад выдавецтва даручэння на пошук матэрыялу для “Баваўнянага попелу”, але не атрымала. І падумала, што калі штазі мне перашкодзіла, дык штазі павінна і дапамагчы. Натуральна, той падумае, уручаючы мне пашпарт, што гэтым самым я абавязана менавіта яму. Я думала, што ён так падумае, але ён з таго анічога не меў.

**Пра што вы наогул гутарылі з афіцэрамі дзяржаўнай бяспекі?**

Пра гэта я ўжо колькі-колечы сама разважаю. Думаецца, быў не адзін матыў, матываў было шмат. Адно мне было цікава, пра гэта мушу сказаць. Я знаходзіла ва ўсім тым прыгоду, і апрача таго сама была цікаўная. Хацелася ведаць, чаго яны ўвогуле ад мяне хочуць і як яны гэтага хочуць. У тыя часы для мяне была істотная розніца паміж Мільке і Маркусам Вольфам. Групу Маркуса Вольфа ў той час я лічыла ў пэўным сэнсе легітымнай. Па-першае, кожная краіна мае тайную службу. Па-другое, у тыя часы я яшчэ нейкім чынам верыла ў вялікую рамантычную сусветную рэвалюцыю. Гэта было праз некалькі гадоў пасля Чылі, і на Захадзе ездзілі ў Нікарагуа альбо ў Лацінскую Амерыку на збор кавы. Мне таксама хацелася туды.

**Было гэта рамантычнае ўяўленне пра вялікую тайную агентку?**

Не, гэта была рэвалюцыйная рамантыка. Хацелася сапраўднай дзейнасці. У ГДР можна было рабіць толькі нешта фальшывае.

**Ці думалі вы тады, як і аддзелы Мільке і Вольфа, што Федэратыўная рэспубліка самая небяспечная краіна?**

Прынамсі, я лічыла Федэратыўную рэспубліку большым за ГДР злом, так я была выхавана. Пакуль не пазнаёмілася з Федэратыўнай рэспублікай, бо тады я змагла пазнаёміцца з ёю. Гэты кантакт са штазі дазволіў мне раптам зблізіцца з забароненым. Я была членам Саюза моладзі і, атрымаўшы запрашэнне ў пастаяннае прадстаўніцтва, пайшла з гэтым запрашэннем да свайго партыйнага сакратара, той сказаў, што мне нельга ехаць туды. І тут раптам я здолела ўсё. Дэманізацыя Захаду магла функцыянаваць датуль, пакуль не было кантакту.



 

**Дысідэнты, абаронцы правоў грамадзян у былой ГДР пасля павароту акрэслілі некалькі мінімальных патрабаванняў, сярод іх і ўмова – не мець справы са штазі, а калі хто ўступае ў кантакт, – каб усе ведалі, што той чыніць нягоднае.**

Я вырасла сярод генералаў. Мая мама ў доме ў Мільке шмаравала шмальцам булачкі. Чаго мне было, зрэшты, баяцца? Усё было, праўдападобна, злараднай акупацыяй бацькавай прасторы. Але, што праўда, было несумленна гаварыць з імі. І было яўна немагчыма расказаць каму б там ні было, што, хоць з імі і вяліся размовы, але гаварылася на свой манер. Канечне, людзі, якія мала мяне ведалі, не давяралі мне. Але мне было намнога важней, каб я сама сабе давярала. Я ведала, што я гаварыла, а найперш – чаго я не гаварыла і ніколі не сказала б. Гэты від цікаўнасці ці прыгодніцтва не ёсць справа кожнага. Я думала, што трэба і тым нешта-такі прасвятліць, і, калі з імі гаварыць дастаткова настойліва, яны ўрэшце нешта ўцямяць. Гэта, канечне, гібрыдна, але гэта трэба ўсё ж зразумець.

**Але ўсё ж кантроль за сваімі словамі не страчваўся? Кожная размова са штазі, так кажуць многія, давала сваю інфармацыю, хацелі вы таго ці не.**

Калі любая інфармацыя пераацэньвалася, тады ўвогуле нельга было ні пра што гаварыць. Тады і не трэба было пісаць "Баваўнянага попелу" і публікаваць яго ў заходнім "Шпігелі", бо ён такім чынам кожнага тыдня пастаўляў штазі пэўную інфармацыю. Калі ўзнікалі меркаванні што да структуры гэтай дзяржавы і калі ты быў у партыі, як гэта мне было вядома цэлых дванаццаць гадоў, тады так ці інакш ты ведаў, што ты так ці інакш меў кантакты са штазі. І не было ў мяне больш руплівага пратакаліста, чым Гёпке.

**Вы не верыце дэвізу колішняга прэзідэнта Федэратыўнай рэспублікі, што мы павінны самі сабе расказваць свае біяграфіі?**

Я ўжо публічна разабралася з усімі блытаніцамі сваёй біяграфіі. Для мяне мае дванаццаць гадоў членства ў партыі важаць больш, чым справа са штазі. І ў "Баваўняным попеле", і ў "Перабежчыцы", і ў апавяданнях ёсць сітуацыі, у якіх апісвалася небяспека спакушальнасці. Я не хачу, каб мне прадпісвалі нешта наконт "Шпігеля" ці заходнеберлінскага радыё, альбо як мне абыходзіцца са сваёй біяграфіяй, якую я ў сваім жыцці радыкальна скарэктавала.

**Ці не хацелі вы ў той час "палепшыць" ГДР?**

У той час – канечне. Але гэта было ў мяне нядоўга. Я якраз была на мяжы краху. Я яшчэ хацела, каб усё неяк абышлося без поўнага абвалу, можа, нават з чыста сямейных прычын.

**Вас прасвятліла справа Бірмана?**

Абсалютна. Усё маё жыццё разляцелася. Вы гэта бачыце ў "Баваўняным попеле". Я сказала сабе: не магу пісаць далей кнігу з такой дурной палітычнай наіўнасцю. Ёсць і другая частка кнігі, дзе падзеі пераказваюцца іншай, палітычна больш абазнанай гераіняй.

**Ці не думаеце вы, што грамадскасць мае права ведаць пра гэтыя акцыі?**

Калі грамадскасць мае права памыляцца без наступстваў для сябе, тады, вядома – так. Мяне такое права не прасвятляе.

**А сёння вы ўсё яшчэ лічыце свой кантакт апраўданым?**

Не. Гэта было глупства. Але, магчыма, я яшчэ здольная на нешта такое, з чыстай цікаўнасці.

**Ці лічыце вы, што павінны перапрасіцца перад кім-небудзь?**

Не. Калі б я такое адчувала, я даўно перапрасілася б. Але я не ведаю, што я такое зрабіла, акрамя таго, што сама сябе паставіла пад удар.

**Ці з'яўляецца ў вас пры гэтым усім адчуванне, быццам усё гэта магло каму-небудзь пашкодзіць?**

Таксама не. Я ведаю, што не магу згадаць нічога такога, што каму-небудзь пашкодзіла.

**Штазі, непасрэдна паводле гэтага эпізоду, склала пра вас восем тамоў дакументаў пад канспіратыўнай назвай "Дзікая свіння". Ці няма паміж гэтымі двума назовамі, "Міцу" і "Дзікай свіннёй", якога-небудзь вялікага абвалу ў вашым жыцці?**

Для мяне ўсё гэта – непарыўнае цэлае. Кантакт з ГУРам меў для мяне ў сабе яшчэ і нешта зварушлівае. Я хацела спрачацца з імі. Калі я заавансавалася ў "Дзікай свінні",

 



дык і канфрантацыя таксама стала іншая. Спачатку гэта было інфантыльнае размахванне рукамі вакол сябе. Пазней я ўжо ведала дакладна, як мне распараджацца сабою, як праяўляцца. Але псіхалагічная сітуацыя была для мяне адпаведна адзіная.

**Вы цяпер раптам канфрантуеце з адной дэталлю вашай біяграфіі, што выглядае нейкім адасабленнем, выключнасцю. Як уплывае на вас сёння гэтая рэанімацыя мінулага?**

Непрыемна, несамавіта. Сама ж ведаю, куды завяла мяне мая парывістасць, ведаю, што і як я пасля ўсё рабіла, з якой паслядоўнасцю, – але ніколі не адступалася ані на паўкрока. Усё гэта больш не грае ніякай ролі, мяне больш не цікавіць мэтавы пункт біяграфіі. Не кажуць жа, калі чалавек паводзіцца крыху дзікавата, крыху сумбурна, але знаходзіць у гэтым пэўную сваю паслядоўнасць, што ён разасоблены.

**Інтэрв'ю правёў**
**Франк ШЫРМАХЕР.**

*"Франкфуртэр Альгемайнэ Цайтунг",*
*7 жніўня 1995, № 181*

# Некалькі слоў пра Моніку МАРОН

**Вонкавыя факты біяграфіі Монікі Марон можна скоратку пералічыць. Нарадзілася ў 1941 годзе ў берлінскім раёне Нойкёльн. Пасля вайны яе маці перабралася ва Усходні Берлін і выйшла замуж за Карла Марона, пазней – міністра ўнутраных спраў ГДР, чыё імя з таго часу носіць Моніка. Міністр унутраных спраў даўно забыты, а імя яго пазней стала вядомым усяму свету дзякуючы падчарцы. Пасля заканчэння багатай на традыцыі школы "Шэры кляштар" у Берліне Моніка адзін год працавала на фабрыцы фрэзероўшчыцай – хацела на практыцы выверыць ідэалогію, на якой яна вырасла ў бацькоўскім доме. Праўда, гэта магло прыдацца толькі на тое, каб яшчэ больш умацавацца ў сваім рана ўзмужнелым крытычным духу.**

**Пасля яна вывучала тэорыю тэатра і гісторыю мастацтва і працавала асістэнткай рэжысёра на тэлебачанні. Там якраз і абвастралася яе аверсія супраць фальшу і ілжывасці. І яшчэ яна адкрыла ў сабе талент – пісаць. Яна зрабіла з гэтага высновы і звярнулася да прэсы: спачатку працавала ў жаночым часопісе, пазней – у тыднёвіку культурна-грамадскага накірунку. У сваіх рэпартажах Моніка спрабавала паказаць адносіны ў ГДР такімі, якімі яны насамрэч былі. Яе правал на гэтай ніве можна было амаль прадбачыць наперад. У 1976 годзе яна пакінула працу ў "Wochenpost" і прыняла прапанову аднаго невялікага выдавецтва напісаць раман пра свой рэпарцёрскі вопыт.**

**Так з'явілася першая кніга "Баваўняны попел", напружана-вострая гісторыя пра канфлікты галоўнай гераіні з дзяржавай і партыяй, гісторыя разбурэння навакольнага асяроддзя сацыялістычным буравугальна-хімічным галаўным прадпрыемствам у Рытэрфэльдзе, але ў той самы час і гісторыя спусташэння паўсядзённай культуры і зломку ў людскіх узаемадачыненнях на ўсходзе Германіі. Раман, вядома, не мог выйсці ў свет у ГДР. Занадта яўна праглядвалася ў ім крытыка эканамічнай сістэмы і прыхарошвання, якім прыкрываліся ўсе правалы і недахопы. З уласцівымі аўтарцы грамадзянскім куражам і бескампраміснасцю, з якімі яна беспаваротна адмовілася ад свайго на тыя часы яшчэ ў пэўнай ступені прывілеяванага становішча члена сям'і наменклатурнага функцыянера, яна прапанавала свой раман заходнегерманскаму выдавецтву "Fischer-Verlag" у Франкфурце на Майне, таму выдавецтву, якое вось ужо каля сотні гадоў дае нямецкаму грамадству вялікую нямецкую літаратуру, пачаўшы з Герхарта Гаўптмана і Томаса Мана. У гэтым выдавецтве ў 1981 годзе і выйшаў "Баваўняны попел", і з таго часу Моніка Марон застаецца вернай гэтаму выдавецтву: не толькі ўсё, што яна напісала пасля свайго першага рамана на Усходзе, але і ўсё напісанае пасля ўз'яднання Германіі, выйшла ў свет у выдавецтве "Fischer-Verlag".**

**Яшчэ да падзення берлінскай сцяны яна апублікавала тры кнігі ў Франкфурце на Майне. Нарэшце том з чатырма апавяданнямі і п'есай, тэмай якіх сталі марныя спадзяванні і ілюзіі, якія акрэсліліся менавіта такімі ў працэсе іх канфрантацыі з праўдаю. Далей**



 

**быў раман “Перабежчыца” (1986), у якім аўтар дэкляруе лаяльнасць да ўсялякай няпраўды, уключаючы і сферу дружбы і кахання. У 1988 годзе з‘явілася кніга, напісаная ў форме перапіскі, якую яна разам з заходнегерманскім журналістам Ёзэфам фон Вэстфаленам тры чвэрці года публікавала ў гамбургскім штотыднёвіку “Die Zeit”, – пра абставіны на Усходзе і Захадзе Германіі, і якая ўсюды, не толькі ў Германіі, была прынятая вельмі прыхільна.**

**За раман “Вуліца Ціхая шэсць” (1991), апублікаваны ў “Крыніцы” (№№ 24–25) у перакладзе на беларускую мову, Моніка Марон атрымала прэмію імя Кляйста, адну з самых прэстыжных у Германіі літаратурных прэмій.**

**У сваім урачыстым слове да аўтаркі з нагоды прысуджэння прэміі вядучы нямецкі літаратурны крытык Марсель Райх-Раніцкі сказаў: “Кніга “Вуліца Ціхая шэсць”– эпічны разрахунак не толькі ўжо (як раман “Баваўняны попел”. –** *Т.Н.Б.***) з ГДР, але і з камунізмам. Як тое сталася магчымым, што камуністы, якія прыйшлі, каб пакончыць з бесчалавечнасцю, супроць якой яны сапраўды гераічна змагаліся, самі ўрэшце не спыніліся перад крайняй жорсткасцю? Як магло здарыцца, што тыя, чыёй мэтай было спраўдзіць спрадвечную мару пра справядлівае грамадства, збудавалі такое грамадства, у якім людзі былі ператвораны ў рабоў? Карацей: чаму і якім чынам несумненныя ідэалісты абярнуліся несумненнымі злачынцамі? Гэта цэнтральныя пытанні рамана “Вуліца Ціхая шэсць”. Раман скампанаваны так па-майстэрску, як і някідка, далікатна і суверэнна. Шаля і плод (паводле слоў Кляйста. –** *Т.Н.Б.***) пасуюць адно да аднаго, – а мы, спрагненыя, маем з таго сваю карысць. Усё, пра што тут расказвае Моніка Марон, выяўляе тую цноту, якая ў сучасным нямецкім рамане вялікая рэдкасць і якая, калі ўсё-такі ўдаецца знайсці яе, як правіла, не падкрэслена, не выстаўлена наперад, быццам яна шкодная мастацкай працы. Я маю на ўвазе незвычайную, па-свойму адмыслова адметную інтэлігентнасць гэтай аўтаркі. Бадай што, гэта найбольшая перавага рамана “Вуліца Ціхая шэсць”: ставячы праблему стагоддзя, раман выводзіць параўнанне, якое выходзіць далёка за свае рамкі. Моніка Марон гаворыць тут і тое, чаго яна не гаворыць”.**

**У 1991 годзе выйшаў апошні раман Монікі Марон “Animal triste”, (журботная жывёла –** *лац. – Рэд.***), гераіня якога як “апошні анархісцкі сімвал заклінае каханне, якое сцвярджаецца па-над усякім парадкам і стварае – свой уласны”. У жыцці нельга нічога ўпусціць – вось квінтэсенцыя гэтага адзінага ў сваім родзе рамана, які, як і ўсе кнігі Монікі Марон, радыкалізмам, з якім аўтарка трактуе абраную тэму, выклікаў вострыя дыскусіі.**

**Але не толькі сваімі кнігамі Моніка Марон выклікала дыскусіі. Гарачая публічная палеміка ўзнікла і вакол пытання пра яе магчымае супрацоўніцтва са штазі (служба дзяржаўнай бяспекі ГДР. –** *Рэд.***). У двух рапартах, якія яна напісала для штазі пра свае паездкі ў Заходні Берлін, яна падвяла такі бязлітасны баланс прагрэсу ва ўсіх галінах жыцця ў Заходнім Берліне і спустошанасці і застою ва ўсіх сферах жыцця ва Усходнім Берліне, што штазі, якая добрых паўгода песціла надзею атрымаць Моніку Марон у якасці сваёй супрацоўніцы, прыпыніла з ёю ўсе кантакты і апошнія дваццаць гадоў сачыла за ёю як за “негатыўна-варожым аб`ектам”.**

**У заключэнне мы працытуем некаторыя пасажы з яе рапартаў, каб паказаць фарысейства тых, хто лічыць, што Моніка Марон гэтымі сваімі “даносамі”, якія яна, як прызнае сама, вельмі ж хацела б убачыць у гэдээраўскіх газетах, калі б іх апублікавалі, нібыта “прагаварылася” пра сваё “супрацоўніцтва” са штазі.**

**“Прайшло тры дні, пасля я (у Заходнім Берліне. –** *Т.Н.Б.***) прывыкла, што ўсё, чаго не было ў нас, тут навалам у вітрынах. І сёння выць хочацца, калі ўспамінаю вентылятары, чай, гародніцу, вопратку, тэхніку, карацей – усё лепш, чым у нас. Самой сабе не верыцца, што я не знайшла ніводнага прадмета, які я лепей купіла б у нас, чым там.**

**Мне кінулася ў вочы, што людзі там пасля працы менш знерваваныя і менш агрэсіўныя. Яны маюць, што зарабілі, і ведаюць гэта.**

**Заўсёды, калі я вярталася ў нашую частку горада, я натыкалася на застыласць і неабжытасць нашага горада. Я не пра бляск і не пра рэкламы. Заходні Берлін сам у сабе – жывейшы.**

**Калі маё апісанне выглядае залішне экстрэмальна, я ўкажу на тое, што процілеглае маім думкам абвяшчаецца так часта і так аглушальна гучна, што і я магу быць зразуметая не інакш, як калі гавару гучна і выразна. Публічнае жыццё ў нас безжыццёва аднастайнае і, нягледзячы на ўсе намаганні з усіх бакоў, нейкім таямнічым чынам – без аніякай фантазіі і жалю вартае... Усё гэта наводзіць на журботныя і поўныя роспачы думкі і пачуцці, як гэта было са мною ў Заходнім Берліне”.**

*(З рукапісу, адмыслова для “Крыніцы”).*

**Т.Н. БРАРОН**

***Пераклаў з нямецкай Васіль СЁМУХА.***

# ЯНО 2 1 x 2 1

***Рэдакцыя часопіса прапанавала некаторым літаратарам прыняць удзел у анкеце "Навагодняя паштоўка" і папрасіла іх выказаць свае пажаданні дваццаць адной асобе. І вось што атрымалася ў выніку.***

## Ала СЯМЁНАВА

Атрымаўшы запрашэнне прыняць удзел у анкеце "Навагодняя паштоўка", падумала: дваццаць адна асоба, цэлы гурт, куды столькі... А высветлілася – патрэбна яшчэ і ўдвая больш. Да таго ж – афарыстычна мысліць я не ўмею, затое апанаваў віншавальны сверб. Ну, трэба ж "нёманцам" слова мовіць – сённяшнім і амаль сённяшнім: пажадаць сачыненняў на вольную тэму Анатолю Кудраўцу і каб у тых сачыненнях былі "зялёныя дарогі", "блакітныя вярблюды" і "восеньскія яблыкі", Генадзю Бубнаву – новых філасофска-быційных вопытаў, Віктару Карамазаву, Мікалаю Сердзюкову, Алегу Ждану – новай прозы і эсэістыкі, Уладзіміру Машкову – поспеху на ўлюбёнай творчай сцежцы – дзіцячай літаратуры, таго ж – яго імянніку Ягоўдзіку, а Сяргею Запрудскаму – грунтоўных і дасканалых, сур`ёзных і несур`ёзных літаратурных варыяцый. Таго ж – калегам з "Полымя", з іх шырокім жанрава-праблемным прасцягам: Алесю Жуку, Галіне Тычка, Анатолю Клышку. І безумоўна ж, Рыгору Шкрабе – што некалі адчыніў мне дзверы "Полымя" і аўтарска-крытычную і рэдактарскую думку якога я глыбока паважаю.

Як досыць заангажаваны "гларыёграф" вырашыла: не звяртацца да тых, чые спробы партрэтаў ці эскізы да іх незадаўга друкаваліся ці рыхтуюцца да друку. Да Валянціны Коўтун, Уладзіміра Някляева, Сяргея Законнікава, Уладзіміра Конана, Сяргея Дубаўца, Яўгена Лецкі. *Etcetera.*

І сумелася – якія "свецкія" словы знайсці для Хрысціны Лялько, што выбрала незвычайны і складаны шлях: прарыў да рэчаіснасці Боскай у нашым грэшным свеце. Як і для Адама Мальдзіса – чалавек-інстытут, чалавек-падзея ў нашых культуровых абсягах. А тым больш – што гаварыць Янку Брылю, якому столькі сказана – патрыярх літаратуры, звысоку зазначыць: "Магчымасці жанчын невымерныя". Чулася такое – праўда, словы не мелі да мяне адносін.

І ёсць унутраная патрэба – пазначыць у паштоўцы, які водгук уяўлення выклікаюць у мяне бліскучыя тэатральныя, крытычныя вопыты, друкаваныя і тэлевізійныя, Жаны Лашкевіч, іх эстэтычная і псіхалагічная свежасць і навізна, за якімі адчуваецца талент, з грунтоўным літаратурным "замесам", і патомны інтэлект. І згадаць, як светла ад жаноцкай вабнасці і цеплыні, ад прадуманасці сюжэтаў, якія вызначаюць радыёперадачы "Дудка беларуская" Святланы Кароль (Рэсенчук).

Але паспрабую звярнуцца да лічбаў.

1. ***Валянціне Аксак.*** Хай "срэбнавокія анёлы" мецяць крокі на цвінтары, у капліцы, у бажніцы – і на сцежках звычаёвасці.

2. ***Валянціну Акудовічу.*** Добра, што Вы існуяце для нас у тых значэннях, у якіх шукаем Вас мы, чытачы. І таму – у прасторы рэальнага, у эпоху абсурду, у выпадковым збегу акалічнасцяў фізічнага свету зычу часам згадваць пра старыя, як свет, законы гармоніі і адчуць сябе, задзіночанага з усім людскім я-чалавека – трохі бясконцым і вечным.

3. ***Уладзімеру Арлову.*** Жадаю – засваення той сапраўды адраджэнцкай духоўнай прасторы, што падуладная Вам – свядомасна, эстэтычна, слоўна. Хай лірычная сутнасць вобраза выявіцца ў мастацтве і вызначыць гістарычнае аблічча пакалення.

Шчаслівае творчае наканаванне: і маштабнасць мыслення – і лірычны водгук на жыццё; і здабыванне сэнсу рэальнасці – і ўменне спазнаць духоўна-гістарычныя парадоксы; адчуванне эзатэрычных вытокаў адвечна сапраўднага і прыгожага, узвышэнне над марнасцю – і талент збіць слоўным шквалам іроніі і сарказму слоту абыдзёншчыны. Разам – мала каму дадзена. І мала ў каго пазначана тым, пра што кажуць: *sacre beu.* То – хай будзе гэты агонь.

Хай Вас ратуе мова Вашай душы.

4. ***Алесю Асташонку.*** Працягвайце размову з чытачом. Хоць і нешматлікі беларускі чытач, ён адчувае невыцвілыя "фарбы душы", жорсткую гарэзію розуму, той напал пасіянарнасці, што патрэбны для стварэння постацяў "суб`ектыўна творчага рэалізму" (Б. Пастарнак).

5. ***Івану Афанасьеву.*** Чакаю працягу Вашага творчага маналогу, вашай эстэтычнай прозы, дзе ёсць знак высокага інтэлекту і цнатлівасці душы, адчування характва з'яў і трагічнасці рэчаіснасці, дзе ёсць дачыненне да сістэмы "сусветнага кровазвароту" і культурная памяць, дзе прысутнічае мелодыя Вашага роду.

Хай Вам адчыніцца спеўная загадка жыцця.

6. ***Барысу Бур'яну.*** Хай працягваецца тэатральны і літаратурны летапіс, пазначаны Вашай эрудыцыяй, густам, адухоўленай зацікаўленасцю жыццём і мастацтвам. А спадарожнікамі будуць – "думкі вуліцы і неба", светлыя духоўныя далягляды і – удача.

7. ***Васілю Быкаву.*** Мастацтва па сутнасці сваёй свядома трагічнае – бо смяротны чалавек імкнецца спасцігнуць загадку быцця, загадку жыцця і смерці: тое, што мае сваім знакам вечнасць. Таму і Ваша творчасць – звернутая да людзей і пачутая імі на прасцягу зямным. Таму, мабыць, больш за каго Вы маеце права прамовіць: "Голас мой да Бога, і я буду клікаць; голас мой да Бога, і Ён пачуе мяне" (Псалтыр, пс. 76, 2).

8. ***Алене Васілевіч.*** Мне пашчасціла ў жыцці – на сустрэчы з людзьмі. І адна з самых светлых сустрэч – з Вамі. Бо Вы ўмееце падтрымаць – і ў бядзе, а яшчэ больш важна – у радасці: часам людзям чужая радасць, нават мізэрная, што костка ў горле. Вы ўмееце пачуць чужы голас – нават калі ён вядзе размову не на тым *свядомасным дыялекце*, да якога схільныя Вы. І хаця я пісала пра Вас і зараз нешта шкрабаецца на старонкі, але – мае віншаванні: калядныя, навагоднія, з днём нараджэння!

9. ***Пятру Васючэнку.*** Спеласці і самабытнасці – Вашым крытычным фантазіям! Гіранічнай лёгкасці – Вашаму пяру, калі яно пераключае свае "рэгістры" на прозу! Новых прац, кніг, думак!

10. ***Анатолю Вярцінскаму.*** Адсвяткаваўшы дату – чарговую – пазначыўшы чарговыя планы – вазьміце чарговую "лірычную вышыню", незалежна ад таго, у якім жанры яна будзе: у паэзіі, крытыцы, публіцыстыцы, мемуарах...

11. ***Леаніду Галубовічу.*** Калі з'явілася Ваша "Таемнасць агню", шмат хто з літаратараў прыкідваў: "Ці будуць яшчэ кнігі ў гэтага самародка?" Кнігі з'явіліся – але галоўнае, мне здаецца, Вы знайшлі і знаходзіце новыя магчымасці творчай размовы, узровень гаворкі, не апускаючыся да апавядальнага галёкання, да якога лёгка саслізнуць у такім жанры, як Вашы "Зацемкі з левай кішэні". Сама назва мне не вельмі даспадобы, але не ў назве справа! І не ў шчырасці! Хаця фальш тут відаць быў бы адразу. І практыкаванні паводле прынцыпу абсурду. Тут – іншы сакрэт... А калі – дзеля самавыяўлення – зноў з'явяцца вершы: не сюжэтнае балалайкавае трэнь-брэнь, а – гук душы – буду чытачкай. Удзячнай.

12. ***Леаніду Дранько-Майсюку.*** Кожным разам, чытаючы Вас, згадваю праніклівы густ Міхася Стральцова – які, нешта ўжо прачытаўшы, прарочыў будучага не толькі паэта, а і празаіка ў тымчасовым пачынаючым пііце. Нешта зусім новае ўвайшло разам з Вамі ў беларускую літаратуру, свежае спасціжэнне таямніц рэальнасці: у яе высокіх, дыстынктоўных, рамантычна-вытанчаных выяўленнях і ў вясёлым шале іранічнага ўспрымання. А Вашым крытычным мініяцюрам могуць пазайздросціць многія. Аднак – лепш майце спадарожнікамі творчага лёсу не зайздрасць, а водар лепшых хвілін чалавецтва, чар паэтычных радкоў, сваіх і блізкіх духам сваім, сакральныя дзействы дзеля хараства, мастацтва, роднага слова.

13. ***Вользе Іпатавай.*** Не ведаю, якога жанру твор зараз ляжыць на пісьмовым стале маёй зямлячкі, адно для мяне пэўна – на ім будзе знак прыгажосці як неад'емнай катэгорыі існага. І не будзе метафізічных прыгод духа – затое адбудзецца высвечванне патаемных сутнасцяў. Нават у самых, здавалася б, знешне простых з'явах. Поспеху табе, Оля!

14. ***Віктару Каваленку.*** Заўсёды дзівілася незалежнай логіцы Вашага розуму – недзе ад 70-х гадоў, калі быў так нечакана прааналізаваны “Сотнікаў” Васіля Быкава – прынамсі лёс і характар Рыбака. Пазней – у часы спрыяльныя і неспрыяльныя, – у выступленнях грамадска-сацыяльных і літаратурна-эстэтычных – сачыла за цэнтрысцкай пазіцыяй, незалежнай. Пазіцыяй, што не імкнулася прыстасавацца (нават падсвядома) да абставін. Пазіцыя няўдзячная – не шкадуюць слоўнага імпэту ні справа, ні злева. Хаця, шчыра кажучы, я даўно ўжо не разумею, хто ёсць хто.

Гарту Вам і моцы інтэлекту – даследчыку, эсэісту, празаіку, дырэктару інстытута, на якога пасада не паклала свой уладны адбітак.

15. ***Георгію Марчуку.*** А Вам – як дырэктару выдавецтва – зычу не забывацца на вопыт празаіка і галоўным крытэрыем падрыхтоўкі планаў мець не службовыя тытулы аўтараў, а сапраўдную мастацкую значнасць твораў.

16. ***Ніне Мацяш.*** У адзін з самых скрогатных момантаў майго жыцця я атрымала ліст – ад Вас. Ліст духаўздымны (слова Стральцова) і мудры. Які напісалі Вы – мне. Як ахоўную грамату – ад магнітнага поля плюгасці. І як прасветленая ісціна адкрылася мне Вашае няпростае існаванне на зямлі, Ваш духоўны вопыт, пазначаны ў творчасці – у вершах, у фларыстыцы, у самім факце быцця. І я зразумела, калі чалавеку дадзена – “Душою з небам гаварыць” – гэта чуюць і людзі. Паклон Вам, Светлая Госця Зямлі!

17. ***Алесю Разанаву.*** “Ідовішчнае разуменне біяграфіі” (Б. Пастарнак), такое натуральна блізкае беларускім творцам і такое падуладнае поспеху – далося адразу, няўзнак. І адразу было перакрэслена, адваявана і дагэтуль заваёўваецца права – на не рэгламентаванае канонамі і законамі творчае бачанне, адчуванне, празарэнне, перажыванне светапарадку па сваім падсвядомасным рытме, паводле сваіх пунктаў адліку, паводле сваёй сістэмы каардынат. Заўсёды – у сабе, заўсёды – таямніца, у нейкай першасутнаснай быційнай няўхільнасці. Якую – інстынктыўна адчуваю, баюся наблізіцца розумам, не ўмею сграшыць – аналізам. Маю – сэнсашукальнае спадзяванне. І адчуванне існавання Асобы. Алеся Разанава.

18. ***Міхасю Тычыне.*** Дзіўлюся! Чытаю! Сачу! Бачу – узровень, ніжэй якога не апускаецеся, падобна, прафесійна проста не можаце саслізнуць, – гэта ўлічваючы незвычайную творчую актыўнасць і прадукцыйнасць. Без мітусні, разважліва (але ніколі не сумна!), спасцігаючы не толькі асаблівасці творчай манеры, але адчуваючы постаць у тых сэнсах, што звычайна не бачны будзённаму розуму. Умееце адысці ад уяўнай актуальнасці – і ўзвысіць гаворку да ўзроўню тэарэтычнага, узняць да сябе. Ніколі не заўважыла і знаку клопату будзённага – а ведаючы абставіны біяграфіі, магу сабе ўявіць: іх хапае.

Міхась! Здзіўляйце нас! Сваёй натхнёнай працавітасцю! Дысцыплінай думкі! Сваім талентам!

19. ***Уладзіміру Сіўчыкаву.*** Творчага плёну – у пошуках “філасофскага каменя”, у асэнсаванні міфаў далёкіх і блізкіх мясцін, у мастацкіх марах падарожжаў, у спробах займальных жанраў, што часам таксама маюць не толькі поспех, а і доўгае жыццё. Удачы – выдавецтву “Радыёла”, і пажаданне: яшчэ рызыкнуць на публікацыю беларускіх кніг.

20. ***Вераніцы Стральцовай.*** Вельмі хачу, каб шаноўны пан Лёс паспрыяў Вам выявіць тое, што дадзена Богам і тайнапісам генетыкі, каб голас таленту, які гучыць у Вашай душы, выявіў сябе ў словах і вобразах і абвясціў аб працягу *духоўнага роду* Міхася Стральцова.

21. ***Генадзю Шупеньку.*** Гартаю часопісы. Падзяляю і не падзяляю. Цалкам – не падзяляю закідаў Васілю Быкаву. Не з таго боку прэтэнзіі. Урэшце – з гэтай гаворкі пачынаю свой допіс пра Сяргея Дубаўца: можа, і пабачыць свет. А вось у калектыўным партрэце Рыгора Іванавіча Барадуліна – чытала з аднолькавай цікавасцю і дыялог Дранько-Майсюка з паэтам, і развагі свайго сябра. У Дранько – амаль зрокавы вобраз дыялогу: такі свецкі гавот, вытанчаны контрданс, нават калі паэты бяруцца за шпагу, адразу відаць – не дзеля фехтавання, дзеля галантнага вітання зброяй. Але – якая грацыя слоў! Якія піруэты! Майстры! Мастакі!

Мне таксама даводзілася пісаць пра Рыгора Барадуліна, і неаднойчы. Адчуваючы магнетызм яго вершаў, захапляючыся буйнапісам метафар, умельствам і майстравітасцю. І для мяне "свята пчалы" мела не адзін год медазбору. Не адмаўляюся ні ад аднаго свайго радка. Хаця – рабіліся мною больш парадныя, а не жанравыя, не характарыстычныя партрэты, калі бяруцца пэўныя ракурсы, вызначаюцца пэўныя рысы. Праўда – аднак не ўся.

І, чытаючы Генадзя Шупеньку, бачыла: недзе імклівыя эскапады майго сябра можна абвергнуць, а недзе – аніяк! Факты! А з фактамі – танчы не танчы – не паспрачаешся. Сапраўды – не пакрыўдзіў сябе Рыгор Іванавіч: штогод кніжка, а то і дзве. У дзяржаўным выдавецтве. А да юбілею лепшага сябра Міхася Стральцова – у "Мастацкай літаратуры" нічога няма. Прынамсі – па стане на 27 лістапада 1996 года. У выдавецтве, дзе столькі год лепшы сябар Стральцова Рыгор Іванавіч узначальваў рэдакцыю Збору твораў і Выбраных выданняў (да лістапада 96-га года – пэўна) і быў адной з самых уплывовых асоб. (Не кажу пра сваю кніжачку, дзе добрыя сем аркушаў былі прысвечаныя Міхасю Стральцову і якая пракачалася з добрай ласкі Рыгора Іванавіча ў ягонай шуфлядзе два гады, а ўрэшце "Бэзавы попел" выйшаў у "Крыніцы", а дзве аповесці-эсэ – "Святло загадкі" і згаданая – у выдавецтве "Радыёла".)

Праўда, з Выбраным майго сябра Генадзя Шупеньку Фартуна таксама не пакрыўдзіла – выйшла Выбранае ў выдавецтве, у тым самым. І – ёсць там, ёсць стары грэх, на які пакутаваў яшчэ адэпт крытычнага слова француз Сент-Бёў: аблашчыць пасрэднасць і заўважыць кожную драбязу ў талента. А бывае – няўдача талента больш красамоўная за жвавы поспех пасрэднасці...

...Чытаючы калег, аглядваешся на сябе. І ў мяне, як у Шупенькі, часам не супадаюць маштабы вызначанага, у запале зашкальвае крытэрыі. Суб'ектывізм. Той самы. Хаця... слова суцэльна аб'ектыўных крытыкаў чамусьці зазвычай бывае сумнае, як пратаколы вытворчых сходаў. ...

І ўсё ж. Нестандартная думка – заўсёды вярэдзіць розум. У нас гэта ўспрымаюць як скандал, як трагедыю. А трагедыі няма. Ёсць літаратурны працэс. Літаратуры хваласпевы не заўсёды на карысць. Вострае пяро – патрэбнае. Толькі расплачвацца за яго даводзіцца жорстка. Па сабе ведаю. Некалі, пачаўшы досыць дзёрзка ("Нёман", 1967, № 6), потым доўга шукала дзверы ў рэдакцыі. Праўда, зараз іншы час... І мой сябар Генадзь Шупенька – не пачатковец. Хай не звяне пяро!

Ну, не магу спыніцца, што кабета каля студні, сустрэўшы суседку. (Адчуваю, як Рыгор Іванавіч тут прыкідвае, каго б нацкаваць на які слёзна-пагрозлівы допіс і падкінуць вось такую назву.)

А калі сур'ёзна – хацела б павіншаваць Васіля Сёмуху і згадаць: не зашкодзілі б беларускай літаратуры ягоныя мемуары, накшталт тых, што пісаў перакладчык Гінзбург. І пашкадаваць, што знік з даляглядаў літаратурных сённяшні кумір ліцэістаў Анатоль Сідарэвіч. І пажадаць Сямёну Букчыну кнігі – з новымі пунктамі адліку, мерай рэчаў, выкарыстаннем вопыту ранейшых і апошніх гадоў.

І проста – найперш здароўя – зычыць Святлане Марчанка і Нічыпару Пашкевічу.

Урэшце – сабе самой – не камплексаваць, калі не друкуюць. Аднак – лепш, каб друкавалі, каб кніжкі бачылі не толькі цемру стала, а і свет паліц. Зусім добра было б, каб ганарар на галаву зваліўся: даехаць да Парыжа.

А згодная і на правінцыю: Лангедок ці Авернь.

## Алесь АРКУШ

ЖАДАЮ ВАМ!

***Беларускаму народу*** – зразумець, што нацыянальная дзяржава, дэмакратыя, эканамічныя рэформы – ягоны шлях да годнага жыцця.

***Беларускай творчай інтэлігенцыі*** – актывізаваць працэс беларусізацыі ва ўсіх культуралагічных нішах краіны.

***"Новай генерацыі"*** – "Будзь смелым, як вецер, як воля сама! Знай, смелых не чэпе ні крыўда, ні цьма!" (Янка Купала).

***Сябрам ТВЛ*** – новага ўзроўню, новага асэнсавання, волі.

***Славаміру Адамовічу*** – хутчэй вярнуцца з 37-га ў 97-мы.

***Вінцэсю Мудрову*** – напісаць аповесць пра Самсона Самасуя нашых дзён.

***Алене Ніякоўскай*** – нарэшце адужаць хваробу воч і ў новых культуралагічных артыкулах паглядзець на падзеі канца XX стагоддзя ўнутраным зрокам.

***Валянціну Акудовічу*** – добрай уласнай кнігі (здаецца, першай).

***Ігару Сідаруку*** – каб цётка Прузыня ў рэшце рэшт знайшла нацыю.

***Юрыю Гуменюку*** – з'ездзіць у Ёкагаму, дзе "процьма людзей, самаходаў і суперсучасны дызайн", і вярнуцца на Беларусь, каб яшчэ раз зразумець, што "не зважаючы на зьнешнія прыкметы... сьвет скаціўся да суцэльнага вар'яцтва".

***Юрасю Пацюпу*** – напісаць філасофскае эсэ пра складаны, супярэчлівы сённяшні дзень.

***Леры Сом*** – запісаць прафесійны магнітаальбом сваіх песень.

***Лявону Вольскаму*** – стварыць Фонд беларускага року (ФБР).

***Сяргею Дубаўцу*** – паспрыяць нараджэнню недзяржаўнага літаратуразнаўчага часопіса.

***Зміцеру Вішнёву*** – заснаваць часопіс Бум-Бам-Літа.

***Юрасю Барысевічу*** – напісаць працу пра ўваскрашэнне тэксту (беларускі варыянт), бо, відавочна, набліжаецца рэнесанс беларускай літаратуры.

***Людцы Сільновай*** – здзівіць нечаканым.

***Іллі Сіну*** – напісаць для "Калосься" псіхадэлічную аповесць.

***Алесю Туровічу*** – абараніць кандыдацкую па тэме "Літаратура ТВЛ і ББЛ".

***Сяргею Патаранскаму*** – не губляць смеласці, якая, ох!, яшчэ колькі разоў табе спатрэбіцца.

***Віктару Жыбулю*** – стаць паэтам (ёсць надзеі).

## ВІКТАР ШНІП

Что пожелать тебе не знаю,
Ты начинаешь только жить.
От всей души тебе желаю
С хорошей девочкой дружить.

Такое пажаданне я пісаў сваім сябрам і знаёмым яшчэ вучнем шостага класа, калі ў школе была мода на "Дзённік пажаданняў". Сённяшняя анкета "Крыніцы" дала мне магчымасць успомніць гэтыя вершаваныя радкі і з прыемнасцю адрасаваць іх дваццаці адной асобе. Думаю, што ніхто не адмовіцца сябраваць з харошай дзяўчынай, якой 17–18 гадоў. А ў нагрузку да маладой спакусніцы *жадаю:*

1. ***Алесю Асташонку.*** Знайсці ў маіх вершах яшчэ дзесятак геніяльных радкоў кшталту "ядуць рабацягі зжаўцелае сала", каб геніяльная "П'яная кніга" выйшла хутчэй на людзі, не баючыся, што не здолее роўна прайсці сярод тых кніг, якія не п'юць, а толькі закусваюць.

2. ***Барысу Пятровічу.*** Купіць вялікую-вялікую-вялікую машыну. А я куплю невялікі-невялікі відзік і відэакамеру, і ты, калі пажадаеш, можаш узяць за кампанію маю сям'ю на

прыроду... Да ўсяго быць спакойным і памятаць, што ў гэтым жыцці нічога вечнага няма, а ты – творца, і гэта – назаўсёды. Паболей мрояў і пілілікаў!

3. ***Івану Чароту.*** Выдаць усё напісанае і перакладзенае і, стаўшы доктарам навук, не забыцца пра суседа, які жыве ў трохстах метрах ад цябе і чуе, як вечарамі стукае твая машынка.

4. ***Анатолю Сысу.*** "Каб наступным разам усё ўдалося" – гэта тваё. Каб удалося! Але не трэба здымацца ў масоўках, калі не даюць галоўнай ролі...

5. ***Леаніду Галубовічу.*** Друкуючы "Зацемкі з левай кішэні", час ад часу заглядаць у правую. Павінна ж нешта і там быць.

6. ***Яўгену Гарадніцкаму.*** Менш сур'ёзна адносіцца да планавых тэм і работ на працы. Успомніць пра тыя часы, калі мне не было і 20 гадоў, а табе 30 і мы з табой думалі набыць ровары і аб'ехаць для пачатку ўсю нашу Валожыншчыну. Успомніць пра задуманы раман, пра вершы... І пісаць! І друкавацца!

7. ***Андрэю Федарэнку.*** Не баяцца быць класікам, калі класікам называюць.

8. ***Леаніду Дранько-Майсюку.*** Не стамляцца ні Парыжам, ні А., і выкінуць са сваёй галавы, што паэтам можна быць толькі да 40 гадоў, бо некаторым іншым нельга быць ім да 30.

9. ***Валянціну Акудовічу.*** "Бум-Бам-Літаў" не распускаць. "Зно" захаваць у любым выпадку. І філасофстваваць, філасофстваваць, каб і нам захацелася стаць філосафамі.

10. ***Уладзіміру Арлову.*** Не ўздумаць збрываць бараду. Пісаць і пісаць, і лепей прозу, бо вершы пісаць можа і жонка.

11. ***Адаму Глобусу.*** Прынесці сваю карціну, якую мне завочна падарыў. Праўда, гэта было даўно і, магчыма, ужо гэта ўсё няпраўда. А галоўнае – і далей падарожнічаць па Эўропах, каб і нам не толькі марылася.

12. ***Сяргею Дубаўцу.*** Не забывацца пра сваю прозу і крытыку. Не задзіраць нос.

13. ***Вітаўту Чаропку.*** Яшчэ болей жартаваць. Тэрмінова жаніцца, пакуль ёсць з кім.

14. ***Юры Гуменюку.*** Быць і далей элегантным, як раяль, і ў жыцці, і ў творчасці. Кінуць лічыць, колькі хто напісаў і надрукаваў, каб было часу і на свае вершы.

15. ***Юрасю Пацюпу.*** Забыцца пра "Ноч" і выходзіць на святло.

16. ***Міхасю Скоблу.*** Старацца не "заначальнічаць", як бы ні спакушала жыццё, бо начальнікаў у нас і так хапае. А Скобла адзін.

17. ***Алесю Наварычу.*** Не ўздумаць на Рабуньцы доўга ехаць. Як-ніяк, а яна – карова.

18. ***Ігару Бабкову.*** Не перамудрыць філасофствуючы.

19. ***Сяргею Верацілу.*** Надоўга не знікаць з Мінску. А знікшы, вяртаецца з вершамі. Пісаць прозу так цікава і гладка, як умееш гаварыць.

20. ***Эдуарду Акуліну.*** Паболей песень. І ў добрай кампаніі, і на мітынгах. І даць Сысу па носе.

21. ***Сабе.*** Усяго пакрыху, каб не было сумна ні мне, ні жонцы.

P.S. ***А хто не хоча сябраваць з харошай дзяўчынай, то і не трэба – іншым болей будзе.***

## Ганна КІСЛІЦЫНА

ЖАДАЮ –

1. ***С. Адамовічу:*** Няхай усё складзецца: каханне застанецца, а акупацыя міне!

2. ***В. Акудовічу:*** Шчырых прыхільнікаў "бацьку беларускага постмадэрна"! Толькі не пускайце ў "Бум-Бам-Літ" жанчын – выправіўшы падлеткавыя комплексы, рух разваліцца!

3. ***А. Аркушу:*** Кінь зайздросціць лаўрам земляка-друкара: вяртайся да паэзіі – ваш раман яшчэ не скончаны!

4. ***Р. Баравіковай:*** Адпавядайце і далей выдадзенаму Вам пасведчанню секс-сімвала беларускай паэзіі: не разменьвайцеся на дробязі – спакушайце Клінтана!

5. ***Я. Брылю:*** Няхай вечар Вашага жыцця будзе доўгім, як навагодні: хай грэюць Вас не толькі "жменя сонечных промняў", але і ўсмешкі маладзіц!

6. ***П. Васючэнку:*** Здзейсніся ў дзвюх іпастасях: напісаў эсэ аб доктарках – абарані доктарскую аб эсэ!

7. ***Л. Дранько-Майсюку:*** Прадаўжайце змаганне за званне секс-сімвала сярод мужчын: не спыняйцеся на А. – у сярэдзіне алфавіта ёсць некалькі цікавых літар!

8. ***А. Разанаву:*** Пераўзыдзіце "межы і ўяўленні": перакажыце вершам "Кама сутру!"

9. ***Л. Сільновай:*** Каб лёталася ластаўкай: любі постмадэрн, а кахайся з рэалістам!

10. ***Ю. Станкевічу:*** Маладзейце разам з "Маладосцю": цікаўцеся паэтэсамі, мілуйцеся з крытыкесамі, а верным заставайцеся – літаратуры!

## Міхась ТЫЧЫНА

ВІНШУЮ І ЖАДАЮ:

***Славаміру Адамовічу*** – сублімiраваць свой унікальны вопыт літаратара-вязня. Назва ўжо ёсць – "Жывы дом". Няздзейсненая задума Андрэя Мрыя.

***Вячаславу Адамчыку*** – маляўніча ўзнавіць жыццё-быццё беларуса-шарагоўца ў эпоху, калі ён, шчасліўчык, жыў у сваёй дзяржаве.

***Валянціну Акудовічу*** – напісаць працяг свайго філасофскага эсэ, назваўшы яго: "Дзе Я?"

***Уладзіміру Арлову*** – добра пашукаць у сябе пад лаўкай і дастаць забытую там сякеру: рукапіс, які раскрывае таямніцы нашага менталітэту.

***Рыгору Барадуліну*** – апрача ўсяго іншага, не забываць жанр "дурнотаў": матэрыялу ж, здаецца, хапае!

***Раісе Баравіковай*** – узгадаць дні і ночы, праведзеныя ў сценах "зачараванага (г. зн. Літаратурнага) інстытута".

***Дануце Бічэль-Загнетавай*** – распавесці пра літаратурнае жыццё Гарадзеншчыны эпохі Ларысы Геніюш, Васіля Быкава, Аляксея Карпюка.

***Таісе Бондар*** – апублікаваць другую частку "Дзённіка жанчыны".

***Янку Брылю*** – напісаць раман-дыялог з Уладзімірам Калеснікам.

***Васілю Быкаву*** – знайсці ў сваёй памяці эпізод, у якім крышталізавалася трагічнае XX стагоддзе, і ўзнавіць у мініраманe.

***Леаніду Галубовічу*** – дастаць "зацемкі" з правай кішэні.

***Леаніду Дранько-Майсюку*** – і надалей ствараць антычную атмасферу любавання красой жанчыны ў стольным горадзе Менску.

***Васілю Зуёнку*** – не пакідаць касмічную арбіту, адкуль так выразна, бы на аэраздымках, бачна наша зямелька.

***Віктару Казько*** – напісаць "Ліст багатаму суседу".

***Анатолю Кудраўцу*** – падумаць над "Сачыненнем на нявольную тэму".

***Міколу Купрэеву*** – распавесці што-небудзь з сваіх колішніх вандровак па Берасцейшчыне.

***Алесю Наварычу і яго гераіні Рабуньцы*** – пабыць за мяжой і пaглядзець, як пажывае тамтэйшае "буйна-рагатае пагалоўе".

***Уладзіміру Някляеву*** – сказаць за наша пакаленне "сямідзесятнікаў", чым жывём-кормімся ў свае паміж 50 і 60-цю.

***Алесю Разанаву*** – асвоіць яшчэ адну *terra incognito* славяншчыны.

***Анатолю Сідарэвічу*** – апублікаваць жыццяпіс Антона Луцкевіча.

***Сакрату Яновічу*** – сеяць і надалей на нашай ніве свае "абразкі" – можа, нешта ўрэшце і вырасце.

## Анатоль КІРВЕЛЬ

Спачатку дзве ўмовы:

1. Пажадаць – чакаць.

Чакаць – спадзявацца.

 



На што?

І ад каго?

2. Сур'ёзнасць – у гэтай анкеце – рэч немагчымая. Пачнем з тых, хто часцей трапляецца на вока.

1. ***Леаніду Галубовічу:*** Набыць запальнічку, але не класці яе ў сваю левую кішэню – там святла хапае, – а аддаць таму, хто папросіць, – праясніць зацемкі не толькі ў кішэнях.

2. ***Алесю Разанаву:***

"Гліна" – ужо ёсць!

Няма – "Рыдлёўкі".

3. ***Алесю Наварычу:***

Добра напасвіць Рабуньку і адпусціць яе на ўсе чатыры бакі – лепей на Канары: досыць ёй мыкацца на нішчымнай беларускай пашы.

4. ***Антону Кудлатаму:***

Не гнявіць Бога: паліць кніжкі – нават сатанінскія – дзікунства, якое не ратуе ні веру, ні цывілізацыю.

5. ***Андрэю Федарэнку:***

А хіба можна яму штось пажадаць, апроч добрай "Хваробы"? А то і не ўсочыш, як "Салдат" ператворыцца ў "Фельдмаршала".

6. ***Барысу Пятровічу:***

Бедны Барыс! Столькі на яго галаву! А ён, дзівак, то з якім токсікам час бавіць, то – даўмеўся ж! – з Піліпам... Калі ж пісаць?!

7. ***Віктару Шніпу:***

Не губляць шчырага здзіўлення перад усім, што бачаць яго паэтычныя вочы. Астатняе – клопат ужо не ягоны. І дзякуй Богу!

8. ***Сяргею Панізніку:***

Пераглядзець сваю "табель аб рангах": ці не пара з "пісараў земскіх" – у губернскія?

9. ***Славаміру Адамовічу:***

Адамовіч... Адам... Хто нарадзіў Адама? Каго народзіць Адам?

10. ***Алесю Пашкевічу:***

Паэзія – кабета няўдзячная і капрызлівая.

Проза – удвая.

Але ж і здабытак – удвая болей важыць!

11. ***Адаму Глобусу:***

Пракаціцца па ўсім глобусе! І вярнуцца! Да сябе!

12. ***Уладзіміру Дамашэвічу:***

Скараціць! Маўчанне.

13. ***Уладзіміру Дзюбе:***

Прадзяўбсці! (Ён ведае, што!)

14. ***Міхасю Скоблу:***

Што ж за пісьменніцкая хата,
Калі ў ёй "розаг" малавата?!

15. ***Аўгінні Кавалюк:***

Настаўнічаць – яно найперш!
А людзям – дай харошы верш!

***16, 17, 18, 19, 20...*** – хто лепей пажадае, як не ты?! Самому сабе!

21. ***Анатолю Кірвелю:***

Пісаць яшчэ карацей: выдатку меней.

## Ларыса РАМАНАВА

Колькі разоў у снах бачыш першыя сняжынкі, якія ляцяць павольна з вышыні на ціхую зямлю, ці адчуваеш лютаўскі мароз і холад...

Увосень чамусьці надзвычай ясна ўспрымаеш падзеі, якія здараюцца навокал, пра



 

 



нядобрае думаеш: гэта хутка скончыцца, пройдзе. Усё – часовае на зямлі: восень–зіма–вясна–лета, я, ты, і з гэтым неяк лягчэй згадзіцца ўвосень, калі ўсё жывое, што цвіло і гаманіла рознымі колерамі і галасамі, рыхтуецца да частковага памірання.

Гадавое кола замыкаецца зімой.

І раптам, пасярод гэтай цішыні і скону, скаланаецца свет ад дзіва: гэта ж прыходзяць Каляды! Нараджаецца Бог – язычніцкі, а пазней – хрысціянскі.

О, гэта сапраўды – цуд, сапраўды – свята, бо зноў і зноў душы чалавечай даецца вера на ўваскрашэнне і жыццё, надзея жыць па-божы.

Бог з нябёс вяртаецца, сыходзіць на зямлю, і яна... прачынаецца.

Новае кола часу, новы жыццязварот пачынаецца ўсё ж з вясны, з першых праталін на полі, на якіх – вачэй не адвесці – адтайваюць парасткі руні. Індаеўрапейскі корань гэтага слова амаль тоесны адной са старажытнаскандынаўскіх рунаў, якая з'яўляецца знакам дрэва-Куста, знакам плоднасці зямлі.

Новы час пачынаецца з благавешчанскіх ручнікоў, на якіх – раскалотая сонцам зямля здольная нарадзіць, а таксама – дрэва роду, якое (згадай беларускія казкі) падымаецца да нябёсаў. Божае і чалавечае – сустракаецца! Героі міфаў і казак пераадольвалі і спасцігалі вышыні менавіта такіх дрэў – мадэляў набытага чалавечага вопыту многіх пакаленняў, дзеля таго, каб адшукаць патаемныя скарбы: праўду, шчасце, бессмяротнасць. Адным з такіх бясконцых выпраменьваючых ромбаў – частак дрэва – маглі быць твае бацька і маці, а цяпер – і ты сам.

На новы год узіраешся з надзеяй: што вырасце на зямлі? Што пасадзілі, тое і вырасце... Мы вартыя сённяшняга жыцця, якое будуем (ці не будуем) самі – у думках і дзеяннях.

Беларусь яшчэ нараджаецца – праз пакуты адных і абыякавасць другіх. Грамадства не мёртвае, пакуль здольнае рабіць розныя эксперыменты, напрыклад, выбары прэзідэнта, магчымасць такога жыцця. Гэта не азначае – надоўга, але – магчымасць паспрабаваць. Што ні кажы, беларусы – пакуль што сялянская нацыя. Таму паверылі чалавеку, які, так ці інакш, далучаны да сялянскай працы. Крыўдна, што людзі так лёгка далі сябе ашукаць, ды штораз забываюць запавет Божы: не зрабі сабе ідала. Так зручней, вядома, калі за цябе нехта думае, калі ў цябе ёсць павадыр, сумленне якога можа замяніць тваё ўласнае, ці ўрач, які прапісвае адпаведны лад жыцця. Навошта яшчэ абцяжарваць, знясільваць сябе? Ці яшчэ горш: можна ўпасці ў адчай, гэтак, як падаюць у апраметную, калі няма больш веры ў сваё выратаванне...

Для многіх маіх знаёмых гэты год будзе падобны на доўгую, мяккую, як вата, зіму, якая ўбярэ ў сябе згукі і колеры. Маўчанне таксама ёсць моваю. У ім можна пачуць: ЗМЕНАЎ ЖАДАЙ У САБЕ!

Мае калядныя навагоднія пажаданні:

1. ***Анатолю Сысу.*** Не пакінуць чытачоў без новай абяцанай кнігі. Калі не ты, то хто – будзе "слёзы плакаць", цудадзеіць і радаваць, як ніхто? Добрага здароўя табе, Анатоль, і тваёй Маці.

2. ***Барысу Пятровічу.*** Яшчэ раз "скокнуць вышэй за галаву...", засумнявацца і ўпэўніцца ў гэтым.

3. ***Галіне Рыгораўне Нячаевай.*** І надалей адкрываць свету й Беларусі нікім дагэтуль не спазнаны космас ручнікоў.

4. ***Марыне Куноўскай.*** Новых перакладаў вершаў Вольгі Седаковай і сваіх уласных вершаў на старонках "Крыніцы".

5. ***Ірыне Чыжовай.*** Заўсёды і паўсюль – таямнічай весялосці.

6. ***Славаміру Адамовічу.*** "Калі мы аднаго Бога дзеці... (–С.А.), то – Божа! – барані нашыя душы ад карыслівых думак, настаўнікаў-дарадцаў і здрады.

7. ***Самаму лепшаму празаіку М.А.*** распавесці пра трагедыі, камедыі, якія здараліся ў Вясёлым Кургане, дый не толькі пра гэта. Стварыць нешта такое, чаго свет не бачыў; варта пачаць запісваць геніяльнае. Няхай Муза з'явіцца не толькі перад смерцю.

8. ***Людцы Сільновай.*** "Ластаўка ляціць" – гэта ж беларуская "Чайка па імені Джанатан Левінгстон", якая адольвае вышыні, пакуль што непатрэбныя і недасяжныя некаторым. І, як вынік такіх палётаў, "Рысасловы", дый іншае:

... І мы станем багіняй і богам,
Створым свет – са "слоў", з "анічога".



 

І па кладачцы – тоненькай,
серабрыстай –
Папераводзім у свет той чысты
Усіх, каго любім, усё, што шкадуем,
У вобразах яркіх, жывых: уратуем...

Новых палётаў, Ластаўка!

9. ***Эдуарду Акуліну.*** Зычу сустрэч з зямлёй "па той бераг Сожа", дзе ўсё – самае светлае і дарагое.

10. ***Алесю Асташонку.*** Напісаць прыгожае, вельмі прыгожае апавяданне, каб было ў ім нешта такое: "Што ён, чалавек, каб яго берагчы? Гняздо марнатраўства і болю..."

11. ***Уладзіміру Агафонаву.*** Няхай не жанчыну і не Радзіму, але – мець свой дом, не абавязкова на Таіці. Дзякуй Богу, што ты ёсць, самы першы, і самы лепшы.

12. ***Марыі Кузьмянковай.*** Вітаю цябе! Прымі, калі ласка, у падарунак верш:

***

У чысты, цёплы, беззаганны вечар,
Калі спакой зямны атуліць плечы,
Знямога сыдзе ў нікуды,
Садзьмуцца ветрам ўсе сляды
Пакутаў, радасцяў
былых –
Ты –
не шкадуй аб іх!
Вазьмі ў далоні снег, ці попел,
Ці з сосен цёмных
некалькі празрыстых кропель,
Дый паспрабуй на смак...

І – хопіць.

13. ***Леры Сом.*** Калі нават "сябры паслядоўна здраджваюць", то няхай хоць адзінокая зорка заўсёды дасылае табе касмічнае цяпло. Мы ўсе – адзінокія зоркі: "душа для душы – не лекар і не ваявода..."

14. ***Андрэю Федарэнку.*** Шчыра віншую! Зычу пачаць пісаць беларускі раман-бестселер – люстэрка канца XX ст. Поспехаў.

15. ***Таццяне і Сяргею Дубаўцам.*** Добрых Калядаў на Беларусі!

16. ***Леаніду Дранько-Майсюку.*** Са святам! У новым годзе зычу новых падарожжаў, новых перакладаў, у прыватнасці, вершаў Поля Элюара.

17. ***Самаму Лепшаму Рыцару.***

... Ты хочаш кахаць як богі...

Праз каханне пазнаецца ўся слодыч жыцця, якая часам бывае горкай. Калі салодкае няма з чым параўноўваць – яно пераўтвараецца ў нішто, знікае. Таму й горкае трэба каштаваць – як прыйдзецца, ведаць ягоны смак, шанаваць пакуты свае як радасці.

Ты хочаш кахаць як богі – у шалёным танцы Шывы, а гэта азначае: прыгожа і заўсёды.

Выпрабаванне прыгажосцю – адно з найцяжэйшых, трагічна прыемных. Прыгажосцю нельга карыстацца, гэта ўсё роўна што глядзець на ружу, маючы злое ў душы, – пялёсткі завянуць і кветка счарнее.

Прыгожае – гэта заўсёды адзінае і непаўторнае. Яно не любіць колькасці, тыражоў, здымкаў, копій. Яно надзвычай файнае сёння і смяротнае заўтра, таму што надта імгненнае.

Уладары мінулага – муры-музеі-склепы, нібыта прыгожыя сваёй разбуранасцю і старэчай ашчаднасцю, кансервуюць у сабе смерць як найвышэйшую ісціну й набытак чалавечых мараў, якая на самой справе – толькі здзек часу з усяго жывога.

Ты хочаш зведаць чалавечую веліч: прынесці ў ахвяру каханню свае дары.

Няхай збудзецца гэта!

18. ***Алегу Чыжову.*** Перанесці ўсе жыццёвыя навалы і выдаць нарэшце "Беларускі іменьнік".

19. ***Уладзіміру Пучынскаму.*** Зычу шчасця ў гэтым, спадзяюся, шчаслівым для цябе годзе.

20. ***Вользе Куртаніч.*** Новых цікавых апавяданняў, прыкладам якіх –"Пакіньце яго плакаць".

21. ***Сяргею Краснабароду.*** Твораў, твораў, твораў!

Не толькі 21 асобе, а ўсім насельнікам нашай зямлі жадаю волі, любові да бліжняга й ворага.

## Зміцер ВІШНЁЎ

СПРОБА ВІНШАВАЛЬНАЙ ПРАКЛАМАЦЫІ

а) Звяртаюся не толькі да людзей, але і да коней, страўсаў, бегемотаў, кракадзілаў, мамантаў, дыназаўраў, зубраў і друкавальных паразітаў! Лічу, што сучасная беларуская літаратура апынулася каля сярэбранай паверхні. Таму. І не толькі таму. Я пры дапамозе літар насылаю на Вас хвалі моцнага здароўя. Каб. І не толькі каб. Вы мелі добры настрой, добры творчы дух.

б) А цяпер на правах пішучай і пісучай сволачы я хачу падарыць свае пажаданні некаторым удзельнікам літаратурнага працэсу.

1. ***Юрасю Барысевічу*** – Дзесяцітомнага збору твораў!
2. ***Юры Гуменюку*** – Новы твар!
3. ***Валянціну Акудовічу*** – Культуралагічных і філасофскіх падарожжаў.
4. ***Ілле Сіну*** – Кубка Лета! І шклянкі Б!
5. ***Віктару Жыбулю*** – Шчасця. І паліндромнага натхнення.
6. ***Усеваладу Гарачку*** – Не хадзі на завод! Ідзі ў рэдакцыю!
7. ***Алесю Туровічу*** – Шмат-шмат піва, вечнага здароўя і тоўстую-тоўстую кнігу! І каб тэксты... капіркі... аркушы...
8. ***Алесю Разанаву*** – Друкапіс.
9. ***Анатолю Сысу*** – Кідай прыкалвацца, вяртайся ў Гарошкі, пішы вершы!
10. ***Уладзіміру Арлову*** – Персанальнае падарожжа ў Афрыку.
11. ***Пётры Васючэнку*** – Кнігі артыкулаў.
12. ***Алесю Аркушу*** – Сусветнага Таварыства Вольных Літаратараў!
13. ***Андрэю Федарэнку*** – Новай СМУТЫ.
14. ***Сержу Мінскевічу*** – Кнігі фантастыкі.
15. ***Уладзіміру Някляеву*** – Кнігі пра літаратурнае жыццё.
16. ***Леаніду Дранько-Майсюку*** – Новых вершаў пра каханне.
17. ***Славаміру Адамовічу*** – Свабоды!
18. ***Леры Сом*** – Знаёмства са Зміцерам Волкавым.
19. ***Алесю Асташонку*** – Новай кнігі.
20. ***Барысу Пятровічу*** – Дзесяцітомніка!
21. ***Рыгору Барадуліну*** – Новых твораў.

в) Спадзяюся, з усімі пералічанымі і непералічанымі асобамі сустрэцца ў Паўднёвай Афрыцы за кубкам (кубкамі) кавы. Але, думаю, мае спадзяванні не спраўдзяцца па прычыне недахопу грашовых сродкаў, і таму запрашаю ўсіх на афрыканскія выступленні Бум-Бам-Літа ў якасці непасрэдных удзельнікаў.

## Людка СІЛЬНОВА

КАЛЯДНЫЯ І НАВАГОДНІЯ ПАЖАДАННІ-ЗЫЧАННІ

***Майму рудабародаму паляўнічаму ў прасторы і часе А.***: З усіх вандровак вяртацца ў Полацк! Быць адданым свайму ўлюбёнаму колеру – зялёнаму: ён прынясе шчасце! Прыемных сноў!

***Майму цудоўнаму Д.***: Каб Муза нарэшце пакінула ля яго ложка свае перламутравыя, грэчаскія завушніцы!

***Майму агністаму льву, спадару С.***: Залатой клеткі, моцнага здароўя і сталёвых нерваў! Успрымаць жыццё па-філасофску!

***Каменю-ля-Вады-Сутнасці, майму калегу па нябесным тэатры В.***: Стаяць на тым жа месцы, да канца! Вада сплывае, камяні застаюцца!

***Майму неспасцігальнаму тэарэтыку Б.***: Больш практыкі ў расчытванні тэкстаў рознымі часткамі цела! І – тузін аднадумцаў-практыкаў! (Іншалетнікі ў захапленні!)

***Майму няпэўнаму Ц.***: Нарэшце дазнацца, хто ён! Ліст, дрэва ці, наогул, – малюнак на глухой цаглянай сцяне...

***Майму паважанаму Р.***: Спасцігнуць сутнасць Л. (любові)! Вандруючы па розных землях, набыць шмат С. (сяброў)!

***Майму анёлу, духоўнай сястры, той, што лягчэйшая за мяне, Г.***: Шмат публікацый! Новых фатаграфій! Кнігі!

***Майму самотнаму І.***: Пашырыць сваё каралеўства і колькасць міністраў! З'ездзіць у незагойна-сіні горад!

***Танклявай маланцы, блішчастай і крытычнай, К.***: Рамантычных навальніц (у постмадэрніскай прасторы)!

***Майму працалюбнаму гарадскому галубку Л.***: Ніколі не мець клопату з крыніцай, адкуль напіцца!

***Майму шаноўнаму, дарагому чытачу Ч.***: Забыцца на тое, што ён (хутчэй за ўсё!), як і я, – літаратар! Спачатку чалавек, а потым – усё астатняе... І – у Пагоню за нашымі Тэкстамі! Жыве Беларусь!

## Алег НІКУЛІН

Свае пажаданні дваццаць адной асобе мне хацелася б выказаць цэлай паэмай альбо раманам. І так як гэта зрабіць немагчыма, то я выбіраю іншы, зусім адваротны шлях.

1. ***Леаніду Дранько-Майсюку*** жадаю хутчэй адмовіцца ад надакучлівай літары "А" і прысвячаць свае вершы жонцы, альбо... Ён сам ведае.
2. ***Анатолю Сысу*** – адпачыць ад гарэлкі і напісаць гістарычную паэму пра вайну з крыжакамі. Расказаць пра трагічны лёс Вітаўта Вялікага; выказаць яго думкі, не хаваючы адчаю.
3. ***Уладзіміру Някляеву*** – здароўя і прагі жыцця. Зразумець, што сіла бога – у яго творах, а суд бога – у ім самім.
4. ***Аляксею Дудараву*** – напісаць п'есу пра вясковага паэта-няўдачніка, які п'е гарэлку, лічыць сябе Хрыстом і крычыць: "Прыбіце мяне да крыжа! Хачу павісець!"
5. ***Алесю Давыдаву*** жадаю больш друкавацца.
6. ***Уладзіміру Клімовічу*** – кінуць "свой" бізнес і займацца тым, чаго просіць душа.
7. ***Уладзіміру Арлову*** – пяшком абысці свет і нават злятаць у космас.
8. ***Алесю Разанаву*** – "выйсці з балота і кінуцца ў мора".
9. ***Віктару Шніпу*** – быць рыцарам у літаратуры.
10. ***Сяргею Законнікаву*** – таго, чаго можна пажадаць толькі сабе.
11. ***Юрыю Марухіну*** – знайсці грошы на "кіношныя справы".
12. ***Віктару Дашуку*** – тое самае.
13. ***Рыгору Барадуліну*** – "збрыць бараду".
14. ***Янку Брылю*** – неўміручасці.
15. ***Васілю Быкаву*** – не пісаць пра вайну і стаць больш "мірным".
16. ***Лявону Баршчэўскаму*** – стаць "больш пісьменным" і не займацца палітыкай.
17. ***Андрэю Федарэнку*** – парваць "ланцуг" бюракратыі, знойдзены ў рэдакцыі "Полымя".
18. ***Анатолю Брусевічу*** – "не шукаць ветру ў полі".
19. ***Алесю Масарэнку*** – дабраты і шчырасці.
20. ***Алесю Камароўскаму*** – выдаць у "Маладосці" маю першую кніжку.
21. ***Генрыху Далідовічу*** – дапамагчы яму ў гэтай свяшчэннай справе.

**КРЫНІЦА № 11-12**

**1996**

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СТУДЗЕНЯ 1988 ГОДА

**Заснавальнікі:**
**СП Беларусі, калектыў рэдакцыі**



**Выдаецца на беларускай мове**

**Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца**

**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП, вул. Кісялёва, 11**

**Звaніце:**
**366-071, 366-142**

Падпісана да друку з арыгінал-макета 30. 12. 96. Фармат 60х84 1/8. Афсетны друк.
Папера друкарская № 2. Ум.-друк.арк. 13,02. Ум.фарба-адб. 14,35.
Ул.-выд.арк. 14,52.
Тыраж 2000 экз.
Кошт дагаворны. Зак. 77.

**Надрукавана з арыгінал-макета заказчыка ў друкарні выдавецтва**
**«Беларускі Дом друку», 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.**

# *Лаўрэаты*
## *часопіса «Крыніца» за 1996 год*



**Анавяданні**
**(№ 18)**
**і аповесць «Збіральнік страху»**
**(№ 22)**

*Юры СТАНКЕВІЧ*



**Нізка вершаў «Зялёны Луг»**
**(№ 18)**

*Леанід ГАЛУБОВІЧ*



**Нізка вершаў «Анадыямэна»**
**(№ 21)**

*Галіна ДУБЯНЕЦКАЯ*



**П'еса «Клеменс»**
**(№ 20)**

*Казіс САЯ*